


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**9** (1055)

**ВЕРАСЕНЬ**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

## *ЗМЕСТ*

# ЦЕПЛЫНЯ СУСТРЭЧ

*Паміж Сербіяй і Беларуссю існуюць традыцыйна блізкія, сяброўскія адносіны, якія магчыма развіваць па ўсіх напрамках, у тым ліку і ў галіне культуры. Актыўнае культурнае ўзаемадзеянне забяспечвае нашым адносінам сапраўдную моц, якая стагоддзямі звязвала брацкія народы.*

*Часам атрымліваецца так, што палітычныя і эканамічныя адносіны паўстаюць залежнымі ад розных умоў, але сувязі ў галіне культуры даюць трывалую глебу для ўзаемадзеяння і збліжэння нашых народаў.*

*Гэтаму спрыяе і правядзенне дзён культуры, дзён гарадоў, усталяванне пабрацімскіх сувязей, узаемадзеянне ў сферы турызму.*

*Дыялог паміж нашымі дзяржавамі ў галіне культуры ажыццяўляецца на падставе міжурадавага пагаднення аб супрацоўніцтве, а таксама пяцігадовай праграмы супрацоўніцтва, якую падпісалі міністры культуры Сербіі і Беларусі, развіваецца ўзаемадзеянне паміж Нацыянальным тэатрам Сербіі і Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатрам оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Народнай бібліятэкай Сербіі і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.*

*Паміж васьмю ўніверсітэтамі нашых краін таксама падпісаныя і актыўна дзейнічаюць дамовы аб супрацоўніцтве.*

*Вялікая ўвага надаецца і перакладчыцкай дзейнасці: перыядычна публікуюцца перакладныя творы сербскіх аўтараў у Беларусі і беларускіх — у Сербіі. Не магу не згадаць пра заслугі прафесара Івана Аляксеевіча Чароты, выбітнага славіста, літаратуразнаўцы, крытыка, гісторыка культуры, перакладчыка. Дастаткова хаця б згадаць «Анталогію беларускай паэзіі», выдадзеную ў Бялградзе, укладальнікам якой з'яўляецца паважаны прафесар.*

*Маладая перакладчыца Даяна Лазарэвіч пераклала на сербскую мову паэтычны зборнік Максіма Багдановіча «Вянок».*

*Народная бібліятэка Сербіі прадаставіць арыгінальныя выданні са свайго фонду ў сувязі з правядзеннем Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі выставы «Францыск Скарына і яго эпоха» ў гонар 500-годдзя беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання.*

*Сербія — актыўны ўдзельнік культурных мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў Беларусі, у тым ліку Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». Прадстаўнікі Беларусі традыцыйна прымаюць удзел у Міжнароднай кніжнай выставе ў Бялградзе, якая пройдзе ў кастрычніку бягучага года. У 2018 годзе Рэспубліка Сербія прыме ўдзел у Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы ў статусе краіны — ганаровага госця.*

*Як бачым, у нас ёсць усе падставы і надалей захоўваць цёплыя адносіны. А яшчэ лепей — больш актыўна іх развіваць.*

***Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Сербія ў Рэспубліцы Беларусь Велька КАВАЧЭВІЧ***



**Драгаслаў МІХАІЛАВІЧ**

# ШУКАР МЕСЦА

*Аповесць*

***Міларадy Батy Міхаілавічу***

Тратуар пачала мачыць ледзь прыкметная імжа, на вуліцы тут і там з'явіліся парасоны.

Чаміл, паправіўшы зашмальцаваную кепку з раменьчыкам і паламаным казырком, агледзеў сваім вытарашчаным вокам нізка схіленае неба. «Калі гэта не надоўга, то добра, — падумаў ён. — Тады, як звычайна пасля дажджу, кліентаў стане больш. А вось калі зацягнецца, то каму ж спатрэбіцца чысціць абутак?»

Ён склаў шчоткі ды астатнія рэчы ў скрыню, якая, уласна, была яго майстэрняй, і з канца тратуара пад электрычным слупом адышоў дзясятак крокаў на Македонскую вуліцу ў нешырокае паддашша «Камісійнага», які дзе хто называў яшчэ, як і да вайны, крамай братоў Леві.

Побач, на плошчы Рэспублікі, на шматпавярховым будынку «Riunione» ўспыхнуў, чамусьці так рана, і пачаў мільгацець нейкі рэкламны знак. На прахожых і рэдкія аўтамабілі ён кідаў чырвона-зялёна-сінія водбліскі. Пасля гэтага, нібы па дамоўленасці, загарэліся таксама жаўтаватыя цьмяныя лямпачкі на металічных слупах. Асвятлялі яны слаба, толькі што вільгаць вакол іхніх абажураў утварала нейкія падвойна рассунутыя залацістыя абады.

У гэтым падстрэшшы Чаміл сеў на свой зэдлік і адчыніў накрыўку скрыні. Каля падстаўкі для нагі зноў парасклада́ў бляшанкі, бутэлечкі, анучкі. На люстэрку з левага боку заўважыў пляму чырвонага колеру — плюнуў на

---

***Драгаслаў Міхаілавіч*** *нарадзіўся 17 лістапада 1930 г. у г. Чупрыя (Сербія). Адзін з самых вядомых сербскіх пісьменнікаў канца XX — пачатку XXI стагоддзяў, лаўрэат многіх літаратурных прэмій, акадэмік Сербскай Акадэміі навук і мастацтваў, аўтар зборнікаў апавяданняў «Добрай ночы, Фрэд» (1967), «Злаві знічку» (1983), «Паляванне на клапоў» (1993), «Бясплодная восень» (2000), рэпартажу-сцэнарыя «В'етнамцы» (1990), раманаў «Калі квітнелі гарбузы» (1968), «Петрыін вянок» (1975); «Людзі ў вайсковых ботах» (1983), «Гарыць Марава» (1994), «Злачынцы» (1997), «Трэцяя вясна» (2002); зборніка п'ес «Уводзіны ў працу» (1983), дакументальна-публіцыстычных кніг «Голы востраў» (1—3, 1990—1995) і «Кароткая гісторыя знішчэння» (1999).*

*Творы Д. Міхаілавіча перакладаліся на многія мовы свету. У Беларусі друкаваліся на беларускай (Далягляды, 1988; Крыніца, 1996) і рускай (Всемирная литература, 2000; Всемирная литература, 2003) мовах.*

шкло і рукою сцёр яе. Затым развесіў на цвіках папярадзе і збоку рознакаляровыя, з густой шчацінаю, шчоткі.

Тым часам у кіёску за дзясятак метраў ад яго, хоць гэта ўжо на Дэчанскай вуліцы, сляпая прадаўшчыца газет прамовіла сваім ціхім голасам маладому чалавеку ў шэрым твідавым пінжаку:

— Яшчэ не прывезлі, пане. Вось-вось павінны прывезці.

Прыкрываючы павекамі вочныя яблыкі да паловы, сляпая жанчына вяртала пакупніку рэшту. Грошы яна распазнавала пальцамі і добра ведала, што ў яе дзе ляжыць. Між тым звычайна каля яе знаходзіцца маці. Але цяпер чамусьці няма.

Гэтая старая, маці прадаўшчыцы, нечым нагадвала Селену — маці Мечкі. Толькі што не такая агідная.

А тая баба проста не зносіла яго. З першай сустрэчы. Бывала, корпаецца чагосьці каля свайго меднага катла на двары і адтуль дзяўгае:

— Джанэс раманэ, Чаміл, а?

І гэта ў яго пытаецца, каб на яе трасца! Ды ён жа заўсёды быў чорны, як асмалак, і адно вока ў яго выпучанае, і нос гламазны тырчыць, нібы крук, — дастаткова раз паглядзець, і зразумела, хто ён такі.

А крыху воддаль на нейкім цурбане сядзеў звычайна стары тоўсты мужчына — Іван, яе муж. Таўстун пацягваў люльку з кароткім крывым муштуком, тыльным бокам далоні папраўляючы ўжо сівыя, ад тытуню пажоўклыя, вусы.

Чаміл павярнуўся да старога, ведаючы, з кім гаварыць варта:

— Як гэта не гавару.

Але стары прыкідваецца, быццам бы не чуе:

— Ну што ты, Селена… Не трэба так… далібог, прашу цябе. Я ж такі самы цыган, як і вы...

— А не турак? — гаўкае яна адтуль.

Нараджала Селена ўжо разоў дзесяць. І ў гэтых шырокіх брудных спадніцах выглядала старэйшай за мужа. Магчыма, не толькі выглядала.

— Як гэта турак? Ды я туркаў і не бачыў ніколі!

Хоць паходзіў ён, можа, і з Турцыі. Сам не ведае добра. У любым выпадку, яго брат Чазім у Ягадзіне жыў у мусульманскай турэцкай махале[1], паміж ракою Беліцай і рынкам, тады як праваслаўныя мелі свой квартал, побач з Левачкім кірмашом. Іванава радня, відаць, пра гэта выведала.

— Дык ты, браце, ужо стары ром! У цябе свае дзеці ёсць! Якая ж ты па́ра для нашай Мечкі?!

Чаміл разводзіць рукамі, павярнуўшыся да вусатага таўстуна, і смяецца:

— Ну так ужо і стары?! Мне ўсяго дваццаць пяць. А якія ж гэта гады?! — У сапраўднасці яму ўжо трыццаць мінула. Але ж хіба яны запатрабуюць пасведчанне аб нараджэнні? — Рана мяне ажанілі...

Нарэшце стары Іван падымае галаву і вымае люльку з зубоў:

— А якая табе справа да яго дзяцей?!

Ну вось, ён ведае мужчынскія правы. І ведае, што баба не павінна ўмешвацца:

— Відавочна толькі тое, што гэта дзеці яго жонкі. А як ром можа ведаць, каторыя дзеці яго, а каторыя не? Яны яго, калі ім маці яго жонка. Астатнія не яго.

З плошчы Рэспублікі на Македонскую вуліцу заязджае, грукочучы, вялікі смеццявоз. Крыху не даехаўшы да «Камісійнага», ён спыняецца, і двое албан-

---

[1] Махала (*тур.*) — ускраінная частка горада, перыферыйны квартал.

цаў у доўгіх плашчах-дажджавіках з капюшонамі саскокваюць з падножкі і заходзяць у двор. Прыладзіўшы на плечы спецыяльныя крукі, выносяць адтуль вялікія глыбокія скрыні, запоўненыя смеццем. Вытрасаюць у люк смеццявоза, падобны да таго, які ў бетонамяшалак, і вяртаюць скрыні ў двор. Затым зноў заскокваюць на падножку і свістам падаюць знак шафёру. Пасля гэтага машына зрушваецца і аддаляецца.

Невысокая прысадзістая дама сярэдняга веку з вялікай галавой у шэрым капялюшыку вядзе на павадку каржакаватага, моцна збітага, светла-карычневага маладога баксёра.

Чаміл шчоўкае языком. Сабака віляе падрэзаным хвастом і спрабуе прыпыніцца. Але дама тузае за павадок, і яны ганарліва праходзяць далей.

Па-хуліганску падміргваючы сваім вытарашчаным вокам, Чаміл ціха аблайвае гаспадыню сабакі.

А жыццё з жонкаю Міцаю ў Чупрыі было шукар.

Яна ўжо паспела нарадзіць шасцёра дзяцей. Праўда, траіх Бог забраў. І тады жонка мыла бялізну па чужых дамах, а ён са сваёю скрыняю сядзеў перад карчмою «Сінджаліч». Усе яго ведалі, і ўсе з ім прыязна абыходзіліся. «Як ты, Чаміл? Шукар?» — пыталіся звычайна.

А ён, па-балгарску ківаючы галавою налева-направа, пацвярджаў: «Шукар, шукар».

Той вясною, напярэдадні вайны, па завулку Сібінавіча, які часцей называлі Сібінавічавай махалай, разнесліся чуткі пра незвычайнае ўмельства Мечкі, дачкі рускага цыгана Івана, які са сваім вывадкам асеў каля Ягадзінскага кірмашу за Клефішавай бойняй. Мечку гэтую, рана выдадзеную замуж, строга пільнавалі бацька, браты і муж. Хоць і гаварылася, што пільнаваць патрэбы няма, б яна сама пільнуецца, ды калі выбіраліся на большыя справы, за межы Ягадзінскай акругі і зоны ўвагі з боку мясцовых улад, то яе пускалі наперад, як разведчыцу. І пакуль яна варожыць па руцэ альбо гадае на бабах, пакуль спявае ці грае на балалайцы, задурваючы гаспадарам галовы, мужчыны тым часам паціху кралі, рабілі свае справы. Калі ж Мечка апыналася ў незайздросным становішчы, тады яны дзёрзка, з крыкам і гікам, страляючы з ружжаў — як у тых жывых карцінах, што паказваюць у чупрыйскім Доме рамесніка, — падляталі і, пасадзіўшы яе на неасядланага белага каня, выратоўвалі ў апошні момант. Пра іхнія подзвігі пачалі хадзіць легенды.

Чаміл такія байкі і сам з задавальненнем слухаў і пераказваў іншым.

Яму здавалася, што ў гэтым ёсць нейкая адплата за бядоты цыганскага жыцця, і гэта цешыла душу. Аднак ролі маладых прыгожых жанчын у подзвігах цыган ён не цаніў. Лічыў, што ведае, як гэта дасягаецца.

— Яны такія, Чазім, — казаў ён брату. — Сапсаваныя і небяспечныя. Сцеражыся іх!

А тым часам па Чупрыі разнесліся чуткі, што свінням дзяржаўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Добрычава» пагражае небяспечная хвароба з магчымым паморкам, і жывёлу збіраюцца распрадаць. Цыганы наляцелі на танны харч, згаджаючыся купляць свіней і жывых яшчэ, і ўжо здохлых. Сярод вясны па Сібінавічавай махале запахла свежынаю, разгарэліся вогнішчы пад казанамі для таплення тлушчу і для мылаварэння. Выходзіла, будзе на лета штó есці і чым мыцца.

Чаміл адразу ж паслаў свайго старэйшага сына па брата, які жыў у турэцкім квартале Ягадзіны. А сам пабег на чупрыйскі базар, ці не пазычаць гандляры грошай. Нешта ў яго было і ашчаджанага, а ў якасці закладу за пазыку ён

прапаноўваў сваю хаціну-мазанку ў махале. Так у свой час ён змог прыдбаць пачатковы капітал.

Пасля гэтага нанятай падводай разам з братам цэлы тыдзень перавозіў дабрычаўскіх парсючкоў на ягадзінскую Клефішаву бойню. У свінарніках ён умеў ацаніць, які з іх колькі яшчэ вытрывае, нягледзячы на гэта, некалькіх па дарозе страціў. А наогул сачыў пры пагрузцы і перавозцы, скрыню з дошак выкладаў саломаю. У Ягадзіне ж меў чалавека, які прымаў падвезенае без дагляду.

Урэшце, калі заплаціў належнае брату і работніку бойні, разлічыўся з гаспадаром воза і тымі гандлярамі, якія пазычалі грошы, то яму засталося ажно дзве тысячы дынараў.

Шалёны заробак! Даўно ён такіх грошай не меў.

Ад будынка газеты «Борба» падляцеў хлапчук у чырвонай кашулі і ў плашчыку. Па-дзіцячы дрыготкім голасам ён пранізліва крычаў: «Другое выданне «Навін»! Другое выданне «Навін»!..»

Гукаючы так з усёй моцы, спыніўся на рагу каля Чаміла. Газету ён даставаў спрытна, як шаблю з ножнаў, і гэта прыцягвала публіку. За пару хвілін хлапчына прадаў некалькі нумароў.

«Гэты не прападзе», — падумаў Чаміл.

Тым часам, з нейкім клункам пад пахай, выскачыла, расхваляваная, і наляцела на хлапчука маці сляпой кіяскёркі. Вельмі падобная да дачкі — з такім самым седлаватым, амаль што абрэзаным носам, а ў нечым падобная і да агіднай Селены — чым, ён не мог вызначыць, баба засычэла на хлапчука, махаючы газетамі, як на скаціну:

— Прэч адсюль! Уцякай! Гэта не твой раён!

Хлопец неяк выцягнуўся, спачатку знерухомеў, а потым прамовіў не без пагрозы:

— Ну-ну!

Ён, вышэйшы за жанчыну і з даволі рашучым выглядам, быў гатовы да сваркі.

Але раптам павярнуўся, перабег вуліцу і неўзабаве знік дзесьці каля «Палітыкі».

Добра зарабіўшы, яны ўдвух з братам адзначалі гэта. Хадзілі па ягадзінскіх корчмах і выпівалі.

Адкуль жа раптам гэтая маладзіца там аказалася? Іванаў табар быў недалёка і ад турэцкай махалы, і ад бойні. Магчыма, яна адчула, што можна абкруціць яго?

Ды не! У гэта ён не можа паверыць. І ніхто ніколі нічога падобнага яму няхай не гаворыць. За гэта ён заб’е!

Яны з братам проста сядзелі, расслабляліся. І тут у карчму зайшлі тры высокія светлавалосыя, але смугласкурыя, хлопцы, а з імі прыгожая русявая дзяўчына. Хлопцы ў расшпіленых лёгкіх сарочках, модных гарадскіх штанах, тупаносых нячышчаных бела-карычневых чаравіках і ў светла-шэрых капелюшах з шырокімі брылямі. А дзяўчына — у чырвонай шаўковай блузцы, тонкай шырокай квяцістай спадніцы, з вялікім жоўтым шалем, канцы якога віселі за плячыма. Скура белая, авальны твар ружавее, тонкія вусны падфарбаваныя, вялікія вочы раскрытыя шырока і даверліва. Нічым не нагадвала яна фатальную прыгажуню з прыгодніцкіх апаведаў пра цыганак.

— Вы цыганы?

— Так.

— Дык выпіце што-небудзь з намі.

— Давай.

І вось яны разам пілі два дні.

Чаміл спачатку нават не думаў, што дзяўчына можа належаць яму.

Мечка — яму?! Ды не, дзе там! Палічыў, хіліцца да яго таму, што ён частуе, а ўсе астатнія выпіваюць за яго кошт. Потым, калі прыгажуня засталася ў кампаніі — а ён тым часам толькі адлічваў па дваццаць, па сорак дынараў, — падумалася, што можа атрымаецца нешта ў яе з Чазімам. Ён жа, бадай, маладзейшы і прыгажэйшы.

Мечка ж, нават не гледзячы на Чазіма, усё да яго падсоўвалася. Сядзіць на крэсле зусім поплеч, распытвае пра нешта на сваёй мяккай руска-цыганскай мове, усміхаецца, выставіўшы невялічкія белыя зубкі, муркоча песенькі на вуха, кранае руку яго і стрымлівае, калі ён пакідае афіцыянту вялікую рэшту.

А побач з імі сядзіць, надзьмуўшы губы, малады хударлявы хлопец, амаль дзіця. Быццам бы пакрыўджаны, ён злосна зыркае са свайго месца і раз-пораз працяжна кліча:

— Мечка-а-а! Ну пайшлі, Мечка-а-а!

Яна толькі рукой адмахваецца.

— А хто ён табе, гэты хлопец? — пытаецца Чаміл.

— Ды муж, — адказвае Мечка нявінна. І ва ўсмешцы паказвае прыгожыя свае зубкі.

— І ён табе дазваляе вось так?

— А што? — адказвае яна і зноў нявінна ўсміхаецца.

Сапраўды, «а што»? Ён жа дзіця, абцяжаранае такой кабетай, цяжар якой нямногія старэйшыя вытрываюць. І яму нічога не застаецца, як быць паслухмяным.

На другі дзень Мечка шапнула нешта аднаму з сваіх братоў — той ажэненага хлапчука спачатку добра падпаіў, а потым некуды вывеў.

І вось удваіх Чаміл з Мечкай выбраліся з шумнага асяродку ў п’янлівую майскую ноч. У змроку каля нейкага плота ён абняў невысокую зграбную прыгажуню, якая пахла малаком і трошкі дымам. Піў яе п’янлівую душу з вуснаў, ад чаго хутка закружылася галава, і паступова задзіраў спадніцу, пад якой, адчувалася, больш нічога не было. Яна не супраціўлялася, а таксама, усмактаўшыся ў яго вусны, прыціскалася пругкім жыватом і сцёгнамі. І калі ён сваім целам намацаў у яе тое самае гарачае месца, плот, прыняўшы іх на сябе, памалу нахіліўся, і Чаміл на ім узляцеў, залунаў, няздольны ўсведамляць, дзе знаходзіцца.

Потым, калі, абняўшыся, вярнуліся ў карчму, ён разглядаў яе прывабны ўсмешлівы твар на сваім плячы і сам у сябе пытаўся, ці не прыснілася гэта. Хіба ж ён, Чаміл, заслужыў такое хараство? Ці між сапраўдным цыганам і жанчынаю заўжды так, толькі ён дагэтуль не мог паспытаць, а ці гэта дадзена толькі яму?

А сядаючы ў карчме за стол, ён ужо ведаў, што дзеля яе можа зрабіць усё на свеце, хоць і гэтага будзе яшчэ недастаткова.

На пачатку вуліцы Дваццаць дзявятага лістапада, побач са Скадарліяй, вялося будаўніцтва. І на чорных мокрых тратуарах каля Чаміла бачныя былі брудныя сляды. Дык для Чаміла гэта добра, што бруд так блізка. Будзе праца яму.

Ён чысціў відавочна дагледжаныя, хоць ужо і зношаныя, чаравікі старому сівому мужчыну, які ў паддашшы скінуў капялюш і выціраў лоб. «Відаць,

нейкі пенсіянер». Мужчына з выгляду акуратны, але нейкі адчужаны, без настрою. Капялюш і каўнер шэрага даваеннага афіцэрскага плашча ў яго былі крыху зашмальцаваныя. «Няма каму за ім глядзець», — вырашыў Чаміл.

А пасля таго, што адбылося, яны з братам пайшлі ў Іванаў табар каля кірмашу.

— Ну што ж, — сказаў урэшце стары, які выглядаў зусім так, як цыганскі барон з легендаў, — ідзіце вы зараз дадому на дзень-два, пакуль тут усё вырашыцца… Марка — гэта малады муж Мечкі — з’едзе ў Румынію… А табе да гэтага часу трэба вырашыць, як будзеш жонку ўтрымліваць.

Да гэтага Чаміл не жыў нідзе, акрамя Ягадзіны. Тут, у «турэцкай махале», ён намерваўся і застацца. Але Мечка сказала: «Не». Яна ад сваіх родных не хацела аддзяляцца. І Чаміл згадзіўся. Для каханай жанчыны ён гатовы ўсё зрабіць.

У яго яшчэ засталося крыху грошай. Але з новай сям’ёй дамовіўся, што купіць каня і воз, каб збіраць старое жалеза. І таго, што меў, яму не хапала. Таму ўпотай паслаў брата ў Чупрыю да аднаго цыгана, які некалі цікавіўся яго хатай.

— Я знайшоў сабе другую жонку, — паведаміў яму, — і хату ў Сібінавічавай махале збіраюся прадаць. Калі ты, як і раней, хочаш купіць, то давай дамаўляцца.

Той пачаў відавочна зацягваць з рашэннем. Яму, маўляў, няёмка. Ён ведае Чамілаву сям’ю, а таксама баіцца, што людзі скажуць.

Таму жытло Чаміла і Міцы адышло яму за палову рэальнай цаны.

Назаўтра Чаміл з’явіўся ў Чупрыі з двума новымі шваграмі і пакупніком.

— Міца, — сказаў жонцы, якая два-тры разы спрабавала вярнуць яго да сябе, — я вырашыў ісці за сваім шчасцем, а ты заставайся як была. Гэтага чалавека я прывёў, каб яму прадаць хату. Я купіў хату некалі, я і прадаю. Вынось рэчы, калі не хочаш іх тут пакінуць.

Жонка загаласіла. Дзеці пачалі пішчаць, хапаючыся за яго нагавіцы.

— Ды што гэта, трасца на вас, цыганскае насенне! — крычаў ён. — Хопіць з мяне кроў смактаць! Цяпер я хачу трохі пажыць. Выносьце рэчы! Пералічвай грошы! Давай, перад сведкамі, каб усе людзі ведалі, што са мною па-людску разлічыліся!

І пакуль яго наваяўленыя швагры, нягледзячы на галашэнне жонкі і енк дзяцей, выносілі рэчы, пакупнік яму на далонь адсліньваў грошы.

Магчымасці вярнуцца ўжо не заставалася. Ды ён пра вяртанне і не думаў.

Азіраў вуліцу Македонскую. Ці падыдзе хто-небудзь да яго? Зняў дзве шчоткі і, пастукваючы імі па скрыні, як па барабане, закрычаў: «Чышчу! Чышчу-у-у-у!» Потым непасрэдна звярнуўся да маладой па́ры, якая ішла, узяўшыся пад ручкі: «Пачысцім?» Тыя, схіленыя адно да другога, прайшлі, нават не азірнуўшыся.

З прыкрасцю падумаў, што па́рам прапаноўваць няма сэнсу. Жанчыны не любяць чысцільшчыкаў. Лічаць, што ім прызначаную плату можна ашчаджаць і назбіраць на новую сукенку.

Перасяліўся Чаміл у цыганскі табар пад шацёр. Тут ён сябе адчуваў не найлепшым чынам, бо раней так ніколі не жыў. Аднак жа з ім пад коўдраю і яго Мечка. А нічога на свеце не магло быць важней за гэта.

Праўда, пакуль ён у Леўчы займаўся купляю новага воза, яго маладая жонка кудысьці з шатра знікла. Але з ёй у тую ноч былі Іван і большасць мужчын, і яшчэ некалькі жанчын з табара. А бацька ж ведае, пэўна, што робіць. Так што і яна не пойдзе супраць бацькавай волі.

Надыходзіў час адпраўляцца па жалеза. Мечка вантурылася: ёй цяпер не выходзіць, кепска сябе адчувае, засталася б у табары… Іван і Селена падтрымлівалі дачку — няхай застаецца, гэта ж мужчынская работа. Аднак ён не саступаў, і ўрэшце яны ўсё ж такі адправіліся разам.

Тую пару Чаміл ніколі не забудзе. Гэта для яго быў вельмі-вельмі прыемны час.

Ранкамі і вечарамі яны займаліся зборам («Старое жалеза! Купляю старое жале-за-а!»). Удзень знаходзілі цянёк і адпачывалі. А ночы былі ім для асалоды. Больш за ўсё тады на ноч прыпыняліся каля Лугаміра ці Маравы, на беразе Беліцы альбо якога ручая. Пры дагарэлым вогнішчы, на якім яны варылі сабе мамалыгу, пад пошум вербаў над вадою, у той час як іхні стрыножаны конь хрумстаў побач, натхнёны Чаміл не спаў да ранку. Яна побач з ім, пад возам, ціха дыхала, а ён глядзеў у бязмежнае неба над сабою і ўяўляў, што ездзіць па ім са сваёй маладой жонкай у залатой карэце.

Гэта для Чаміла быў, не інакш, дарунак Божы. Проста так смяротны гэткага шчасця не можа заслужыць.

Падышоў нейкі хлапчына з накрытым кошыкам у руцэ.

— Хочаш, прадам табе? — запытаўся ён у Чаміла, паказваючы схухуленага вожыка.

З клубочка, пакрытага іголкамі, вытыркаўся востры носік, над якім паблісквалі напалоханыя вачаняты-гузікі.

Чаміл адказаў амаль пакрыўджана:

— А нашто ён мне?

— Прусакоў знішчаць будзе.

Чаміл завагаўся.

— Дай пагляджу. — Нейкі момант падумаўшы, матлянуў галавою. — Ды не. Лепш аднясі ты яго туды, дзе знайшоў.

— А я сам не ведаю, што з ім рабіць, — расчаравана прамовіў хлопчык, зноў накрыў свой кошык і пакіраваў з ім да помніка князю Міхаілу.

Старое жалеза выгружалі на Ягадзінскай чыгуначнай станцыі — а калі назбіраюць вагон, Іван парупіцца, каб было пагружана і адвезена ў Бялград; ён потым і разлічыцца.

Гэтак збіралі больш за тыдзень, прывезлі не адзін воз, кожны раз заязджаючы і ў табар. Але конь Сіўка ў іх немалады, яго сталі даймаць запоры. Відаць, ператаміўся і губляў сілы.

— Калі гэтак і далей будзеш працаваць, загубіш каня, — папярэджваў Іван.

— Дык мы і адпачываць можам, — пасміхаючыся, адказваў Чаміл.

— Э, калі цяпер адпачываць, — казаў цесць, не надта задаволены ім, — то што зімою будзем рабіць?! Не, цяпер едзь адзін.

— Як гэта адзін? — зніякавеў Чаміл. — Не, адзін я не магу. Зрэшты, магу каля воза хадзіць пешшу. Няхай адна Мечка будзе на возе. Што скажаш, Мечка?

Аднак ёй ездзіць больш не хацелася. Досыць ужо, заявіла яна, жыцця з ім, са старым канём і з непатрэбным жалезам. Ад усяго гэтага разам ідзе сму-

род часнаку. Калі Чаміл спадзяецца зарабіць, дык няхай працягвае без яе. На іншае ён і не здатны.

Што ж заставалася рабіць, акрамя як ехаць аднаму?

Між тым без яе Чамілу дарога не мілая, ды і праца таксама. Цяпер ён часта ажно да поўдня качаўся ў халадку. А ўстаўшы, імкнуўся навярстаць прапушчанае, у гарачыню ганяў каня па Царградскім шляху і пыльных вясковых дарогах, спрабуючы асэнсаваць сваё новае жыццё. Але думкі выклікалі ўсё большы страх. Яго маладая жонка не ведала, што такое вернасць. Не было ёй ад каго навучыцца гэтаму. А паколькі страх і рэўнасць яго ўсё мацней ахоплівалі, то ён усё больш лупцаваў каня.

Гэтак галопам аб'язджаў некалькі памараўскіх вёсак, а часам да змяркання паспяваў і дадому вярнуцца, каб там жонку застаць пад коўдраю. Ды бывала, што і не заставаў. І добра, калі яна прыходзіла пад ранак. Дзе была, не тлумачыла. Калі ён пытаўся ў бацькі з маткаю, тыя рабілі выгляд, што яго не разумеюць.

На другі дзень ён вяртаўся да работы яшчэ больш заклапочаны.

Урэшце рэшт аднойчы конь яго знямогся. Уздымаючыся на пагорак, моцна засопся, звесіў галаву да зямлі і стаў. Ніяк не мог паветра ўдыхнуць.

Чаміл злез з воза і пачакаў, даў каню трохі аддыхацца. А потым узяў біч у рукі: «Ну, Сіўка, наперад!»

Конь падняў галаву, пасунуў воз на некалькі метраў і зноў засопся. Стаў.

На шчасце, непадалёк аказаўся ручай. Чаміл выпраг старога каняку і крок пры кроку адвёў да вады. Потым зацягнуў у цяністае месца пад вербамі і даў адпачыць.

Пад вечар, сам штурхаючы перапоўнены воз, неяк дабраўся да бліжэйшай вёскі. Там ледзь упрасіў мясцовага цыгана-карытніка, каб прыняў каня з возам на некалькі дзён, пакуль ён сходзіць у Ягадзіну па дапамогу.

А сам, нягледзячы на ноч, паспяшаў у табар каля кірмашу. І, босымі нагамі шлёпаючы па прахалодным вільготным пыле паўз Царградскі шлях, раздумваў, што ж рабіць далей. Ад збору старога жалеза, відаць, карысці мала. Прынамсі, так Іван кажа. За ўвесь час ён даў усяго каля двухсот дынараў. Хіба зноў узяць скрыню чысцільшчыка? А ці перайсці на які-небудзь гандаль? Толькі б конь цяпер не здох.

Так разважаючы, дабраўся Чаміл да табара, насельнікі якога ўжо не спалі. Палова іх разышлася да світання, астатнія ж, непрыбраныя і брудныя, сноўдалі вакол шатра. Аднак Мечкі сярод іх не было. Яго Мечка знікла разам са сваімі рэчамі.

— Дзе Мечка? — запытаў ён спалохана. Ніхто не мог адказаць.

— А дзе Іван?

— Сказалі, што ён пайшоў па справах у Ягадзіну.

Чаміл пабег у Ягадзіну. Шукаў Івана на станцыі, вакол бойні, у «Паласе» і іншых корчмах. Ды нідзе знайсці не мог.

Толькі адвячоркам ужо застаў яго ў табары.

— Я для дачкі не магу выбіраць мужа, — адрэзаў цесць холадна, гледзячы з-за сваёй люлькі. — З кім жыць, яна сама выбірае. Паехала да мужа Марка ў Румынію.

Нага за нагу, з мяшком у руцэ, міма Чаміла павольна праклыпаў нейкі чыгуначнік. У яго змучаны бяссоннем і пакрыты сажаю твар — відаць, вярнуўся з працяглай паездкі, і нічога на свеце яго не цікавіла. Цяпер ён думае пра адно: каб далі яму паспаць гадзін дванаццаць, і то б не адпачыў як след.

Потым прадэфіляваў мажны чалавек сярэдніх гадоў у празрыстым дажджавым плашчы з маладой таўстаногай жанчынай, якая ішла неяк па-качынаму.

Мужчына раптам прыпыніўся і ў здзіўленні прамовіў: «Неверагодна!»

Было падобна, што ён чакае тлумачэння ад некага. Затым узняў рукі і амаль выгукнуў: «Ды гэта жахліва!» Жанчына побач з ім нібыта спалохалася. Азірнулася навокал, рашуча ўхапіла яго пад руку, прамовіла: «Прашу цябе, не тут!» — і пацягнула па вуліцы.

Чаміл, як пабіты, сабраў свае манаткі ў табары і пайшоў да брата ў «турэцкую махалу». Пасля гэтага ў Ягадзіне піў дзень, другі, трэці.

На чацвёрты дзень брат угаварыў яго пайсці і забраць каня з возам. Калі жалеза немагчыма прывезці, то трэба пакінуць яго там, а каня і воз прадаць. Як-ніяк, за іх жа дом у Сібінавічавай махале аддаў.

Аднак калі прыйшлі ў тую вёску, дзе Чаміл пакінуў каня з возам, то пачулі зусім неспадзеўнае: яшчэ пазаўчора фурманку забраў Іван са сваёю хеўраю. А карытнік яшчэ паскардзіўся, што яму дагэтуль нічога не заплачана, і гэта, бадай, нарэшце зробіць той, хто каня з возам пакідаў.

Чаміл раззлаваўся і аблаяў цыгана-карытніка за тое, што ён аддаў воз другому, а сам з братам спешна падаўся ў табар каля кірмашу. Ды знайшоў толькі раскіданае смецце, конскі памёт і попел ад нядаўніх вогнішчаў. Табара там больш не было.

Хадзіў Чаміл паміж кучамі памёту і з разгубленасцю, якую не мог схаваць, аглядаў месца, дзе да нядаўняга часу былі яго шацёр, яго коўдра. Ці ж тут гэта ён цудоўныя ночы са сваёй Мечкаю правёў? І наогул, ці было такое, а ці гэта яго, адчайнага і нецвярозага, падманвае хворая галава?

Пагойдваючыся, як каўбой, і нядбайна засунуўшы рукі ў кішэні блакітнага джэмпера на гузіках, падышоў хлопчык гадоў дзесяці ў вялізным саламяным капелюшы на галаве. Каля Чамілавага працоўнага месца ён раптам падскочыў і тыцнуў у паветра левым, а затым правым кулаком. Пасля гэтага зноў засунуў рукі ў кішэні і, пагойдваючыся, спакойна пакрочыў далей, па зебры перайшоў вуліцу ў напрамку Дома арміі.

Пакуль набірала сілы восень, Чаміл тыдзень сядзеў у Ягадзіне, п’яны і гатовы памерці, не ведаючы, куды падацца. Адправіцца за Мечкай у Румынію? А дзе ж яе там шукаць? Ды калі і знойдзе, то што ёй скажа? Вось каб Міца яму нейкі знак падала. Тады б у Чупрыю вярнуўся.

А Чазім, які баяўся, што брат застанецца ў яго на шыі, неяк увечары спакойна разважыў:

— Міца ўсё ведае. Але пра цябе і слухаць не хоча. Прыкідвае, каб за каго замуж выйсці. Трэба ж дзяцей гадаваць.

Урэшце Чаміл пакінуў Ягадзіну і нейкі час без мэты блукаў каля Царградскага шляху. Пад канец восені ж апынуўся спачатку ў паселішчы Цыганяшы ў Вялікай Плане, а потым у Смедараве.

У Цыганяшах без асаблівых надзей распытваўся, ці не праходзіў тут нядаўна табар рускіх цыганоў, ці не было ў іх абозе старога вылінялага каня з белай плямаю, як кветка, на ілбе — яго задышлівага Сіўкі? Можа, бачылі невысокага, мажнага сіваватага цыгана з выгнутай люлькай у зубах і з пажоўклымі вусамі — яго нясуджанага дзіўнага цесця Івана? А раптам сярод той стракатай гурмы бачылі маладую жанчыну, што як дзяўчына, у каляровых шаўковых спадніцах, з нафарбаванымі вуснамі і вялікімі цнатлівымі вачыма,

якія часта спыняе на мужчынах, з чыстай белай скурай, што пахне квеценню і лёгкім бэзавым дымам, — яго каханую Мечку?

Між тым адны казалі, што такі табар — праўда, каня з белай кветкай не заўважылі, а ў гурме ўсе людзі старыя былі — прайшоў месяц таму; другія ж сцвярджалі, што падобны табар бачылі два дні таму, калі не ўчора; а трэція, якіх найбольш, хоць і глядзелі ўвесь час на дарогу, не бачылі нічога.

А Чамілу, зрэшты, да сапраўднасці не было ўжо справы. Адляцела яго Мечка, як чарнявая прыбярэжная ластаўка, і ўжо цвыркоча ў нейкім шатры, цяплейшым за яго.

Пачатак зімы заспеў Чаміла ў Смедараве. І чалавек, у якога ён знайшоў прытулак, рыхтаваўся да важных спраў. Неўзабаве, казаў ён, настануць пагодлівыя зімовыя дні, людзям захочацца свежай смажаніны. А тут непадалёку — прычым без сабак, заўжды варожых да цыганоў — ёсць адзін гаспадар, у якога дзве свінні з не менш чым дзясяткам парасят. Калі іх узяць і да свят схаваць у прыяцеля з суседняй вёскі, то потым можна пакалоць ды з добрай выгодай прадаць на рынку ў Младэнаўцы. Дарэчы, з прыяцелем ужо ёсць дамоўленасць, надзейная.

Крадзяжом займацца Чамілу не хацелася. Зрэшты, яму ўвогуле не хацелася нічога. Аднак трэба было неяк адплаціць гаспадару за дах над галавою і за хлеб. А пасля Мечкі, як ён лічыў, горшага ўжо нічога не можа здарыцца.

Так што яны ўтраіх глухой пароючы ночы ціха пракраліся да нейкага жардзянога плота. Мэта ўжо была перад вачыма. Прыпыніліся, каб апошнія дэталі абмеркаваць. У іх былі электрычныя ліхтарыкі, а ў кішэнях — зерне кукурузы і наморднікі з вяроўчыны для свіней. Усё трэба было зрабіць у поўнай цішыні, і кожны павінен быў вынесці тры-чатыры парасяці ў мяшку.

Толькі б удача не падвяла.

Пераскочылі яны плот і ўслед за тым, хто добра ведаў двор, накіраваліся да хлява. Ціха пралезлі пад дзверы. Як кацяняты, спалі парасяты на пузах у мацярок. І свінні на пачатку не надта ўстрывожыліся. А спрытныя хлопцы сноўдалі ціха, як цені, чухалі іх, недаверлівых, за вушамі, супакойваючы.

Хуценька даставалі кукурузу з кішэняў. Свінаматкі асцярожна да іх падышлі, разумнымі вачыма сочачы за ўсім, што адбывалася, і пачалі ласавацца. Хлопцы прычакалі крыху, а тады прыгатаванымі загадзя наморднікамі знянацку абраталі ім лычы. Потым, працягваючы чухаць, узяліся лавіць парасят. Вось-вось і пакідаюць іх у мяхі.

Між тым хлеў нізкі ды цесны, і ў ім слабая бачнасць. Куды ні павернешся — наткнешся на што-небудзь. Свінні ад гэтага становяцца ўсё больш неспакойнымі і з-пад наморднікаў павіскваюць.

Адна здолела-такі вырвацца. Панічна рванулася, збіла з ног аднаго прыхадня і нырнула пад загародку… Выскачыўшы на адкрытую частку хлява, яна панеслася галопам так, як цяжкавозны конь, пачала задыхана рохкаць і вішчаць — абвяшчаць бяду для ўсіх.

Яны падранцвелі. Што цяпер, браты-цыганы? Адразу ўцякаць а ці прычакаць яшчэ трохі?

Тым часам рыпнулі дзверы хаты. Нехта загукаў адтуль: «Хто там?!»

Залётныя малойцы пагасілі ліхтарыкі, спалохана пераглянуліся і, стараючыся як мага цішэй, палезлі пад загародку. Яны разлічвалі затаіцца, перачакаць хвільку і задаць драла. Мяшкі са здабычай, пэўна ж, тут пакінуць — галовы ратаваць трэба.

Але ў хаце загарэлася электрычнае святло, а на двары з’явіўся газавы ліхтар, стаў набліжацца той, хто крычаў. Нейкі мужчына. Зноў пачуўся крык: «Ды хто там?! Адзавіся!»

У трэцяга саўдзельніка — смедараўца, якому было асабліва непрыемна, калі яго пазнаюць — не вытрымалі нервы, і ён сігануў цераз невысокі плот каля хлява. Затым пранёсся напралом па двары і, пераскочыўшы жардзяную агароджу, знік.

У гэты момант ад ліхтара данёсся шалёны крык: «Злодзеі! Напалі злодзеі! Памажыце, людзі! Злодзеі!»

Чамілаў прыяцель прасіпеў ледзь чутна: «Уцякай як можаш!»

Сам ён уміг шугануў з трэскам цераз плот і прапаў.

Чаміл неспадзявана застаўся адзін у хляве. І на свеце. З усіх бакоў акружаны лютымі ворагамі, якія намерваюцца знесці яго русую галаву з плячэй. І зусім разгубіўся. Хацеў бы ўслед за таварышамі. Ды ці варта ўжо? А дзе схавацца? Куды нос уткнуць?..

Ногі ў яго ад страху падранцвелі і нібыта сталі карацейшымі. Нават з месца немагчыма зрушыцца. Увесь ён жахліва калаціўся. Здавалася, мозг паскручваўся ў нейкія вузлы і ніяк не можа разблытацца.

Са спазненнем кінуўся ён шукаць выхад і наткнуўся на зачыненыя варотцы загона. Пакуль спрабаваў іх адчыніць, чуў, як набліжаецца, гукаючы, гаспадар з ліхтаром.

Дайшло, што варотцы можна пераскочыць. Перакінуў адну нагу, і тут заўважыў, што збоку да галавы набліжаюцца нейкія бліскучыя вострыя зубцы. Паспрабаваў неяк хоць крыху адхіліцца. Але ў гэты момант адчуў громападобны, як даўбнёю, удар па левай скроні.

У вачах, асабліва ў правым, зіхатнула нейкае агромністае гарачае сонца. Яно сваім ззяннем адразу спаліла ўвесь навакольны свет, а потым пранікла ў чэрап і нібыта расчасала ў ім тысячу балючых трапяткіх нітак.

Чаміл зляцеў з плота, як цяжкая брудная ануча для мыцця падлог у корчмах, і знайшоў уратаванне ў страце свядомасці.

Наперадзе справа, каля ўвахода ў кінатэатр «Ядран», на плошчы Рэспублікі збіраўся натоўп. Над ім высока вісела каляровая афіша з выяваю прыгожай жанчыны ў купальніку. А пад гэтай выявай было напісана: «Баль на вадзе».

Чаміл падумаў сабе: «А тая, мая, была не горшай за гэтую».

Бачнасць для яго была не зусім добрая. Таму чорнай рукой, якая пахла гуталінам, асцярожна выцер спачатку здаровае вока, а потым вільготную пустую яміну ад выдзертага. Рубцы на скроні і носе ў яго не надта прыкметныя, аднак палова галавы ўсё ж такі засталася сляпой.

Паверх яміны на стыку павек збіралася нейкая белаватая слізь, а гэта, бадай, непрыгожа.

Вось што яму зрабілі.

Нібыта скрозь сон і нібыта гэта не зусім яго датычылася, Чаміл чуў нейкія галасы, адчуваў, што яго смыкаюць і штурхаюць. У нейкі момант яму здалося, што адчувае, як пад целам штосьці рыпіць і патрэсквае, нібыта яго кудысьці нясуць. Галава яго набрыняла, як вялікі гарбуз, і ў яе быццам бы забівалі нейкія гумовыя падкоўкі.

Мечка за варотамі Улайкавай кузні на пачатку завулка Гайдука Велька трымае Сіўку, каб яго падкавалі, і з дакорам выгаворвае: «Што ты тут лайдачыш, калі твой конь абасаножыў?»

Але пошум мяхоў і грукат молатаў у кузні перашкаджаюць яму знайсці выхад. Ён вырашае, што прычына ў яго галаве: яна ж, далібог, не мае дзвярэй.

Аднак у прыцемках кузні бачыць юркага Улайка, колішняга сталага свайго кліента з тых часоў, калі стаяў перад карчмою «Сінджаліч», і парываецца нешта спытаць у яго. Лічыць, што гэта вельмі важна. Між тым каваль перад кузняю чысціць капыты прывязанаму Цветку і голасна крычыць: «Трымайце яго, абакраў мяне! Трымайце злодзея!»

І ён забывае, чаго хацеў.

Потым чуецца бразгатанне мноства нажоў і відэльцаў, і яму ў галаву прыходзіць думка: «Пэўна, гэта мяне на Каляды закалолі і гатуюць?»

Пасля гэтага ён зноў правальваецца ў нейкае невыразнае струганне, кляпанне і калыханне, да таго часу, калі адчувае рэзь у нізе жывата і нясцерпнае жаданне памачыцца. Прабудзіўшыся, застаецца ў нейкім паўсне, калі ўсё змяшана, так што немагчыма ўспомніць, як гэта робіцца, а ў той жа час чуе сам сябе, сваё вішчанне. «Вось, вішчу, як парася», — думае ён і варушыць галавою на нейкай падушцы.

Спрабуе расплюшчыць вочы, і гэта яму нібыта ўдаецца. Аднак нічога вакол сябе не бачыць. Вырашае, што яшчэ глыбокая ноч.

Цэлы дзень, а можа і два, і тры ці нават год ён гэтак вішчыць, а не можа ні спыніцца, ні дапамагчы сабе. Але нарэшце па подыху паветра на шчоках адчувае, што нехта падышоў да яго.

Прыемны жаночы голас пытае:

— Чаго ты хочаш?

Ён нібыта выразна, хоць і да крыўды плаксіва, прамаўляе:

— Хачу пісаць.

Але чамусьці гэта прагучала неяк дзіўна: «Бо-бо-бо».

На нейкі момант ён бянтэжыцца і чакае, як прарэагуе жанчына.

— Баліць табе? — пытаецца яна. — Ну дык і павінна ж крыху балець.

— Не! — крычыць ён чужым голасам. — Я хачу памачыцца!

Між тым сказанае ім прагучала так: «Мо-мо-мо!»

— Нічога, пройдзе! — гаворыць жанчына, нешта папраўляючы на яго пасцелі.

І калыханне паветра, і шоргат адзення засведчылі яму, што жанчына выйшла.

Ён задумаўся: «Хіба я забыўся, як гэта трэба сказаць?» І пусціў з сябе. Боль у нізе жывата адразу прайшоў, прыемная цеплыня разлілася па жываце, сцёгнах і нагах.

Пасля гэтага ён мірна заснуў.

Без сноў праспаў доўгі час. А потым, зноў жа ў цемры, прачнуўся на мокрым халодным ложку, які смярдзеў лекамі і мачою. Прысаромлены, абмацаў вялікую павязку на галаве і вачах, доўга не адважваючыся паклікаць каго-небудзь на дапамогу. Калі ж нарэшце асмеліўся, то ад санітаркі даведаўся, што ён страціў вока, а за дзвярыма палаты сядзіць міліцыянер.

Цяпер ён аднавокі.

«Як гэта?!» — яшчэ не верачы, раздумваў ён у сваіх чорных павязках. І на той момант яго больш даймаў сорам з-за таго, што абмачыўся.

Чаміл стукнуў далонню па накрыўцы сваёй скрыні, здзьмухнуў нешта з яе і прамовіў: «Калі ласка, калі ласка!»

Да яго падыходзіў каржакаваты мужчына з шахцёрскім значком (два перакрыжаваныя малаткі) у пятліцы. У мужчыны жорсткія сівыя валасы пад клетчатай кепкай, невялікі, трохі скрыўлены нос, а вочы пад тоўстымі акулярамі выглядалі як валовыя.

Рэгулярна, дні праз два-тры, Чаміл чысціў і глянцаваў яму чаравікі, лічачы, што той ходзіць да нейкай жанчыны — пэўна ж, грошы забяспечваюць трываласць такой сувязі, — але пан інжынер не апускаўся да размоў з ім. Таму, уласна, пытаннем прафесійнага гонару было неяк абвесці яго.

— Якія крэмы ў цябе ёсць? — запытаўся інжынер. Ні пра што іншае ён ніколі не пытаўся.

Чаміл, паслужліва гледзячы яму ў вочы, хутка выклаў на дошку некалькі бляшанак і цюбікаў.

Кліент ганарліва падняў нагу і вострым наском свайго чаравіка паказаў: «Гэты». Яго выбар, як і жэст, былі заўжды аднолькавыя.

Потым змясціў нагу на падстаўку. Больш на Чаміла не глядзеў.

Дастаўшы з кішэні, разгарнуў газету і павярнуўся да святла з вітрыны «Камісійнага».

Вайна ўратавала Чаміла ад працяглага турэмнага заключэння. Пасля акупацыі ён перабраўся ў Бялград, пасяліўшыся каля Цветкавай карчмы.

Нехта ж павінен яму есці варыць, мыць яго бялізну. Таму жыў з адной, другой і трэцяй жанчынай, але ніводная з іх не была яму па душы. Ён лічыў, што пасля Мечкі немагчыма зносіць ніводную жанчыну на свеце, і дома звычайна паводзіў сябе абыякава-задуменна, а часам і сурова.

Займаўся крыху спекуляцыяй, азартнымі гульнямі, дробнымі крадзяжамі і, зноў, чысткай абутку. Абутак тады чысцілі ў асноўным нямецкія вайскоўцы. А прывядзенне ў парадак вайсковых ботаў звычайна аплачваецца пачкам цыгарэт, якіх у яго часам набіралася поўная скрыня. І гандаль імі ратаваў яго з сям’ёю ад голаду і нястачы.

Аднак у працы не было пастаянства і надзейнасці, бо немцы тройчы арыштоўвалі яго як дробнага злачынцу і як цыгана-заложніка. Два разы абыходзілася яшчэ сяк-так — насміхаючыся і травячы бадзёрыя анекдоты, патаўклі ды ўзялі хабар. А трэці раз было небяспечна, паколькі адвялі ў лагер на Торжышчы, затым у Баніцу, адкуль штоночы забіралі на расстрэл. Але і гэта прайшло больш-менш удала — паўгода ён бездапаможна глядзеў у вочы смерці, час ад часу аказваўся бітым бізунамі, закопваў трупы расстраляных у Яінцах. Як фізіялагічны ўспамін пра ўсё тое ў яго засталіся чуйнасць нерваў, празмернае паценне, аслабелая вынослівасць, а таксама пэўная схільнасць да сварак і боек, хоць звычайна гэта для яго кепска заканчвалася.

Вызваленне застала яго, разведзенага і з апошняй жонкай, у разгубленасці. Аднак на вуліцы перад Цветкавай карчмою ён з запалам крычаў: «Няхай жывуць браты рускія! Няхай жывуць таварышы кукурузнікі!»

У тым самым запале і ў армію запісаўся.

Як непрыдатны да страявой, першыя дзесяць дзён ён з задавальненнем выконваў абавязкі кухара нейкай вайсковай адзінкі ў сталіцы. А потым яго адправілі за Саву, у Срэм, дзе дажджы, лужыны, холад і неспадзяванкі, калі палявую кухню ліхаманкава перакідвалі то туды, то сюды. Там увесь час існавала пагроза быць параненым ды пакалечаным, калі не забітым. І запал хутка прапаў. Таму запаленне павек ён успрыняў як міласць Божую, неяк дабраўся да палявога шпіталя пад Шыдам і папрасіў, каб яго накіравалі на медыцынскую камісію.

— А нашто ж было добраахвотна запісвацца? — задаў пытанне стомлены доктар.

— Ды гэта я, таварыш доктар, па дурасці, — збянтэжана адказаў Чаміл.

Яго адпусцілі. А пасля вайны гэта дало яму магчымасць уступіць у Саюз ветэранаў. Апроч таго, час ад часу, неафіцыйна, ён называў сябе ваенным інвалідам і скардзіўся, што ад гэтага не мае асаблівай карысці.

Чаміл закасаў інжынеру калашыну з манжэтай, уставіў за чаравік кардонны шчыток, жорсткай шчоткай зняў бруд з падэшвы і абцаса. Затым другой, мяккай, шчоткай сцёр пыл.

Якраз у гэты час ад будоўлі з вуліцы 29 Лістапада заднім ходам на вуліцу Дэчанскую выехаў аграмадны жоўты грузавік. Выпускаючы клубы дыму і грукочучы, ён накіроўваўся ў бок плошчы Маркса і Энгельса, а людзі абыякава глядзелі на яго. Інжынер паверх газеты глядзеў таксама.

Чаміл палічыў, што тут якраз нагода хуценька памазаць чаравік фарбай з бутэлечкі: «Што ж, пакуль ты будзеш зырыць на грузавік, я пафарбую з бутэлечкі».

Потым узяўся глянцаваць — спачатку шчоткамі, а потым суконнай анучкаю. Усё рабіў спрытна і хутка, рукі проста лёталі.

— Прашу другую нагу.

Носьбіт шахцёрскага значка спусціў нагу з пачышчаным чаравікам на асфальт, праз тоўстыя акуляры аценіў якасць работы і паправіў закасаную калашыну. Затым паставіў на скрыню другую нагу і зноў захіліўся газетаю.

Тым часам ад плошчы Рэспублікі да бліжняга тэлеграфнага слупа падыходзіла прыгожая стройная дзяўчына ў светлым плашчыку. Яна недзе побач тут жыла, бо Чаміл яе часта бачыў. Русыя валасы дзяўчыны былі павязаныя тонкай хусцінкаю, рукі яна трымала ў кішэнях, а на локціку ў яе вісела лёгкая дзявочая сумачка.

Кліент са значком проста заглядзеўся на дзяўчыну, а чысцільшчык, амаль з нахабствам раўніўца, намазаў фарбаю з бутэлечкі і другі чаравік. Потым таксама хутка і ўмела выглянцаваў яго.

Паправіўшы кліенту калашыну, ён задаволена прамовіў: «Вось і ўся работа».

Інжынер зноў нічога не адказаў. Ён і далей глядзеў на ладную постаць у светлым плашчы — аблізваючыся, як падумаў не без злосці Чаміл, — а тады склаў газету і абыякава разлічыўся. Потым яшчэ раз павярнуўся ў бок дзяўчыны і рушыў да будынка «Борбы».

Ступаў ён цвёрда, як генерал, брава стукаючы абцасамі, а ў той жа час пакалыхваючы прамымі тлуставатымі плячыма і павільваючы сцёгнамі.

Адпушчанага з войска Чаміла ў Мірыеве прыняла чацвёртая жонка, у якой было двое дзяцей. Прымак зжыўся з імі як са сваімі роднымі, і сям'я ў хуткім часе папоўнілася трэцім і чацвёртым дзецьмі. Тады ён для сям'і з шасці душ збудаваў мазанку у Ятаган-махале, непадалёк ад вар'ятні на Губараўцы. Дзякуючы спекуляцыі, перапродажу крадзеных рэчаў і зноўку ўзятай скрыні чысцільшчыка ён неяк утрымліваўся. Але за недазволеныя справы яго зноў некалькі разоў арыштоўвалі — на шчасце, ні разу больш чым на тры месяцы.

— Ты ж ветэран, — звярнуўся да яго аднойчы ў турме на Вянцы Обіліча афіцэр без пагонаў, са светла-блакітным ромбам на каўняры, — дык ці не хочаш дапамагчы нам адолець гэтую рэакцыйную свалату?

Чаміл збянтэжана адказаў:

— Чаму ж не хачу, таварыш капітан?

— Ну, калі так, то падпішы вось гэта, і я цябе адпушчу.

Чаміл дрыготкай рукой падпісаў паперу, у якой гаварылася, што ён абавязваецца ўдзельнічаць у выкрыцці ворагаў народа і свае паведамленні будзе падпісваць імем Чаміл, без прозвішча.

Адразу выпушчаны, ён стрымгалоў паляцеў дадому, імкнучыся як мага хутчэй схавацца. Два дні трымцеў ад страху. Потым разбудзіў жонку, сказаў, што яна павінна тут патрываць нейкі час адна і адправіўся цягніком у Заграб.

У Заграбе са сваёй скрыняй больш за тры месяцы працаваў на вакзале, адзіным вокам аглядаючы пасажыраў і час ад часу таемна пасылаючы грошы сям'і. Былі моманты, калі з'яўлялася надзея, што ў натоўпе ўбачыць шырокую квяцістую спадніцу Мечкі і яе румяны, акруглы твар. І прыходзіла ў галаву думка: тады было намнога лягчэйшае жыццё. Пра Міцу з Чупрыі амаль зусім забыўся, не мог нават добра прыгадаць, як яна выглядала. А вось дзеці, якіх пакінуў з ёй, нярэдка прыгадваліся, і ён з няёмкасцю задаваў сабе пытанне: па колькі ж ім гадоў цяпер?

Праз пэўны час і тут яго арыштавалі. І ён у турме на вуліцы Петрыньскай, не згадваючы пра ранейшае, зноў падпісаў абавязацельства, што будзе даносіць — на гэты раз як нейкі Карчагін, таксама без імені.

Напалоханы і разгублены, адразу ж пасля вызвалення, не марудзячы ні гадзіны, узяў на плячо сваю скрыню і падаўся дадому, у Ятаган-махалу.

У котлішчы каля вар'яцкага дома яго сустрэлі з вялікай радасцю. І ён, плачучы, паабяцаў жонцы, што больш нікуды не адыдзе, няхай хоць маланкі па ім б'юць. А сам сабе пакляўся, што і даносіць не будзе, хоць бы і ў Чупрыю вымусілі перабрацца, чаго ён не хоча.

Зусім адышоўшы ад цёмных спраў, чысты, як святы, ён цяпер выходзіць са сваім начыннем для чысткі абутку на бялградскія вуліцы — спачатку каля аптэкі на Славіі, затым да прыступак выхаду з чыгуначнага вакзала, а ўрэшце — пад гадзіннік на Тэразіях. І пры гэтым, нібы загнаны звер, азіраецца, каб на яго не выскачыў яго персанальны ганіцель — афіцэр у форме без пагонаў. На ўсякі выпадак не адгукаецца ні на якія афіцыйныя паперы. Калі што, пасылае жонку, а сам рашуча пазбягае ўсялякіх сустрэч з уладамі.

Тут, на Тэразіях, апошнім часам некалькі разоў яму ўдавалася распазнаць небяспечнага чалавека і ўхіліцца ад непасрэднага сутыкнення. Аднойчы ўцёк і схаваўся ў натоўпе каля касы кінатэатра «Бялград». Аднак нехта схапіў за руку.

— Куды ж гэта ты падзеўся? — строга задаў пытанне той супрацоўнік дзяржаўнай бяспекі, з прылізанымі валасамі, апрануты цяпер у сіні вельветавы пінжак.

— Ды тут я, таварыш капітан, — адказаў ён, збляднеўшы.

— А чаму не адгукаешся? Памятаеш, на што абавязаўся?

Тут Чаміл вырачыўся і закрычаў, як бы лаючыся на кагосьці:

— Ды я не маю ніякіх сувязей з імі, каб на іх трасца! Я ж салдат-інвалід! — выгукнуў ён, паказваючы пальцам на сваю пустую вачніцу. — І я не бачу, нічога не бачу!

Крык прыцягнуў увагу натоўпу, і чалавек у сінім пінжаку сумеўся. Прамармытаў нешта невыразнае — маўляў, нехта з-за гэтага мог пацярпець — і, не азіраючыся, падаўся прэч.

Назаўтра Чаміл пакінуў месца на Тэразіях і перайшоў да «Камісіёна». Аднак і там пільнаваўся, каб не сустрэцца з ліхам. А калі ўжо прайшло гады два, пачаў думаць, крыху сумняваючыся, што, відаць, на яго махнулі рукой, і ён можа крыху перадыхнуць.

Тады на пачатку Македонскай вуліцы, з тылу рэстарана «Гініч», які пасля вайны стаў дзяржаўным, знайшоў закрыты куток, дзе ўвечары можна было пакінуць сваю скрыню, не цягаць яе па вуліцах і трамваях.

Немалады ён ужо. Сорак сёмы год пайшоў.

Добрае гэта месца. Шукар.

Нават раніцай, калі ўсе спяшаюцца на працу, яму нешта можа перапасці.

Знаходзяцца тыя, што накіроўваюцца на партыйныя ці іншыя сходы альбо шукаюць працаўладкавання — ім хочацца выглядаць як мага прыстойней. Удзень, зноў, многія бегаюць па крамах, стараючыся што-небудзь знайсці, і часам да яго звяртаюцца. Ну а найлепш, далібог, увечары, калі людзі ідуць у рэстараны ці ў госці. Тады, праўда, ты ўжо стомлены, і не працуецца так, як трэба было б. Табе хочацца ўжо падсілкавацца сваім нішчымным бабовым супам і заваліцца на ложак.

«Вітаю!» — праходзіць дворнік, сусед з Прокапа. Дома яго чакае пышнацелая рабая жонка і, як ва ўсіх, чарада дзяцей. Добра, што яны рана пачынаюць зарабляць.

Тым часам дождж перастаў гэтаксама нячутна, як і пачаўся. Асфальт ад вільгаці выглядаў нібыта клейкі, хоць на ім, акрамя слядоў машын з будоўлі, бруду не было. Спускаўся ранні змрок цёплай восені, і лямпачкі на слупах урэшце сталі дарэчнымі.

Дзяўчына ў светлым плашчыку ўсё яшчэ без канкрэтнай мэты азіралася, паглядаючы ў бок «Борбы». Калі чакае кагосьці, то ён ужо павінен быў бы падысці. Хоць уласна для яго, Чаміла, так было нават прыемней. Так дзяўчына як быццам заставалася яму вернай.

Падумалася, што мог жа прапанаваць ёй вычысціць туфлікі. Зразумела, сказаў бы, што плаціць не трэба.

У гэты час з'явіліся блізнючкі-карліцы з мадзярскага цырка «Адрыя», што ў Караджорджавым парку, пра якіх пісалі газеты. Немцы ў вайну хацелі іх знішчыць, трымалі ў нейкім жорсткім лагеры, аднак сёстры аказаліся моцнымі. І вось яны сталі зоркамі народнага мастацтва, якое цыркам завецца.

Аднолькава апранутыя — у жоўтых сукенках з блакітнымі кветачкамі, у расшпіленых шэрых дзіцячых плашчыках — яны крочылі сур'ёзна, размахваючы кароткімі ручкамі, адстаўляючы ў бакі локці, нібыта зламаныя крылы птушак.

«Ух ты, якія!» — закрычаў нейкі свавольны карапуз у перашытай гімнасцёрцы.

Жанчына, якая вяла яго, пляснула рукою па губах, і ён замаўчаў.

Карліцы прайшлі зусім абыякава, як быццам гэта іх не датычылася. Відаць, цікаўная ўвага прахожых ім не замінала. І пакрытыя сеткаю маршчын іхнія тварыкі заставаліся спакойнымі. Яны, паварочваючыся толькі корпусам, на хаду разглядалі запоўненыя вітрыны «Камісіёна».

Дзяўчына ў светлым плашчыку, нахіляючыся, як блізарукая, неяк коса праводзіла іх поглядам.

Калі карліцы прайшлі, яна раўнадушна пацiснула плячыма, яшчэ раз азірнулася на «Борбу» і, лёгка стукаючы невысокімі абцасікамі, пайшла па зебры да помніка. І там хутка згубілася ў натоўпе.

Чаміл у гэты час прыхіліўся плячыма да сцяны, адчуваючы, што на яго напала дрымота. Патрэбна было зноў нахіліцца ўперад, але яму не хацелася. Ведаў, што калі цяпер пойдзе дадому, то прачнецца недзе апоўначы. «Эх, нямоглыя мае гады!» — буркнуў ён сам сабе.

Тады вырашыў, што цяпер найлепш будзе выпіць чарачку мяккай ракіі каля стойкі рэстарана «Гініч», дзе яго ведалі. Гэта ўзбадзёрыць.

Між тым пакуль што не варушыўся. Толькі летуценна ўздрыгнула паморшчанае, як фіранка, доўгае павека на адзіным воку.

***Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

# ЗАМЯСІЦЬ ЦЕСТА НАДЗЁННАЕ

## Душан ЧОЛАВІЧ

### АБРАННІКІ
***(На іканастасе неба)***

Продкі нашы,
Нябёсаў насельнікі,
Вачэй не зводзяць
З нязгаснага сонца веры,
І з усіх бакоў неба
Расчыняюцца для іх дзверы
Абіцеляў усёахопнай любові.
А я, недастойны, з трымценнем
Гляджу на іканастас
У надзеі на міласць
І ў чаканні…
Адчуваю, што мяне
Таксама клічуць узняцца.
Надыходзіць і мой час.

### НА ПАРОЗЕ ДЗЯЦІНСТВА

Пад бацькоўскім небам
З добрай волі ахоўваю
Нагрэтае гняздзечка.
Гадуюся,
Умываюся словамі
І цікаўна
Перагортваю
Лісткі радаводу.
З-пад гэтага даху
Ўспаміны даўнія
Нясу па жыцці,
Як скарб.

### БРАТАМ–СЛАВЯНАМ

З-за балканскіх хрыбтоў
Як блізкіх
Бачу славянскіх братоў
Чую з задавальненнем
Іх натхнёныя словы
Для мяне заўжды новыя
І адчуваю светлыя крылы
Мар Мяфодзія і Кірыла.

## Мацiя БЕЧКАВIЧ

### КІНЖАЛ

Ёсць такая цікавая прытча,
Што да нас дайшла з поўначы,
Пра паляванне на хіжых ваўкоў:
Бяруць кінжал двухбаковавостры,
Абмакваюць лязо ў свежую кроў і,
Уткнуўшы ў лёд дзержаком,
Пакідаюць на снежнай прасторы.
Воўк, у тую пару згаладалы,
Пах крыві здалёк адчувае,
Асабліва ў паветры марозным
Ноччу, пад высокімі зорамі,
Так што лёгка знаходзіць прынаду тую.
А мерзлую сукравіцу ліжучы,
Адразу рэжа язык сабе
І тады цёплую кроў сваю
З халоднага ляза сёрбае.
Прычым супыніцца не можа,
Ажно пакуль не ўпадзе,
Сваёй крывёю здаволіўшыся.

Калі ж так адбываецца з ваўкамі,
Якіх упаляваць найцяжэй,
То што казаць пра людзей
Ды і пра народы ўвогуле,
А пра наш тым болей,
Бо ён жа сваёй крывёю
Ніяк не спатоліцца.
І ўперш прападзе,
Чым спасцігнуць здолее,
Што можа над намі
Толькі крывавы кінжал
Застацца
Адзіным помнікам
І крыжам.

## Адам ПУСЛАІЧ

### БАЧНАЕ, ПЫТАННІ І АДКАЗЫ

Павыходзілі на вуліцу
Толькі дзяды і бабулькі.
Няма сярэдняга ўзросту людзей,
І ніводнага дзіцяці, ні травінкі нідзе.

Вырашыў у іх папытацца:
— А дзе ж вашы астатнія?
Адзін павярнуўся да мяне
І з усмешкаю ўдакладніў:
— А якія астатнія?
І пайшоў сабе.

Мяне яго пытанне спалохала.

Не расце трава на попеле.
Гэта я засвоіў яшчэ ў тыя часы,
Калі быў малы і ў вёсцы жыў.
А цяпер жа ведаю намнога больш.

### І КРЫЖ, І СОРАМ

Крыж свой трымаю
ў руцэ
і мы існуем разам

як кажуць
зноў усё
тое што не стала
жыццёвай звычкай

сорамна мне
перад Богам
што Ім створанае
для мяне стала звыклым

але яшчэ ж
паглядзім
і падправім
і дапоўнім

абы толькі
засталося здароўе
і многа спраў

## Райка ПЕТРАЎ НОГА

* * *

Анёлам падрэзалі крылы
Архангела скруцілі дротам
А свечка яшчэ не пагасла
І першай літарай не стала іжыца

Змарнеў краявід камяністы
Перасохла ў Астрогу крыніца
Калі марнаслоўная лжэзорка
Агаварыла ягня за спінай у Бога

## Радамір АНДРЫЧ

* * *

Месяц на распаленых языках
гэтага вечара з усімі ранейшымі
лірычнымі запісамі рахункі зводзіць
і вызначае колькі сілы яшчэ
маюць гукі прынятыя струнамі
інструмента схаванага ў вадзе
пад ручку з даўнейшым вар’яцтвам
апошні рамантык выходзіць зноў
на пустэльную дарогу і бачыць
узрушыўшыся сваё аблічча
у сон недаснёны ўціснутае

## Раша ПЭРЫЧ

### ВЕК СТРАХУ

Паўзу векам страху!
Размножаны знішчальнік
цікуе з агульнага нуля,
з жарала ўсёвынішчэння.
Але... дрыжыць і яго джала:
капае тлустае зло
з гадзінніка апошняга.
Кожны ўкус — перадсмяротны для кожнага.
Паказвае свой час і ахвяра, і кат.
А ён, Вярхоўны, пэўна ж, ён
сляды ўсіх упаляваных замятае?
А ці ў мёртвы век ён
семя новае духу жывога пускае?

Прэдраг БАГДАНАВІЧ ЦІ

## СМОЎЖ–САМОТНІК

Пасля таго як гаспадар абрэзаў вінаграднік,
у знак пратэсту смоўж замкнуўся ў сваёй хаціне.

Уваход туды засланіла з слізі шторка,
паверх якой — слязіна сасновай смалы.

Смаўжу ў самоце сняцца маладыя лісточкі,
яшчаркі і шпакі над вінаграднымі гронкамі.

З прасвядомасці даносяцца пахі
сакавітых траў, збажыны і мядовых сотаў.

Разрыў-траву на зыходзе дажджу
чарапашка знайшла і ўхапіла.

Нехта з іх дваіх
учыніў злачынства.

Міча ЦВІЕЦІЧ

## ГАСПАДАР І ГОСЦЬ

Калі здалёк прыязджаю ў родную хату,
Дрыжыць нязносная бездань часу.
Нікога, хто б мне ўзрадаваўся.

Ні той, што замешвала цеста надзённае,
Што на агні юнага сонца хлеб выпякала;
Замест святога напою з бацькавай рукі
Нябачны нехта падае кілішак атруты.

Калі здалёк прыязджаю ў родную хату,
Адначасова я — і гаспадар, і госць.

Ана ДУДАШ

## СВЯТАЯ ВАЛЯНЦІНА МІНСКАЯ

Тваe ўсе намеры
ўзвышала вера;
а пакорлівасць ягняці дапамагла
ў сэрца прыняць Збаўцу

і, схіліўшы галаву,
падобна да ягнятка, ісці
па шляху цярністым
і свечку несці.

* * *

Мова Цішыні —
пацеркі
змучанага свету.

* * *

Святляк вечарам —
для душы маёй
іскра надзеі.

* * *

Светлы месячык.
Паляцеў кажан,
Слуп напаткаў.

* * *

Бабуля корміць
птушак ля дома
сваімі крошкамі.

* * *

Знямела стаім,
вочы ў вочы,
горліца і я.

## Драган ЛАКІЧАВІЧ

### У САМАЛЁЦЕ «МІНСК—БЯЛГРАД»

Мінск нагадвае вялікі лега-горад,
Па якім лега-людзі гуляюць,
Спяшаюцца ў лега-цэрквы і лега-школы.

Гэтак, відаць, Бог забаўляўся,
Калі быў дзіцяткам — з малога краю,
Каб неяк аднойчы
З лега-кубікаў і цацак
Скласці краіну вялікую,
А вакол яе — свет астатні.

Людзі-постаці ў горадзе Мінску
Здаліся Богу надта спакойнымі, добрымі,

І Ён пасяліў побач не такіх добрых —
Каб горшыя вучыліся ў лепшых,
Каб лепшыя ад горшых цярпелі.

Горшыя ў лепшых не вучыліся,
І лепшыя хрысціянамі сталі, каб прабачаць
Правіны горшых.

Мінск стаў школай-царквой
У акружэнні плошчаў і паркаў.
Таму ён нагадвае лега-горад
Пасярод вялікага зялёнага поля
Незабыўнай Беларусі.

## НОТЫ НЯЧУТНАГА ПЛАЧУ МАЁЙ МАЦІ

Едучы аўтобусам 59-м, на чыстай старонцы
У канцы кнігі «*О, каласы мае*» пішу:

*Яны загінулі за айчыну.*

Аднаўляю ў памяці экспазіцыю
Мінскага Музея Вялікай Айчыннай вайны.

Мне знаёмыя амаль усе віды зброі,
Боепрыпасаў, амуніцыі, а таксама і фотаздымкі —
Наша старая хата з Ліпава захавалася ў Беларусі.

Можа, тут і наша ікона Святога Іаана,
Вяртання якой маці мая ўсё яшчэ чакае,
Бо пайшла яна за дзядзькам на яго расстрэл.

У музеі ўсе жывыя — дзед і дзядзькі абедзвюх ліній;
Цёткі песні баявыя співаюць і галосяць,
Усе з пяцікутнымі зоркамі.

Яны яшчэ не расстраляныя,
Яшчэ не трапілі ў засады,
Раскладаюць вогнішчы і збіраюць кветкі на будучыя магілы.

І мы, пасляваенныя дзеці,
Яшчэ гуляем з гільзамі іхняй зброі
У лясных бліндажах і зямлянках,
Тады яшчэ збудаваных.

У сербскай айчыне
Цяпер гэта рэлятывізавана,

Гаворыцца, што і акупантам
Трэба помнікі ставіць.
Кожны піша сваю гісторыю ў кнігах.

У музеі Беларусі
Жыве маё дзяцінства.
Захоўваюцца запісы і песень, і галашэнняў,
І нячутны плач маёй маці.

## Србалюб МІЦІЧ

### СУТНАСЦЬ СНОЎ

***Сон — лобная косць быцця***

**1.**
Калі сню горлінку,
Арлы мне вочы выдзёўбваюць.
Калі сню прыгажуню-дзяўчыну,
Прачынаюся з белай барадою.

Калі сню асфальт,
Правальваюся па калені.

Калі сню…

Ці дасягну
вяршыні ночы.

**2.**
У сне я крутарогі
Як алень ці месяц

На рагах раскінутае неба
Вочы вялікія нібы сонца

Ранкам
Знішчаны дзьмухавец

Смаўжы мяне клічуць на паядынак

***Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***





Ваіслаў КАРАДЖЫЧ

# ПАКУЛЬ УВА МНЕ РАЯЦЦА СОНЦЫ...

## БЯСКОНЦЫЯ СПЕВЫ

Спяваю, пакуль салаўі не вып’юць
Апошнія кроплі маўклівай сінечы.
Спяваю, пакуль мне не здрадзіць голас,
Пакуль не засмягнуць словы ў горле.
Спяваю, пакуль зімы не саслабеюць
І не заліюць мяне гаркатой,
Пакуль не пачне дрыжаць у руцэ віно.

Спяваю, пакуль зіхаціць іскрамі куцця
І струмені сну праліваюцца ў яву,
Пакуль ува мне раяцца ўсмешлівыя сонцы
І не аслепне нянавісць свету.
Спяваю да той пары, пакуль над галінкамі аліваў
Цалуюцца галубы міру!

## ДОЙЛІД

На расцягнутай хусцінцы начы
Аблокі, быццам авечкі,
Пяшчотна праносяцца небам.
Бацька абломкі каменя
Спавівае ў мякаць месячнага святла,
А кавалак месячнага святла — у абрэзак каменя.
Вока не дрэмле — у майстэрні спее прыгажосць.
Зуб долата грызе бель,
Прамывае яе белую кроў
І ззяннем іскрынак упрыгожвае камень.

---

*__Ваіслаў Караджыч__ — сербскі паэт, літаратуразнавец, перакладчык. Член Саюза пісьменнікаў Чарнагорыі. У творчым арсенале пісьменніка — восем паэтычных зборнікаў і дзве кнігі прозы. Скончыў філалагічны факультэт Бялградскага ўніверсітэта (аддзяленне «Руская мова і літаратура»).*

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Усмешка твая — суквецце размарыну,
Словы твае — распраўленыя крылы,
Грудзі твае — успененае мора,
Сон твой — колер майго сну,
Голас твой — прамяністы ранак,
Валасы твае — чародкі духмяных вятроў,
Уздыхі твае — маё бяссонне,
Слёзы твае — мае азёры тугі,
Хада твая — трапятанне бяроз,
Ад якіх саладзейшымі спеюць мае вёсны!

## НЕ СПЯВАЙ РУЖЫ

Не спявай ружы,
Яна сама спявае
Усмешкай сонца.

У час, калі паснулі росы,
Не кранайся да яе каленяў.

І ў змроку
Твая абранніца сэрца
Наталіцца цурчаннем водару.

## КРОПЕЛЬКІ АСАЛОДЫ

Ноч уплаў пераадольвае раку-бессаромніцу.
Дубчыкі лазняку схіляюцца перад карытам ракі
І ў выбухах смеху фехтуюцца,
Быццам ім хочацца схавацца пад крылом цемры.
Удалечыні нараджаецца пажар сонечнага захаду.
Лёгкі посвіст панскіх галубак
Пяшчотна пашчыпвае мядовую цішу.
Жамчужныя рыбіны нагадваюць струны,
Што ў дзіўным танцы пераворваюць глыбіні.
Шчаслівыя хвіліны кропелькамі ўліваюцца
У сэрцы незлаcлівых закаханых,
Якія толькі што адчынілі куфэркі спадзяванняў.

Нечакана сярод гэтага салодкага сну
Па клавішах бесклапотнай ракі

Пачала саслізгваць бязважкая восеньская лістота.

## ПЯРСЦЁНАК РАНІЦЫ

У дзікім ружоўніку шукаю для каханай
Пярсцёнак раніцы.

У нябёсах распранаю вясёлку,
Каб спавіць
Радзімкі нашага кахання
І спаліць увесь непажухлы дурнап'ян.

## ЗНАКІ

Божа,
Ты для нас шчапаеш лучыну,
Каб у пырсках святла
Маглі назіраць свет,
Які бесперапынна абрываецца ў змрок.

Ты іголку крыніцы слаўнай,
Якая да нас з цяжкасцю падпаўзла,
Да вуснаў падстаўляеш.
А мы, выпіваючы ўсё да апошняй кропелькі,
Ператвараем вільгаць у пустазелле.

Ты даеш кожнаму вольнасць шляхоў
З пахам гаркавага палыну,
Дорыш горы і акіяны,
Каб узабрацца і разаслацца.
А мы рыем норы і шукаем зацішкі,
Дзе цвыркуном вішчаць арыі граху,
Дзе зімы галгофныя,
А дабрадзейнасць і ласка,
Замкнёныя за кратамі нерушы сноў!

## СТРЭЛКІ ЧАСУ

Можаш ускараскацца на высачэзную гару —
І не дачакацца пасмы таямніцы.
Можаш весці барацьбу з усімі акіянамі —
І не паспееш перамераць іх бездань.
Можаш мець дасканалае долата, —
А каменю вырвеш сэрца.
Можаш бачыць салодкія сны —
І быць прыкаваным да бяссоння.
Можаш надыхацца ладану —
Веру ж па-д'ябальску падкапаеш.

Можаш завалодаць усімі багаццямі —
І пад канец застацца на голай цаліне.
Можаш кідацца ў бязмежную далеч, —
Ды набліжэнне да перамогі
Прывядзе да роспачы крок твой,
Сокал мой!

## ЗАПАВЕТНАЯ

Буду для цябе лотасам белай поўні,
каб прыгажосць тваю асвятляць.

Залацістым захадам буду,
пакуль сонца на ўсходзе зноў не зайграе.

Буду вусны твае абсыпаць да знямогі
восеньскім лістападам пацалункаў.

Пяшчотным дотыкам і палкай мяцежнай сотняй рук буду,
каб абдымаць цябе.

Буду дубам, апірышчам надзейным,
каб шлях нам прадоўжыць святы.

І доўгачаканым дзівам буду,
што мае голас мацнейшы за ўсіх вешчуноў.

І жалейкай чароўнай буду,
што кліча на спатканні цябе.

І напоем, што саладзейшы
за ўсе ісціны свету, буду я!

***З сербскай. Пераклад Іны ФРАЛОВАЙ.***



**Ганна НАВУМАВА**

# МУСУЛЬМАНСКІ СВЕТ У РАМАНАХ ІВА АНДРЫЧА

Іва Андрыч (1892—1975) — пісьменнік Югаславіі, вялікай краіны, якая пазней распалася на шэсць незалежных рэспублік. Доўгі час ён знаходзіўся на дыпламатычнай службе, прадстаўляў інтарэсы сваёй краіны за мяжой. У 1961 годзе стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Андрыч асабліва цікавіўся гісторыяй сваёй радзімы — Босніі. У 1924 годзе ў аўстрыйскім Грацы абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Развіццё духоўнага жыцця ў Босніі пад уплывам турэцкага панавання». Яго шматлікія творы, сярод якіх варта асабліва адзначыць раманы «Мост на Дрыне» і «Траўніцкая хроніка», засноўваюцца на гістарычных фактах і асвятляюць працэс гістарычнага развіцця ў баснійскім краі. Яны ўяўляюць сабой матэрыял, цікавы для аналізу з пункту гледжання праблем міжканфесійнага ўзаемадзеяння, рэлігійнай псіхалогіі і веравызнаўчага аспекту фарміравання менталітэту. Сапраўды, канфесійныя прыкметы займаюць важнае месца ў характарыстыках персанажаў раманаў, а рэлігійны складнік з'яўляецца адным з фактараў развіцця калізій, прычым вельмі істотным. Пісьменнік, асэнсаваўшы і пераўтварыўшы праз мастацкую рэальнасць надзённыя, балючыя і цяжкавырашальныя пытанні, звязаныя з суіснаваннем рэлігій, прадстаўляе глыбокі філасофска-літаратурны аналіз актуальных праблем мінулага і сучаснасці. Таму ўвага да вобразаў і матываў творчасці Андрыча мае несумненную актуальнасць як з уласна літаратуразнаўчых пазіцый, так і ў межах агульнагуманітарных даследаванняў і пошукаў.

Разглядаючы рэлігійны складнік твораў Андрыча, варта асобна спыніцца на характарыстыках, якія аўтар дае героям-мусульманам. Гэта істотна таму, што пісьменнік вялікае значэнне надае ўплыву туркаў на мясцовае насельніцтва пасля таго, як асманы захапілі Боснію і Герцагавіну ў XIV—XV стст., і з тых даўніх часоў бачыць у іх шмат агульнага. Адмаўляць тое, што славянскі, хрысціянскі этнас, які змяніў веру і асновы сваёй культуры, застаўся без значнага ўплыву народа-заваёўніка, неправамерна. Адпаведна, паспрабуем вылучыць у раманах характарыстыкі, якія аўтар дае мусульманам, каб асэнсаваць феномен міжнацыянальнага ўзаемадзеяння, звязаны са зменай веры славянскім насельніцтвам і наступным яго вылучэннем з свайго этнасу.

Мусульмане звычайна ва ўсім верныя традыцыям. Андрыч гэта ўсведамляе і падкрэслівае. Нават у цырыманіяле афіцыйнага візіту прыхільнасць мусульманскім устоям перамагае неабходнасць прадэманстраваць шанаванне да консула, прадстаўніка магутнай дзяржавы: «Туркі патрабавалі, каб візір прыняў консула, седзячы на падушцы, як ён прымаў усіх іншых наведвальнікаў. А консул запатрабаваў, каб візір прывітаў яго стоячы. Консул спасылаўся на моц Францыі і на ваенную славу свайго гаспадара, а туркі — на свае традыцыі і памеры імперыі[1]» [2, с. 25].

---

[1] Тут і далей пераклад наш, акрамя цытат з рамана «Мост на Дрыне». — *Г. Н.*

Іва Андрыч фіксуе значнасць традыцыі нават у міжасабовых адносінах з «людзьмі Усходу». Еўрапеец часта прымае цырыманіял за выяўленне «асаблівай увагі або асабістай павагі» — настолькі вялікія адрозненні ў культурных парадыгмах: «У адносінах з людзьмі Усходу заўсёды знаходзяцца такія моманты, што прыемна здзіўляюць і хвалююць нас, хоць мы і ведаем, што гэта служыць не столькі знакам увагі або асабістай павагі, колькі складнікам іх старажытнага і невычэрпнага цырыманіялу» [2, с. 125].

Дзейнічае моц традыцый ісламу. Прычым слова «традыцыі» тут не зусім дакладнае, бо пад ім разумеецца знешні складнік, а іслам з яго догмамі і ўстоямі — гэта трывалы, грунтоўны змест, які кіруе не толькі ўчынкамі, але і думкамі, пачуццямі вернікаў. Так і мусульманская дзяўчына Елка спачатку паддалася пачуццям, але потым раптам змянілася ў адносінах да Дэфасэ, «нейкім цудоўным чынам перайшла з «свету расліннага», у якім да гэтага часу знаходзілася, зусім у іншы свет і па-здрадніцку схавалася пад надзейную абарону чыёйсьці моцнай волі, якой ён [Дэфасэ] не мог супрацьстаяць» [2, с. 162].

Для мусульман важную ролю адыгрывае ісламская дзяржаўнасць. Усведамляючы хуткі прыход аўстрыйскай хрысціянскай улады ў Вышаград, Алі-Хаджа «быў засмучаны і заклапочаны, як і належыць прававернаму мусульманіну перад чужой сілаю, што набліжаецца няўмольна і пагражае далейшаму існаванню старажытных ісламскіх парадкаў» [3, с. 124]. Пазней Алі-Хаджа прыходзіць у жах пры выглядзе вялікага чырвонага крыжа на форме аўстрыйца. Сімвал чужой веры азначае для мусульманіна прамую пагрозу тым асновам жыцця, што адпавядаюць яго светапогляду.

Падобным чынам успрымаюць будучыя змены і мусульмане ў рамане «Траўніцкая хроніка»: «Іх даўно ўжо мучыла ўсведамленне, што абарона турэцкіх межаў аслабла, што Боснія становіцца адкрытай краінай, па якой ходзяць не толькі асманскія туркі, але і гяуры з усяго свету, дзе нават рая нахабна падымае галаву, чаго раней не смела рабіць» [2, с. 13]. Уражвае, што андрычаўскія мусульмане ўспрымаюць Боснію як нешта сваё, належнае толькі ім. Яны баяцца, што з прыходам замежных, хрысціянскіх консулаў «прыйдзе канец парадку і «цудоўнай цішыні» турэцкай Босніі» [2, с. 14]. Спрадвечна славянскія землі, пазней заваяваныя асманамі, у апісанні занепакоенасці траўніцкіх мусульман становяцца ўжо *турэцкай* Босніяй! Такі парадак быў безумоўным, бясспрэчным для мусульман: «Богам усталяваны такі парадак: туркі да Савы, а швабы за Савай» [2, с. 14]. Андрыч, відавочна, гэта разумеў і бачыў тут адну з кропак сутыкнення светаўспрымання этнасаў, якія засялялі дадзеную тэрыторыю.

Калі жыццё складваецца так, што прававерны мусульманін не ў сілах змагацца за ўсталяванне ісламскай улады, ён часам лічыць патрэбным пакінуць гэтую дзяржаву, як гэта зрабіў перасяленец Муя-ага Мутапджыч: «Вось яно як сталася, мой Алі-хаджа. Далей няма куды. Алах сведка, што мой нябожчык бацька і я ўсё рабілі, каб заставацца ў веры чыстымі і законаў мусульманскіх не парушыць» [3, с. 300].

Мусульмане гатовыя любымі сродкамі абараняць тое, што яны лічаць сваім. Да месца пакарання сербаў-паўстанцаў народ ішоў так, «як ідуць да святыні» [2, с. 244]. Турэцкі тэрор, скіраваны на захаванне асноў дзяржавы, Давіль лічыць спараджэннем «садружнасці хлусні і гвалту» [2, с. 170]. Сучаснага чытача прымушаюць здрыгануцца радкі рамана, звязаныя з падаўленнем сербскага паўстання: «Фон Мітэрэр ужо атрымаў вестку пра сапраўдную велічыню турэцкай перамогі і паходжанне трафеяў. Зброя была аднятая ў нейкага сербскага атрада, а сцягі і ўсё астатняе было вынікам звычайнай разні, учыненай раззлаванай і бяздзейнай арміяй над баснійскай раяй падчас царкоўнага свята дзесьці каля Зворніка» [2, с. 169]. Амаль праз паўстагоддзя пасля напісання рамана горад Зворнік на ўсходзе Босніі стаў вядомы дзякуючы ўжо іншай разні 1995 года ў Срэбраніцы,

трагічнай старонцы югаслаўскай гісторыі, ісціна пра якую, верагодна, ніколі не будзе адкрытая.

Мусульмане Босніі, аддзеленыя ад сабратоў сур'ёзнай перашкодай — іншай верай, аказваюцца, па сутнасці, замкнёнымі ва ўласнай супольнасці як самадастатковай, закрытай для ўсіх знешніх кантактаў. Адсюль іх нелюбоў да ўсяго новага, нянавісць да замежнікаў. Хваляваннямі, нападамі на французскіх афіцэраў, якія праязджалі праз Боснію, натоўп выказваў французскаму консулу, што мясцовыя жыхары думаюць пра дыпламата і яго знаходжанне ў Траўніку: «Вунь крыж! Бі! Бі няверных!» [2, с. 135]. Злосць, недавер, нянавісць — так Андрыч характарызуе стаўленне мясцовых жыхароў да французскага консула. Прыхаваная непрыязнасць да іншаземцаў пры пэўных абставінах ператваралася ў сур'ёзныя скандалы — напрыклад, пасля прыбыцця «ўваскрослага» мужа мусульманкі, якая ўжо паспела паўторна абвянчацца. Кадзія абвянчаў героя «Траўніцкай хронікі» Мехмеда з жанчынай, муж якой даўно лічыўся памерлым. Але муж нечакана аб'явіўся і падаў на развод. А Мехмед быў служачым замежнага пасольства (французскага), і таму яго ненавідзелі ўсе мясцовыя туркі. Андрыч вылучае гэты факт, бо расправа была выклікана менавіта прыхаванай нянавісцю да ўсяго замежнага пасольства.

Пра асаблівасці светапогляду мусульманіна сведчаць і асобныя дэталі, звязаныя з жыццём і лёсам герояў рамана «Мост на Дрыне». Фаціма як сапраўдная мусульманка рэагуе на непрыемнае рашэнне бацькі, звязанае з замужжам: «Пра нейкае там супраціўленне з яе боку, зразумела, і гаворкі не магло быць. Самае большае, што можна дапусціць, — маркотны ад нечаканасці погляд і той натурлівы, ёй адной уласцівы, рух усяго цела, а потым маўклівая, беспярэчная пакорлівасць бацькавай волі, як гэта ўсюды ў нас спакон веку было і будзе» [3, с. 114]. Дзяўчына разумела, што парушаць волю бацькоў нельга, аднак і пагадзіцца са сваім лёсам яна не змагла. І выхад знайшла ў самагубстве.

Шматвяковае турэцкае панаванне з ісламскай дзяржаўнай уладай дазваляла мусульманам займаць дамінуючае становішча ў грамадстве. Каб гэтага дасягнуць, частка хрысціян змяніла веру: гэта адна з прычын з'яўлення патурчэнцаў. Дзеці мусульман літаральна з малаком маці ўсмоктваюць усведамленне таго, што хрысціяне — людзі другога гатунку: «…турэцкія дзеці ўпэўненыя, што гэта ніякі не Каралевіч Марка і падобнага нават быць не магло (бо адкуль у нейкага ўлаха-байструка такая сіла і такі конь!)…» [3, с. 26]. Сітуацыя мяняецца толькі з прыходам аўстрыйцаў. Хрысціяне ж, на думку даследчыцы Т. Джурышыч-Бечанавіч, — носьбіты «аксіялагічнай сістэмы, у аснове якой закладзена нянавісць да моцных, хітрых туркаў і ісламу» [9, с. 305]. Дзве канкрэтныя пазіцыі, закладзеныя глыбока ў генетычную памяць прадстаўнікоў абодвух бакоў, абумоўліваюць, а priori, розніцу ва ўспрыманні падзей і фарміраванні жыццёвых стратэгій. Інтарэсы траўнічан з рамана «Траўніцкая хроніка», якія вызнаюць розныя рэлігіі, пастаянна сутыкаюцца як на ўзроўні палітычных прыхільнасцей, маральных арыенціраў, так і ў паўсядзённым жыцці. На базары, у цэнтры народнага жыцця, перакрыжоўваюцца інтарэсы дзвюх сусветных рэлігій: селянін-хрысціянін «прынёс на продаж з дзясятак тапарышчаў і прыставіў іх да старой сцяны, якая атачала запушчаныя могілкі і разваліны старадаўняй мячэці» [2, с. 59]. Ібрагім-ага, стары мусульманін, тут жа накінуўся на яго: «Ах ты, брудная свіння, для таго хіба сцяна мячэці пастаўленая, каб ты прыхінаў да яе свае паганыя тапарышчы?! Тут пакуль яшчэ звон не звоніць і хрысціянская труба не трубіць, свінскі ты вырадак!» [2, с. 59]. Мусульманін быў абражаны бытавой дробяззю, неабачлівасцю «нявернага» селяніна. Больш за тое, ён публічна б'е вінаватага.

У рамане «Траўніцкая хроніка» шмат вобразаў баснійскіх мусульман, якія складаюць значную частку насельніцтва Траўніка. У творы іх называюць «мясцовымі туркамі», «траўніцкімі туркамі». Славяне-мусульмане ў Андрыча разумныя, гордыя. Але часам на старонках рамана яны характарызуюцца як падступныя і

неакуратныя людзі, якія з недаверам ставяцца да ўсяго замежнага, «ганяць» усякую навізну. Пры гэтым яны простыя і стрыманыя.

Этнічных туркаў пісьменнік у чымсьці аддзяляе ад славян-мусульман, а ў чымсьці аб’ядноўвае з імі. Туркі-асманы ў рамане «цяжкія», «нязграбныя», «халодныя» і «хітрыя». Дзіўна для героя-расказчыка тое, што «чалавек Усходу», а менавіта візір-турак, можа быць «жвавым, ветлівым і адкрытым». «Застылая напышлівасць» — рыса, больш тыповая для асманаў. Характарыстыка турэцкага візіра Мехмед-пашы («шчаслівы характар», «нязломны аптымізм, лёгкасць, з якой ён вырашаў розныя пытанні і пераносіў усялякія нягоды» [2, с. 34]) дыяметральна процілеглая агульнаму ўражанню ад мусульманска-турэцкага асяроддзя, якое чытач атрымлівае з апісанага ў рамане. Гэты герой не адпавядаў звычаям мясцовых жыхароў не толькі сваёй праграмай улады («Французскі ўплыў у Стамбуле аслабеў, і, што было горш за ўсё для Давіля, становішча Хусрэфа Мехмед-пашы пахіснулася; з падзеннем Сяліма ІІІ ён пазбавіўся падтрымкі ў Стамбуле, а як сябра французаў і прыхільніка рэформ яго ненавідзелі ў Босніі» [2, с. 34]). Ён, як паказвае Андрыч, самім характарам значна адрозніваецца ад баснійцаў.

Пытаннем пра тое, чаму так шмат баснійцаў перайшло ў іслам, пісьменнік задаецца ў сваёй доктарскай дысертацыі на тэму «Развіццё духоўнага жыцця ў Босніі пад уплывам турэцкага панавання», якую ён абараніў у 1924 годзе як супрацоўнік консульства ў горадзе Грац. Андрыч адназначна фармулюе альтэрнатыву, перад якой стаялі багатыя пласты насельніцтва ў Босніі: «...або ў сваіх руках захаваць зямлю і ўладу і такім чынам атрымаць доступ да ўсіх прывілеяў у новым царстве, або страціць усё і стаць раяй — без правоў і маёмасці» [1, с. 55]. Пісьменнік арыгінальна вызначыў пазіцыю баснійца: «...баснійскі феадал зрабіў выбар на карысць “царства зямнога” [1, с. 57]. Відавочная алюзія на вядомы эпізод з сербскага фальклору: цар Лазар перад бітвай на Косавам полі абраў царства нябеснае, ахвяраваўшы зямнымі дабротамі і ўласным жыццём. У выпадку з баснійскімі феадаламі гаворка ішла пра захаванне ўласнасці. Гэта было магчыма толькі пасля змены рэлігіі. Баснійскі дваранін «...у рэлігійнай і дзяржаўнай прыналежнасці бачыў выключна сродак для захавання ўласнасці» [1, с. 59].

Творчасць Андрыча, высока ацэненая на радзіме і за мяжой, адначасова выклікае мноства спрэчак і дыскусій. Напрыклад, у Босніі распаўсюджаныя думкі пра тое, што ён тэндэнцыйна паказвае баснійскіх мусульман. Той бок, які бачыць у творчасці Андрыча небяспеку, прадстаўляе, сярод іншых, Мухсін Рызвіч. Калі Андрыч у сваіх творах і дысертацыі іншасказальна і шматслоўна кажа пра «негатыўныя наступствы» турэцкага панавання на Балканах, то, на думку Рызвіча, ён мае на ўвазе менавіта «фарміраванне башнякоў як паўднёваславянскага народа ісламскай веры, іх свядомасці і іх сінкрэтычнай духоўнай і матэрыяльнай культуры» [8, с. 161]. Таксама многія іншыя навукоўцы, звяртаючыся да яго твораў, спрабуюць знайсці сведчанні таго, што Андрыч варожа ставіцца да баснійцаў. Адна з галоўных прэтэнзій — негатыўныя характарыстыкі, якія атрымліваюць прадстаўнікі гэтага этнасу на старонках «Траўніцкай хронікі». Нам жа такі метад разгляду творчасці І. Андрыча здаецца памылковым. Да таго ж напісаны цэлы шэраг работ, якія аспрэчваюць думкі пра тое, што Андрыч негатыўна ставіўся да ісламу і да баснійцаў, якія прынялі гэтую веру. Сярод іх — праца Міралюба Еўціча «Іслам у творах Іва Андрыча» [4].

Шэраг параметраў, якія характарызуюць мусульманскі свет у мастацкім пераствараэнні Андрыча, праглядаецца выразней, калі да аналізу праблематыкі яго творчасці падключыць больш шырокі сацыягуманітарны кантэкст.

Амерыканскі сацыёлаг і палітолаг С. Хантынгтан, вызначаючы сваё бачанне далейшага развіцця сусветнай гісторыі, звяртае ўвагу на асаблівую «лёгкаўзгаральнасць» межаў з ісламам. «Межы ісламу і на самай справе крывавыя» [7, с. 418], — піша навуковец. Ён спрабуе зразумець, якія асаблівасці ісламскага светабачання вызначаюць балючы характар узаемадзеяння з іншымі, у першую

чаргу, хрысціянскімі, цывілізацыямі — што і прадэманстравана ў раманах Іва Андрыча. Першапрычыны Хантынгтан шукае не ў экспансіўнасці заходняга хрысціянства або фундаменталізме мусульман (гэта, хутчэй, вынікі), а ў самой прыродзе «дзвюх рэлігій і тых цывілізацый, у аснове якіх яны ляжаць» [7, с. 329—330]. Па-першае, ён адзначае, што «іслам з самага пачатку быў рэлігіяй мяча і што ён усхваляе ваенную мужнасць», а «догматы ісламу, як сцвярджаецца, прадпісваюць вайну супраць няверных». Па-другое, «пачынаючы з месца яго ўзнікнення ў Аравіі, распаўсюджванне ісламу <...> прыводзіла мусульман у цесны кантакт з многімі народамі, якія былі заваяваныя і абернутыя, і наступствы гэтага працэсу захоўваюцца» [7, с. 428]. Па-трэцяе, паміж мусульманамі і немусульманамі «пануюць нейкія адносіны, якія адзін дзяржаўны дзеяч, гаворачы пра сваю краіну, назваў тэрмінам «неператраваемасць». <...> Іслам нават у большай ступені, чым хрысціянства, з'яўляецца абсалютысцкім веравызнаннем. Ён злучае разам рэлігію і палітыку» [7, с. 429]. Для мусульман такі канфлікт — «лад жыцця, які выходзіць за межы дзяржавы і які аб'ядноўвае рэлігію і палітыку, у той час як заходнехрысціянская канцэпцыя аддзяляе царства Божае і царства кесара» [7, с. 330]. Між тым балючы характар супрацьстаяння дзвюх рэлігій — вынік не толькі іх адрозненняў, але і шматлікіх сыходжанняў. Абедзве монатэістычныя, «а значыць, у адрозненні ад політэістычных вераванняў, не могуць з лёгкасцю прымаць новых боствaў, і абедзве ўспрымаюць свет дуалістычна — «мы» і «яны». Абедзве з'яўляюцца ўніверсалісцкімі, і кожная абвяшчае сябе адзінай сапраўднай. Абедзве місіянерскія і заснаваныя на перакананні, што іх паслядоўнікі абавязаныя звяртаць няверуючых у адзіную сапраўдную веру» [7, с. 330]. Атрымліваецца, што матрыца, прапанаваная амерыканскім навукоўцам, адпавядае прынцыпам пабудовы мастацкай рэальнасці Іва Андрыча.

Англічанін А. Тойнбі таксама прапануе метадалогію для разгляду ўзаемаадносін мусульман і хрысціян: ён адзначае, што мусульмане дзеляць усіх людзей «на верных і няверных, якія патэнцыйна могуць стаць вернымі» [6, с. 105]. У Андрыча гэта паказана наглядна ў карцінах, прысвечаных адносінам раі і мусульман.

Тойнбі падрабязна разглядае агульную схему функцыянавання асманскага грамадства, у якой нас цікавяць тыя асаблівасці, што знайшлі сваё адлюстраванне ў мадэляванні вобразаў асманаў Андрычам. Англійскі гісторык заўважае адну асаблівасць у сістэме кіравання Асманскай імперыі, якая была ярка прадстаўлена ў рамане «Мост на Дрыне»: «Атаманскія падзішахі кіравалі імперыяй з дапамогай навучаных рабоў, і гэта стала залогам працяглacці іх праўлення і моцы рэжыму» [6, с. 196]. Дзяцей хрысціян забіралі ў бацькоў, выхоўвалі ў іншай веры і культуры, і яны пасля маглі займаць кіруючыя пасады ў імперыі: «Кожны хлопчык, які паступіў у гвардыю атаманскага падзішаха, адчуваў сябе патэнцыйным вялікім візірам» [6, с. 200]. Атрымліваецца, што «сутнасць атаманскай сістэмы заключалася ў адборы і скрупулёзнай трэніроўцы «аўчарак», якія павінныя былі трымаць у падпарадкаванні «статак» падзішаха» [6, с. 199]. Прычым пры адборы адпаведных кандыдатаў у разлік браліся толькі асабістыя якасці і прыродныя задаткі, а паходжанне чалавека не адыгрывала ніякай ролі. Такой непрадузятасці можа пазайздросціць нават сучаснае грамадства.

На асаблівасці і станоўчыя бакі арганізацыі грамадскай іерархіі ў Асманскай імперыі Андрыч звяртаў увагу Іосіпа Броз Ціта падчас іх сустрэчы пасля атрымання пісьменнікам Нобелеўскай прэміі. Захавалася стэнаграма, якая пра гэта сведчыць [5]. Вельмі істотна тое, што Андрыч адлюстраваў гэтую сістэму ў сваёй мастацкай прозе. Сюжэтаўтваральны матыў рамана «Мост на Дрыне»: хлопчыка з сербскай праваслаўнай сям'і, разам з іншымі дзецьмі, гвалтоўна адбіраюць у бацькоў і адвозяць у Турцыю для службы ў войску. Ён затым становіцца Вялікім Візірам, але ўсё жыццё нясе ў сваім сэрцы страшны боль і цяжар падзеленасці. Пасля, каб злучыць два берагі ракі Дрыны і пазбавіцца ад пакут, Мехмед-паша Саколавіч узводзіць мост над ракой.

Гібель асманскай цывілізацыі Тойнбі звязвае з тым, што яе дзеячы, фарміруючы схему функцыянавання грамадства, «грэбавалі чалавечай прыродай» [6, с. 202] і здрадзілі ёй. Іх памылка — «страшнае папярэджанне іншым цывілізацыям» [6, с. 216].

Такім чынам, навідавоку асаблівая ўвага Андрыча да канфесійнай прыналежнасці герояў як істотнай характарыстыкі, якая шмат у чым абумоўлівае светапогляд чалавека, яго філасофію і жыццёвую пазіцыю. Мастацкі свет раманаў Андрыча выразна падзелены паводле рэлігійнай прыкметы, і пісьменнік уважліва даследуе спецыфіку ўзаемадзеяння гэтых светаў — сярод іншага, у гістарычнай перспектыве, з пазіцыі накладання элементаў мусульманскай культуры на хрысціянскую «аснову» Босніі. Андрычаўскае бачанне спецыфікі мусульманскага свету, безумоўна, уяўляе цікавасць для чытачоў і даследчыкаў. У нечым пісьменнік прытрымліваўся агульнавядомых фактаў і тэндэнцый. Гэта дазваляе пагадзіцца з тым, што яго гістарычныя раманы валодаюць дастатковай для такога жанру ступенню дакладнасці. У некаторых пытаннях, на наш погляд, Андрыч здолеў глыбей за іншых унікнуць, псіхалагічна і характаралагічна дакладней адлюстраваць асаблівасці паводзін прадстаўнікоў таго ці іншага веравызнання. Даследуючы падобную праблематыку творчасці пісьменніка, важна памятаць, што тыя праблемы, якія ўзнікаюць у Босніі, цяпер актуальныя і для іншых еўрапейскіх краін. Возьмем хаця б пытанне суіснавання ісламу і хрысціянства ў дзяржавах, дзе сёння пражывае вялікая колькасць мусульман-эмігрантаў. Удумлівы аналіз поглядаў Андрыча на этнаканфесійныя праблемы яго роднай Босніі вельмі важны для рэгулявання сучасных міжнацыянальных і міжканфесійных адносін. Гэтым і вызначаецца своеасаблівасць творчасці Андрыча і выключная яго значнасць для характарыстыкі цывілізацыйных праблем як у лакальным, так і ўніверсальным вымярэнні.

## Спіс літаратуры:


1. Андрић, И. Развој духовног живота у Босни под утицајем туске владавине / И. Андрић // Свеске Задужбине Иве Андрића, 1. — Београд: Задужбина Иве Андрића, 1982. — С. 7—252.
2. Андрић, И. Травничка хроника / И. Андрић. — Београд: Новости, 2006. — 395 с.
3. Андрыч, І. Мост на Дрыне. Пракляты двор. Апавяданні / І. Андрыч. — Мінск: Маст. літ., 1993. — 591 с.
4. Јевтић, М. Ислам у делу Иве Андрића / М. Јевтић. — Београд: Просвета Интернационал, 2000. — 321 с.
5. Симић, П. Андрић код Тита. Да ли је Андрић био уштогљен код Тита? / П. Симић // Srpski književni list: mesečnik za književnost, umetnost i kulturu, april, maj, jun, jul, 2014. — Beograd: Klub saradnika i donatora KL, 2014. — С. 12.
6. Тойнби, А. Д. Постижение истории: избранное / А. Д. Тойнби. — Москва: Айрис-пресс, 2010. — 637 с.
7. Хантингтон, С. Столкновение цивилизаций / С. Хантингтон. — Москва: АСТ. — СПб.: Terrafantastica, 2003. — 603 с.
8. Đurišić-Bečanović, T. Kulturni kodovi u Andrićevom romanu «Na Drini ćuprija» / T. Đurišić-Bečanović // Andrićeva ćuprija. Andrićs Brücke / Branko Tošović (Ur./Hg.). — Grac — Beograd — Banjaluka: Svetknjige, 2013. — S. 295—312.
9. Rizvić, M. Bosanski muslimani u Andrićevu svijetu / M. Rizvić // Sveske Zadužbine Ive Andrića, 13. — Beograd: Zadužbina Ive Andrića, 1997. — S. 159—175.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 7 сакавіка 2017 года.

**Рэзюмэ**

**Ганна НАВУМАВА**

**Мусульманскі свет у раманах Іва Андрыча**

УДК 821.163.41

Творы сербскага пісьменніка Іва Андрыча, прысвечаныя гісторыі Босніі, разглядаюцца з пункту гледжання праблем міжканфесійнага ўзаемадзеяння, рэлігійнай псіхалогіі і веравызнаўчага аспекту фарміравання менталітэту. Канстатуецца і раскрываецца важнае месца канфесійных характарыстык у вобразах персанажаў раманаў «Мост на Дрыне» і «Траўніцкая хроніка». Рэлігійны складнік вызначаецца як адзін з фактараў развіцця канфліктаў. Асобна вылучаюцца характарыстыкі, якія аўтар дае героям-мусульманам, каб асэнсаваць феномен міжнацыянальнага ўзаемадзеяння, звязаны са зменай веры славянскім насельніцтвам Босніі і наступным вылучэннем з свайго этнасу. Да аналізу праблематыкі творчасці І. Андрыча падключаецца больш шырокі сацыягуманітарны кантэкст: праводзяцца паралелі з ідэямі прадстаўнікоў цывілізацыйнага падыходу ў філасофіі.

**Ключавыя словы**: Іва Андрыч, гістарычная проза, іслам, вобразы герояў, этна-рэлігійная праблематыка.

**Summary**

**Anna NAUMOVA**

**The Muslim world in the Ivo Andrić's novels**

The article focuses on works of Serbian writer Ivo Andrić, dedicated to the history of Bosnia, from the point of view of the problems of inter-religious interaction, religious psychology and religious aspects of mentality formation. The author of the article states gives proof of the importance of religious features in the images of the characters of the novels «The Bridge on the Drina» and «Bosnian Chronicle». Religious component has been presented as one of the factors of conflict. Characteristics that the writer gives to Muslim characters are especially important for understanding of the phenomenon of international interaction and its specificity caused by the religion conversion of the Slavic population of Bosnia and the following formation of their ethnic identity. The analyses of the problems of I. Andrić's works are connected with a wider socio-humanitarian context: the article presents the parallels with the ideas of the representatives of civilization philosophy.

**Key words:** Ivo Andrić, historical fiction, Islam, images of characters, ethnic and religious issues.



**Іван ШТЭЙНЕР**

# З ЛЮБОЎЮ ДА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА



Усё ў ім арганічна і натуральна ўвасабляецца ў адметным парадаксальным адзінстве. Сам ён ніколі не імкнецца да нібыта неабходнай, паводле ягонага статусу, знешняй эпатажнасці, класічнай імпазантнасці, заўсёды стараючыся застацца сціпла-непрыкметным. Аднак пастаянна трапляе ў цэнтр увагі дзякуючы ўсім іншым, ужо не знешнім, а глыбока ўнутраным фактарам: незвычайнай засяроджанасці ў думках, сур'ёзным адносінам да ўсяго, вялікай душэўнай дзейнасці, пра што сведчыць пільны позірк з-пад шкельцаў акуляраў. І гэтую магутную ўнутраную энергетыку адчуваеш усё болей, калі міжволі набліжаешся да яго і трапляеш у поле ўздзеяння асобы, да якой ужо не застанешся абыякавым. Можаш яе цалкам прымаць, захапляцца ці цалкам адмаўляць, але абыякавым не застанешся.

Гаворка ідзе пра доктара філалагічных навук, прафесара, загадчыка кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Івана Аляксеевіча Чароту, вядучага славіста ў нашай краіне, у душы якога арганічна паядналіся любоў да Беларусі і славяншчыны.

Некалі М. Святлоў здзіўлена пытаў у сваёй славутай баладзе: «Откуда у хлопца испанская грусть?» Вытокі любові Івана Чароты да славянскага сусвету больш рэальныя і вытлумачальныя, чым захапленні ўкраінскага парубка далёкай і мройнай Гранадай. Дзяцінства будучага даследчыка прайшло ў вёсцы Лышчыкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Гэтая мясціна адметная, і перш за ўсё сваёй гаворкай, у якой спалучыліся элементы розных моў, што падчас ставіла лінгвістаў у складанае становішча. Нават А. Разанаў, убачыўшы на лінгвістычным атласе заштрыхаваныя родныя мясціны, крыўдзіўся, што ягоную родную мову назвалі пераходнымі гаворкамі. Таму Іванька вучыўся чытаць і па раённай газеце «Камуністычная праўда», і сталічнай «Праўдзе», польскім буквары, што застаўся ад бацькоў, якія вучыліся ў «повшэхной» школе. Акрамя таго, у дзеда былі Евангелле і «Кобзарь» Т. Шаўчэнкі, якія той даваў чытаць свайму ўлюбёнаму ўнуку.

Асабліва схільнасць і здольнасць да моў раскрылася ў Івана Аляксеевіча ў часы вучобы ў БДУ, калі ён поруч з іспанскай мовай вывучаў сербскую. У тыя часы ў галоўнай ВНУ краіны была магутная славянская школа, ля вытокаў якой стаялі прафесар А. Супрун, славуты балгарыст У. Карпаў. Усе студэнты вучылі славянскія мовы, многія абмежаваліся толькі шэрагам вітальных слоў. Іван Чарота, які ўжо тады быў даволі легендарнай асобай, праславіўся тым, што кіпяціў сухое віно, каб пазбавіцца прастуды, амаль самастойна вывучыў сербскую мову настолькі дасканала, што нават пэўны час працаваў гідам-перакладчыкам. Праз пэўны час жаданне вандраваць з турыстамі знікла, а памкненне да паўднёва-славянскіх моў засталося. У дадатак Іван Аляксеевіч засвоіў славенскую і македонскую мовы.

Тым болей, што малады таленавіты даследчык быў пакінуты ў alma mater для падрыхтоўкі дысертацыі і будучай выкладчыцкай дзейнасці. Першую навуковую ступень ён здабыў у Ленінградзе, абараніўшы дысертацыю па рэцэпцыі творчасці М. Шолахава ў літаратурах Югаславіі (1986). Сур’ёзнае навуковае даследаванне, абароненае ў культурнай сталіцы Расіі, сведчыла, што ў айчынную навуку прыйшоў сапраўдны вучоны з уласным бачаннем сутнасці і спецыфікі літаратуры як віду мастацтва ў эпоху глабалізацыі. Па сутнасці, Іван Аляксеевіч Чарота — самы дасканалы славіст у Беларусі ў сферы літаратуразнаўства, як у мовазнаўстве Г. Цыхун. На працягу звыш чвэрці стагоддзя ён з’яўляецца галоўным кансультантам «Беларускай Энцыклапедыі» па ўсіх праблемах, звязаных з пытаннямі паўднёваславянскіх народаў і іх культуры, ім упершыню складзена поўная бібліяграфія беларуска-югаслаўскіх літаратурных сувязей, надрукаваная ў бялградскім часопісе і ў дапаможніку для беларускіх студэнтаў «Югаславянскія літаратуры і культуры». Ён з’яўляецца галоўным рэдактарам шматлікіх альманахаў «Славянскія постаці», у якіх прадставіў дасканалыя партрэты вядучых сербскіх пісьменнікаў — Іва Андрыча і Дэсанкі Максімавіч. Іван Аляксеевіч напісаў сур’ёзнае даследаванне «Сербская паэзія» (1989), дзе адным з першых па Беларусі расказаў пра паэзію братняга народа. Праз дзесяць гадоў разам са сваім таленавітым вучнем М. Трусам выдаў аб’ёмную працу «Югаславянскія літаратуры і культуры».

Іван Чарота — здольны паэт. Менавіта таму, уражаны багаццем паўднёваславянскай паэзіі, ён вырашыў данесці яе да беларускага чытача. Але, зразумела, зрабіў гэта не проста як звычайны перастваральнік, а як паэт-прафесар, бо сам напісаў навуковую працу, прысвечаную гэтай складанай праблеме («Мастацкі пераклад на беларускую мову: асновы тэорыі і практычныя заканамернасці» (1997)). Усяго ён здзейсніў звыш 1000 (sic!) перакладаў з самых розных моў, найперш з паўднёваславянскіх. Дзякуючы яму па-беларуску загаварылі Іва Андрыч, Браніслаў Нушыч, Добрыца Чосіч, Дэсанка Максімавіч, Бранка Чопіч, Драгаслаў Міхаілавіч. Сапраўдным святам для дзятвы стаўся выхад зборніка сербскіх народных казак «Мовы ўсяго жывога» (2007) і кнігі «Югаславянскія казкі» (1999).

Іван Чарота адкрыў нашаму чытачу сербскую багаслоўскую літаратуру XX стагоддзя, ён пераклаў кнігі свяціцеля Нікалая (Веліміравіча) і прэпадобнага Іусціна (Попавіча). Развагі пра сутнасць велічы Хрыста ва ўспрыманні свяціцеляў і вялікага пісьменніка Ф. Дастаеўскага дазволілі беларускаму даследчыку панаваму паспрабаваць спасцігнуць сутнасць веры, бо ўсе цытуюць словы Фёдара Міхайлавіча зусім не так, як яны таго заслугоўваюць. Менавіта там, на Балканах, і знаходзяць вытокі праваслаўя, што значна ўзмацніла і пашырыла кола інтарэсаў Івана Чароты, вучонага і грамадска-культурнага дзеяча. На працягу многіх дзесяцігоддзяў ён з’яўляецца сакратаром Біблейскай Камісіі Беларускага Экзархата РПЦ, падтрымлівае цесныя сувязі з Царкоўна-навуковым цэнтрам «Православная Энциклопедия» (Масква). І. Чарота — складальнік і рэдактар зборніка «Православие в славянских культурных традициях» (Мінск, 1996).

Некалі вялікі Кабзар згадваў:

І чужому научайтесь,
Й свого не цурайтесь,
Бо хто матер забувакє,
Того Бог карає…

Цудоўнае веданне славянскага свету не толькі не закрыла някідкую прыгажосць Беларусі, але і дазволіла яму выразна па-новаму глянуць на звыкла-традыцыйнае, адчуць нязменную любоў да роднага краю. Я памятаю, з якою любоўю і захапленнем ён распавядаў маладзенькаму македонскаму таксісту, што вёз нас у Скоп'е, пра далёкую Беларусь. І хлопец, манеўруючы сярод гор і тунеляў, не мог паверыць, што недзе далёка-далёка ёсць краіна, дзе зусім няма гор, а толькі раўніна з лясамі і балотамі, рэкамі і азёрамі. Відаць, у часы падобных падарожжаў і аналізаваў вучоны, у чым жа спецыфіка кожнай з краін, што разам складаюць вялікі славянскі сусвет.

Вось тады і з'явілася манаграфія «Пошук спрадвечнай ісціны» (1995), а таксама вялікая колькасць артыкулаў у самых прэстыжных навуковых і мастацкіх часопісах, якія разам склалі аснову доктарскай дысертацыі «Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і працэсы нацыянальнага самавызначэння», якую ён з поспехам абараніў у БДУ ў 1998 годзе. Бадай што ніхто на такім высокім узроўні не гаварыў на пераломе тысячагоддзяў пра спецыфічны беларускі менталітэт.

Заслуга Івана Чароты ў тым, што ён быў сярод тых, з чыйго благаславення пускалі ў свет арыгінальны зборнік А. Сыса, ён пісаў грунтоўныя рэцэнзіі на кнігі маладых паэтаў, актыўна ўдзельнічаў у дыскусіях па сучасным літаратурным працэсе.



**Іван ЧАРОТА**

# ЛЕГЕНДАРНАЯ АСОБА СЛАВЯНСКАГА СВЕТУ XVIII СТАГОДДЗЯ: МІХАІЛ (МАНУІЛ) КАЗАЧЫНСКІ

Пяць гадоў таму праваслаўны люд Беларусі адзначыў 400-годдзе ўпакаення праведнай Сафіі, ушанаваўшы святую памяць яе — той, якая заклала краевугольны камень «цвярдыні Праваслаўя» ў сваім градзе Слуцку.

Мы, бадай жа, не маем права таксама забываць і ўсіх тых, хто цвярдыню гэтую пазней утрымліваў і адстойваў. Наш абавязак — аддаваць належнае ім. У прыватнасці, гэта вось хто: рэўнасны абаронца праваслаўя на беларускіх землях, сучаснік Святой Сафіі (які, верагодна, і пры пахаванні яе прысутнічаў) пратапоп Слуцкі Андрэй Мужылоўскі [1]; свяціцель Дзімітрый Растоўскі, які «...по приглашению от Слуцкого Духовенства, переселился в Слуцк, и пребывая там в Преображенском православном же Монастыре, целый год неутомимо трудился в проповедовании Слова Божия» [2]; свяціцель Георгій Каніскі, які з'яўляўся членам савета той Слуцкай канфедэрацыі (1767), што адваёўвала для праваслаўных Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага правы, роўныя з каталікамі; архімандрыты Іосіф (Аранскі), Павел (Валчанскі), Віктар (Садкоўскі), якія неслі служэнне ў Свята-Троіцкім Слуцкім манастыры...

Значнае месца ў гэтым шэрагу займае Міхаіл (Мануіл) Казачынскі — багаслоў і царкоўны дзеяч, асветнік-педагог, філосаф, пісьменнік. Ён з 1748 па 1755 гг. духоўна акармляў Слуцкую архімандрыю, цэнтрам якой з'яўляўся Свята-Троіцкі манастыр; у гэтай абіцелі архімандрыт Міхаіл упакоіўся, і на яе могілках быў пахаваны.

На жаль (і да сораму), беларусы найноўшых часоў памяць пра гэтую выдатную асобу не захоўвалі: імя яго адсутнічала ў беларускіх энцыклапедыях, іншых даведачных выданнях, нават у спецыяльных даследчыцкіх працах называлася крайне рэдка.

З улікам усяго згаданага, дазволю сабе падзяліцца ўспамінамі, як складваліся асабіста мае ўяўленні пра названую асобу.

У мяне, тады маладога філолага-югаславіста і літаратара, вялікую цікавасць выклікала нататка ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» з такім вось дачынным да тэмы цяперашняга артыкула зместам: «Не ўзята на ўлік тэрыторыя былога Троіцкага манастыра, дзе ў XIV — XV стагоддзях працавалі слуцкія летапісцы. На тэрыторыі манастыра былі пахаваны многія дзеячы беларускай культуры старажытных часоў. Значэнне гэтага помніка выходзіць за межы Беларусі. Тут быў пахаваны ўраджэнец Беларусі *епіскап Казачынскі* (курсіў наш. — *І. Ч.*), які шмат зрабіў для асветы народаў Югаславіі. Літаральна два-тры гады назад Народная бібліятэка Бялграда прасіла Слуцкі краязнаўчы музей выслаць фотаздымкі Троіцкага манастыра і фота надгробніка Казачынскага…» [3]. Аўтарам гэтай публікацыі быў Рыгор Родчанка, слуцкі краязнаўца і публіцыст, вуснае выступленне якога на тую ж тэму крыху пазней мне давялося пачуць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Шчыра кажучы, тады мяне зацікавіла не столькі канкрэтная асоба, пра якую гаварылася ў нататцы, колькі інфармацыя пра беларуска-югаслаўянскія сувязі наогул, а ў прыватнасці — пра тое, што «шмат зрабіў для асветы народаў

Югаславіі» нейкі «ўраджэнец Беларусі» і што ім цікавіцца «Народная бібліятэка Бялграда». Павінен прызнацца, «епіскапа Казачынскага» на той час я не звязаў з фактамі гісторыі тады ўжо адносна знаёмай мне літаратуры народаў Югаславіі. Толькі пазней прыйшло разуменне, што маецца на ўвазе той самы Мануіл Казачынскі, якога лічаць заснавальнікам сербскай драматургіі — менавіта так яго роля вызначалася ў даследаваннях па гісторыі літаратуры, культуры і асветы Сербіі, у адпаведнага профілю даведніках [4]. Аднак там, натуральна, была змешчаная тая інфармацыя, што асвятляла дзейнасць Казачынскага ў Сербіі, а не сувязі з Белай Руссю. Праўда, Уласцімір Эрчыч, аўтар артыкула ў фундаментальным літаратурна-энцыклапедычным выданні «Лексікон пісьменнікаў Югаславіі», даваў некаторыя звесткі, якія дазвалялі ўдакладніць тое, што па-свойму выклаў мой старэйшы беларускі калега Родчанка. А канкрэтна вось што: «З верасня 1748 года — архімандрыт Слуцкі і наместнік Кіеўскай мітраполіі. У Слуцку, у манастыры, адміністратыўным цэнтры Архімандрыі, памёр «з жолтачки и опуху». Пахаваны на манастырскіх могілках, якіх, як і манастыра, даўно ўжо няма» [5]. Акрамя ўсяго, артыкул пра Казачынскага ў «Лексіконе» ўключаў даволі грунтоўную бібліяграфію, з дапамогай якой можна было весці і далейшыя пошукі.

Вынікі праведзеных росшукаў і абагульненняў дазваляюць зрабіць выснову, што Казачынскага на працягу XIX—XX стагоддзяў не абміналі ўвагаю вучоныя як Сербіі (пра што ўжо сказана, хоць асобна трэба вылучыць выключна скрупулёзныя даследаванні спамянёнага У. Эрчыча, у тым ліку яго манаграфію [6]), так і Расіі [7], Украіны [8]. А вось беларускіх казачынсказнаўчых матэрыялаў, акрамя цытаванай «лімаўскай» нататкі ды згадак у некалькіх кнігах [9], [10], знайсці не ўдавалася. Больш за тое, іх і дагэтуль няма нават у такіх выданнях, як «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Асветнікі зямлі беларускай. Энцыклапедычны даведнік», «Беларуская Энцыклапедыя» ў 18 тамах і інш.

Між тым, калі інфармацыю з усіх даступных на цяперашні момант крыніц звесці ў кароткую даведку, то атрымаецца наступнае.

Мануіл Казачынскі (*Козачинский, Козачински, Козачинський, Козачиньский, Козачинскиј, Kozaczyński, Kozačinski*) нарадзіўся каля 1699 года ў сям'і шляхціча Аляксандра Казачынскага, жыхара паселішча Ямполь (цяпер Вінніцкая вобласць Украіны). Аўтары некаторых публікацый указваюць, хоць крыніцы такіх звестак не называюць, што ён быў вучнем і паслядоўнікам Феафана Пракаповіча, «падарожнічаў па славянскіх землях і Германіі», вучыўся ў Маскоўскай Славяна-грэка-лацінскай акадэміі. З некалькі бóльшай дакладнасцю акрэсліваецца перыяд яго вучобы ў Кіеўскай (Магілянскай) акадэміі (канец 1720-х — пачатак 1730-х гадоў). Практычна няма разыходжанняў адносна таго, што ўвосень 1733 года, па запрашэнні Бялградска-Карлавацкага мітрапаліта Вікенція (Ёванавіча) і па благаславенні Кіеўскага мітрапаліта Рафаіла (Забароўскага), ён з Кіева адправіўся ў Срэмскія Карлаўцы — культурны цэнтр той часткі Сербіі, якая знаходзілася пад аўстрыйскай уладай [11]. Мяркуючы па ўсім, Казачынскі вылучаўся асаблівымі якасцямі сярод кіеўскіх калег, накіраваных разам з ім у Сербію. У любым выпадку, усе даследчыкі згадваюць яго намнога часцей, чым калег-таварышчаў — Пятра Падуноўскага, Трафіма Клімоўскага, Георгія Шумляка, Івана Менацкага, Сінесія Залуцкага, а таксама і тых, што прыбылі ў Срэмскія Карлаўцы крыху пазней — Цімафея Левандоўскага, Іаана Ластавіцкага і Пятра Міхайлоўскага [12]. Дарэчы, паводле сцвярджэння славутага літаратуразнаўцы Ёвана Скерліча, манах Сінесій Залуцкі, вярнуўшыся з Сербіі, стаў ігуменам манастыра ў Мінску [13]. Так ці інакш, Мануіл Казачынскі ў Сербіі хутка «зрабіў кар'еру»: пачаўшы з пасады настаўніка лацінскай мовы і рыторыкі (паэзіі) Срэмска-Карлавацкай школы (самай высокай там), неўзабаве стаў яе прэфектам, затым рэктарам, а пазней — кіраўніком усёй сістэмы асветы мітраполіі, атрымаўшы пры гэтым яшчэ і статус «кафедральнага (архіерэйскага) прапаведніка». Наконт працягласці знаходжан-

ня Казачынскага ў Срэмскіх Карлаўцах звесткі разыходзяцца. Не падлягае сумненню, што ён там жыў і паспяхова працаваў на працягу 1733—1737 гг., да смерці Карлавацкага мітрапаліта Вікенція; сустракаецца інфармацыя, што пазней ён яшчэ займаўся выкладчыцкай працай таксама ў Новым Садзе і Севярыне, дзе епіскапам Сімяонам (Філіпавічам) быў рукапаложаны ў іерэя. А сучасны гісторык літаратуры Ёван Дэрэтыч сцвярджае, што Казачынскі заставаўся ў Сербіі да 1739 года [14]. Гэта, верагодна, вынік уплыву Ё. Скерліча, які ў свой час адзначыў, што «Казачынскі… ў 1739 годзе быў ужо ў Расіі, а яго месца заняў іераманах серб Дзіянісій, выхаванец Кіеўскай акадэміі, пазней — уладыка Будзімскі» [15]. Ды ўсё ж такі большасць даследчыкаў, уключаючы і выключна дасведчанага У. Эрчыча, прытрымліваецца меркавання, што Мануіл Казачынскі ў Кіеў вярнуўся да сярэдзіны 1738 года і быў накіраваны ў Выдубецкі манастыр, дзе прыкладна праз паўтара года прыняў манаскі пострыг з імем Міхаіл. У хуткім часе пасля вяртання з Сербіі ён атрымаў таксама прызначэнне на выкладчыцкую пасаду ў Кіеўскай акадэміі «як знешні супрацоўнік», а з часам узняўся на больш высокія ступені акадэмічнай лесвіцы — прафесара, прэфекта. На той, другі кіеўскі, перыяд прыпадае вялікая актыўнасць і прадуктыўнасць яго ў літаратурнай і навукова-філасофскай творчасці. Аднак у 1746 годзе архімандрыт Міхаіл пакінуў акадэмію, знаходзіўся нейкі час у Выдубецкім манастыры на пакоі, затым пастаўлены ігуменам Краснагорскага манастыра ў г. Гадзяча, а з верасня 1748 г. быў прызначаны намеснікам (*каад'ютарам*, як тады называлі) Кіеўскай мітраполіі ў Слуцкі Свята-Троіцкі манастыр, дзе прабыў сем гадоў, ажно да ўпакаення.

Што звычайна больш за ўсё ставіцца ў заслугу Мануілу / Міхаілу Казачынскаму? Амаль усе, хто пісаў пра яго, абавязкова згадваюць аўтарства трагедыі «*Ураш Пяты*», поўная назва якой гучыць так: «*Трагедия сиречь печальная повесть о смерти последняго Царя сербскаго Уроша Пятаго и о падении сербскаго царства*…». Яна складаецца з дзесяці дзеяў, пралога і эпілога, якія своеасабліва адлюстроўваюць гісторыю Сербіі з XII па XVIII стагоддзі. У ёй, адпаведна, прадстаўленыя: гістарычныя асобы — Стэфан (Нэманя), Сава і Стэфан Нэманічы, кароль Стэфан Душан, каралевіч Ураш, каралева — маці Ураша, Вукашын і інш.; алегарычныя фігуры — Сербія, Набожнасць, Зайздрасць, Адчай, Славалюбства, Юрлівасць, Гісторыя; персанажы антычнай міфалогіі — Белона, Марс, Мінерва, Палас, сівілы... Спецыялісты-літаратуразнаўцы суадносяць гэты твор Казачынскага з трагікамедыяй Феафана Пракаповіча «Уладзімір…» (1705), а таксама і з ананімнай (дакладней, нявызначанага аўтарства) драмай «Милость Божия, Украину от неудоб носимых лядских чрез Богдана Зиновия Хмельницкаго… освободившая…» (1728), якія нібыта паслужылі ўзорамі для твора на тэму з гісторыі Сербіі. Знамянальна, што дзесяццю гадамі пазней у Кіеве Казачынскі напісаў яшчэ адну гістарычную драму — *«Благоутробие Марка Аврелиа Антонина, кесаря римскаго....»* (1844) — з выкарыстаннем тых самых мастацкіх прынцыпаў і творчых прыёмаў. Праўда, калі першая з іх стваралася перш за ўсё для педагагічных патрэб — каб сіламі навучэнцаў Карлавацкай школы паставіць выхаваўчы спектакль на матэрыяле гісторыі, то другая прысвечаная дзейснай імператрыцы Елісавеце Пятроўне і пісалася непасрэдна ў сувязі з яе прыездам у Кіеў. Першасны, арыгінальны, тэкст трагедыі «*Ураш Пяты*» страчаны. Той жа, што вядомы па публікацыі, здзейсненай былым вучнем аўтара, сербскім архімандрытам Ёванам Раічам [16], а ў Расіі апублікаваны А. Сабалеўскім [17], уяўляе собою, найверагодней, перапрацоўку Раіча як «суаўтара», паколькі і сам публікатар адзначаў, што «трагедия... ныне пречищена и исправлена» (дарэчы, той самы Раіч каля 1763 года перапрацаваў верш Казачынскага «*Прославна Сербие*» і апублікаваў яго пад новай назвай — «*Прискрбна грлице*», якая вылучала ў вобразе Сербіі ўжо асаблівасці «скорбные», а не «славные»).

Аднак у Срэмскіх Карлаўцах Мануіл Казачынскі напісаў не толькі два названыя літаратурныя творы. Іншая справа, што не ўсё ім створанае захавалася, а з захаванага не ўсё ўвайшло, як прынята казаць, у актыўны зварот. Так, у полі зроку даследчыкаў зусім рэдка апынаецца майстэрскі акраверш, прысвечаны і адрасаваны сербскаму мітрапаліту, пад апекай якога аўтар знаходзіўся:

***(Приветствије Вићентију Јовановићу)***

*__Б__лажен јеси, троблажен, соделавиј сија,*
*Многа лета ти буду и дни преблагија,*
*__Е__лико јест будет сербски народ жити,*
*Не престанут во веки име все блажити*
*__Љ__уди от мала купно даже до велика,*
*Сам же Бог всемогушти, Господ и Владика,*
*__Г__орњеј и нижњеј једин Сотворитељ твари*
*Даст ти за твоја труди бесмертнија дари;*
*__Р__ечет гласно: придите зде обременени,*
*Наследујте вам царство зело утруждени,*
*__А__з јесм маздовоздатељ, аз јесм лоза права,*
*Ви же гроздје убо, ваша тамо слава*
*Да пребудет во вјеки. Сије вам желају…*

Як ужо адзначалася, вельмі актыўнай і плённай была таксама літаратурнатворчая дзейнасць Казачынскага пасля вяртання ў Кіеў, дзе напісаны «*Образ страстей мира сего…*», «*Благоутробие Марка Аврелия…*», «*На вратах киевопечерских триумфальных…*», панегірыкі імператрыцы Елісавеце і графу Аляксею Разумоўскаму і інш.

Там, стаўшы прафесарам філасофіі Кіеўскай Акадэміі, ён праявіў сябе не толькі як сістэматызатар і транслятар філасофскіх ведаў, але і як глыбокі мысляр, аўтар грунтоўнага трактата «*Философия Аристотелева по умствованию перипатетиков…*» (1745). Паказальна, што і савецкая навука не змагла прайсці міма асобы Казачынскага-філософа — яму была прысвечаная кандыдацкая дысертацыя. Разам з тым, паколькі ў гэтай кваліфікацыйнай працы «метадалагічнай асновай... з’яўляюцца працы заснавальнікаў марксісцка-ленінскай філасофіі, пастанаўленні і дакументы партыйных з’ездаў і КПСС», г. зн. дысертацыя зыходна падпарадкоўвалася агульным ваяўніча-атэістычным і вульгарна-сацыялагічным установкам, то аўтар яе даваў перш за ўсё ацэнкі вось якога роду: «Философские и общественно-политические взгляды М. Козачинского, определившие его мировоззрение в целом, являются переходными от характерных для средневековья феодально-теологических к светско-гуманистическим воззрениям мыслителей позднего Возрождения и раннего Просветительства…»; «Натуралистические тенденции в философских взглядах М. Козачинского, выступающие преимущественно в форме элементов пантеизма, деизма и натуралистического сенсуализма, наиболее четко выражены в его натурфилософии и этике, включающей в себя учение философа о государстве и «естественном праве»; «Философские и общественно-политические взгляды М. Козачинского являются ярким свидетельством кризиса средневекового феодально-теологического мировоззрения под напором идей раннего Просветительства…» Карацей кажучы, дыктат камуністычна-бязбожніцкай ідэалогіі прывёў дысертанта не да чаго іншага, як да высновы «…о настойчивом стремлении философа к “естественному”, причинному объяснению природных явлений, без непосредственного обращения к богу». Сцвярджэнне, што Казачынскі «…прагне вызваліць філасофію з-пад уплыву тэалогіі» — выяўляецца і ва ўступным артыкуле М. Д. Раговіча да перакладу часткі трактата Казачынскага «Філасофія Арыстоцелева...» [18]. Прыкладна тое ж самае мы знаходзім і ў Я. Страція, аўтара значна пазнейшага па часе выдання [19]. Каментарыі тут, як гаворыцца, лішнія, а крытыка з цяперашняй часавай дыстанцыі можа паслужыць хіба што для ўразумлення нашчадкаў.

Асоба слуцкага архімандрыта Міхаіла Казачынскага павінная выклікаць цікавасць як феномен яскрава персаналізаванага здзяйснення ідэі адзінства славян і славянскай літаратурнай супольнасці ў першай палове XVIII стагоддзя. Прычым істотна: Казачынскі быў не проста «сувязнікам» паміж славянскімі этнасамі, раздзеленымі тагачаснай геапалітыкай, а сапраўдным і дзейсным прадстаўніком агульнай славеснасці. І нават калі сур’ёзна ставіцца да прывабнай цяпер ідэі «еўрацэнтрызму», то нельга забывацца, наадварот, варта асобна падкрэсліць, што гэта праваслаўны прадстаўнік усходняга славянства амаль тры стагоддзі таму нёс у Аўстрыю (г. зн. самую што ні ёсць Цэнтральную Еўропу) веды і ўзоры славеснай творчасці.

Карацей кажучы, нават на падставе таго, што знаходзіцца даўно ў полі зроку даследчыкаў, можна зрабіць выснову: творчая спадчына Міхаіла Казачынскага вельмі цікавая і багатая [20]. А трэба ж улічваць, што ў розных публікацыях маюцца яшчэ згадкі пра яго рукапісы, якія захоўваюцца ў Музеі СПЦ, Нацыянальнай Бібліятэцы Сербіі, Бібліятэцы Маціцы Сербскай, Нацыянальнай бібліятэцы Украіны, Нацыянальнай бібліятэцы Венгрыі.

У сувязі з адзначаным асабіста ў мяне недаўменне выклікала і выклікае тое, што слуцкі перыяд дзейнасці і творчасці Казачынскага заставаўся як быццам за шчыльнай цёмнай завесай. Толькі тэндэнцыйнасцю савецкіх даследаванняў гэта наўрад ці можна вытлумачыць. А хіба ж ёсць якія-небудзь сур’ёзныя падставы сумнявацца, што гэты перыяд павінен быў стаць не меней плённым, чым папярэднія? Як-ніяк, узрост архімандрыта Міхаіла тады — не старасць, а сталасць, да таго ж за плячыма ў яго меўся не абы-які жыццёвы, творчы, навуковы, асветніцкі і свяшчэннаслужыцельскі досвед. Істотна таксама тое, што працаваў ён менавіта ў Слуцку, які ўяўляў сабою апору праваслаўнай духоўнасці зусім не ў абстрактным сэнсе: «Каля слуцкага Троіцкага манастыра групіраваліся: Слуцкія — Праабражэнскі, Мароцкі, Старчыцкі, Грозаўскі, Заблудаўскі і Слуцкі жаночы Св. Іліі» [21], — нагадвае М. Каяловіч, глыбокі знаўца гісторыі айчыны той эпохі, асобна вылучаючы значэнне слуцкай «карпарацыі манастыроў». А якім на беларускіх землях якраз у тыя гады, калі ў Слуцку нёс служэнне архімандрыт Міхаіл, было становішча праваслаўнага святарства з яго паствай, вельмі канкрэтна сведчыць архіепіскап Афанасій (Мартас), апісваючы лёс епіскапа Магілёўскага Іераніма (Валчанскага) — дарэчы, брата архімандрыта Паўла Валчанскага, які падвізаўся ў слуцкім Свята-Троіцкім манастыры пасля Міхаіла Казачынскага: «Іеранім дакладаў у Сінод Рускай Царквы, што з часу прыбыцця яго ў Магілёў у 1745 годзе каталікі адабралі ў Беларускай епархіі 30 цэркваў. Ён памёр 14 кастрычніка 1754 года, не дачакаўшыся паляпшэння стану праваслаўных у сваёй епархіі (…) Папа Бенедыкт XIV булаю ад 27 лютага 1755 года на імя польскага каронннага канцлера графа Малахоўскага патрабаваў ад караля і польскага ўрада, каб магілёўскі «схізматычны прастол» быў далучаны да каталіцкай веры і перададзены пад упраўленне полацкага ўніяцкага архіепіскапа…» [22]. І ўсё гэта азначае, што «каад’ютар» Кіеўскай мітраполіі, зразумела, павінен быў усе свае сілы прыкладаць, каб і справаю, і словам адстойваць праваслаўе. Выходзіць, прыгаданая «завеса» — ілюзорная, узнікла яна ў выніку таго, што мы не проста лянівыя і нецікаўныя, з-за чаго наракаў рускі пісьменнік-класік пазамінулага стагоддзя, а яшчэ і бяспамятныя, і ўжо небяспечна далёка зайшлі, ігнаруючы патрэбу захоўваць памяць і адказнасць у адносінах да папярэднікаў… Так што дай Бог пераадолець хоць бы самыя недапушчальныя вынікі гэтай бяспамятнасці і безадказнасці. А ў гэтым канкрэтным выпадку патрабавалася нямнога: вярнуць-такі тое, што было шырокавядома, аднак у сілу (не)зразумелых прычын аддадзена забыццю. Прычым такога роду фактаў, аказваецца, нямала і ў слуцкі перыяд служэння архімандрыта Міхаіла. Найбольш дасведчаны — нягледзячы на тое, што ён з дальняга, як цяпер гавораць, замежжа! — казачынскавед абгрунтавана характарызуе Слуцк таго

часу наступным чынам: «Слуцкая архімандрыя даўно ўжо стала своеасаблівым аўтарытэтам абаронцы Праваслаўя ў каталіцкай Польшчы, неўніяцкім «аплотам» на ўніяцкай тэрыторыі, аазісам усходнеславянскай аўтахтоннасці ў краі, густа ўшпіляным іезуіцкімі школамі, на зямлі, дзе народ упарта трымаўся сваіх вытокаў, захоўваючы ўсведамленне пра сябе самога і пра сваю місію ў адносінах да сябе». І, так ацэньваючы сітуацыю, сербскі навуковец пераканаўча паказвае, што «каад'ютар» Казачынскі, будучы цвёрдым у веры, «няўступлівым і ненаіўным у прававых пытаннях», не толькі годна падтрымліваў, але і яшчэ больш сцвярджаў «и авторитет Архимандрита, и статус Архимандрии, и силу народного лидера, чтобы свой народ защитить». Ва ўгоду прынцыпам псеўдатолерантнасці цяпер звычайна пакрываецца маўчаннем суровая рэальнасць, у якой Міхаілу Казачынскаму суджана было несці свой пастырскі крыж, асабліва — той жорсткі ўціск іезуітаў, з якімі даводзілася весці і судовыя цяжбы, і рознага роду спрэчкі, і публічныя дыспуты, на якія ён «не смущался... ходить» [23]. Фактаў, што сведчаць пра гэта, нават у Эрчыча, які ацэньваў умовы жыцця і дзейнасці архімандрыта Казачынскага ў Слуцку «з стараны дальняй», дастаткова. Ды паколькі цяпер наша задача заключаецца ў тым, каб зафіксаваць хоць бы яго найважнейшыя, раней вядомыя, справы, то нельга не згадаць барацьбу за аднаўленне спаленага Заблудаўскага манастыра, а ў сувязі з гэтым — здзейснены пры архімандрыце Міхаіле і з яго непасрэдным удзелам перанос з Заблудава ў Слуцк мошчаў Святога дзіцяці Гаўрыіла. Як высвятляецца, тады атрымала вядомасць і даволі шырокае распаўсюджанне вершаваная аповесць пра гэтае дзіця-мучаніка, якая выкарыстоўвалася ў якасці «надгробка» — тлумачэння пры мошчах:

*Аще мя вопрошаешь, кто есмь и откуду,*
*Прочитай и узнаешь истинно отсюду:*
*Греко-россійской веры родители быша,*
*Въ цюже мя крещеніемъ святымъ окрестиша.*
*Въ тысяща шестьсотный рокъ осмьдесятъ четвертый*
*Гавріиломъ названъ грехъ отеческій стертый.*
*Тысяща-жъ шестьсотъ пріиде рокъ девятьдесятый —*
*Отецъ мой Петро Говдель изыде орати;*
*Мати Анастасіа мене, шестилетняя,*
*Оставивши у дома, несла обедъ бедна.*
*Арендарь жидъ изъ Зверковъ, выбравши годину,*
*Апреля 11-го схватилъ мя детину*
*На свой возъ, и завезли до Белаго стоку,*
*Где первее кровь мою пущали изъ боку,*
*А потомъ, мя вкинувши до темнаго ліоху,*
*Пущадлами стощали кровь съ меня потроху.*
*Жидъ арендарь изъ Зверковъ Шутко прозывался,*
*Мучили, пока съ Бржесца весь кагал собрался.*
*Собравшися шайками, везде мя ранили,*
*Ажъ даже конечнее кровь съ мене стощили.*
*Умертвивши, на части не дробили тела,*
*Но на ниву у жито выкинули цело,*
*Идеже слетешася птицы плотоядны,*
*Но абіе прибегли и псы зело гладны:*
*Натуру свою песю вскоре пременили,*
*От птича терзанія мне стражею были.*
*Знашедши, родители мя презентовали,*
*Въ Заблудовск Мардабурій въ книгу записали,*
*Что жиды умучили мя отрока суща,*
*Шесть летъ только отъ роду больше не имуща.*
*По такой презентаціи, на цвинтарь взнесено,*
*Близъ церкви благочестивой чинно погребено, —*
*Идеже я подъ спудом лежал часъ немалый.*
*Ажъ в тридцать летъ другаго тамъ же погребали:*

*Узнавши мя цела, въ склепъ церкви вложили,*
*Дондеже въ Заблудове церкви погорели:*
*Тысяща семсотнаго сорокъ шестого года*
*Только сія на монастырь стала пригодна.*
*Взяша мя изъ склепа до трапезной церкви*
*И вложили въ алтарь при безкровной жертве.*
*Тысяща жъ седмсотнаго пятьдесятъ пята*
*Изъ Заблудова до Слуцка съ телом труна взята.*

Што аўтарам гэтага (ці іншага з такім самым зместам?) твора з'яўляецца Казачынскі, ёсць шэраг згадак, хоць у іх гаворка ідзе пра «сказание», «повествование», «балладу» і «брошюру» таксама... А мы тут прывялі тэкст з публікацыі ў «Литовских Епархиальных Ведомостях» [24], дзе ён, разам з кароткім агульнага характару каментарыем-прадмовай, змешчаны без указання аўтарства. Уважлівы філалагічны аналіз гэтага тэксту можа прывесці да заключэння, што ў асобных частках яго маюцца некаторыя моўныя агрэхі, ды і сэнсавыя скажэнні. Тлумачыць гэта дапушчальна па-рознаму, у тым ліку і так: «повесть» дастаткова шырока распаўсюдзілася ў народным асяроддзі, прычым у многіх ужо «фальклярызаваных» версіях, якія, зразумела, філолагамі не рэдагаваліся. Між іншым, польскамоўны ўрывак аналагічнага (ці таго ж самага?) тэксту разам са сваім перакладам не так даўно публікаваў А. Мельнікаў:

*Gdzie się żydli wnet insi pozbiegali,*
*Którzy bez miłoserdzia tam mnie mordowali.*
*Naprzed do zbyt cimniego lochu mnie wniesiono,*
*I wycignowszy krzyrzem krew z boku pucziono.*
*Potym instrumentami roznemi dręczyli,*
*Aż poki do ostatku krwie nie wysgcyli…*

*«Туда, где он жил, тут же сбежались другие, которые немилосердно меня убивали: сначала внесли в тёмное помещение и, распяв, пустили из бока кровь; затем разнообразными приспособлениями кололи меня, пока не выпустили кровь до последней капли…»*

Калі параўноўваць гэты фрагмент з прыведзеным вышэй тэкстам, навідавоку вялікае падабенства ў змесце, ды адначасова прыкметна розніца ў дэталях, вылучаных і затуманеных перакладам, які ў адносінах да польскамоўнага арыгінала (істотна перайначанага) адэкватным назваць нельга. Акрамя таго, у каментарыі да апублікаванага фрагмента маецца відавочная фактaлагічная памылка: «*9 мая 1775 года* (падкрэслена намі. — *І. Ч.*) усилиями Михаила Козачиньского нетленные останки святого Гавриила с разрешения Константинопольского патриарха и по благословению Киевского митрополита Тимофея Щербацкого вновь были перенесены в ковчежце в алтарь трапезной церкви слуцкого Свято-Троицкого монастыря» [25]. Сутнасць памылкі ў наступным: усе без выключэння крыніцы сведчаць, што на май 1775 года архімандрыт Міхаіл ужо каля двух дзесяцігоддзяў знаходзіўся ў лепшым свеце. Так што канчатковыя высновы на падставе скрупулёзнага аналізу максімальна вялікай колькасці варыянтаў гэтага спецыфічнага твора — справа будучыні.

А не меншую цікавасць уяўляе для нас яшчэ адзін тэкст, напісаны архімандрытам Міхаілам Казачынскім у Слуцку, — дакумент, які ў выдадзеным зводзе мае вось якое азначэнне : «*Ответ православных на обвинения, помещенные католиками в безымянной брошюре. 1754*» [26]. Ён змяшчае самыя што ні ёсць «з першых рук» звесткі, якія з'яўляюцца асабліва значнымі для нас цяпер, калі патрабуюцца простыя, без хітрых прыёмаў, доказы таго, наколькі «талерантнымі» былі продкі нашых братоў-католікаў у адносінах да нашых праваслаўных продкаў і якім жа на самай справе «мірным», «ідылічным» было іх суіснаванне. Вельмі карысна было б цяпер перадрукаваць дакумент гэты ў поўным аб'ёме, а затым па меры неабходнасці проста паўтараць публікацыі, без усялякіх «прадузятых» каментарыяў... Але

на гэты раз мы абмяжуемся дзвюма цытатамі ў сваім перакладзе на рускую мову:

«Несправедливостей и притеснений по отношению к нам и перечесть невозможно (…) публично с процессиями ходить, с крестом святым тела усопших погребать запрещают нам, избивают, скандалы публичные устраивают, свечи у людей из рук вырывают, более того, и покойников с носилок сбрасывают, как это было в Бельске в 1746 и в Дрогичине в 1753 годах, и в других городах тоже; пресвитерам нашим, Греко-Русским неунитам, открыто со свечами и в облачениях церковных к больным ходить запрещают, по дороге камнями забрасывают, насмехаются, поносят, богохульствуют и иные немыслимые увеселения устраивают; церквей Божиих на стародавних местах при стародавних фундушах новые учреждать и былые реставрировать per omnia fortia ясновельможный наипреподобнейший господин епископ виленский — Михал Зенкевич, на синодах своих епархиальных запрещать и не допускать строго приказал»;

«O Deus bone! Сколько возмутительного в Могилеве, в Кричеве, а в прошлом, 1752 году, монастырь, именующийся Соломырицким и другой монастырь — Селец в воеводстве Минском, с подданными, с селом, безо всякого основания, силой перевели в унию, третий монастырь, называемый Марковым, armata manu штурмовали, однако наши преобладали и не сдались; так же и в нынешнем году Martii ultimus, на Невельщине силой церковь переведена в унию…» [27].

Гэтым сведчаннем пра становішча праваслаўнага народа на беларускіх землях у сярэдзіне XVIII ст. няхай і завершыцца наш кароткі нарыс пра архімандрыта Міхаіла Казачынскага, у дадзеным выпадку — надзейнага сведку беззаконняў. Але не толькі. У сувязі з чым хацелася б выказаць надзею, што нам удасца ўсё ж такі аднавіць-рэканструяваць больш грунтоўна і падрабязна ўмовы, абставіны жыцця і дзейнасці гэтага зусім не шараговага служыцеля Царквы Хрыстовай на Случчыне.

Адпаведна, да ўсіх, хто валодае нейкай дадатковай інфармацыяй, просьба падзяліцца ёю, зрабіць яе здабыткам сучасных пакаленняў праваслаўных беларусаў, цяперашніх спадчыннікаў праведнай Сафіі Слуцкай. Гэта — у славу Божую; і ў славу падзвіжнікаў праваслаўя на радзіме нашай.

---

1. Мужылоўскі Андрэй / Мужиловский Андрей (*в монашестве Антоний*), каля 1580—1640, аўтар твора «Антидот именитому народу русскому» (1629), напісанага ў процівагу «Апологии» Мялеція Сматрыцкага, які не ўстаяў у веры продкаў, а таксама «Отписа на лист униатов виленских» — з такім вось зместам: «*Униты, як уж, жалом воюють. / Манею моцнят, благочестие псують. / Косою, лукавством, вытинають кветы, / Ослою настроены, Богу не петы*».

2. *Митрополит Евгений (Болховитинов)* // Словарь исторический о бывших в России писателях духовного чина Греко-Российской Церкви. — М., 1995. — С. 77. Параўн.: *Державин А., протоиерей*. Радуют верных сердца. Четии-Минеи Димитрия, митрополита Ростовского, как церковно-исторический и литературный памятник. Часть первая. — М.: ИИПК «Ихтиос», 2006. — С. 126. «Святитель ехал в Литву ненадолго, но здесь его не захотели скоро отпустить, и он прожил в пределах Польского государства почти два года (1677—1679. — *И. Ч.*), состоя народным проповедником при **Слуцком церковном братстве** (…) Хорошо узнал он, конечно, и те невзгоды, которые терпел тогда русский народ».

3. *Родчанка Р.* Некалькі «чаму?» // Літаратура і мастацтва. — 1976. — 12 лістапада. — С. 12.

4. Напрыклад: *Грујић Р. М.* Српске школе (од 1718—1739 г.). — Београд, 1908; *Кићовић М.* Школско позориште код Срба у току XVIII и на почетку XIX века // Зборник радова САН. XVII, 2. 1952; *Скерлић Ј.* Српска књижевност у XVIII веку. — Београд, 1909. — С. 80, 103, 373; *Петровић К.* Историја Карловачке гимназије. — Нови Сад, 1951; *Урошевић М.* Српска књижевност у XVIII веку. — Београд, 1961. — С. 170; *Павић М.* Историја српске књижевности барокног доба. — Београд, 1970; *Павић М.* Језичко памћење и песнички облик. — Н. Сад, 1976. — С. 11, 19; *Деретић Ј.* Историја српске књижев-

ности. — Београд, 1987; *Чаркић М.* Српско-руске културно-језичке везе // Славистика. Књ. IV (2000). — С. 96—104; *Вулетић В.* У руско-српском књижевноисторијском простору. — Београд, 2006. — С. 12—13; Jugoslovenski književni leksikon. 2 dop. izd. — Novi Sad, 1984. — S. 387.

5. Leksikon pisaca Jugoslavije. Tom III. — Novi Sad: Matica Srpska, 1987. — S. 365—366.

6. *Ерчић В.* Историјска драма у Срба од 1736 до 1860. — Београд, 1974; *Ерчић В.* Мануил (Михаил) Козачинскиј и његова «Траедокомедија». — Нови Сад-Београд, 1980.

7. Гл., напрыклад: *Митрополит Евгений (Болховитинов).* Словарь исторический о бывших в России писателях духовного чина Греко-Российской Церкви. — СПб, 1818 (*Переиздани*е: М.: Русский двор, Троице-Сергиева Лавра, Паломник, 1995); *Аскочевский В.* Киев с древнейшим его училищем Академиею. Ч. II. — Киев, 1856; *Линчевский М.* Педагогия древних братских школ и преимущественно древней Киевской Академии // Труды Киевской Духовной Академии. Т. III. — Киев, 1870. — С. 537—538; *Петров Н. И.* О словесных науках и литературных занятиях в Киевской академии от начала ее до преобразования в 1819 г. // Труды Киевской духовной академии. — 1866. — № 7, 11, 12; 1867. — № 1; 1868. — № 3; *Соболевский А.* Неизвестная драма М. Козачинского // ЧИОНЛ. — Кн. 15. Вып. 2—3. — 1901; *Вишневский Д.* Киевская академия в первой половине XVIII столетия (Новые данные, относящиеся к истории этой Академии за указанное время). — Киев, 1903; *Кулаковский Пл. А.* Начало русской школы у сербов в XVIII веке. — СПб, 1903; *Титов Ф.* Памятники Православия и русской народности в Западной России в XVII—XVIII вв. — Т. 1. Ч. 2. — Киев, 1905; *Петров Н. И.* Очерки из истории украинской литературы XVII и XVIII веков. Киевская искусственная литература XVII—XVIII вв., преимущественно драматическая. — Киев, 1911; *Дмитриев П. А., Сафронов Г. И.* Сербия и Россия (Страницы истории культурных и научных взаимосвязей). — СПб, 1997. — С. 8; *Бадалич И. М., Кузьмина В. Д.* Памятники русской школьной драмы XVIII века (по загребским спискам). — М., 1968.

8. *Попов П. М.* Замітки до історії українського письменства XVII—XVIII вв. — Київ, 1923. — С. 8—9; *Маслов С.* Мануїл (Михаил) Козачинський і його «Трагедия о смерти царя сербського Уроша» // Радянське литературознавство. — 1958. — № 4; *Махновець Л. Є.* Українськи письменники: біобібліографічний словник. Т. 1. — Київ, 1960. — С. 319, 365—368; *Желєзняк І. М.* М. Козачинський і літературна мова сербів другої половини XVIII ст. // З історії української та інших слов'янських мов (Збірник статей). — Київ, 1965; *Нічык В. М.* Внесок діячів Киево-Могилянськоі академии в еднання духовних культур російського, українського й білоруського народів // Філософська думка. — 1974. — № 5; *Грицай М. С.* Українська драматургія XVII—XVIII ст. — Київ, 1974. — С. 7; *Рогович М. Д.* Філософська думка в Киево-Могилянській академіі. Мануйло Козачинський // Філософська думка. — 1969. — № 1; *Рогович М. Д.* Мировоззрение М. Козачинского и его место в истории отечественной философской мысли первой половины XVIII в. Автореферат дисс. канд. филос. наук. — Киев, 1978; *Пашченко Є.* Сербський фольклор у творчості українського письменника XVIII ст. М. Козачинського (До 600-річчя битви на Косовому полі) // Народна творчість та етнографія, 1989. — № 5; *Мишанич О. В.* Козачинський Мануїл (Михайло) Олександрович // Українська літературна енциклопедія. Т. 2. — Київ, 1990. — С. 520—521; *Возняк М.* Історія української літератури. У двох книгах. Кн. друга. — Львів, 1994; *Сулима М.* Українська драматургія XVII—XVIII ст. — Київ, 2005. — С. 31, 48, 79—80, 85, 210—214, 322—323; *Б. п.* Козачинський Михайло (Мануїл) Олександрович // Провідники духовності в Україні. — Київ, 2003. — С. 245—246.

9**.** *Булгаков М., священник.* Преосвященный Георгий Конисский, архиепископ Могилевский. — Минск, 2000. — С. 65. «В эти же годы Конисский познакомился с будущим славным диалектиком Казачинским, соучеником Георгия по академии, подававшим, подобно ему, самые блестящие надежды. Их знакомство переросло в большую искреннюю и в то же время полезную дружбу. Оба юноши очень часто проводили свободное от занятий время вместе, иногда дискутировали между собой, сообща стремились развить в себе свои ораторские таланты. К сожалению, дружба молодых людей была недолговечной: Казачинский был похищен ранней смертью, но, вероятно, уже после окончания академии, будучи ее преподавателем» (На с. 516 имеется ссылка № 145: «У Булгакова М. он причисляется к наставникам академии — см. цит. соч.» (т. е. Булгаков М., иером. История Киевской академии. — СПб., 1843. — С. 163). Позволим себе уточнение: Козачинский на 18 лет старше свт Георгия; но они действительно могли быть соучениками в 1728—33 гг., а могли также быть сопреподавателями в 1744—46 гг.

10. *Мельников А. А.* Путь непечален. Исторические свидетельства о святости Белой Руси. — Минск, 1992. — С. 225, 226.

11. За сем гадоў да гэтага ў Срэмскіх Карлаўцах была створаная Славяна-грэчаская школа, якую ўзначальваў Максім Сувораў, запрошаны з Расіі. Аднак школа М. Суворава, праіснаваўшы нядоўга, была закрытая. Калі ж узніклі планы яе аднаўлення, то прадугледжваўся ўжо іншы «фармат» — школа павінная была стаць славяна-лацінскай (некаторыя даследчыкі называюць яе проста «лацінскай»). І каб забяспечыць належнае навучанне, вырашана было запрасіць студэнтаў Кіеўскай акадэміі. У ліку абраных для такой місіі студэнтаў / магістраў апынуўся і Мануіл Казачынскі.

12. Гл., напрыклад: *Скерлић Ј.* Српска књижевност у XVIII веку. — Београд, 1909. — С. 80, 103, 135, 159—160, 373; *Павић М.* Језичко памћење и песнички облик. — Н. Сад, 1976. — С.11, 19; *Деретић Ј.* Историја српске књижевности. — Београд, 1987; *Чаркић М.* Српско-руске културно-језичке везе // Славистика. Књ. IV (2000). — С. 96—104; *Вулетић В.* У руско-српском књижевноисторијском простору. — Београд, 2006. — С. 12—13.

13. *Скерлић Ј.* Српска књижевност у XVIII веку. — Београд, 1909. — С. 160.

14. *Deretić Jovan*. Kratka istorija srpske književnosti. — Beograd, 1987. — S. 62.

15. *Скерлић Ј.* Српска књижевност у XVIII веку. — Београд, 1909. — С. 162.

16. *Козачинский Мануил (Михаил).* Трагедиа, сиречь печальная повесть о смерти последняго Царя сербскаго Уроша Пятаго, и о падении сербскаго царства, сочинена и произведена год. 1733 в Каровце сремском, а ныне пречищена и исправлена. — Будапешт, 1798 (1733).

17. *Соболевский А.* Неизвестная драма М. Козачинского // ЧИОНЛ. Кн. 15. — Вып. 2. — 1901; Вып. 3. — 1901. (Неизвестная драма М. Козачинского. Текст с предисловием А. И. Соболевского. — Киев, 1901).

18. *Рогович М. Д.* Мировоззрение М. Козачинского и его место в истории отечественной философской мысли первой половины XVIII в. Автореферат дис. канд. филос. наук. — Киев, 1978. — С. 6, 4, 5, 5, 8—9; *Рогович М. Д.* Філософська думка в Киево-Могилянській академії. Мануйло Козачинський // Філософська думка (Київ). — 1969. — С. 98.

19. *Стратій Я.* Козачинський Мануйло Олександрович // Філософська думка в Україні. Біобібліографічний словник. — К., 2002. — С. 100—101.

20. Artis oratoriae libri IV illyrico: Rascinae Indoli TRADITI et EXPLICATI lmo In Collegio slavonolatino Carloviciensi. Anno D(omi)NI MDCCXXXV. [7 НБ СРС, Р — 474]; Образ страстей мира сего образом страждущаго Христа исправи ся (1739); Theses fhilisophicae (1741); Описание толкованию триумфалных ворот. Киев, 1744; На триумфалных киевопечерских воротах до Ангела держащаго хартию. Стихи сложени от Академии киевски, а кориговал иеромонах Михаил, префект. Киев, 1744; Кант в триумфалных киевопечерских воротах. Киев, 1744; Панегирик Графу Алексею Григорьевичу Разумовскому (на Русском, Латинском и Польском языках). 1745; Панегирик Августейшей… Императрице… Елисавете Петровне… [Приветствие Императрице Елисавете Петровне на прибытие Ея в Киев] (на Русском, Латинском и Польском языках), напечатано там же 1744; Благоутробіе Марка Авреліа Антонина, кесара римскаго. — Киев, 1744; Философиа Аристотелева по умствованию перипатетиков… — Львов, 1754.

21. *Коялович М. О.* История воссоединения западнорусских униатов. — Минск, 1999. — С. 10.

22. Афанасий (Мартос), архиепископ. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. — Минск, 1990. — С. 196.

23. *Ерчић В.* Мануил (Михаил) Козачинскиј и његова «Траедокомедија». — Нови Сад-Београд, 1980. — С. 179, 178.

24. Литовския Епархиальныя Ведомости. — 1885. — № 35. — С. 346.

25. *Мельников А. А.* Путь непечален. Исторические свидетельства о святости Белой Руси. — Минск, 1992. — С. 225—226.

26. Respons na reflexie przeciwko nam, dezunitom religije Graeco-Rossyjskiej, przeszłego, 1753 anno, 11 die Decembris ab anonymo authore podane, sub justa et recta coscientia modo brevissimo redacta, a da Pan Bóg, successu temporis abundantius respondebimus / «Ответ на суждения, поданные против нас, неунитов греко-русской религии, в прошлом, 1753 году…» // Архив Юго-Западной России. — Т. IV. Ч. I. — Киев, 1871. — № CCVI. — С. 509—514.

27. Тамсама. С. 510, 512.

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Мілан ТОДАРАЎ (1951 г. н.)

❍ Пры сацыялізме два на два — чатыры. Пры капіталізме таксама. Але... якая розніца!

❍ У папярэднім развіцці дасягнутыя фантастычныя вынікі, што абавязвае нас і далей прытрымлівацца сюррэалізму ў працы.

❍ У нас няма фата-марганаў, таму што мы свае пустыні заснавалі на дыялектычным матэрыялізме.

❍ Не можа краіна проста так прападаць. На гэта існуе сістэма.

❍ Колькасць падазроных расце з дня ў дзень. Асабліва насцярожвае той факт, што гэта адны і тыя ж асобы.

❍ У нас абсалютная свабода слова. Калі дазволіце, я скажу пра гэта і яшчэ нешта.

❍ Усе, хто нешта ведае, званіце ў паліцыю.

❍ Мы ўсім сябры, падабаецца гэта каму ці не.

❍ Не хвалюйцеся. Мы, і ў цяжэйшых сітуацыях апынуўшыся, не маглі знайсці выйсця.

❍ Лепшай будучыні няма. Наша будучыня найлепшая.

❍ Мы былі асуджаныя на поспех, але ў апошні момант выйшла амністыя.

❍ Важна, каб таварышы верылі ў тое, што нам робяць, інакш не будзе поспеху.

❍ У нас няма другарадных грамадзян. Пасля першага раду абавязкова кардон.

❍ Асуджаны за варожую прапаганду. Сцвярджаў, што ідэальная краіна завецца Аркадзія.

❍ Каб Адам прапанаваў Еве чырвоны яблык, грэх быў бы ідэалагічна больш прымальным.

## Божа МАРЫЧ (1952—2013)

❍ Гісторыя — настаўніца жыцця. Ды і маці яе была не лепшай.

❍ Мірнае пагадненне па Босніі: харватаў — у Харватыю, сербаў — у Сербію, мусульманаў — у Турцыю. І мір у Босніі.

❍ Мая краіна — як з казкі: прыгожая, але бедная.

❍ Пасля выбарчага маўчання настала магільная цішыня.

## Аляксандр ЧОТРЫЧ (1966 г. н.)

❍ Мы свой шлях у сацыялізм праклалі так добра, што па ім могуць прайсці і танкі.

❍ Пасля разбурэння капіталізму надыходзіць яго аднаўленне.

❍ Дырыжор адышоў. Засталася палачка.

❍ Мы ўладу рабочых узнялі на самы высокі ўзровень.

❍ Часам людзей ставяць паперад танкаў. І называюць гэта парадам.

❍ Наймагутнейшая ў свеце сістэма трапіла ў такі самы, наймагутнейшы, крызіс.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***



**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# ЗАСТАНЕЦЦА МАІМ

## МІЖЗОРНЫ ШОП-ТУР

Ні слова жывога, ні згуку вазнічых.
Міжзорны шоп-тур не з благога намеру.
Мяне запісалі на Марс ваяўнічы,
А я пажадаў бы ляцець на Венеру.

Венера спрадвек не была нелюдзімай,
Як Марс, дзе ў туман раз'ядае жалеза.
Хутчэй адбаліць развітанне з Радзімай
На ранішняй зорцы ў журбе паланеза.

Стагоддзямі доўжыцца душ адсяленне.
У рай, а ці ў пекла, ці ў тыя ж пячоры.
На ўзятым этапе маё пакаленне
Бюро перавозак трымае ў фаворы.

Не рупяць вяселлі, і ўжо на Каляды
Не тупнеш з прыпеўкай, гукаючы сваху.
Сузор'і адсвечваюць — Лебедзь, Плеяды,
Ні ўлева, ні ўправа з Птушынага шляху.

---

***Гардзей Віктар Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура», газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), кнігі выбраных твораў прозы «З мінулага не вяртаюцца» (2014), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008) і іншых.*

Хай збудзецца тое, што нам не ўдалося,
А вы, лавеласы, чый век у зеніце,
З харомаў сваіх, як бы там ні жылося,
Пагарду Венеры маёй не чыніце.

## ЯШЧЭ НЕ ПОМНІК

Як ціха зорачкі гарацъ!
Дзіўлюся, бо ў далёкім годзе
Пастаўлены я сузіраць
Усё, што дзеецца ў прыродзе.

Стаю ля нейкай прахадной,
Не ў рай, вядома, і не з раю.
Нашэсце хмар над галавой —
Стаю і лівень сузіраю.

І шум, і гул — паток з прарэх,
Ілля качае ядры грому,
Заспетыя дажджом, з-пад стрэх
Не хутка пабягуць дадому.

Пакуль не схіліць на мяжу,
Дзе тлум і грозныя кардоны,
Пра ўсё, як ёсць, не раскажу
Насельнікам асобнай зоны.

Тут зорачкі мігцяць гусцей
І поўню плёскаюць крыніцы,
Як зубкі першыя ў дзяцей,
Вось-вось прарэжуцца зарніцы.

Нязнаны дзецям боль душы,
Ім «баю-бай» і — гоц у люлю!
Мой зменшчык, дужа не спяшы:
Свой пост я сам дакаравулю.

Стаю ля нейкай прахадной,
Мо неўміручасці то брама?
Мажаны ветлы жэст рукой,
Далей — з крыжамі панарама.

## ТАМ, ЗА ЦЫФЕРБЛАТАМ...

Жыцця, можа, першая спроба,
Таму не хлусі, не грашы.

Не скажуць ні Джуна, ні Глоба,
Ці будзе вяртанне душы.

Астролагі, як і празорцы,
Сягоння і самі ў нудзе:
Мой лёс не прадкажуць па зорцы,
Што ў змроку на лес упадзе.

Звычайная знічка, не болей,
Ды жур перад ёй не збароць.
Душа, мабыць, Боскаю воляй
Уселіцца ў іншую плоць.

Не возьмеш Элізіум блатам —
Не пусцяць грахі і даўгі.
Стагоддзямі за цыферблатам
Душа наразае кругі.

Надзею пакіне астролаг.
Гадзіннік дакладны ў мяне.
Вякоў расхінаецца полаг,
І — сонца, і — птушкі ў акне!

## ТРЫПУТНІК

### *ПАДАННЕ*

**1**

— Трыпутніку не растапчы! —
Кажу сабе самому,
Як і ў дзяцінстве, ідучы
Прасёлкамі дадому.

Расце зазвычай пасярод
Старых шляхоў і сцежак,
А дзе найбольш снуе народ —
Заскочыць і на ўзмежак.

Якія б орды ні ішлі
Ці ехалі б вазамі,
Яшчэ шчыльней ён да зямлі
Прытуліцца лістамі.

На дзіва, сокамі не сцёк
Трыпутнік растаптаны,
Загоіць больку і апёк,
Як прыкладзеш да раны.

**2**

На дзедзіну ў кутку глухім
Ішоў ваяр з паходу,
Аж тры дарогі перад ім —
Такіх не бачыў зроду.

Адна — у золаце наўсцяж,
І ёсць — у срэбных плітах,
А трэцяя, хоць стой, хоць ляж,
Слязамі скрозь паліта.

Дзяцей і жонку не збярог —
Татары паланілі.
Ваяр на ростані дарог
Свой боль не перасіліў.

На шлях, акроплены слязьмі,
Ступіў, а рукі слаблі.
— За грэх мне галаву здымі! —
Сказаў ён вострай шаблі.

**3**

І ўпала долу галава,
Заплюскала вачыма.
Пазней тут вырасце трава
З яго крыві, магчыма.

У бітвах ацалеў адзін,
Ды счуў віну пакутнік.
З нагоды трох шляхоў-пуцін
Траву завуць — трыпутнік.

Ідзеш — трыпутнік не тапчы:
Чыюсьці топчаш долю.
Трыпутнік, раны залячы,
Ты ж чуйны так да болю!

То плача ваяра душа
І просіць пакаяння…
На ростань стрэміцца шаша.
Трыпутніку — ні звання.

## ЖУРАЎЛІ НАД ХАТАЙ НЕ ЛЯЦЕЛІ…

Сёлета паўсцяж рудых аселіц,
Хоць і пракурлыкалі здаля,
Жураўлі над хатай не ляцелі.

Колькі жалю — будзем знаць пасля —
На адну асобу жураўля!
Там вайна на поўдні — слёзы, гора,
Абмінуць бы зону ўкругаля,—
Шлях у птушак праз чужое мора.

І ляцяць яны з бядой фатальнай,
І крычаць яны на ўсе вятры
Чарадой амаль манументальнай.
Крывавяць на поўдні вечары
Франтавою чырванню зары.
Гэткі жур, што ў сувязі прычыннай,
Гэткі боль, які пячэ знутры,
Жураўлі не чулі на Айчыннай.

## ЗАПАСВАННЕ КАРОЎ

Сцячэ ручаямі зімовы кілім,
Зямельку ад чараў Юрай адамкне:
Што думаюць зло пра мяне — будзе ім,
Што думаю я — застанецца пры мне.

Юрай адамкнуў і траву, і расу,
На водшыбе — зборня, людзей талака.
Юрай, я на выган гладышык нясу —
Сваім пастушкам не шкадуй малака.

Зязюлю пачую, за статкам сплючы:
На Юр’е раскошна жывуць пастухі.
Замкнуць бы і пашчы ваўкам — вось ключы:
Зацвіў першацвет паўз балотцаў глухіх.

Запасваць кароў — варажыць, святкаваць,
Юрай, нам парай, міратворац стары:
Ці яйкамі пашчы ваўкоў затыкаць?
Ці порах у стрэльбах яшчэ не сыры?

Што думаюць зло пра мяне — будзе ім,
Што думаю я — застанецца маім.





**Віктар ШНІП**

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА-4*

*

*3.02.2016.* Вечар. Зімовы дождж. Іду па скверы. Раней тут былі могілкі. Пад дрэвам на лаўцы ў змроку сядзяць мужчыны. П’юць з чорнай пляшкі віно, як смалу…

*

*4.02.2016.* У сённяшнім «ЛіМе» змешчаныя мае вольныя вершы «Зямля Фердынанда Рушчыца», «Жоўты, жоўтае і залатое», «Белы і белае» і «Сосны Івана Навуменкі». Нечакана далі на цэлую старонку. Даўно такім аб’ёмам не друкаваўся. Некага гэты мой захоп «ЛіМа» раззлуе, некаму не спадабаецца, што творы нерыфмаваныя. А я, разгарнуўшы газету на старонцы з вершамі, усміхнуўся, убачыўшы свой вельмі даўні фотаздымак, на якім я нейкі руды і ў акулярах, і падобны на Гары Потара…

*

*4.02.2016.* У белым снезе спіць белы мядзведзь. Ты яго не баішся, бо ты яго не бачыш…

*

*5.02.2016.* Выгульваючы на Мухлі сабаку Міёну, часта згадваю радкі Івана Буніна з верша «Одиночество»:

Что ж! Камин затоплю, буду пить...
Хорошо бы собаку купить...

Праўда, у мяне ўсё не як у вершы: сабака ёсць, каміна няма, дзявяты год не п’ю. Нейкі я няправільны, хоць і сумны…

*

*6.02.2016.* Сабакі радасна гуляюць на пляцоўцы для выгулу сабак, а мы, іх гаспадары, стаім каля дрэва, як прывязаныя…

*

*6.02.2016.* Упершыню і не ад добрага настрою Максім пастрыгся пад нуль. Выгляд у яго цяпер салдацка-бандыцкі. Я ж у свой час, будучы школь-

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 8 за 2017 г.

нікам, быў стрыжаным пад нуль некалькі разоў на год. Асабліва было слёзна, калі за тыдзень перад навучальным годам бацька браў тупыя нажніцы, доўга іх вастрыў, а потым стрыг мяне, як барана. Паехаўшы вучыцца ў Мінск, я ўжо не даваўся бацьку ў рукі і хадзіў па некалькі гадоў нястрыжаным, што нават часам чуў у свой адрас у транспарце: «Дзевушка, вы выходзіце на наступным прыпынку?» Праўда, у час маёй маладосці сярод хлопцаў была мода на доўгія валасы. Памятаецца, неяк мама папрасіла мяне, каб я пастрыг бацьку. Я пастрыг, і з таго разу я быў асабістым бацькавым цырульнікам да апошніх дзён яго жыцця. Неяк, стрыгучы бацьку, я запытаўся: «Ці помніш, як ты мяне стрыг, а я плакаў?» — «Не! Не помню…» — адказаў бацька, і мы разам засмяяліся…

*

*7.02.2016.* Памрэш і атрымаеш узнагароду — на ланцугу пражытых гадоў драўляны крыж…

*

*7.02.2016.* Сонечна. Ты ідзеш па скверы па леташнім лісці. Яно шэрае, як твой настрой. Месцамі з-пад лісця вызіраюць зялёныя промні травы. Гледзячы на іх, ты ўсміхнуўся. Побач ішла жанчына. Зглядзеўшы тваю ўсмешку, яна таксама ўсміхнулася. Што яна падумала? Шчаслівы? Ідыёт? Відаць, падумала, што шчаслівы, бо ўсміхнулася, як шчаслівая…

*

*7.02.2016.* Гадоў дзесяць таму знаёмы паэт, які жыве на раёне, клікаў прыехаць да яго на вясновае паляванне на пералётных гусей. Я адмовіўся. З таго разу цяпер кожную вясну баюся, што ён зноў патэлефануе і пачне клікаць на паляванне. Я люблю гусей, якія лятуць...

*

*8.02.2016.* Сёння з самага ранку адзін з аўтараў кнігі пра Уладзіміра Мулявіна даведаўся, што выданне выйшла і яго можна набыць у кошт ганарару. Праз гадзіну пісьменнік прыехаў у выдавецтва з вялікай сумкай для фаліянта. Я павёў яго ў аддзел рэалізацыі, дзе высветлілася, што грошай не хапае на кнігу. Ганарар малы, бо і напісанае пра Мулявіна малога аб'ёму. «А ў мяне з сабой ні капейкі няма!» — усклікнуў пісьменнік. Выслухаўшы шэраг прэтэнзій па ганарарах, я сказаў: «У наш час нельга выходзіць без грошай з дому і хадзіць па горадзе, як без пісталета ў рэвалюцыю!»

*

*9.02.2016.* Снілася родная хата. Адзінокая. Навокал снег, як мора, і далёка на гарызонце стог саломы, як узыходзячае сонца. Я гляджу ўдалечыню, і мне спакойна, бо я ведаю, што недзе там бацькі, якім добра…

*

*10.02.2016.* На кніжнай выставе прэзентавалі кнігу «Владимир Мулявин. "Сэрцам і думамі"», якая з'явілася ў свет дзякуючы яе аўтару і складальніку Людміле Крушынскай.

На прэзентацыю я прыехаў за паўтары гадзіны да пачатку. На ўваходзе ў выставачны павільён Людміла Крушынская з Барысам Крэпакам сустракалі выступоўцаў, а я іх адводзіў у гардэроб. Першым прыйшоў Анатоль Каша-

параў, якога адразу (многія пазналі) абступілі людзі і пачалі браць аўтографы і разам з ім фоткацца. Потым прыйшоў Леанід Барткевіч. Яго мала хто пазнаў, але многія глядзелі яму ўслед, бо ён быў апрануты вельмі нетыпова. Трэцім з'явіўся Пётр Ялфімаў. Гардэробшчыцы, убачыўшы спевака, адразу завохкалі-заахкалі: «Ялфімаў! Ялфімаў!» Астатнія выступоўцы (фотамайстра Юрый Іваноў, кампазітар Алег Молчан, артыст Вадзім Касэнка, кінарэжысёр Уладзімір Арлоў, кампазітар Аляксей Скрыпнік, народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец, музычны пастаноўшчык спектакля «Пясняр» Аляксей Еранькоў, жонка Уладзіміра Мулявіна Святлана Пенкіна і дзеці Песняра Валерый і Марына) не мелі такой увагі, як Кашапараў, Барткевіч і Ялфімаў, на шляху да месца прэзентацыі, але калі пачалася дзея, то і яны атрымалі ад удзячных слухачоў (было недзе каля 150 чалавек) мора воплескаў. Вёў імпрэзу артыст Алег Вінярскі. Закончылася яна «Малітвай» у выкананні Уладзіміра Мулявіна. Усе слухалі стоячы. Адчувалася, што нябачны Мулявін стаіць на сцэне каля мікрафона і спявае…

### *Мулявін і «Малітва»*

*11.02.2016.* Пасля прэзентацыі кнігі пра Уладзіміра Мулявіна прыехаў дамоў позна вечарам з добрым настроем, бо ўсё прайшло цудоўна. Многія казалі, што падобных па прадстаўнічасці і душэўнай цеплыні прэзентацый на кніжных выставах даўно не было і ці хутка будуць. Лёг спаць, як звычайна, а 12 гадзіне і… прыснілася наша прэзентацыя і Мулявін, які спяваў і спяваў «Малітву». І сёння са словамі купалаўскай малітвы ў душы я і паехаў на кніжную выставу. Прыехаў а 10-й. Хутка падышлі нашы выдавецкія супрацоўніцы, і адна з іх прызналася, што ёй усю ноч снілася наша прэзентацыя і песня «Малітва», таму яна не выспалася, але з гэтага не бядуе, бо слухала Мулявіна…

*

*11.02.2016.* Учора, калі праводзіў у гардэроб ганаровых гасцей прэзентацыі кнігі «Владимир Мулявин. "Сэрцам і думамі"», меў магчымасць паразмаўляць з Леанідам Барткевічам. І пачаў я размову са згадкі пра тое, што ён і я ў свой час скончылі адну і тую ж навучальную ўстанову — Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. «Потым я вучыўся ў Маскве ў ГІТІСе!» — выслухаўшы мяне, сказаў спадар Леанід. «А я ў Літінстытуце!» — усміхнуўся я і запытаўся: «Ці памятаеце, як, ужо будучы ў «Песнярах», вы прыходзілі ў інтэрнат тэхнікума, і вам хлапчук дапамагаў пару радкоў да песні дапісаць, а вы злаваліся, што ён нотнай граматы не ведае?» — «Гэта ж было амаль сорак гадоў таму! Нешта памятаю, а нешта і не памятаю. Я ж тады пасля тэхнікумаўскіх «Залатых яблыкаў» часам заглядаў у тэхнікум і, магчыма, было і такое, пра што вы кажаце…» — «Той хлапчук перад вамі». — «Вельмі прыемна», — сказаў Леанід Барткевіч і пацiснуў мне руку…

*

*11.02.2016.* Раніцай з Дзмітрыем Пятровічам прэзентавалі кнігу прозы і паэзіі маладых «Мой дзень пачынаецца…» Усе запрошаныя паэткі прыйшлі: Валерыя Саротнік, Яна Явіч, Ганна Чумакова, Ірына Чарняўская, Кацярына Масэ, Вераніка Мандзік, Людміла Клачко. Паэтаў не было. Іх у зборніку дванаццаць чалавек з сарака пяці. Было шмат маладых слухачак (дзяўчат семдзе-

цыі стане В. Ластоўскі, які ў 1911 г. на старонках газеты верне з нябыту постаць крошынскага песняра, аўтара верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы…», а ў 1913 г. надрукуе вельмі актуальны артыкул «Памажыце!», прасякнуты шчырым клопатам пра адшуканне і публікацыю творчай спадчыны беларускіх пісьменнікаў XIX ст. На жаль, апавяданне «Тралялёначка» не трапіла ў поле зроку гэтага вядомага вяртальніка і актуалізатара твораў папярэднікаў, дарэчы, аўтара першага артыкула на беларускай мове пра К. Каліноўскага.

Затым толькі ў 1922 г. акадэмік Я. Карскі ў III томе «Беларусаў» (Петраград) скрупулёзна адзначыў: «С именем Ф. Богушевича соединяется еще, по преданию, 3) брошюра «Tralalonaczka» (Kraków, 1892, 8 мал. 11) — небольшой рассказ прозой, написанный довольно удовлетворительным языком» [11, с. 410]. Не выклікае сумнення, што Я. Карскі, якога твор цікавіў перадусім з пункту гледжання мовы, чытаў яго, а значыць, трымаў у руках згаданую брашуру (відаць, яшчэ падчас працы ў Варшаве), але аўтарства Ф. Багушэвіча лічыў справай цалкам няпэўнай, легендарнай. У сувязі з гэтым невыпадковым уяўляецца тое, што М. Гарэцкі ў перавыданні сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» (1924), назваўшы III т. «Беларусаў» адною з «галоўных прац», якою карыстаўся пры ўкладанні кнігі, не палічыў неабходным у пераліку твораў, напісаных Ф. Багушэвічам, назваць «Тралялёначку», якая, мабыць, мелася на ўвазе ў няпэўнай катэгорыі «3) розныя творы, як ананімныя рэвалюцыйныя апавяданні й вершы, празаічныя апрацаванні жартаўлівых народных сюжэтаў («Палясоўшчык», «Сведка», «Дзядзіна»)…» [7, с. 242]. Як бачым, для М. Гарэцкага, які нават выкарыстаў адпаведную нумарацыю багушэвічаўскіх твораў з працы папярэдніка, аўтарытэтнае меркаванне Я. Карскага сапраўды было вызначальным.

А. Станкевіч у даследаванні «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (1934) прынцыпова залічыў «Тралялёначку» да не выдадзеных Ф. Багушэвічам твораў: «Працаваў так-жа нямала пяром. Пладом гэтай працы, апрача шырока ведамых «Дудкі» і «Смыка» і апрача дагэтуль нядрукаваных: «Скрыпкі» і «Траляляёначкі», меў так-жа быць беларускі слоўнік, для якога Багушэвіч быў назьбіраўшы шмат матар'ялу» [22, с. 61]. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў зносцы на гэтай жа старонцы А. Станкевіч прыводзіць цытату з тэксту А. Ельскага, змешчанага ў згаданым «Календары…1902», дзе «Тралялёначка» разам з «Дудкай» і «Смыком» фігуруе як гутарка выдадзеная. Гэтую акалічнасць можна патлумачыць толькі так: А. Станкевіч, які быў аўтарам першага адмыслова ілюстраванага манаграфічнага даследавання «Franciš Bahušewič, jaho žyćcio i tvorčaść. U tryccatyja ŭhodki śmierci (1900—1930)» (Wilnia, 1930), спецыяльна шукаў асобнае выданне «Тралялёначкі» і, толькі не знайшоўшы яго, прыйшоў да высновы, што яно, насуперак сведчанню А. Ельскага, усё ж не пабачыла друкарскага станка.

У 1938 г. у «Запісах Беларускага навуковага таварыства» ўпершыню быў апублікаваны багаты на новыя багушэвічазнаўчыя матэрыялы артыкул А. Луцкевіча «Жыцьцё і творчасьць Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў». У ім сцвярджалася: «На канчатак Нагродзкі паінфармаваў мяне аб гісторыі друку і пашырэньня «Беларускай дудкі» і іншых твораў Багушэвічавых. <…> Апрача «Дудкі» і «Смыка», была йшчэ трэйцяя кніжачка: зборнічак вершаў (паводле Нагродзкага — слабейшых) *«Траляляёначка»*, аб існаваньні якое цяпер ужо мала хто ведае, дый яна нідзе не захавалася. Ня ведалі аб ёй ані М. Гарэцкі, пішучы сваю «Гісторыю беларускае літаратуры», ані кс. Станкевіч, калі апрацоўваў успомненую ўжо сваю папулярную брашурку аб Багушэвічу» [17, с. 335—336]. Далей у падрадковай зносцы змешчаная заўвага: «Карскі («Беларусы», т. III, вып. 3), а за ім і Піятуховіч («Нарысы гіст. белар. літар.») называе «Траляляёначку» «апавяданнем у прозе», чаму Нагродзкі пярэчыць, кажучы, што гэта быў зборнічак вершаў» [17, с. 336]. Аднаму з найбліжэйшых сяброў Ф. Багушэвіча Зыгмунду Нагродскаму (1866—1937), які, паводле ўласнага прызнання, нават прафінансаваў другое выданне «Дудкі беларускай» (1896), падчас сустрэч з А. Луцкевічам

было пад 70 гадоў. Відавочна, ён не меў «Тралялёначкі», што і спарадзіла блытаніну ў яго звестках і можа ўскосна сведчыць пра нязначнасць тыражу выдання. Дарэчы, захаваўся здымак у апошнія гады жыцця Ф. Багушэвіча, дзе пісьменнік на ганку дома ў Кушлянах сфатаграфаваны з жонкай, дачкой і З. Нагродскім.

У 1940 г. пабачылі свет «Выбраныя творы» Ф. Багушэвіча, якія, па меркаванні ўкладальніка і аўтара ўступнага артыкула М. Ларчанкі, «найбольш поўна характарызуюць ідэйны і мастацкі твар гэтага пісьменніка». Таксама адзначалася: «Апрача таго, Ф. Багушэвічу прыпісваецца кароткае апавяданне «Тралялёначка», выданае асобнай кніжкай у 1892 годзе без імя аўтара» [14, с. 6]. У далейшым М. Клімковіч, аўтар прадмовы «Францішак Багушэвіч» да выдання «Выбраных твораў» (1946), даўшы вельмі высокую ацэнку дзейнасці пісьменніка, якую назваў подзвігам, падсумаваў: «Такім чынам, мы бачым, што за 9 год, у якія друкаваўся Францішак Багушэвіч, ім былі падрыхтаваны да друку 4 кнігі, калі не лічыць прыпісываемае яму, вышаўшае ў 1892 годзе без паказання аўтара, апавяданне «Тралялёначка». <…> З гэтага відаць, што мы маем магчымасць пазнаёміцца толькі з часткай твораў пісьменніка, і нашым гісторыкам літаратуры патрэбна яшчэ адшукаць другую палову яго твораў, прычым, магчыма, самых спелых твораў апошняга перыяду яго жыцця» [13, с. 4—5].

У пачатку 1948 г. на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» былі змешчаныя артыкулы В. Барысенкі «Ідэйныя скажэнні ў асобных артыкулах крытыкаў і літаратуразнаўцаў» і Л. Апанасовіча (Лукаша Бэндэ) «Невуцтва і абарона нацыяналізму», у якіх ставілася пытанне аб «ідэалагічных» памылках пры ацэнцы творчай спадчыны пісьменнікаў мінулага, у тым ліку і Ф. Багушэвіча. Гэтае ж пытанне абмяркоўвалася на сумесным паседжанні сакратарыята СП БССР і вучонага савета Інстытута літаратуры і мовы АН БССР 14 лютага 1948 г. На ім з дакладам выступіў В. Барысенка, а ў дэбатах — М. Лынькоў, М. Клімковіч, Н. Перкін, І. Лушчыцкі, Ю. Пшыркоў, Я. Усікаў, М. Ларчанка, А. Кучар і інш. У выніку вульгарызатарскія закіды Л. Бэндэ былі асуджаныя, а пазней на хвалі барацьбы з касмапалітызмам быў скінуты з п’едыстала і сам іх прапагандыст. Неўзабаве ў газетным артыкуле Ю. Пшыркова «Да канца выкрыць крытыкаў-касмапалітаў» яму самому быў навешаны адпаведны часу ярлык: «Бездарный злопыхатель-космополит Бенде все время практиковался на принижении и отрицании белорусской культуры. Великого поэта белорусского народа Я. Купалу называл он певцом буржуазного национализма, а поэта-демократа Богушевича объявил «идеологом шовинизма и проповедником католицизма». Космополитизм был явлением антинародным при своем зарождении, а в современных условиях это — орудие империалистической реакции…» (Сталинская молодежь. 1949. 2 марта). Тым не менш ва ўступным артыкуле Я. Шарахоўскага да чарговага выдання «Выбраных твораў» (1952) Ф. Багушэвіча былі прапанаваныя значна больш ідэалагічна вытрыманыя, у параўнанні з прадмовамі М. Ларчанкі і М. Клімковіча, ацэнкі творчай спадчыны пісьменніка. Аўтар не толькі заўважыў у ёй адсталыя і рэакцыйныя рысы, нацыяналістычныя настроі і крайнасці, але і не палічыў неабходным нават проста згадаць апавяданне «Тралялёначка».

На жаль, айчынным даследчыкам літаратуры дагэтуль не давялося знайсці багушэвічаўскія зборнікі «Скрыпачка беларуская» і «Беларускія апавяданні Бурачка», бо рукапісы, мабыць, усё ж гараць. А надрукаванае — з большай верагоднасцю застаецца, і «Тралялёначку» нарэшце ўдалося адшукаць і ўвесці наноў у літаратурны ўжытак. Гэта адбылося ў № 6 часопіса «Полымя» за 1960 год. Публікацыі папярэднічаў грунтоўны артыкул С. Александровіча «Новае пра Ф. Багушэвіча», які стаў своеасаблівай хроснай метрыкай на дзесяцігоддзі «згубленага» твора. «Аўтар гэтага артыкула нядаўна атрымаў з Польшчы мікрафільм кнігі «Тралялёначка», арыгінал якой захоўваецца ў Народнай бібліятэцы (Варшава)» [3, с. 194—195], — вось так па-будзённаму сціпла, без залішняга пафасу, акрэсліў

сваю ролю ў справе вяртання вядомы даследчык, удзельнік вайны, які не дажыў да свайго 65-годдзя.

Пасля «полымеўскай» публікацыі «Тралялёначку» нязменна ўключаюць не толькі ў выданні твораў яе аўтара, але і ва ўсе адпаведныя профілю анталогіі, хрэстаматыі і зборнікі тэкстаў. Дзякуючы супольным намаганням шэрагу навуковых і грамадскіх структур, у 1992 г. у Мінску было здзейсненае факсімільнае перавыданне «Тралялёначкі».

Натуральна, што менавіта С. Александровіч стаў і першым даследчыкам твора. Ён прывёў гісторыка-дакументальныя звесткі і правёў моўна-стылістычны аналіз, якія пацвярджалі прыналежнасць тэксту пяру Ф. Багушэвіча, звярнуў увагу на сугучнасць сюжэтных калізій апавядання з вершам паэта «Немец», ахарактарызаваў вобраз галоўнага героя Бартка Саска як тыповага «хітрага і прагавітага вясковага драпежніка», падкрэсліў «літаратурнасць» «Тралялёначкі» ў параўнанні з фальклорнасцю сюжэтаў «Палясоўшчыка», «Сведкі» і «Дзядзіны». Зразумела, сутнасць адлюстраванага канфлікту дала магчымасць гаварыць і пра ідэалагічна запатрабаваны ў той час класавы антаганізм, аднак гэта не знізіла каштоўнасць зробленых вывадаў.

А. Мальдзіс, на аснове адшуканых у тагачасным Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР матэрыялаў, раскрыў істотны нюанс у акалічнасцях выдання «Тралялёначкі». Акрэсліваючы характар стасункаў аўтара з Я. Карловічам і спаслаўшыся на канкрэтныя архіўныя дакументы, даследчык у манаграфіі «Творчае пабрацімства» (1966) прыйшоў да такой высновы: «З дапамогай Карловіча ўбачылі свет першыя кнігі Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891, перавыданне ў 1896 г.) і «Тралялёначка» (Кракаў, 1892). Абедзве яны выйшлі ў выдавецтве Анчыца, з якім Карловіч быў асабіста знаёмы. 21 лістапада 1890 г. Багушэвіч дзякаваў Карловічу за абяцанне надрукаваць рукапіс, а 22 лютага 1893 г. выдавец звярнуўся да Карловіча з наступнай просьбай: «Мы таксама прапануем вашай ласкавай увазе рахунак аўтара «Тралялёначкі» (адрасат з Вільні), які нам заявіў, што яго рахунак урэгуліруе шан(оўны) пан. Астатак складае 29.80 фл.». Гэта пісьмо сведчыць, што кракаўскія выданні кніг Багушэвіча ажыццяўляліся не толькі з дапамогай Карловіча, але і на яго сродкі» [18, с. 145]. Сыходзячы са зместу вядомых сёння лістоў пісьменніка да свайго сябра і дарадцы, можна ўнесці істотную карэктыву: хутчэй, не «на яго сродкі», бо бліжэй да ісціны — пры яго фінансавай падтрымцы. У згаданым ужо лісце да Я. Карловіча ад 22 мая/3 чэрвеня 1892 года Ф. Багушэвіч піша: «Бясконца ўдзячны спадару за ласкавую дапамогу ў маіх клопатах; належныя 40 р[ублёў] і 16 фл[орынаў] вярну з найсардэчнейшай удзячнасцю, дасць Бог, хутка, але цяпер не магу. Траляля буду старацца дастаць» [5, с. 247].

А. Мальдзіс таксама адшукаў у тым жа архіве справаздачу К. Панятоўскага, скарбніка нелегальнага камітэта па збору сродкаў на помнік А. Міцкевічу, і апублікаваў фрагмент з гэтага каштоўнага дакумента: «І. Францішак Багушэвіч, які нарадзіўся ў Ашмянскім павеце, прысяжны адвакат, аўтар шматлікіх песень і твораў на народнай беларускай мове («Дудка беларуская», «Скрыпка», «Траляёначка» і інш.), удзельнік паўстання 1863 г., памёр у красавіку 1900 г. Гэта ён у значнай ступені ўплываў на разумовае развіццё Нагродскага» [13, с. 146]. Як бачым, у пачатку XX ст. яшчэ адна канкрэтная асоба зафіксавала як аўтарства Ф. Багушэвіча, так і яго вырашальны ўплыў на фарміраванне светапогляду згаданага ўжо З. Нагродскага. З матэрыялаў «Polskiego Słownika Biograficznego» (т. XVII, 1982—1983) вядома, што Казімір Панятоўскі жыў у Вільні з 1893 па восень 1905 г. і пазней з 1927 і, верагодна, аж да смерці ў ліпені 1934 г. Ён доўгі час перапісваўся з Э. Ажэшкай, з якой сябраваў і ліставаўся і Ф. Багушэвіч.

Аднак «habent sua fata libelli» (лац. *кнігі маюць свой лёс*), і перыпетыі «Траляёначкі» толькі пацвярджаюць слушнасць старажытнага афарызма Цярэнцііяна Маўра.

У 1960-я гады, калі прынята было паўтараць сакраментальны тэзіс пра супярэчлівасць ідэйных пазіцый дарэвалюцыйных творцаў і нават аляпаватыя канстатацыі пра тое, што яны яшчэ нібыта не бачылі рэальных шляхоў да свабоды працоўнага народа, ідэалагічная абумоўленасць і зацыкленасць на кандовых узорах крытычнага рэалізму прыводзілі да недаацэнкі эстэтычных вартасцей многіх мастацкіх твораў. Гэта знайшло адлюстраванне ў 2 томе акадэмічнай «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1969), у якім У. Казбярук у кароткім, на паўстаронкі тэксце адзначыў важнасць праблематыкі твора, яго лапідарнасць («Багушэвіч жа імкнецца дасягнуць максімальнай кандэнсацыі дзеяння») і наканаванасць трагічнага фіналу, але тым не менш больш засяродзіў увагу на недахопах «Тралялёначкі» (нумарацыя наша. — *І. З.*): 1) «Аднак гэта грамадская з’ява (з’яўленне буржуазіі і яе эканамічнае дамінаванне. — *І. З.*) не знайшла ў творы належнага мастацкага ўвасаблення. Разарэнне Бартка Саска не абгрунтавана і ўспрымаецца як штосьці выпадковае»; 2) «…Ствараецца ўражанне мастацкай незавершанасці твора, паасобныя сюжэтныя ходы якога намечаны толькі пункцірна»; 3) «У выніку паказ збяднення новага гаспадара маёнтка пазбаўлен пераканаўчай мастацкай матывіроўкі, і таму пачынае губляцца жыццёвая праўдападобнасць самой падзеі» [8, с. 143].

Сімптаматычна, што ў аднатомнай акадэмічнай «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977) названыя крытычныя закіды паўтораныя не былі. Праўда, прысвечаны Ф. Багушэвічу раздзел быў напісаны іншым даследчыкам — М. Грынчыкам. Ён, на тым жа невялікім аб’ёме, сцвердзіўшы, што ў апавяданні адлюстраваўся ўплыў «новых творчых тэндэнцый», а самому твору ўласцівы «глыбокі гуманістычны пафас», падсумаваў: «Заметны некоторые положительные сдвиги в сфере художественной структуры рассказа Богушевича: широкое использование повествовательных элементов, углубление роли социально-психологических деталей в обрисовке героя и др. Однако в целом приемы художественного воплощения в рассказе «Траляленачка» еще несовершенны, они близки к фольклорным традициям. В дальнейшем опыт Богушевича, особенно его достижения в жанре социально-бытового рассказа, явился плодотворной основой развития национальной прозы. Аналогичная закономерность отчетливо выступает и в цикле “Песни”» [9, с. 426]. Падкрэслім, М. Грынчык, бадай, першым пранікліва заўважыў, што багушэвічаўскае апавяданне і названы паэтычны цыкл, якія, як адзначалася, узніклі ў адзін час, маюць блізкія мастацкія характарыстыкі.

У рэчышчы нашай гаворкі варта звярнуцца і да калектыўнага даследавання «Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы. Агульны рух і галоўныя тэндэнцыі» (1972). У ім М. Мушынскі вызначыў такія дамінантныя рысы ўсёй дакастрычніцкай прозы: сувязь з фальклорам, народны пункт гледжання на маральна-этычныя праблемы, моцны ўплыў паэзіі і адсюль жанравы сінкрэтызм, сацыяльная ангажаванасць, сялянская грамада як калектыўны герой і інш. Паказальна, што ўсе пералічаныя ўласцівасці характэрныя для багушэвічаўскай «Траляляёначкі», з тэкстам якой беларускія празаікі пачатку XX ст. не маглі быць знаёмыя. Невыпадкова іншы аўтар «Шляхоў…» А. Яскевіч, да вывадаў якога мы яшчэ звернемся, пазней назаве твор «узорам нашай пачатковай прозы», пазначыўшы ў дужках «хочацца зноў жа сказаць “кодавым”». Пры гэтым цікава, што сам друкаваны пры жыцці празаічны твор Ф. Багушэвіча, які намінуецца «першым беларускім рэалістам» [20, с. 8], у даследаванні нават не называецца, згадваюцца толькі апавяданні «Сведка», «Палясоўшчык» і «Дзядзіна».

У 1975 г. пабачыла свет канцэптуальнае даследаванне В. Каваленкі «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць». Разважаючы пра асаблівасці творчага метаду Ф. Багушэвіча, аўтар прыйшоў да каштоўнай высновы, што гераіні апавядання паненцы Траляля ўласцівы «рамантычны склад характару» і яна як станоўчы персанаж выразна супрацьпастаўляецца «драпежнай, прагнай да нажывы, першай жонцы Бартка Саска Касьцы, якая разбэшчана новай, буржуазнай мараллю». Даследчык

называе атрыбуты рамантычнай эстэтыкі, якімі надзелены вобраз маладой, але рана памерлай гераіні, якой сімпатызуюць сяляне, ад чыйго імя вядзецца аповед у творы, але прыходзіць да наступнай высновы: «Непрыняцце рамантычнага мастацтва ў вершы «Мая дудка» не супярэчыла аб'ектыўнаму стану рэчаў. Непрыняцце гэта было генеральнай і ўсвядомленай лініяй развіцця Багушэвіча як пісьменніка, а рамантычныя рысы творчасці з'яўляліся мімаволі, як рудымент і даніна недастатковаму ўменню паказваць узвышанае і пачуццёвае ў рэалістычным плане. Да таго ж рамантычнае светаадчуванне трымалася і ў самім жыцці, што відаць са зместу апавядання «Тралялёначка». І ўсё ж метад творчасці Багушэвіча рэалістычны, хоць метад гэты яшчэ недастаткова развіты і спелы» [10, с. 426]. Выходзіць, В. Каваленка зрабіў даволі смелую для сярэдзіны 70-х гг. спробу пазбавіцца абмежаванасці пракруставага ложка адназначных ацэнак-схем, прапанаваных у манаграфіі В. Барысенкі «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя» (1957), якія прэваліравалі і лічыліся амаль нарматыўнымі ў тагачасным літаратуразнаўстве.

Заўважнай падзеяй у гуманітарнай сферы стала выданне падручніка для філалагічных факультэтаў ВНУ А. Лойкі «Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд: у 2 ч. Ч. 1» (1977, 2-е выд. 1989), у якім невыпадкова ўслед за В. Каваленкам адзначалася, што «пытанне аб творчым метадзе і стылі Багушэвіча патрабуе больш канкрэтнага разгляду». Аўтар даў вельмі высокую ацэнку твору: «Бо нават адно гэта апавяданне сведчыць аб бліскучых уваходзінах у прозу і самога паэта, і ўсёй беларускай літаратуры. «Тралялёначка» — твор на дзіва згарманізаваны, з адпаведна ўзятым тонам, рытмам апавядання, з дакладна выверанымі сінтаксісам, дэталямі, характарыстыкамі, дыялогамі» [16, с. 270]. Звярнуўшы ўвагу не толькі на вобразы герояў, але і апавядальніка, даследчык слушна адзначыў, што празаік прапанаваў сваім чытачам своеасаблівую «мужыцкую канцэпцыю жыцця ўвогуле», што для яго стылю ў цэлым характэрны не толькі сацыялагізм і арыентацыя на фальклор, але і на «жывое, дасціпнае, гутарковае сялянскае слова з яго нерастрачанай першароднай эмацыянальнасцю і маляўнічасцю» [16, с. 275], не пазбаўленых афектыўна-рамантычных атрыбутаў і абагульненняў тыпова беларускіх, нацыянальных. У заключэнні канстатавалася, што творчая спадчына Ф. Багушэвіча не страціла свайго «гісторыка-пазнавальнага, палітыка-выхаваўчага і эстэтычнага значэння».

Больш разгорнутае вывучэнне Багушэвічавых апавяданняў праведзена ў манаграфіі К. Хромчанкі «Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.)» (1979). Аўтар слушна адзначыў, што «Тралялёначка» стала працягам наяўных багатых традыцый адлюстравання працэсаў капіталістычных пераўтварэнняў у вёсцы, што меліся ўжо ў рускай і ўкраінскай літаратурах, і што аўтар «Дудкі беларускай», дзякуючы свайму досведу і адвакацкай практыцы, выдатна ведаў тое, пра што пісаў. Аналіз вобраза галоўнага героя Бартка Саска, сатырычнае выкрыццё якога абумовіла ідэйна-мастацкія функцыі ўсіх астатніх персанажаў, праводзіцца з улікам сінтэзу сацыяльнай і маральна-этычнай праблематык твора, а таксама рэалістычных сродкаў тыпізацыі, сярод якіх называюцца «і дакладныя ацэнкі героя апавядальнікам, і паказ яго ўзаемаадносін з іншымі персанажамі, і выразная моўная характарыстыка, дадзеная праз дыялогі, і важкая мастацкая дэталь, якая набывае вялікі абагульняючы сэнс» [24, с. 25]. Услед за У. Казберуком даследчык бачыць таксама аўтарскую непаслядоўнасць у тым, што крах галоўнага героя настаў у выніку збегу неспрыяльных абставін і такім чынам не быў дастаткова сацыяльна абгрунтаваным. Зразумела, К. Хромчанка не мог адмовіцца ад пануючых у той час установак, трактовак і схем, бо згодна ідэалагізаваных патрабаванняў, абавязковых для вучоных савецкай пары, было б лепш і класава дэтэрмінавана, па-перадавому, каб эксплуатаваныя вяскоўцы паўсталі ці хаця б употай падпалілі маёнтак ненавіснага прыгнятальніка. Але такі фінал абсалютна не адпавядаў бы ідэйна-мастацкай задуме аўтара, прасякнутай гума-

ністычным пафасам і прыхаваным маралізатарствам. Таксама, відаць, з добрых намераў павысіць пісьменніцкі статус аўтара і каштоўнасць яго твора, літаратуразнаўца неаргументавана сцвярджае, што Ф. Багушэвіч у творы «абапіраецца не на фальклорныя, а на літаратурныя традыцыі ў паказе падзей сучаснага жыцця» [19, с. 26]. На нашу думку, мы маем справу, верагодней, з гарманічным спалучэннем аднаго і другога. У далейшым, выявіўшы і акрэсліўшы функцыі элементаў псіхалагізму ў багушэвічаўскай прозе, К. Хромчанка рэзюміруе: «Такім чынам, апавяданні Ф. Багушэвіча закладвалі трывалыя асновы беларускай мастацкай прозы» [24, с. 28]. Манаграфія «Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.)» стала значным крокам у асэнсаванні празаічнай спадчыны бацькі нацыянальнага адраджэння.

Увогуле, наступныя даследчыкі былі салідарнымі ў прызнанні высокіх мастацкіх вартасцей апавядання «Тралялёначка». Напрыклад, Н. Тарэлкіна ў 1985 г., назваўшы «прыярытэт маналагічнай формы, аднапланавасць і абагульненасць характарыстык, адназначна акрэсленую пазіцыю апавядальніка ў адносінах да адлюстраваных падзей і фактаў» «астаткавымі кампанентамі лірыка-публіцыстычнай манеры выкладання», «якія з'яўляюцца агульнымі для паэзіі і прозы Ф. Багушэвіча», спецыяльна падкрэсліла ў аўтарэфераце дысертацыі: «Одно из лучших произведений — рассказ «Тралялёначка» — стоит у истоков серьёзной аналитической прозы» [23, с. 18]. І гэта не завышаная ацэнка.

Важкае слова ў справе асэнсавання апавядання «Тралялёначка» належыць згаданаму А. Яскевічу. У манаграфіі «Становление белорусской художественной традиции» (1987) ён, разважаючы пра асаблівыя цяжкасці пры «закладцы асноў нацыянальнай прозы», бачыў вялікую падтрымку ў наяўнасці развітай народнай празаічнай традыцыі. Тым не менш даследчык падкрэсліў выключную арыгінальнасць і значныя мастацкія вартасці багушэвічаўскага апавядання: «Проза пока все еще живет ориентацией на поэзию, на ее образную емкость. Она, можно сказать, уже никогда позже в такой мере не будет знать цены художественной экономии, как в Богушевичевой «Траляленочке». С точки зрения современных жанровых представлений даже удивительно, чтобы буквально на нескольких страничках предельно сжатого текста мог вместиться материал целой повести. Да какой материал! Целый пласт жизни, схваченный в наиболее актуальных моментах его социального движения» [25, с. 127]. Гэтая выснова тэарэтыка літаратуры спецыфічным чынам адгукнецца ў публікацыях наступных даследчыкаў.

Так, у прадмове «Абаронца праўды» ўкладальнік «Твораў» (1991) Я. Янушкевіч выказаў даволі рызыкоўнае, на нашу думку, меркаванне: «Па сваіх мастацкіх вартасцях і насычанасці ідэямі невялікае апавяданне «Тралялёначка» сапраўды можна назваць аповесцю» [5, с. 10]. Насамрэч, у эмацыянальнай і прасякнутай публіцыстычным пафасам прадмове да выдання, разлічанага на найшырэйшую аўдыторыю, бо наклад склаў 16 тысяч асобнікаў, такое выказванне ўсё ж можа мець месца. Тым не менш гэта відавочна спрэчнае дапушчэнне без ніякіх змен было паўторанае Я. Янушкевічам на с. 397 акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў. У 2 т. Т. 2» (2007). Дарэчы, у гэтым выданні ў напісаным У. Казберуком раздзеле «Прадвесне нацыянальнага адраджэння», дзе даецца агульная характарыстыка асаблівасцей літаратурнага працэсу пасля паўстання 1863—1864 гг., празаічныя творы Ф. Багушэвіча наогул не згадваюцца, у адрозненні ад макаранічнага апавядання Н. Шахава «Из жизни» («Календарь Северо-Западного края…», 1889), якое, на думку У. Казберука, нібыта «па вобразнасці мовы, па кампазіцыйнай зладжанасці… узвышаецца над іншымі празаічнымі творамі, якія пакінула нам XIX ст.» (с. 353). Паколькі гэтых «іншых» беларускамоўных твораў вядома сёння ўсяго каля дзясятка, і «Тралялёначка» сярод іх відавочна выгодна вылучаецца, то ў прыведзеным кантэксце трэба бачыць, мабыць, намёк перадусім на яе. Відаць, даследчык паслядоўна працягвае лічыць Багушэвічаву «Тралялёначку» творам, не пазбаўленым вельмі многіх хібаў. Калі

наша меркаванне слушнае, то шкада, што суб'ектывізм ацэнкі знайшоў сваё адлюстраванне ў такім аўтарытэтным выданні як апошняя па часе публікацыі акадэмічная гісторыя нашай літаратуры.

Увогуле, даводзіцца канстатаваць, што надзвычай актуальная для свайго часу сацыяльная праблематыка, якая знайшла яскравае адлюстраванне ў апавяданні «Тралялёначка», спецыфічным чынам прымушала даследчыкаў пры яго аналізе ісці па шляху характарыстыкі ідэйнага зместу твора, звязанага са светапоглядам аўтара, які адкрыта і прыхавана выяўляўся як у спецыфіцы канфлікту, так і ў мове апавядальніка і персанажаў. Сацыялагічнымі падыходамі абумоўлівалася і ледзь не абавязковае дэклараванне ўсімі сувязей з фальклорнай паэтыкай і аўтарскім імкненнем да раскрыцця народнага (сялянскага) светабачання, пры гэтым увага да мастацкай формы твора, яго жанравых параметраў абмяжоўвалася заўвагамі пра скандэнсаванасць і аналізам моўных асаблівасцей, якія прадвызначаліся арыентацыяй пісьменніка на гутарковы стыль.

Сярод дзясяткаў публікацый, у якіх так ці інакш закранаецца жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча і якія пабачылі свет у трэцім тысячагоддзі на старонках самых розных выданняў, вылучым найбольш цікавы для нашай гаворкі артыкул У. Лебедзева «Францішак Багушэвіч — празаік». Ён быў змешчаны ў «Весніку Брэсцкага ўніверсітэта» ў 2007 г. У ім пасля цытаты з ліста Ф. Багушэвіча «Дудка пераходзіць да песень і празаічнай аповесці» чытаем наступнае: «Успомнім, што ў хуткім часе пасля зборніка «Дудка беларуская» (1891) Ф. Багушэвіч выдаў *невялікую аповесць* (падкр. намі. — *І. З.*) «Тралялёначка» (1892). Сучасныя даследчыкі творчасці пісьменніка прызнаюць правамернасць таго жанравага вызначэння, якое зрабіў аўтар» [15, с. 51]. Далей прыводзіцца Янушкевічава цытата з прадмовы «Абаронца праўды». Неабгрунтаванасць таго, што аўтарскае жанравае вызначэнне «Тралялёначкі» — аповесць, не можа не выклікаць пярэчанняў, бо Ф. Багушэвіч, згадаўшы «празаічную аповесць» у названым лісце, найверагодней яе яшчэ не напісаў, а, у лепшым выпадку, толькі прыступаў да рэалізацыі сваёй задумы. Безумоўна, ён мог мець намер напісаць аповесць, а ў выніку з-пад пяра выйшла апавяданне. Невыпадкова, што пасля выдання твора аўтар назваў яго проста «Траляля», без ніякага жанравага акрэслівання. Зрэшты, не выключым і элементарную магчымасць неадэкватнага перакладу з польскай на беларускую мову адпаведнага слова ў лісце да Я. Карловіча. Тым не менш У. Лебедзеў упэўнена сцвярджае ніжэй: «Твор гэты невялікі па аб'ёму, але ўсё ж ён больш падыходзіць да аповесці, чым да апавядання» [15, с. 52]. І са спасылкамі на «Тэорыю літаратуры ў тэрмінах» В. Рагойшы стараецца гэта даказаць. Аднак аргументы даследчыка, у тым ліку значны прамежак часу, адлюстраваны ў творы, выглядаюць не зусім пераканаўча. Публікацыя У. Лебедзева змяшчае шэраг дакладных назіранняў над багушэвічаўскімі празаічнымі творамі, але, на жаль, інавацыйны аспект у артыкуле «Францішак Багушэвіч — празаік» абмяжоўваецца толькі акрэсленай спробай змены акцэнту ў вызначэнні жанравай прыналежнасці «Траляёначкі».

Між тым зварот да аналізу адпаведнага матэрыялу менавіта брэсцкім навукоўцам быў сімптаматычнай з'явай. Акурат у Брэсце ў 2010 г. пабачыла свет кніга «Асоба і творчасць Ф. Багушэвіча ў прасторы і часе: Зборнік навуковых артыкулаў да 170-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча». Тыраж склаў усяго 50 асобнікаў, хоць у ёй змешчаныя пераважна змястоўныя, а не толькі цікавыя публікацыі больш чым 40 аўтараў. Непасрэдна ў ракурсе нашай гаворкі вылучым толькі тры артыкулы.

На сувязі апавядання «Траляёначка», якое зноў жа вызначаецца як «невялічкая аповесць» [4, с. 17], з паэтычным цыклам «Песні» акцэнтаваў увагу згаданы У. Лебедзеў у сапраўды невялікай публікацыі «Эвалюцыя Ф. Багушэвіча-празаіка». На жаль, аўтар абмінуў такую істотную дэталь, як абраныя пісьменнікам шляхі данясення сваіх твораў да патэнцыяльных чытачоў, што не магло не абумоўліваць

іх зместу і паэтыкі. «Тралялёначка» пісалася свабодна, без так званага ўнутранага рэдактара, бо мелася быць апублікаванай ананімна і ў замежным выдавецтве. А гумарыстычныя апавяданні «Сведка», «Палясоўшчык» і «Дзядзіна» ствараліся з улікам жорсткіх патрабаванняў расійскай цэнзуры, бо павінныя былі пабачыць свет, верагодна, як частка празаічнага зборніка, у віленскай губернскай друкарні, якая і падала ў 1899 г. у гарадскую цэнзуру рукапіс Ф. Багушэвіча «Беларускія апавяданні Бурачка». Нават нягледзячы на іх забаўляльны змест, цэнзары ўбачылі палітычную тэндэнцыю «кроме «малорусской», создать еще «белорусскую» литературу и таким образом разбить и ослабить литературное и национальное единство, а вследствие этого и политическое могущество русского народа» [1, с. 105]. Таму сама пастаноўка пытання пра эвалюцыю на аснове ўсяго чатырох твораў пры акрэсленых акалічнасцях выглядае досыць датклівa.

У публікацыі Т. Гераськінай «Канататыўная лексіка ў апавяданні Францішка Багушэвіча “Тралялёначка”» ці не ўпершыню слушна звяртаецца ўвага не толькі на выкрывальны пафас, але і на патрыятычныя ноткі ў творы, праілюстраваныя выкарыстаннем адпаведных моўных сродкаў: «Апавядальнік з замілаваннем і любоўю да роднага краю апісвае сваю вёску, мясцовасць, дзе яна знаходзіцца. Гэтыя пачуцці перадаюцца ім з дапамогай вышэйназваных суфіксальных утварэнняў: *«Вёска наша, невялічкая* ***вёсачка****, меж прыгоркамі, пры* ***балотцы****, на выган* ***пясочак*** *з прыгоркаў спёрла, тут і лес* ***блізюсенька****»*. Вуснамі свайго героя пісьменнік сцвярджае, што няма на свеце лепшае мясціны, чым родная зямля» [4, с. 88]. Даследчыца рупліва прасочвае, якім чынам выяўляецца ў творы выражанае ў экспрэсіўнай мове апавядальніка аўтарскае стаўленне да персанажаў: Тралялі і яе дачкі Тралялёначкі, першай жонкі Каські і самога Бартка Саска, уяўнага генерала Прыбалдова. На аснове праведзенага аналізу зроблены абгрунтаваны вывад: «Усё апавяданне надзвычай насычана экспрэсіўна-ацэначнай, канататыўнай лексікай. Гэтыя словы дапамагаюць глыбей зразумець галоўную думку твора, яго ідэйны змест, адчуць адносіны аўтара, герояў да таго, аб чым апавядаецца, выклікаюць суадносныя пачуцці ў чытача, ствараюць выразную, яскравую адметную мову» [4, с. 90]. Значыць, багаты вобразна-выяўленчы патэнцыял, дакладнасць і сіла мастацкага слова Ф. Багушэвіча-празаіка пацвярджаюцца даследчыцай.

Паўстаюць некаторыя пытанні да публікацыі М. Аляшчэні «Асаблівасці жанру вершаванага апавядання і аповесці Ф. Багушэвіча», які, падсумоўваючы, канстатаваў: «Эпічны пачатак вершаваных аповесцей і апавяданняў набліжае герояў твора да ўласна прозы. Стылёвае афармленне вядомых апавяданняў Ф. Багушэвіча «Тралялёначка», «Сведка», «Палясоўшчык» (апавяданне старога лесніка), «Дзядзіна» вельмі блізкае да вершаваных яго твораў: тая ж спрошчаная гутарковая мова, наяўнасць асобы апавядальніка, нескладаны сюжэт. Гэта сведчыла аб тым, што праз вершаваныя апавяданні і аповесці Ф. Багушэвіча літаратурны працэс ішоў да асваення эпічных літаратурных жанраў» [4, с. 169]. Да вершаванай аповесці з многімі агаворкамі можна залічыць «Кепска будзе!», аднак ужыты множны лік правакуе заканамернае дапушчэнне пра існаванне нейкіх іншых багушэвічаўскіх твораў, падлеглых такой жанравай дэфініцыі. Таксама незразумела, што маецца на ўвазе пад выразам «спрошчаная гутарковая мова».

У сувязі з гэтым варта працытаваць вывад з аўтарэферата абароненай у далёкім 1971 г. кандыдацкай дысертацыі «Асаблівасці мовы твораў Францішка Багушэвіча» В. Марозава: «Состав лексики произведений Богушевича разнообразный, хотя и небольшой: во всех известных нам художественных произведениях, написанных поэтом на белорусском языке, употреблено ТРИ С ПОЛОВИНОЙ ТЫСЯЧИ СЛОВ. Этим сравнительно небольшим лексиконом он передает богатства мыслей, как хороший музыкант на простом инструменте передает богатства и тонкость мелодий» [19, с. 23]. Названая лічба, канечне, несупастаўляльная з 14 939 пазіцыямі слоўніка М. Лермантава, або 21 197 — А. Пушкіна, але неабход-

на абавязкова ўлічваць тое, што выбарка з апублікаванай спадчыны аўтара «Героя нашага часу» рабілася на аснове 6-томнага выдання яго збору твораў, а вядомыя сёння беларускія творы Ф. Багушэвіча змесцяцца ўсяго ў адным шчуплаватым доміку.

Дарэчы будзе прыгадаць, што да юбілею пісьменніка ў тым жа 2010 г. былі апублікаваныя грунтоўныя артыкулы В. Рагойшы «Францішак Багушэвіч у інтэр'еры стагоддзя» (Беларуская думка. 2010. № 3) і І. Багдановіч «"Дар музыкі — то твой дар, Божа"» (Роднае слова. 2010. № 3). Адгукнуўся на падзею і часопіс «Полымя», не толькі артыкулам Я. Янушкевіча «Чароўная дудка», але і вершам М. Мятліцкага «Багушэвіч у Смаргоні» (Полымя. 2010. № 3). Ды і ўзятыя намі ў якасці эпіграфа радкі з цудоўнага верша М. Танка «Францішак Багушэвіч» былі надрукаваныя ў «Полымі» (1980. № 9).

З вартых асаблівай увагі багушэвічазнаўчых публікацый апошніх гадоў адзначым артыкулы В. Бароўкі «Францішак Багушэвіч у літаратуразнаўчым дыскурсе пачатку ХХ ст.» (Роднае слова. 2015. № 3) і Р. Самойленкі «Францішак Багушэвіч на чарнігаўскай зямлі» (Полымя. 2016. № 8). Аднак у аспекце нашай гаворкі найбольш цікавым, найперш у плане змены ацэначных акцэнтаў, з'яўляецца артыкул Н. Рашэтнікавай «Літаратурныя і культурныя інтэгралы ў беларускай прозе пачатку ХХ стагоддзя» (2014), апублікаваны ў зборніку «Русская и белорусская литература на рубеже ХХ—ХХІ веков». Відавочна, дапытлівая аўтарка наблізілася да разумення таго, што ў «Тралялёначцы» адлюстраваны не проста звычайны побытавы малюнак сацыяльнай рэчаіснасці, у чым перакананая большасць папярэднікаў (што пацвярджае і праведзены намі агляд), а нешта глыбейшае — кшталту філасофскай рэфлексіі, роздуму пра жыццё і смерць. Асэнсоўваючы матэрыял акрэсленага ў назве перыяду, даследчыца лагічна бачыць вытокі ў прозе Ф. Багушэвіча і пачынае аналіз апавядання «Тралялёначка» з праніклівага супастаўлення яго з вершам «Афяра», своеасаблівым маральным імператывам, бо ў абодвух творах, па сутнасці, сцвярджаюцца аналагічныя ідэі. Устаноўка на тое, што багушэвічаўскі празаічны твор «толькі на першы погляд здаецца аднамерным», дазволіла даследчыцы пасля сціслага аналізу прапанаваць такую катэгарычную выснову: «Стварыўшы вобразы людзей, якіх ніхто не ведаў і не разумеў з сучаснікаў Ф. Багушэвіча, пісьменнік з лёгкасцю перайшоў мяжу паміж стагоддзямі і стаў цікавым новым найменням, таму што так, як Ф. Багушэвіч, яшчэ ніхто да яго не ўздымаў сацыяльна-побытавыя праблемы. Такім чынам, для нас аўтар «Тралялёначкі» — пісьменнік новага часу» [21]. Значыць, і сёння даследаванне твора працягваецца і абавязкова павінна выйсці на якасна новы ўзровень. Імпануе тое, што, падводзячы вынікі і назваўшы імёны бліскучых беларускіх празаікаў пачатку ХХ стагоддзя — Я. Коласа, З. Бядулі, М. Гарэцкага, А. Пашкевіч (Цёткі), К. Каганца, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., Н. Рашэтнікава не прамінула адзначыць: «але першым быў Францішак Багушэвіч, выдатны пачынальнік глыбінных зрухаў не толькі ў паэзіі, а і ў прозе» [21].

«Мы падчас залішне «зазямлялі» гэтых пісьменнікаў (маюцца на ўвазе В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Баршчэўскі, В. Каратынскі, А. Абуховіч, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына. — *І. З.*), звязваючы іх пераважна з будзённай сферай рэальнасці, у той час як яны, з'яўляючыся ў творчасці сапраўды вялікімі прыхільнікамі побыту і шчырымі, адданымі сынамі таго краю, рэгіёна, дзе яны нарадзіліся і ўзраслі, неслі ў сабе і касмаганічную, планетарную ідэю духоўнай еднасці паміж людзьмі», — абсалютна справядліва падкрэслівае В. Жураўлёў у артыкуле «Вялікае пачуццё як дэтэрмінант мастацкасці» (Роднае слова. 2010. № 12), прысвечаным, не будзем пазбягаць высокіх слоў, канцэптуальнаму пераасэнсаванню філасофіі гісторыі беларускай літаратуры ХІХ ст. І гэта пераконвае, што мы дарасцём да разумення велічы Францішка Багушэвіча не толькі як публіцыста і паэта, але і празаіка.

Такім чынам, праведзены і, відавочна, няпоўны агляд матэрыялаў і публікацый, якія асвятляюць «нялёгкую» гісторыю апавядання Ф. Багушэвіча «Тралялёначка», драматычныя шляхі твора да чытача, так і працэс яго рэцэпцыі ў айчынным літаратуразнаўстве, дазваляе зрабіць шэраг вывадаў. Выдадзены ананімна і, верагодна, нязначным тыражом твор, атрымаўшы публічную, кароткую і вельмі стрыманую ацэнку адразу ж пасля выхаду ў свет у 1892 г., затым на дзясятак гадоў стаў здабыткам, відаць, абмежаванага кола чытачоў, бо ў лік уладальнікаў кніжкі ўваходзілі, відаць, нават не ўсе знаёмыя і сябры аўтара. На неаднаразовыя згадкі твора ў публікацыях, змешчаных у перыядычных выданнях з нагоды смерці пісьменніка ў 1900 г. і неўзабаве пасля гэтага, у нашаніўскі перыяд увага звернутая не была. Увогуле, на працягу першых шасці дзесяцігоддзяў XX ст. адзіным рэальным чытачом твора, які засведчыў сваё знаёмства з яго тэкстам, быў акадэмік Я. Карскі, які, аднак, не быў упэўнены ў аўтарстве Ф. Багушэвіча. «Вяртанне» твора здзейснілася на старонках часопіса «Полымя» толькі ў 1960 г. дзякуючы адмысловай публікацыі С. Александровіча, які стаў і першым даследчыкам «Тралялёначкі». У далейшым да вывучэння і аналізу апавядання так ці інакш звярталіся многія найбуйнейшыя айчынныя літаратуразнаўцы другой паловы мінулага стагоддзя, калі і былі зробленыя найбольш важкія дасягненні ў справе вывучэння твора і асэнсавання яго месца ў гісторыі роднага пісьменства. Аднак дыяпазон ацэнак быў даволі шырокім, бо ўтрымліваў не толькі станоўчыя, але і крытычныя меркаванні. Нельга сказаць, што ў XXI ст. увага да багушэвічаўскага апавядання моцна ўзрасла, але яно стала аб’ектам спецыяльнага даследавання ў асобных публікацыях сучасных навукоўцаў. І гэта не толькі ў агульным плане сведчыць пра актуальнасць працягу багушэвічазнаўчых штудый, але пацвярджае і тое, што апавяданне «Тралялёначка», як і ў цэлым мастацкі свет Францішка Багушэвіча, працягвае цікавіць беларускіх гуманітарыяў, у першую чаргу літаратуразнаўцаў і моваведаў.

## Спіс літаратуры:


1. Александровіч, С. Х. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў / С. Х. Александровіч, В. С. Александровіч. — Мінск: Выд-ва БДУ, 1978. —256 с.

2. Александровіч, С. Кнігі і людзі. Зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў / С. Александровіч. — Мінск: Маст. літ., 1976. — 208 с.

3. Александровіч, С. Новае пра Ф. Багушэвіча // Александровіч, С. Старонкі братняй дружбы: Артыкулы пра літаратурныя сувязі / С. Александровіч. — Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1960. — С. 185—205.

4. Асоба і творчасць Ф. Багушэвіча ў прасторы і часе: зборнік навуковых артыкулаў да 170-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча / рэдкал.: М. І. Новік (гал. рэд.), С. Каралевіч, С. Варонік. — Брэст: Альтэрнатива, 2010. — 220 с.

5. Багушэвіч, Ф. Выбраныя творы / Ф. Багушэвіч; уклад. з тэксталагіч. падрыхт., прадм. і камент. Я. Янушкевіча. — Мінск: Беларуская навука, 2015. — 445 с.

6. Багушэвіч, Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч; уклад., прадм. Я. Янушкевіча, камент. У. Содаля, Я. Янушкевіча. — Мінск: Маст. літ., 1991. — 309 с.

7. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі; уклад. і падрыхт. тэксту Т. С. Голуб. — Мінск: Маст. літ., 1992. — 479 с.

8. Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. У 2 т. / рэдкал. В. В. Барысенка і інш. — Т. 2: Літаратура XIX — пачатку XX ст. — Мінск: Навука і тэхніка, 1969. — 620 с.

9. История белорусской дооктябрьской литературы / Ред.: В. В. Борисенко, Ю. С. Пширков, В. А. Чемерицкий. — Минск: Наука и техника, 1977. — 640 с.

10. Каваленка, В. А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Развіццё беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў / В. А. Каваленка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1975. — 336 с.

11. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. Т. 3, кн. 2. Очерки словесности белорусского племени / Е. Ф. Карский; комент. Т. И. Вабищевич, В. М. Казберука, О. П. Кричко. — Минск: БелЭн, 2007. — 704 с.

12. Кісялёў, Г. З думай пра Беларусь: Даследаванні і знаходкі з гісторыі беларускай літаратуры і рэвалюцыйнага руху другой паловы XIX стагоддзя / Г. Кісялёў. — Мінск: Беларусь, 1966. — 320 с.

13. Клімковіч, М. Францішак Багушэвіч / М. Клімковіч // Багушэвіч, Ф. К. Выбраныя творы / Ф. К. Багушэвіч. — Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1946. — С. 3—13.

14. Ларчанка, М. Ф. К. Багушэвіч / М. Ларчанка // Багушэвіч Ф. К. Выбраныя творы / Ф. К Багушэвіч; уступ. арт. М. Ларчанкі. — Мінск: Дзяржаўнае выд-ва пры СНК БССР, 1940. — С. 5—18.

15. Лебедзеў, У. А. Францішак Багушэвіч — празаік / У. А. Лебедзеў // Веснік Брэсцкага ўніверсітэта. Серыя філалагічных навук. — 2007. — № 1. — С. 51—55.

16. Лойка, А. А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд: у 2 ч. Ч. 1 / А. Лойка. — 2-е выд., дапрац. і дап. — Мінск: Выш. школа, 1989. — 319 с.

17. Луцкевіч, А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / Антон Луцкевіч; уклад., прадм., камэнт., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2006 — 460 с.

18. Мальдзіс, А. Творчае пабрацімства: Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст. / А. Мальдзіс. — Мінск: Навука і тэхніка, 1966. — 159 с.

19. Морозов, В. И. Особенности языка произведений Франтишка Богушевича: автореф. дисс. канд. филол. наук / В. И. Морозов. — Минск, 1971. — 26 с.

20. Мушынскі, М. Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы. Агульны рух і галоўныя тэндэнцыі / М. Мушынскі, В. Каваленка, А. Яскевіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1972. — 264 с.

21. Рашэтнікава, Н. Літаратурныя і культурныя інтэгралы ў беларускай прозе пачатку XX стагоддзя [Электронны рэсурс] / Н. Рашэтнікава. — Рэжым доступу: http://elib.bsu.by/handle/123456789/1099521. — Дата доступу: 16.02.2017.

22. Станкевіч, Ад. Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня (З нагоды 70-лецьця смерці Кастуся Каліноўскага рэд. «Mużyckaj Praudy» († 1864) і 50-лецьця «Гоману» (1884) / Ад. Станкевіч. — Вільня: Выдавецтва «Шляху моладзі», 1934. — 128 с.

23. Тарелкина, Н. В. Становление стиля белорусской литературы XIX века (В. Дунин-Марцинкевич, Ф. Богушевич): автореф. дисс. … канд. филол. наук / Н. В. Тарелкина. — Минск, 1985. — 20 с.

24. Хромчанка, К. Р. Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.) / К. Р. Хромчанка. — Мінск: Выд-ва БДУ, 1979. — 192 с.

25. Яскевич, А. С. Становление белорусской художественной традиции / А. С. Яскевич. — Минск: Наука и техника, 1987. — 232 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 21 лютага 2017 года.

## Рэзюмэ

### Ля вытокаў беларускай мастацкай прозы
***(да 125-годдзя выдання апавядання Францішка Багушэвіча «Тралялёначка»)***

У артыкуле праведзены франтальны агляд матэрыялаў, якія закранаюць творчую гісторыю апавядання Ф. Багушэвіча «Тралялёначка», выдадзенага брашурай у 1892 годзе, ацэнак і згадак твора ў перыяд з канца XIX ст. па 1960 год, калі ён быў наноў уведзены ў літаратурны ўжытак С. Александровічам. Разглядаюцца публікацыі, звязаныя з вывучэннем апавядання ў другой палове XX ст., калі да аналізу звярталіся вядомыя літаратуразнаўцы, тады ж былі дасягнутыя найбольш важкія вынікі. Большасць даследчыкаў дало высокую ацэнку мастацкім вартасцям твора, але мелі месца і прынцыповыя крытычныя заўвагі, абумоўленыя пераважна сацыялагічнымі падыходамі, якія прэваліравалі ў савецкі перыяд і перашкаджалі рэцэпцыі. Дамінавала дэкляраванне вастрыні сацыяльнай праблематыкі, сувязяў з фальклорам і народным светабачаннем, пры гэтым увага да мастацкай формы, жанравых параметраў твора нярэдка абмяжоўвалася канстатацыямі пра скандэнсаванасць пісьменніцкага мыслення і аналізам моўных асаблівасцей, прадвызначаных аўтарскай арыентацыяй на гутарковы стыль. У XXI ст. апавяданне стала аб’ектам спецыяльнага даследавання ў асобных публікацыях, у тэксце некаторых з іх сустракаюцца высновы дыскусійнага характару.



**Ключавыя словы:** творчая гісторыя, ананімнасць, аўтарства, фабула, ідэйны змест, вобраз апавядальніка, галоўны герой, спецыфіка канфлікту, фальклорныя традыцыі, гутарковы стыль, сатырычнае выкрыццё, сацыяльная праблематыка, проза, жанравае вызначэнне, апавяданне, аповесць, сацыялагізм у літаратуразнаўстве, творчая спадчына, багушэвічазнаўства, рэцэпцыя.



## Summary

### At the Origin of the Belarusian Fiction
***(the 125th anniversary of Francishak Bahushevich’s story «Tralyalyonachka» publication)***

The article provides an overview of the materials affecting the creative history of F. **Bahushevich’s** story «Tralyalyonachka», published as a pamphlet in 1892, evaluations and mentions of the work from the end of the XIX century till 1960 when it was re-introduced into the literary usage by S. Alexandrovich. The author consider the publications related to the study of the stories in the second half of the XX century. During that time when famous specialists in literature applied to the analysis, the most significant results have been achieved. Most researchers highly appreciated the artistic merit of the work, but there was also fundamental criticism, mainly due to sociological approaches that prevailed in the Soviet period and prevented the reception. It was stated that the work reveals serious social problems, connected with folklore and folk outlook on life, with attention to the art form and genre often limited to a statement of a writer condensed thinking and analysis of linguistic features, predetermined by the author’s focus on conversational style. In the XXI century the story became the subject of special study in certain publications. Some of them include conclusions of controversial nature.



**Keywords**: creative history, anonymity, authorship, story line, writer’s theme, the narrator identity, the main character, the conflict distinctiveness, folk traditions, conversational style, satirical exposure, social issues, prose, genre definition, story, narrative, sociologism in literary, creative heritage, Bahushevich studies, reception.

Міхась ТЫЧЫНА

# АЛЕСЬ АДАМОВІЧ: ЖЫЦЦЁ ЯК ТВОРЧАСЦЬ І ТВОРЧАСЦЬ ЯК ЖЫЦЦЁ

Калі XX стагоддзе завяршылася, многае стала на сваё месца. Аднак цікавасць да постацей першага плана, такіх, як Алесь Адамовіч, не знікае ў новым часе. Па сутнасці, пісьменнік апярэджваў эпоху і бачыў, якой будзе Беларусь неўзабаве. Адна з жыццёвых мараў аб будучыні глыбока нагадвала пра сябе ў неспатольнай празе сустрэць доўгачаканае завяршэнне XX стагоддзя і зазірнуць у пачатак XXI стагоддзя. Чытачы яго пакалення, пакалення ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, інакш ужо і не могуць. Гэта іх жыццё і іх час. Іншая справа — сучасная моладзь, настроеная на крытычнае ўспрыняцце нядаўняга мінулага.



Нягледзячы на агульналітаратурную значнасць пісьменніка Алеся Адамовіча, прыкметнае месца, якое ён займаў пры жыцці, на працягу паўвека будучы на слыху ў сучаснікаў-шасцідзясятнікаў, спрэчка наконт іх спадчыны, жыццёвага і творчага лёсу, месца ў літаратурна-мастацкім працэсе, працягваецца. Мастацкія працы Адамовіча, не зважаючы на досыць вядомыя перашкоды і супрацьдзеянне, друкаваліся амаль адразу пасля іх стварэння. Для яго як празаіка, крытыка, літаратуразнаўцы, кінадраматурга, публіцыста, грамадскага дзеяча было надзвычай важным надрукавацца ў час. Пісанне «ў стол» у спадзяванні на вечнасць пісьменніцкай працы — не ўваходзіла ў разлікі Алеся Адамовіча. Нездарма адна з яго апошніх кніг артыкулаў мела гучную назву «Мы — шасцідзясятнікі», а яе першая глава заклікала «Не перакладваць на плечы патомкаў» думкі і словы пра прыярытэт агульначалавечага над класавым як пункт адліку ўсіх каштоўнасцей, асабліва ў пытаннях вайны і міру.

Алесь Адамовіч, у адрозненні ад большасці нашага пакалення «сямідзясятнікаў», якое, па сутнасці, паступова расплылося ў магутнай хвалі папярэднікаў, з юнацкіх гадоў ведаў, дзе яго апошняе прыстанішча. Ад самога яго (аўтабіяграфічныя творы «Заглядваючы ў сябе», «Дадумваючы дарэшты. Аўтабіяграфія-85»,

«Вайна пад стрэхамі», «Сыны ідуць у бой», «Vixi» і інш.) вядома ўсё, ці амаль усё, пра бацькоў. Міхаіл Іосіфавіч, бацька Алеся, таленавіты хірург, галоўурач Глушанскай бальніцы, што на Бабруйшчыне, быў вядомы на цэлую акругу — ад Бабруйска да Старых Дарог. «Радыус аўтарытэту сельскага ўрача, — па словах Алеся Адамовіча, — заслужана ахопліваў не толькі пасёлак, але і ўсё ваколле». З студзеня 1940 года знаходзіўся на ваеннай службе. З першых дзён вайны ён — на фронце, быў тэрапеўтам 13-й арміі (камандуючы — М. Пухаў), даслужыўся да падпалкоўніка медыцынскай службы.

Жыў і памёр Міхаіл Іосіфавіч «у дарозе»: выехаў на саўгасным грузавіку да парадзіхі, а ён сапсаваўся, пайшоў пешшу праз начную завіруху ў сваім цяжкім («цесцевым») кажусе, успацеў, прадзьмула, прастудзіўся. Вярнуўся дадому з высокай тэмпературай, страціў мову, анямелі рукі і ногі. Інсульт. Вясковыя і глушанскія цёткі падыходзілі да труны і цалавалі ногі нябожчыку. Уражаны гэтым мясцовы чын, партыйны сакратар, за жалобным сталом сказаў: «Нам ногі цалаваць не будуць». Не важна, як жыў, важна, як памёр. Але і тое, як жыў, — таксама важна. Алеся Адамовіча, уражлівага 22-гадовага студэнта-філолага, нядаўняга падпольшчыка і партызана, які нямала пабачыў ужо на сваім вяку смерцяў, бацькаў скон моцна падкасіў — пасля гэтага паўгода ляжаў у бальніцы.

Галоўная Падзея ў жыцці бацькі — так, з вялікай літары Алесь Адамовіч пісаў пра смерць, бачачы ў гэтым нешта большае, чым звычайная, шараговая з'ява, працэс анігіляцыі фізічнага цела. Ён быў знаёмы з ідэяй, якую найбольш выразна і ўражліва выказаў у свой час рускі паэт Арсеній Таркоўскі, яго былы сусед па інтэрнаце ў Падмаскоўі, дзе пасля пераезду з Мінска ў Маскву нейкі час жыў Алесь Міхайлавіч. Вось гэтыя словы: *«На свете смерти нет. / Бессмертны все. Бессмертно всё. Не надо / бояться смерти ни в семнадцать лет, / ни в семьдесят...»*

Сказанае паэтам адпавядае высновам вядомых фізікаў. У прыватнасці, акадэміка А. Сахарава, які падзяліўся сваімі думкамі пра смерць у дыялогу з А. Адамовічам і У. Сінельнікавым: закон захавання энергіі дзейнічае ў жывой і нежывой прыродзе. А. Адамовіч верыў у асобу. Энергія, энергетычнае поле сапраўды не знікае, яго прысутнасць у свеце адчуваецца досыць доўга. А вось асоба знікае, фізічнае цела, носьбіт гэтай энергіі як пэўная цэласнасць і адзінства растварaецца ў Сусвеце. Пастаянным клопатам А. Адамовіча як пісьменніка-гуманіста была якраз асоба, чалавек як непаўторная, унікальная з'ява.

Усё гэта дзіўна, бо мільёны і мільёны смерцяў, якія прынесла XX стагоддзе некрафільскіх рэжымаў, як бы самі па сабе перакрываюць усякую гаворку пра каштоўнасць жыцця асобнага чалавека. Аднак жа мільёны смерцяў — статыстыка, а смерць аднаго — трагедыя. Тым большая, чым бліжэй гэты чалавек. Як востра перажываў А. Адамовіч адыход у іншасвет бацькі. Калі цяжка і пакутна памірала маці, Ганна Мітрафанаўна, Алеся Міхайлавіча выратаваў толькі шчаслівы выпадак: язва яго страўніка крываточыла якраз тады, калі ён прыйшоў у Лечкамісію наведаць хворую матулю. Смерць увесь час блукала непадалёк, разпораз нагадваючы пра сябе: memento mori! І ў вайну, што натуральна, і ў мірны час, што ўспрымаецца як Божы знак. У творах А. Адамовіча тут і там натыкаешся на згадкі пра гэты самы таямнічы момант чалавечай існасці. Часта ў трэцяй асобе, са спасылкамі на братоў па пяры, давяраючы іх вопыту і аўтарытэту.

У працы пра Якуба Коласа «Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы» думкі пра смерць Міхала ўраўнаважваюцца пантэістычнай філасофіяй, такой блізкай менталітэту беларускага селяніна, у вачах якога смерць займае сваё належнае месца ў вечным кругавароце прыроды. Зрэшты, гэта ўяўленне з пэўнымі карэктывамі перайшло і ў хрысціянства, дзе апосталам Паўлам сказана, што зерне павінна памерці, каб затым адрадзіцца, уваскрэснуць у коласе. Якуб Колас да такіх рэчаў не быў абыякавым, пра што сведчыць яго паэма «Новая зямля», глыбока прачытаная А. Адамовічам.

У кнізе «Маштабнасць прозы», прысвечанай жыццю і творчасці Кузьмы Чорнага, сустракаем асобна вылучанае, філасофскае пытанне, заяўленае як праблема: што такое жыццё, калі побач смерць? У класіка адказ наступны: жыццё — гэта вечны рух наперад («Ты вечна ідзі. Бо калі спынішся, то пойдзеш назад і назад»).

У рамане-эсэ «Браму скарбаў сваіх адчыняю», прысвечаным М. Гарэцкаму, гэта ўжо праблема і філасофская, і гістарычная: смерць Марынкі, 17-гадовай сястрычкі братоў М. і Г. Гарэцкіх, пагібель цэлага сялянскага роду, знішчэнне беларускай вёскі, паглынанне сялянскай Атлантыды акіянскай бязмежнасцю Вечнасці. Малое і вялікае ў гэтым свеце звязана адно з адным самымі цеснымі, нават жорсткімі сувязямі: мацярык жыцця змяншаецца з кожнай смерцю — чалавека, нацыі, чалавецтва...

Ва ўласных мастацкіх рэчах А. Адамовіча таксама шмат смерцяў: гераічных, трагічных, выпадковых, гвалтоўных, заўчасных, адзіночных, масавых. У кнізе «Я з вогненнай вёскі...», запісанай калектывам аўтараў — А. Адамовічам, Я. Брылём, У. Калеснікам пад дыктоўку самога народа, перад намі мартыралог беларускіх вёсак, а ў рамане «Карнікі» — гэта ўжо самі носьбіты смерці, яе верныя паслугачы, галоўныя некрафілы XX стагоддзя — ад шарагоўца Тупігі і да фюрэра. У пазней напісанай аўтарам пятай частцы рамана перападае дастаткова і Яго Вялікасці «Дублёру».

У гнеўнай публіцыстыцы апошніх гадоў, у антыўтопіі «Апошняя пастараль» апісваецца магчымая пагібель усяго жывога на Зямлі, «тэарэтычная смерць чалавека як віду», пасля чаго Сусвет, які столькі часу адмоўчваецца на нашы марныя просьбы адгукнуцца, змоўкне назаўсёды.

Сам А. Адамовіч свядома, пры поўнай цвярозасці ў развазе, выбраў свабоду «перастаць быць», прыняў непадлеглае абмеркаванню рашэнне «сысці ў небыццё». І як заключны акорд глыбокіх і журботных разваг пра смерць успрымаецца аповесць-тэстамент «Vixi» (Закончаныя главы незавершаная кнігі) з ягонай думкай, перанятай у старажытных: не так важна, як жыў, важна, як памёр. Скон як кропка ў «Кнізе жыцця». Працяг жыцця «ў запаветнай ліры» — гэта ўжо другая частка кнігі.

Пасля смерці А. Адамовіча была апублікавана кніга «...Имя сей звезде Чернобыль» (2006), у якую ўкладальніца, дачка пісьменніка Наталля Адамовіч, уключыла раздзелы «З запісных кніжак» (1981—1992), пісьмы (В. Быкаву, І. Дзядкову, М. Гарбачову, Я. Веліхаву, Стэнлі Крамеру і інш. — май 1986—1990), артыкулы, выступленні (чэрвень 1986 — 1992), сцэнарый «...Имя сей звезде Чернобыль» і інш. У выступленні А. Адамовіча на VIII з’ездзе пісьменнікаў СССР (1986) прагучала цытата з Евангелля. Іаан Багаслоў патлумачыў значэнне слова «чарнобыль» — «палын»: «10. Трэці анёл затрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, палаючы, нібы светач, і ўпала на трэціну рэк і крыніцы водаў. 11. Імя гэтай зорцы палын; і трэціна ўсіх водаў зрабілася палыном, і многія людзі памерлі ад водаў, бо яны прагорклі». У зале прысутных ахапіў шок.

Прырода сама па сабе не мае аксіялагічнай вартасці, каштоўнасці там і толькі там, дзе ёсць свабода выбару, дзе мы прымаем адказнае рашэнне. Можна, як гавораць палякі, «жыць, жэбы жыць». А можна жыць так, як жыве звычайны лісток на дрэве: убіраць у сябе вуглекіслату, а аддаваць кісларод. Алесь Адамовіч не баяўся дыхаць атрутнай атмасферай эпохі, пранізанай выпарэннямі смерці, бо ведаў, што без кіслароду духоўнасці, які генерыруе літаратура як мастацтва слова, немагчымае існаванне сучаснага чалавецтва. Як сказаў Восіп Мандэльштам: «Паэзію паважаюць толькі ў нас — у нас за яе саджаюць у турму, судзяць, забіваюць!»

Тым часам ад Адамовіча да прабацькі Адама ці не дзясяткі пакаленняў: толькі ад Аўраама да Ісуса Хрыста, як сведчыць евангеліст Мацвей, налічваецца роўна сорак «каленаў» (Аўраам спарадзіў Ісаака; Ісаак спарадзіў Іакава; Іакаў...). Сам Алесь Адамовіч любіў згадваць гэты пералік, вонкава як бы бессэнсоўны, звязаны хутчэй лірычнай інтанацыяй, чым рэальным сюжэтам. Паняцце «сялянскі

род», «літаратурная сям'я» вельмі цікавіла Адамовіча; так ён выказваў патаемную мару пра тое, каб узнавіць уласнае радаводнае дрэва, хоць да праблем «крыві і глебы» адносіўся насцярожана, ведаючы, як лёгка яны могуць засланіць нешта больш важнае, вырашальнае ў чалавечых дачыненнях, — духоўнае сваяцтва.

Пра сваю маці Ганну Мітрафанаўну расказаў столькі і гэтак, што пасля яго можна толькі паўтарацца. Пасля публікацыі рамана «Вайна пад стрэхамі» ён прызнаваўся: «Калі мне што і ўдалося ў рамане, дык гэта таму, што раней гэтую кнігу маці напісала ўласным жыццём». Успаміны Ганны Мітрафанаўны «І так было кожны дзень» (часопіс «Нёман», № 10, 1999 г.) цалкам пацвярджаюць дакладнасць яе слоў. Запіскі, успаміны Ганны Мітрафанаўны Адамовіч пісаліся для Музея Вялікай Айчыннай вайны. Перад аўтарам стаяла простая мэта — расказаць, па магчымасці, падрабязней пра часы падполля і партызанскага змагання, пра людзей, з якімі выпала разам ваяваць. Перанесці на паперу тое, пра што неадпойчы апавядалася і ўспаміналася.

У тым, што задума здзейснілася, несумненная роля самога А. Адамовіча: не так лёгка неспакушанаму ў літаратурнай творчасці чалавеку ўзяцца за пяро і апісаць перажытае ў гады вайны. Менавіта ён цудоўна разумеў агульную значнасць асабіста перажытага вопыту, пераконваў у яго надзвычайнай каштоўнасці. На жаль, паняцце «магнітафонная літаратура», пазней выкарыстанае самім А. Адамовічам, тады яшчэ не існавала! Тым даражэй і больш зразумелым было напісанае нявопытнай рукой. Памяць у маці Алеся Міхайлавіча была выключнай.

«Выявілася, — адзначаў Адамовіч пазней, — што я нават уласную маці пасапраўднаму не ведаў. Любіў — і толькі. А як чалавека пабачыў і зразумеў, калі пачалося жахлівае жыццё». І менавіта вобраз маці мацней за ўсё ўражвае ў яго рамане, таму што ў гады вайны не было нічога больш страшнага, чым твар маці, на вачах у якой забівалі яе дзяцей, або дзеці якой ваявалі, а значыць — таксама забівалі. Гэта адчуванне яскрава выяўлена ў эпіграфе да рамана, у словах, якія набылі агульную вядомасць: «У вайны не жаночае аблічча. Але ніштο на гэтай вайне не запаміналася больш, мацней, страшней і прыгажэй, чым аблічча нашых маці».

Асабісты вопыт падлетка-партызана Алеся Адамовіча ўзбагачаецца за кошт «сямейнай» памяці, калі надзвычай уражлівыя падрабязнасці, прозвішчы, даты, месцы баёў, падзеі ўспаміналіся і ўдакладняліся разам з маці Ганнай Мітрафанаўнай яе старэйшым сынам Жэнем (Яўгенам Міхайлавічам), братам Антонам — Антонам Мітрафанавічам Тычынам, сёстрамі — Соф'яй Мітрафанаўнай Шуст і Зінаідай Мітрафанаўнай Жарыкавай. Акрамя ўсяго, яшчэ былі «атрадныя» ўспаміны, калі на традыцыйных партызанскіх сустрэчах збіраліся разам сябры па змаганні з фашызмам (імёны многіх з іх згадваюцца ў запісках Г. Адамовіч) і сумесна ўзнаўлялі з розных пунктаў погляду аб'ектыўныя малюнкі здзейсненага. Менавіта гэта і выклікае асаблівую зацікаўленасць да ўспамінаў і гісторый.

Спачатку многае здавалася незразумелым, і падзеі разгортваліся не так, як уяўлялася да вайны. Аднак агульная бяда прымусіла глядзець праўдзе ў вочы, паскорыўшы тым самым працэс фармавання асобы. У рабочым пасёлку Глуша, як амаль паўсюль, было сваё падполле, свая «вайна пад стрэхамі», у форме якой выяўлялася народнае супраціўленне акупантам. Бацька Алеся ў гэты час знаходзіўся на фронце, а маці неяк натуральна і проста ўключылася ў змаганне з ворагам, пачаўшы з малога — з дапамогі бежанцам, палонным харчаваннем, медыкаментамі (яна загадвала мясцовай аптэкай). З верасня 1941 года медыкаменты прывозіла з Бабруйска і забяспечвала імі партызан, разам са сваімі дзецьмі выконвала заданні і даручэнні. Відавочна, што высока цаніла арганізатараў падпольнага руху, але было бачна, што хутка спасцігала хады і хітрыкі падазроных асоб, умела ставіць іх на месца. Яе сяброўкі не хвалілі свайго ўнутранага захаплення яе неверагоднымі паводзінамі і артыстычнымі жэстамі. Яна выдатна разумела, што такое рызыка ва ўмовах акупацыі і чым усё можа нечакана скончыцца. Яе сыны былі проста ў захапленні ад маці, але не забываліся і пра яе строгасць. Ужо ў пачатку

1942 года Алесь, а яшчэ больш брат Жэня, ведалі, што аптэка працуе на партызан і што «партызанка» была побач, у сям'і. Хаця сам Алесь па маладосці марыў пра «сапраўдных» партызан. Хацелася да герояў.

Зімой 1943 г. сям'я Адамовічаў «пайшла ў лес» («Сыны ідуць у бой»): заставацца навідавоку ў нямецкай камендатуры было ўжо немагчыма. 16-гадовы падлетак, ідучы ў партызаны, замест бохана хлеба, пакладзенага ў торбу маці, узяў з сабою сіненькі томік Пушкіна, так пазначыўшы свае прыярытэты. Вершы класіка зачытваў у час адпачынку партызанам, якія з задавальненнем яго слухалі, крыху пазней ён заўважаў, як з кожным чытаннем меншала лістоў у томіку: з паперай у партызанаў былі праблемы. Спачатку быў у гаспадарчым узводзе, а пазней удзельнічаў у баях у Бабруйскім і Акцябрскім раёнах, у паходах «на жалезку» і іншых ваенных аперацыях, бачыў смерць у твар. Ён, не хаваючыся, зайздросціў свайму старэйшаму брату Яўгену, яго вытрымцы, адвазе...

Усё вышэйсказанае знайшло сваё адлюстраванне не толькі ва ўспамінах калег і сяброў, але і ў пісьменніцкіх задумах Алеся Адамовіча. «Вядома, — пісаў ён у аўтабіяграфіі, — рэальныя партызаны аказаліся зусім не такімі, якімі мне тады ўяўляліся. Горшымі? Не. Лепшымі? Не. Аказаліся жывымі людзьмі, а жывых адным словам не вызначыш. Калі да таго я адкрываў для сябе іншых людзей, дык тут, у партызанах, адкрыў самога сябе, бо страх смерці прасвечвае чалавека да дна — глядзі, які ты, і, калі можаш, старайся рабіцца трохі лепшым».

У канцы 1943 і пачатку 1944 гг. разам з часткай партызанскага атрада Алесь перайшоў лінію фронту і па камандзіроўцы Цэнтральнага штаба партызанскага руху быў накіраваны ў Ленінагорск на Алтаі, дзе ў эвакуацыі жыла з сям'ёй малодшая сястра маці. Вучыўся ў мясцовым горна-металургічным тэхнікуме і адначасова працаваў.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў Алесь Адамовіч вярнуўся ў родную Глушу, здаў экстэрнам экзамены за сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які скончыў у 1950 г., паступіў у аспірантуру, якую завяршыў у 1953 годзе.

У 1948 годзе напісаў першыя радкі рамана «Сыны ідуць у бой». Мусіць, менавіта тады адчуў і абдумаў фрагменты «ўнутранага маналогу» не толькі свайго, але найперш маці, яе боязі за свайго малодшанькага, — так нарадзіўся план яго рамана «Вайна пад стрэхамі», дзе галоўнай гераіняй стала маці — Ганна Міхайлаўна Корзун. У чытача, знаёмага з творчасцю і жыццём пісьменніка, ёсць магчымасць параўнаць дакументальныя ўспаміны і глыбока насычаны аўтарскі, мастацкі тэкст, зрабіць свае прадуманыя высновы. У кожнага спосабу ўзнаўлення перажытай Адамовічам і яго родам жыццёвай рэальнасці і непазбежнасці ёсць свае перавагі і, несумненна, свае недахопы, якія з'яўляюцца абавязковым працягам жыццёвых пераваг.

У 1950 годзе Алесь Адамовіч выступіў у друку як літаратурны крытык. Пісаў на беларускай і рускай мовах. Менавіта да гэтага часу адносяцца і першыя спробы пяра: даўняе школьнае захапленне вершамі ўжо здавалася маладому пісьменніку несур'ёзным, і ён без асаблівага шкадавання ўспамінаў пра страчаны ў вайну сшытак з уласнымі вершамі. Працаваў над кандыдацкай дысертацыяй па творчасці Кузьмы Чорнага і адначасова крадком пісаў раман пра партызанскую вайну. Прычым пачынаў «з канца», пра што сведчаць даты пад раманам «Вайна пад стрэхамі» (1955—1959) і «Сыны ідуць у бой» (1950, 1960—1963).

Пасля абароны ў 1954 годзе кандыдацкай дысертацыі «Язык романа “Третье поколение” и индивидуальный литературно-художественный стиль Кузьмы Чорного» — напісаў яе за тры летнія месяцы 1953-га, бо ўсе тры гады вучобы ў аспірантуры працаваў над раманам, — стаў выкладчыкам беларускай літаратуры на філалагічным факультэце БДУ, дзе працаваў два гады, а потым перайшоў на працу навуковым супрацоўнікам у Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, дзе працаваў (з перапынкам) тры дзесяцігоддзі (з 1976 года

па 1983 — загадчыкам сектара ўзаемасувязей літаратур). Пісаў пра тое, што здавалася актуальным для беларускай літаратуры: станаўленне жанраў беларускай літаратуры; Кузьма Чорны і Фёдар Дастаеўскі; творчасць Максіма Горкага і крытычныя традыцыі; ваенная і вясковая проза на літаратурнай планеце і г.д. Апублікаваныя працы заўсёды выклікалі шырокі грамадскі рэзананс, амаль усе былі перакладзеныя на рускую мову і надрукаваныя ў Маскве.

Вясной 1954 года ў Алеся Адамовіча нарадзілася дачка Наталля. Жонка Вера Сямёнаўна (Мядзведзева), філолаг, бібліятэкар, выкладчык, да апошніх дзён старанна працавала над рукапісамі Алеся Міхайлавіча, пасля сыходу пісьменніка «ў лепшы свет» друкавала на машынцы яго «Дзённікі» розных гадоў (1945—1993, публікацыя В. Адамовіч і Н. Адамовіч-Шувагінай). Апошнія дзённікавыя запісы — частка 1993 года і студзень 1994 — засталіся ў хатнім архіве ў Маскве...

У пасляслоўі «Дороги Алеся Адамовича» да публікацыі ў часопісе «Нёман» яго галоўны рэдактар пісьменнік Анатоль Кудравец пазнаёміў чытачоў са зместам «Запісных кніжак» Адамовіча і з літаратурным партрэтам іх аўтара апошніх гадоў. «Хто быў знаёмы з ім блізка, — пісаў А. Кудравец, — той добра ведаў, які гэта быў маторны чалавек. Ні хвіліны без справы, калі не справа — то ідэі хутчэй заўсёды нечаканай, няхай нерэальнай, але заўсёды выбуховай. Спачатку загараўся сам, а потым і ўсе, хто знаходзіўся побач, і вось ужо выбухнула полымя, ляцяць іскры, вось-вось запалае калі не пажар, то добры касцёр... Азірнуліся: а дзе ж Адамовіч? А Адамовіча ўжо тут няма, ён паімчаўся кудысьці ў пошуках новай ідэі... Партызаншчына была яго натурай, яго стыхіяй. Партызаншчына не ў сэнсе неаб’езджанай вольніцы, а ў сэнсе свабодалюбства і суцэльнай гатоўнасці змагацца за яе... І хапала яе не толькі на яго самога, але і на ўсіх, хто трапляў у прастору яго духоўнага і канкрэтна дзелавога поля. Забягаў у рэдакцыю вырашыць пытанне аб рукапісе сваёй аповесці або рамана, каб праз некалькі хвілін бегчы ў іншае месца, па нейкіх не менш неадкладных, не менш важных клопатах. Дакладней, усе клопаты для яго былі аднолькава важныя — ці то гэта лёс уласнага рукапісу ці чыйсьці яшчэ — былога партызана або пачаткоўца-пісьменніка, ці то выступленне на нейкай навуковай канферэнцыі або дэпутацкім запытанні...»

Што датычыцца «дэпутацкага запыту», А. Кудравец адзначыў асобна: «Гэта Адамовіч «раскруціў» беларускі Чарнобыль, распаведаўшы савецкай і сусветнай грамадскасці пра засакрэчаныя факты радыяцыйнай трагедыі Беларусі, на зямлі якой асела дзве трэці ўсіх смертаносных асадкаў, выкінутых выбухам на Чарнобыльскай АЭС, — пяцьдзясят, шэсцьдзясят, восемдзесят Хірасім?.. Дзве трэці радыёнуклідаў, чацвёртая частка забруджанай тэрыторыі — Гомельшчына, Магілёўшчына, Брэстчына, Міншчына... Плюс кожны пяты «мечаны» — з дзесяці мільёнаў жыхароў Беларусі... Калі б не Адамовіч, магчыма, і сёння мы не ведалі б усёй жахлівай праўды пра ўчарашнія, сённяшнія і заўтрашнія наступствы для здароўя мільёнаў людзей так званага «мірнага атама».

І яшчэ: «Адамовіч спяшаўся жыць, а жыццё яго было — праца. Ён прадчуваў, што не так шмат часу адпушчана яму, а пасля цяжкага інфаркту, які зваліў яго ў Маскве, гэта прадчуванне набыло лёгка прагназаваную незайздросную перспектыву. Але партызан заставаўся партызанам, змяняць у сабе ён нічога не жадаў. Хаця гэта было і не ў яго сіле. Вось такі, пасляінфарктны, Адамовіч і з’явіўся ў часопісе ў пачатку 1994 года».

У аўтабіяграфіі «Заглядваючы ў сябе...» А. Адамовіч пра гэты час пісаў так: «Вельмі хацелася расказаць пра перажытае, бачанае ў час вайны. І чым больш чытаў аб вайне, тым больш верыў, што «маё» яшчэ не расказана... Вельмі ўдзячны лёсу, што не асмеліўся тады напісаць і паспрабаваць надрукаваць нешта закончанае. Сапсаваў бы, мабыць, матэрыял. Перачытваючы тыя запісы, бачу, што «зносіла» мяне моцнымі вятрамі таго часу: не-не ды і пачынаў пісаць не так, «як яно было», а так, «як павінна было быць». І іменна таму, што не адчуваў магчымасці расказаць аб тым, «што ведаю лепш за ўсіх на свеце», і так, «як я хачу» (словы

А. Твардоўскага, якія любіў, «за дакладнасць». — *М. Т.*), не захапляла мяне цалкам гэта пісанне. Усё неяк прыхапкам...»

З аднаго боку, вострае адчуванне грамадскай патрэбы ў тым, каб расказаць, «як усё было», а з другога — яснае разуменне немагчымасці ажыццявіць задуманае, і не толькі таму, што творчы вопыт яшчэ малаваты, але і таму, што агульны ідэйна-мастацкі ўзровень тагачаснай літаратуры быў невысокі. «Кожны, хто піша, ведае той галоўны штуршок у жыцці, які зрабіў яго літаратарам... Для мяне і многіх маіх аднагодкаў — Айчынная вайна і Дваццаты з’езд. Два штуршкі — два «эпіцэнтры». Без другога і аб вайне расказвалі б мы па-другому. Ці наогул не расказвалі б... Так, мы перажылі ў 1956 г. інтэлектуальную буру, але карэнні нашы ўжо акрэплі, умацаваліся ў час вайны, калі на ўсё жыццё адчуў, што, нягледзячы ні на што, ёсць на свеце рэчы, каштоўнасці, у імя якіх можна ахвяраваць усім».

Алесь Адамовіч з яго тэмпераментам байца і апантанасцю новай ідэяй, імкненнем рабіць усё з поўнай самааддачай, кінуўся ў пачатку 50-х гадоў у крытыку, справядліва лічачы, што вельмі многае, калі не ўсё, вырашаецца ў тэарэтычнай барацьбе з устарэлымі поглядамі на жыццё і літаратуру. Расчышчаючы шлях для іншых і разам з іншымі, пісьменнікамі-«шасцідзясятнікамі», ён тым самым расчышчаў яго і для самога сябе як мастака слова, празаіка, раманіста. «...я кінуўся ў крытыку, увесь, з усімі думкамі і эмоцыямі. І літаратурная крытыка, магу засведчыць, здольна стаць тваёй страсцю, але пакуль ты верыш, што гэта не «бура ў шклянцы вады», а сапраўды грамадская справа. Чым больш я вучыў і павучаў як крытык іншых, тым больш палохаў мяне ўласны твор. Пісаў ужо больш сістэмна і не аб лясных партызанах, а пра тое, як людзі робяца партызанамі, як складана паварочваецца да іх усё, што ўчора здавалася вельмі простым... (Аб партызанах вырашыў напісаць потым)».

Аб’ектам увагі Адамовіча-крытыка былі праблемы раманнага жанру, творчага стылю, мастацкай індывідуальнасці, культуры творчасці, досыць новыя і нязвыклыя ў літаратурнай навуцы пасляваеннага перыяду. З першых публікацый ён ваяваў з вульгарна-сацыялагічнымі шаблонамі, эстэтычнай глухатой крытыкі. Нажыў на крытычным полі нямала ворагаў: на змену «сталінскім кадрам» ішлі маладыя, такія ж абаронцы літаратурнага правінцыялізму, якія для дасягнення «перамогі» не шкадавалі нічога і нікога. Малады крытык з першых сваіх публікацый, сярод якіх вылучаліся артыкулы «Стыль і творчы напрамак», «Вучоба пісьменніка і яго індывідуальнасць», «Грамадскае значэнне літаратуры», «Аб эстэтычнай глухаце ў крытыцы», «Багацце творчых індывідуальнасцей», выявіў шырыню кругагляду, чуласць да праўды, непрыманне вульгарна-сацыялагічных шаблонаў, тонкае адчуванне творчай своеасаблівасці пісьменніка, яго індывідуальнага стылю, уменне ўважліва чытаць мастацкія тэксты і страсць змагара за высокі грамадзянскі і эстэтычны ўзровень беларускай літаратуры. Жыццё можа падарыць пісьменніку сапраўды яркую і значную знаходку толькі ў тым выпадку, калі ён сам ідзе насустрач фактам, калі ён падыходзіць да жыцця з вялікай думкай. Для таго каб заўважыць жыццёвы факт і ўбачыць у ім вялікія эстэтычныя магчымасці, каб перадаць на пісьме гэта сваё першае непасрэднае і шчырае ўражанне, патрэбна не толькі ўчэпістая да падрабязнасцей памяць, але і пэўная светапоглядная сталасць, якая прыходзіць з узростам і вопытам.

Пазней, праз чвэрць XX стагоддзя, Алесь Адамовіч вырашыў сабраць свае даўнія і новыя літаратурныя артыкулы ў зборнік «Літаратура, мы і час» (1979) і схамянуўся, бо рука пацягнулася, каб нешта выправіць, палепшыць. Міжволі ўспомніў свой артыкул «Новыя рысы “параўнальнай крытыкі”», у якім дакараў іншых крытыкаў за тое, што запознена перачытвалі свае даўнія і грозныя «опусы», двацацігадовай ці саракагадовай даўнасці, дзе гаварылася пра літаратурныя пагрэшнасці тагачаснымі ахвотнікамі павучаць нашых класікаў Коласа, Чорнага, Гарэцкага, моцна рызыкуючы, яны, спахапіўшыся, павыразалі свае рэцэнзіі і артыкулы са старых падшывак «ЛіМа», «Полымя рэвалюцыі»...

Алесь Адамовіч вырашыў пакінуць усё такім, як было напісана ў свой час, а час гэты — другая палова 50-х і 70-х гг., які, як сведчыць практыка, не мінуў бясследна і застаўся ў гісторыі: «Супярэчлівы ён быў: часта новае віно налівалі ў старыя мяхі. Але гэта таксама былі адзнакі часу, і не будзем іх сціраць». І далей старазапаветнае: «Судзі, але і самога судзіць будуць». І сучаснае: «Час, ён над усімі суддзя. Вышэйшы... Для многіх крытыкаў было сапраўды адкрыццём, што калі ты пішаш пра другіх, тым самым ты і аб сабе пішаш. І нішто не прападае бясследна ў гісторыі — ні добрае, ні дрэннае. У гісторыі крытыкі таксама».

У навукова-тэарэтычным артыкуле «Стыль і творчы напрамак» («ЛіМ», 1955, 21 мая) А. Адамовіч звяртае ўвагу тагачасных празаікаў на недастатковую запатрабаванасць такіх літаратурных паняццяў, як «стыль», «майстэрства», «тэмбр»: «Не стае многім філасофска-эстэтычнага пранікнення ў з'явы літаратуры, абагульнення, сінтэзу. Характарыстыка стылю мастака слова звычайна зводзіцца да канстатацыі і пераліку асобных мастацкіх сродкаў і прыёмаў... Гаварыць аб майстэрстве і не гаварыць аб стылі — на першы погляд гэта здаецца нават немагчымым. Быццам майстэрства не заўсёды індывідуальнае, своеасаблівае. А між тым, працы, дзе гаворыцца аб майстэрстве без усялякай спробы раскрыць яго непаўторнасць, своеасаблівасць, сустракаюцца ў нас нярэдка».

На матэрыяле творчасці класікаў беларускай прозы Я. Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага аўтар артыкула выразна дэманструе неабходнасць вывучэння менавіта іх стылю — і гэта не толькі асобная праблема нацыянальнага літаратуразнаўства, але і задача агульнага павышэння прафесійнага ўзроўню літаратуразнаўчага аналізу. За ўзор А. Адамовіч бярэ лекцыі па рускай літаратуры М. Горкага, у якіх «кожная літаратурная з'ява стаіць у сістэме іншых гісторыка-літаратурных фактаў, як звяно ў ланцугу, і характарыстыка, ацэнка кожнай з гэтых з'яў вынікае з самога месца яе ў адзінай гісторыка-літаратурнай сістэме». У выніку М. Горкі «выдатна выявіў непаўторнасць мастацкай індывідуальнасці, мастацкага мыслення кожнага значнага пісьменніка, творчасць іх атрымала сваю філасофска-эстэтычную характарыстыку і ацэнку».

У артыкуле «Вывучаць літаратурную спадчыну», прысвечаным выхаду ў свет Збору твораў К. Чорнага ў 6 тамах («ЛіМ», 1955, 15 кастрычніка), А. Адамовіч адзначае галоўнае дасягненне гэтай літаратурнай падзеі: «Упершыню, па сутнасці, наш чытач можа атрымаць уяўленне аб багатай і шматжанравай спадчыне выдатнага беларускага празаіка... Адна страсная думка аб чалавеку працы, рукамі якога створана ўсё самае каштоўнае на зямлі, праходзіць праз усе гэтыя творы. Творчасць К. Чорнага гуманістычная ў поўным сэнсе гэтага слова. Яна прасякнута любоўю да чалавека, увагай да яго духоўнага свету. Праз усё жыццё пісьменнік пранёс душэўную цеплыню, якую абуджалі ў ім людзі. Самі творы сведчаць аб выключнай «памяці сэрца» гэтага пісьменніка».

У артыкуле справядліва тлумачыцца, што наўрад ці многае можна зразумець у творчасці Кузьмы Чорнага 20-х гадоў, калі прывязваць яго імя да імён некалькіх удзельнікаў «Узвышша», забываючы пра трагічны лёс многіх удзельнікаў гэтага аб'яднання, пра што і сам А. Адамовіч не ўсё ведаў у 50-я гады. Прынамсі, гэта адчуваецца пазней у манаграфіі «Шлях да майстэрства. Станаўленне мастацкага стылю К. Чорнага» (1958), і ў больш позняй навуковай працы «Маштабнасць прозы. Урокі творчасці К. Чорнага» (1972). Вось яго словы самаапраўдання і ўдакладнення зменаў: «Дык які ён, К. Чорны 20-х гадоў, калі глядзець на яго з вышыні 50-гадовага вопыту беларускай савецкай прозы? Трохі багацейшы, чым нам здавалася. Настолькі багацейшы, што 30—40-я гады нават не ўвабралі ўсяго таго бурнага патоку, імя якому — Кузьма Чорны 20-х гадоў, і паток гэты падземнай ракой прама выйшаў у 60-я гады, вельмі ўзняўшы ўзровень сучаснай маладой прозы». Менавіта ў кнізе «Маштабнасць прозы» А. Адамовіч, вяртаючыся да ранейшых артыкулаў і дысертацыйных раздзелаў, шмат у чым па-новаму пераглядае змест рамана Кузьмы Чорнага «Сястра», які пасля публікацыі 1927 г. не друкаваўся ажно да Збору твораў празаіка ў 8 тамах (1972—1975).

Жыццё само па сабе звяртае ўвагу цікаўнага чалавека на нечаканую знаходку, тым больш, калі размова закранае таленавітага шукальніка новых адкрыццяў. А. Адамовіч лічыў, што «жыццё можа падарыць пісьменніку сапраўды яркую і значную знаходку толькі ў тым выпадку, калі ён сам ідзе насустрач фактам, калі ён падыходзіць да жыцця з вялікай думкай». Каб заўважыць жыццёвы факт і ўбачыць у ім вялікія эстэтычныя магчымасці і для таго, каб перадаць на пісьме гэта сваё першае непасрэднае і шчырае ўражанне, патрэбна не толькі ўчэпістая да падрабязнасцей памяць, але і пэўная светапоглядная сталасць, якая прыходзіць з узростам і вопытам.

Спрыяльная грамадская атмасфера, якая склалася ў сярэдзіне 50—60-х гадоў у краіне, у значнай ступені паскарала гэтыя працэсы творчага ўзмужнення, надавала творчаму пошуку крылы, і пакаленне Адамовіча ахвотна і паспяхова выкарыстоўвала гэтую акалічнасць. Сам час, калі павялічыўся попыт на жыццёвую праўду, уздымаў тагачасных паэтаў і празаікаў на вышыню, з якой добра бачылася мастацкая значнасць пройдзенага жыццёвага шляху, адбываўся стыхійны адбор галоўнага і другараднага і адначасова свядомае творчае асэнсаванне мінулага. «Пісьменніку, — рабіў вывад Адамовіч, — мала звычайнай памяці назіральніка, яму патрэбна яшчэ і вялікая «памяць сэрца», а яе не бывае ў таго, хто толькі «вывучае жыццё», але не жыве адным жыццём з народам».

Час «адлігі» ў краіне адпавядаў маладосці «шасцідзясятнікаў», сярод якіх вылучаліся Максім Танк, Янка Брыль, Пімен Панчанка, Іван Шамякін. Алесь Адамовіч у параўнанні з імі наогул выглядаў маладым, яму ў тыя гады было нават не трыццаць. Ён любіў падарожнічаць: разам з паэтам і перакладчыкам Н. Кіслікам прайшоў па Волзе «ад вытокаў і да вусця», па шляхах свайго папярэдніка М. Горкага. Летам 1956-га, у 1959 і 1960 гг. удзельнічаў у паездках «вакол Еўропы» і «па Дунаі» — першых пасля «культу асобы» калектыўных вандроўках беларускіх пісьменнікаў за мяжу, пра што шмат згадак у іх успамінах. Так выявіла сябе агульная для таго перыяду тэндэнцыя да «адкрыцця рэчаіснасці» ва ўсёй яе жыццёвай шматстайнасці, да пашырэння інфармацыйнага поля, а ў самога Адамовіча яшчэ і імкненне максімальна выкарыстаць час, адпушчаны лёсам для таго, каб «даследаваць і выпрабаваць мудрасцю ўсё, што робіцца пад небам» (Адамовіч любіў Кнігу Эклезіяста, з якой узятыя гэтыя словы). Яго жыццё, па сутнасці, прайшло ў бясконцых паездках, падарожжах, экскурсіях па прасторах былога Савецкага Саюза, а пазней і па ўсіх кантынентах.

У 1958 г. з друку выйшла першая кніга А. Адамовіча, літаратуразнаўчае даследаванне «Шлях да майстэрства», у аснову якога легла вывучэнне працэсу станаўлення мастацкага стылю Кузьмы Чорнага. У 1959 г. пабачыў свет зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў «Культура творчасці». У 1961 г. была надрукавана навуковая манаграфія «Беларускі раман», на аснове якой аўтар праз год абараніў доктарскую дысертацыю (абарона адбывалася ў Кіеве, у Інстытуце літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі АН УССР, — у Мінску «ўплывовыя» літаратары «гразіліся» не дапусціць абароны. Так пачалося «выцясненне» А. Адамовіча за межы Беларусі). Гэтыя кнігі мелі шмат зычлівых водгукаў у друку і занялі сваё месца ў гісторыі змагання беларускіх літаратуразнаўцаў з вульгарна-сацыялагічнымі стэрэатыпамі і дагматычным мысленнем (навуковая манаграфія «Становление жанра: Белорусский роман» была перакладзена на рускую мову і надрукавана ў Маскве ў 1964 г.).

Сам А. Адамовіч у шэрагу навукова-тэарэтычных артыкулаў шматразова падкрэсліваў выключнае значэнне беларускага творчага руху, які выяўляў сябе ў вучобе пісьменніка ў класікаў, у неабходнасці вялікага пачуцця грамадскага абавязку перад народам, у ролі літаратурнай крытыкі і акадэмічнай навукі ў развіцці эстэтычнага густу, адчуванні харавства літаратурнага твора, вымярэнні мастацкай глыбіні, ідэйна-мастацкіх вартасцей літаратуры, у багацці творчых індывідуальнасцей.

У 1961 г. доктар філалагічных навук А. Адамовіч нечакана для многіх замест працы ў літаратуры стаў слухачом Вышэйшых сцэнарных курсаў у Маскве. Адначасова ён ставіў разам з кінарэжысёрам В. Туравым двухсерыйны фільм паводле раманаў «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой». Аўтар і выканаўца песень — У. Высоцкі. Выкладаў два гады беларускую літаратуру ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце.

У 1966 г. апублікаваў аповесць «Вікторыя» (у часопісным варыянце «Асія», на рускай і беларускай мовах, перакладчык на беларускую — М. Стральцоў), дзе зрабіў спробу выйсці за межы аўтабіяграфізму і стварыць вобраз інтэлектуала-«шасцідзясятніка», які змагаецца з неасталіністамі за сцвярджэнне дэмакратычных ідэалаў у грамадстве.

У гэты ж час ён адмовіўся падпісаць ліст з асуджэннем А. Сіняўскага і Ю. Даніэля, маскоўскіх літаратараў-дысідэнтаў, якіх судзілі за «антысавецкую дзейнасць». У выніку быў вымушаны пакінуць Маскву і вярнуцца ў Мінск, дзе меў «пастаянную прапіску». З дапамогай народнага пісьменніка А. Макаёнка з цяжкасцю ўладкаваўся на працу ў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР старшым навуковым супрацоўнікам.

Прымаў актыўны ўдзел у працы «рэфарматарскага» V з'езда Саюза пісьменнікаў БССР, дзе адбылося драматычнае сутыкненне «шасцідзясятнікаў» з «неасталіністамі», якое завяршылася пераабраннем старшыні і сакратарыяту тагачаснага праўлення Саюза пісьменнікаў.

У 1968 г. па сцэнарыі А. Адамовіча кінарэжысёр І. Калоўскі паставіў дакументальны фільм «Хатынь, 4 кіламетры», з якога пачаўся новы этап у падыходзе пісьменніка да ваеннай тэмы: на змену «гераізацыі» прыйшла «трагедыйнасць» у паказе мінулага.

Паводле яго ўласнага вызначэння, «вярнуўся смак да паўнаважкага слова, але не ранейшага, лішне кампанейскага, акружанага шумным, жывапісным і неабавязковым натоўпам сяброў-слоў, а да слова-ўчынку, слова-дзеяння». Менавіта такой мовай пісалася аповесць «Апошні адпачынак», апублікаваная ў часопісе «Дружба народаў» (1969). Яна сведчыла пра тое, што празаік знаходзіўся ў творчым пошуку. Гэтым тлумачыцца яго зварот да сучаснай тэмы, да праблем асабістага жыцця персанажаў і адначасова агульначалавечых калізій XX ст., сярод якіх асаблівае месца займае пагроза смяротнай хваробы — раку.

У перапісцы А. Адамовіча з В. Быкавым у 60-я гады — лісты штораз прыходзілі ад аднаго да другога з розных мясцін: кожны з іх звычайна знаходзіўся там, дзе іх спасцігала чарговая справа, — Мінск, Гродна, Масква, Ленінград, Ялта, Кактэбель... Часцей за ўсё перапіска нагадвала паштовыя тэлеграмы, дзе пераважаў гумар. Куды радзей дасылаліся досыць шматслоўныя і надзвычай глыбокія і сур'ёзныя тэксты і развагі, калі ўзнікала нечаканая праблема ў гутарцы пра тэрмінова прачытаныя новыя творы, якія вымагалі то ў аднаго, то ў другога пільную патрэбу выказацца, у асобных дадатках згадваліся найбольш яркія імёны і літаратурна-творчыя праблемы. Часцей за ўсё ёмістыя гутаркі адбываліся ў час сяброўскага наведвання адзін аднаго, у пераважнай большасці гэта былі сямейныя пасядзелкі, якія вымагалі часу...

Як, напрыклад, сустрэчы-гутаркі Алеся Адамовіча з Васілём Быкавым, якія запісваліся на магнітафон. Адбылося тры сустрэчы: першая ў кватэры Быкавых, другая і трэцяя — у Адамовічаў. Алесь Адамовіч — аўтар-складальнік двух альбомаў-даведнікаў «Сказ пра Івана Мележа» (1984) і «Васіль Быкаў» (1986). У размовах з Мележам пераважалі выказванні вядомых і блізкіх яму пісьменнікаў Васіля Віткі, Веры Палтаран, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Алены Васілевіч, Ніла Гілевіча, сямейнікаў, блізкіх... У сустрэчах і гутарках з Васілём Быкавым ён звычайна задаваў кароткія пытанні, часам удакладаненні, на якія суразмоўца грунтоўна адказваў...

Вось асобныя ўрыўкі з пісьма В. Быкава ад 29.9.1968 года (напісаныя на рускай мове, як і папярэднія, — у аўтарскім перакладзе на беларускую): «Цяпер

пра твае зусім неабгрунтаваныя стогны адносна самога сябе. Чаго табе не стае — гэтага я не разумею і не згаджаюся з табой зусім. Ты, як ніхто іншы з мне вядомых, моцны менавіта рэчыўнасцю, псіхалагічнай выразнасцю, дакладнасцю, глыбінёй характарыстык. Я дасюль помню многія твае сцэны, эпізоды, розныя дробязі, дэталі, якіх і ў рамане, і ў аповесцях цьма і якія мяне проста ўражвалі пры чытанні. Акрамя таго, колькі там думак — кароткіх, сціслых, значных для нашага часу! Іншая справа, што ў аповесцях ты бярэш некалькі камерных, інтымных тэм (як і ў «Вікторыі»), але і за гэтай інтымнасцю хаваецца вялікая грамадская праблематычнасць. Зноў жа нават і там ты, калі ўжо прарываешся ў мінулае, дык гэта прарыў на мяжы шэдэўра (у той жа «Вікторыі»). Саша, я табе не дагаджаю, яй богу, няма ў гэтым патрэбы, але я хачу, каб ты цалкам выкінуў з галавы ўсякае дурное самаедства і ведаў, што талент твой сапраўдны, вялікі і ў той жа час тонкі, а галоўнае, дужа разумны, чаго ў нас, у Беларусі, не хапае многім (м. б., за выключэннем Брыля). І ўсё, табой апісанае, цудоўнае: і раманы, і аповесці, і калі нечага ў іх не ацанілі па вартасці, то ў гэтым тваёй віны няма, а пракляцце нашага халопскага часу. Мабыць, ты пайшоў наперад і далей, і яшчэ не надышоў твой час. А потым ты ж ведаеш, што папулярнасць, шумны поспех — зусім не паказчык вартасці пісьменніка. Шамякін, вядома, папулярней за цябе, ды і Брыля, але хіба гэта што-небудзь азначае? Мне асабіста хочацца, каб ты пісаў больш (у гэтай сувязі я не магу адобрыць тваёй сувязі-валакіты з кіно /здымкі фільма з В. Туравым/ <…>). Не ведаю як хто, я ж проста адчуваю ў сучаснай нашай літаратуры тваю даўгаватую адсутнасць, таму, мусіць, што тваё месца няма каму заняць, акрамя цябе. Упэўнены, што напісанае табой будзе гэтак жа выдатна, як і ранейшае. І няхай цябе не бянтэжаць розныя развагі, у тым ліку і пэўныя адносіны да тваіх рэчаў «Нового мира». Я думаю, што прычынай таму выключна тэматыка тваіх рэчаў (аповесцей), якая, м. б., не зусім кладзецца на душу ў многім кансерватыўнага і суб’ектыўнага А. Тв. Тое ж атрымалася і з бондараўскімі «Родственниками» і нават з бакланаўскім «Июнем 41». Па-мойму, усякаму відавочна, што пазіцыя «Н. М.» у гэтым пытанні — яго крайнасць і агранічанасць. А потым, ці варта шкадаваць па «Н. М.», які вольна ці нявольна, але ўмее нявечыць і ламаць творы, якія ў ім друкуюцца, не горш, калі не лепш за многія другія часопісы. Як гэта яны зрабілі з маёй аповесцю, у сэнсе якой не могуць разабрацца цяпер нават выдатныя пісьменнікі-франтавікі, як, напрыклад, А. Астаф’еў. Але што ж, хто застрахаваны ад няўдачы? Што ж датычыца мяне, то я імкнуся, калі пішу, толькі данесці ў магчымай для мяне эстэтычнай ступені маю думку, ідэю, зусім не клапоцячыся пра тое, як гэта будзе расцэнена. Адзінае, чаго мне хочацца, — гэта быць надрукаваным, без чаго, як вядома, літаратурны факт не можа лічыцца як той, што адбыўся. Але і гэта з кожным годам становіцца ўсё больш цяжкой справай. Мабыць, прыйдзе (калі ўжо не прыйшоў) час пісаць у стол, працаваць на заўтра. А там будзе відаць. Але ж мы беларусы, а значыць, баягузы і лянівыя, да таго ж самалюбныя — нам падавай канчатковы вынік. У гэтым, каюся, грэшны і я. У стале пуста. Дык вось, Саша, я яшчэ раз хачу прасіць цябе: не смей і думаць нават, што табе чаго-небудзь не хапае — у цябе даволі ўсяго. Ты — сумленны глыбокі мысляр, ты — выдатны мастак. МАСТАК, ты чуеш гэта? Хіба гэтага мала для аднаго чалавека ў наш бяздумны меркантыльны век? І ўсім гэтым пазначаны ўсе твае творы — павер, з боку гэта выдатна бачна. Няхай яны, м. б., не ў традыцыях беларускай прозы, ну і што ж? Затое цалкам у традыцыях сучаснай сусветнай прозы, і цалкам на еўрапейскім узроўні. І не лічы, калі ласка, што ў цябе горш, чым у Друцэ (я ведаю, ты яго вельмі высока цэніш, ён заслугоўвае гэтага, але для мяне зусім ясна, што ты ў такім выпадку заслугоўваеш яшчэ большага). Проста вы розныя, у вас розны матэрыял, і згадзіся, што працаваць на традыцыйным для літаратуры матэрыяле сялянскай вёскі непараўнальна лягчэй, чым, напрыклад, на матэрыяле сучаснай моладзі. Таму там суцэльныя поспехі ў плыні многіх дзесяцігоддзяў на ўсім гэтым фронце: ад Лупсякова да

Мележа — паўсюль удачы ў паказе і выяўленні мужыка-недацёпы і кулака-заграбальніка. Але дзе інтэлектуальны раман, які даўно ўжо квітнее на Захадзе? Яго няма ў нас, і пачынаеш яго некаторым чынам ты. Вядома, гэта цяжка, але, відно, што неабходна. У гэтым заўтра ўсякай літаратуры, у т. л. і беларускай. Сартр казаў, я сам чуў, што экзістэнцыялізм — тое самае значнае, што ўзбройвае літаратуру будучыні. Табе ён бліжэй, чым каму б тое ні было ў нас. Прабач, калі ласка, за такія непатрэбныя, м. б., для цябе павучанні, проста мяне закранула адна твая фраза ў пісьме, і я вырашыў таму выказацца. І яшчэ хачу дадаць да гэтага, што я даўно і вельмі паверыў у цябе і таму не пацярплю, калі хто-небудзь, хаця б і ты сам, будзеш раскалыхваць ва мне гэтую веру».

Паралельна з працай над мастацкімі творамі А. Адамовіч актыўна даследаваў актуальныя праблемы беларускай літаратурнай навукі. Тут ён выходзіў, разам з іншымі калегамі па цэху, да новага, больш глыбокага разумення прыроды мастацкай творчасці, сцвярджаў, у прыватнасці, вялікія магчымасці параўнальна-гістарычнага і тыпалагічнага метадаў. Навукова-даследчыя кнігі Алеся Адамовіча мелі шмат зычлівых водгукаў у друку і занялі сваё месца ў гісторыі змагання беларускіх літаратуразнаўцаў з вульгарна-сацыялагічнымі стэрэатыпамі і дагматычным мысленнем.

У выніку ў часопісе «Полымя» з'явілася серыя літаратуразнаўчых артыкулаў А. Адамовіча пад агульнай назвай «Шырыня пісьменніцкага свету», якія пазней выйшлі ў свет асобным выданнем пад назвай «Маштабнасць прозы: Урокі творчасці Кузьмы Чорнага» (1972). Публікацыя выклікала негатыўную рэакцыю з боку «артадаксальнага марксіста» А. Карлюка, які ацаніў спробу даследчыка паставіць творчасць Чорнага ў кантэкст сусветнай літаратуры, супаставіць яе з ідэйнымі пошукамі Ф. Дастаеўскага, А. Камю, Ж.-П. Сартра як саступку «ідэалагічнаму праціўніку». Аўтар публікацыі нават не палічыў патрэбным дачакацца, калі будзе надрукаваны заключны раздзел серыі артыкулаў А. Адамовіча пад назвай «Праблема: Кузьма Чорны і Дастаеўскі», дзе вырашалася менавіта праблема экзістэнцыялізму, які прафесар А. Карлюк залічыў да «субъективно-идеалистической философии», у якой «на все лады варьируется одна и та же тема: «личность и ситуация». Отношение критика А. Адамовича к этой философии и выражающей ее идее литературе вызывает по меньшей мере удивление».

«Удивление» А. Адамовіча, які аператыўна напісаў «Адказ прафесару К.», выклікала, што філосафу і ў галаву не прыходзіла, што, «каб мець маральнае права ўмяшацца ў канкрэтную навуку, абавязаны ўсур'ёз углыбіцца ў яе факты, праблемы, унутраныя законы, павінен валодаць не толькі «баявітасцю», «кусучасцю», але і канкрэтнымі ведамі. Зусім у духу таго часу сабе яны пакідалі права прыдумваць любыя абвінавачванні, паколькі даказваць, прыводзіць факты і г. д. — гэта ўжо прывілея (калі яму пажадана) таго, на кім спыніўся строгі позірк такога «філосафа». Дзякуй богу, за апошнія гады з'явіліся ў нас і сапраўдныя філосафы-знаўцы і канкрэтных навук, якія ўсведамляюць, што з універсальнай адмычкай у навуцы няма чаго рабіць, што такая патрэбна больш каля касы». Артыкулы А. Адамовіча прафесар К. пускае па графе: «Когда утрачивается классовое чутье...» Да якой дадаецца асобна: «По поводу статьи А. Адамовича в журнале «Полымя». Інакш кажучы: «Остановимся только на принципиальных философских положениях, выдвинутых А. Адамовичем».

Алесь Адамовіч не ўпершыню пісаў свае артыкулы са свядомай устаноўкай на дыскусійнасць тых ці іншых палажэнняў і вывадаў. Што датычыцца серыі артыкулаў, прысвечаных не толькі творчасці Кузьмы Чорнага, але і развагам пра чалавека асобна і чалавецтва наогул: «Мы занадта прывыклі бачыць сваю літаратуру ў адной толькі якасці, з якой яна з'явілася на свет: як яна апавядае свету, што такое беларус, беларускі край, беларуская гісторыя і г. д. А між тым, сталая літаратура (якой ужо даўно стала літаратура беларуская), апавядаючы свету, чалавецтву пра свой народ, край, адначасова адкрывае людзям праўду аб самім

чалавецтве, аб планеце людзей... Права гаварыць ад імя чалавецтва і звяртацца да ўсёй планеты народ наш заплаціў дарагой цаной. І літаратура наша проста абавязана гэтым правам карыстацца, гаварыць сваё слова не толькі пра свой край, але ўсур’ёз — і аб самім чалавецтве, аб планеце людзей».

Алесь Адамовіч працягнуў размову ў артыкуле «Ці трэба баяцца «чужых» класікаў?» І наогул ці шмат у нас, беларусаў, адмоўных рэцэнзій, «рэзка крытычных»? Ёсць, але не шмат, а дакладней — зусім мала. Ці азначае гэта, што ўсё, што друкуецца, вартае пахвалы? «Кепскія творы, шэрыя і неталенавітыя, калі яны адолелі перашкоды часопісныя, выдавецкія, усё ж падвяргаюцца нашай крытыцы. Але я назваў бы яе «крытыкай замоўчвання». Проста не заўважаем, не называем, нібыта і не існуюць гэтыя аўтары, гэтыя творы. Вядома, яе можна і нават варта раскрытыкаваць — такую крытыку. Мы ігнаруем шэрую, неталенавітую літаратуру, а ёй гэта, магчыма, і патрэбна. Гэтага толькі і хочацца. Каб яе не заўважалі, каб ігнаравалі. Яна не ганарыстая». Але надыходзіць час, і аўтар, якога задавальняе такое становішча, пачынае выяўляць нецярпенне, становіцца зусім крыўдлівым. Ні аўтара, ні крытыка. Аўтар надрукаваў каля дзясятка апавяданняў, нават не адну аповесць, а крытыцы ўсё роўна, ці ёсць пісьменнік, ці няма яго ў літаратуры. Ужо пасаду атрымаў у часопісе, больш таго, вырашае лёс іншых аўтараў... А цярплівасці не стае! Тады аўтар сам піша вялікі артыкул... пра добры раман і добрага аўтара, а заадно і пра становішча ў сучаснай беларускай літаратуры... і пра крытыку... Назва артыкула: «Крокі да вялікай кнігі»! Чаму не напісаць? Старанна піша — пераказвае змест рамана, ягоны сюжэт: «...сцэна за сцэнай, вобраз за вобразам, падрабязна, апісальна, без якіх-небудзь адкрыццяў, сур’ёзных думак — малацікавых для тых, хто чытаў...» Назва аўтара?.. Бог з ім!

Больш цікава чытаць абзацы пра крытыку ў артыкуле. «Пішу так і, здаецца, чую знаёмы голас крытыка: стоп, стоп! Як гэта так, што пісьменнік мае толькі свой жыццёвы матэрыял, свае філасофскія і эстэтычныя погляды, «улівае» ў сваю памяць народную памяць, і яго творы растуць, як каласы на сваёй нацыянальнай глебе? А ўплывы? А Заля? А Дастаеўскі? Талстой? Шолахаў? Некаторыя крытыкі схіляюцца да такога падыходу ў ацэнцы з’яў літаратуры, у прагнозе яе далейшых шляхоў: «Чорны пайшоў» ад Дастаеўскага і Заля, «Палеская хроніка» — сястра «Ціхага Дона»...» І высновa А. Адамовіча «Невясёлых гульняў»: «Бадай што, толькі ў раздражнёнай свядомасці аўтара артыкула такія крытыкі з такімі поглядамі і існуюць... Тым, хто «пакрыўдзіўся» б за Дастаеўскага (як N. за Чорнага і літаратуру беларускую) можна было б нагадаць словы самога Дастаеўскага: «Вось ён ставіць мне ў віну, што я эксплуатую вялікія ідэі сусветных геніяў. Чым гэта кепска? Чым кепска спачуванне да вялікага мінулага чалавецтва? Не, шаноўныя мае, сапраўдны пісьменнік — не карова, якая пераЖоўвае травяную жвачку штодзённасці, а тыгр, які паядае і карову, і тое, што яна праглынула».

Ці не выдумка нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў гэта праблема? Дык патрэбныя ці не патрэбныя нам і нашым класікам «чужыя» класікі? — спытаў сам сябе і сваіх чытачоў А. Адамовіч. Павінныя ці не павінныя, мае ці не мае права беларуская крытыка «падсвечваць» беларускую літаратуру, калі вывучае яе, на ўсю шырыню, усур’ёз, іншымі літаратурамі, разглядаць беларускія творы ў «сілавым полі» іншых літаратур, сусветнай літаратуры? Класікі арыентаваліся не на «правінцыяльнае зазнайства», а «на смелы выхад на скрыжаванні вялікіх літаратур», дзе яны паглыбляюцца «ў сваё, нацыянальнае, узброіўшыся вялікай, і не толькі нацыянальна-беларускай, культурай чалавеказнаўства».

Кузьма Чорны — стваральнік беларускага эпічнага рамана — распрацоўваў, паводле заключэння А. Адамовіча, — план «пабудаваць, стварыць закончаны свет беларускага жыцця-быцця. Гістарычнага, сацыяльнага, псіхалагічнага, інтэлектуальнага. Па гарызанталі — гісторыя і быт беларускага народа, па вертыкалі — філасофія чалавечага існавання на зямлі. Беларускае і агульначалавечае ў арганічным, у мастацкім адзінстве, сінтэзе. І ён шмат, незвычайна многа паспеў,

змог за сваё нядоўгае жыццё. Пасля яго апавяданняў і п’ес, аповесцей і раманаў зрабілася неяк прасторней у літаратуры беларускай, лягчэй стала дыхаць і літаратуры, і мове нашай паветрам гісторыі. І сучаснасці паветрам. Кубатура лёгкіх нашых як быццам стала большай, адразу павялічылася. Як пасля Купалы і Коласа павялічылася. Пасля Гарэцкага. А зусім нядаўна — пасля «Палескай хронікі» Мележа...» І яшчэ наўздагон — Адамовічава: «Ён, як ніхто другі ў нас, свядома і мэтанакіравана ішоў, выходзіў ад «свайго» абавязкова да «ўсеагульнага», ад лёсу беларуса да лёсу чалавека і чалавецтва… Таму што, як казаў, пісаў Кузьма Чорны, беларус-селянін (той жа цімкавец) — гэта чалавек, у якім кожны, «хто мае вочы, убачыць і знойдзе і Эжэні Грандэ, і Івана Карамазава, і Андрэя Балконскага...» Не заўважаць гэтага — значыць прыніжаць Чорнага да правінцыйнага ўзроўню, а любы правінцыялізм яму заўсёды быў чужы, абражаў у ім пачуццё нацыянальнага гонару».

Алесь Адамовіч, адштурхоўваючыся ад адкрыцця сапраўднага, рэальнага, захопленага чытаннем сусветнай літаратуры Кузьмы Чорнага, значна пашыраў прастору часу, а разам з ім беларускія, і рускія, і ўкраінскія, і малдаўскія, і каўказскія, і сярэднеазіяцкія «шасцідзясятнікі»: «Дык якую ж «таямніцу» нашы класікі нам пакінулі? Якія гістарычныя мэты, задачы, імі пачатыя, працягваць нам? Ва ўмовах канца XX стагоддзя. Калі над усім лунаюць аграмадныя надзеі, але і пагрозы, небяспека найвелізарнейшая. І надзеі тыя, і пагрозы — агульныя для ўсяго чалавецтва. А таму і для нашай літаратуры яны свае, а не нечыя. Як свае яны Быкаву, напрыклад, сусветныя праблемы вайны, міру, сапраўднай чалавечнасці».

Новы падыход А. Адамовіча да паказу рэчаіснасці, калі ўспаміны пра мінулае, думкі пра сучаснасць і спроба прагнозаў на будучыню зліваюцца ў адно жывое цэлае мастацкага твора, выявіла творчая задума «Хатынскай аповесці» (1970), апублікаванай у часопісах «Дружба народов» (з якім А. Адамовіч супрацоўнічаў да канца сваіх дзён, была таксама прапанова ад часопіса «Новый мир» і ад яго галоўнага рэдактара Аляксандра Твардоўскага) і «Маладосць» (на беларускую мову пераклалі М. Стральцоў і М. Тычына; апошні — другую частку аповесці). З аднаго боку, празаік імкнецца як мага дакладней перадаць эмацыянальны напал гістарычных падзей, на многіх старонках твора ўступаючы ў адкрытае спаборніцтва з самімі дакументамі, з успамінамі відавочцаў, а з другога боку — спроба філасофска-мастацкага асэнсавання падзей XX ст. «Хатынская аповесць» мела добрую прэсу. А. Адамовіч стаў Лаўрэатам прэміі Міністэрства абароны СССР (1974) і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1976).

Узлёты чалавечага духу цікавілі не толькі Адамовіча-мастака, але і Адамовіча-даследчыка роднай літаратуры. Ён раптоўна для самога сябе адкрыў менавіта з гэтага боку Кузьму Чорнага, пра якога ўжо не раз пісаў раней (кніга «Маштабнасць прозы»). Паставіўшы творчасць лепшых беларускіх празаікаў Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Васіля Быкава, Янкі Брыля, Віктара Казько ў шырокі кантэкст сусветнай літаратуры, Адамовіч пераканаўча прадэманстраваў вялікія мастацкія і філасофскія магчымасці нацыянальнай літаратуры і прыйшоў да лагічных пытанняў пра перспектывы эстэтычнага руху: «А што там, далей?», «Ці адэкватная рэакцыя?», «Як быць геніяльным?», «Калі не мы, дык хто ж?» Так называліся публіцыстычна-эўрыстычныя, філасофска-эстэтычныя артыкулы пісьменніка, які шукаў адказ на адвечнае пытанне: «Што рабіць?»

І адказ яго быў, на першы погляд, парадаксальны: «Ну дык рабіце звышлітаратуру!» Слова пра «звышлітаратуру» — са спрэчкі з сябрам-пісьменнікам. Не можа, нібыта, літаратура, тым больш рэалістычная літаратура, пісаць пра тое, чаго не было. А гэтага, паводле ўспамінаў А. Адамовіча пра размову-спрэчку з «сябрам-пісьменнікам», а менавіта — трэцяй сусветнай вайны — сапраўды і, дзякуй богу, не было: «Так, але ж ужо былі Хірасіма, Нагасакі... І што значыць: літаратура не можа? Ну дык рабіце з в ы ш л і т а р а т у р у! Але рабіце, рабіце!»

Гэты тэзіс выклікаў у многіх літаратараў неразуменне і рэзкае непрыняццe. Найбольш глыбокія даследчыкі, уважлівыя да зместу, а не формы выказвання, такія, як бліскучы рускі крытык Ігар Дзядкоў, паспрабавалі належным чынам ацаніць Адамовічаву думку: «Звышлітаратура, да якой заклікаў Адамовіч, мабыць, утопія, але гэтым пісьменнікам добра зразумета, што без новага мыслення і новай пачуццёвасці чалавек, магчыма, і вытрывае, але не пераможа. Магчыма, звышлітаратура — гэта браць ношу як мага цяжэйшую?..»

Мастацкае апавяданне ў «Хатынскай аповесці» раз-пораз перапыняецца ўстаўкамі з дакументальных запісаў у кнізе «Я з вогненай вёскі...», зробленых Алесем Адамовічам і яго сябрамі па пяры, па змаганні ў гады вайны Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам. Чытач мог лёгка пераканацца ў тым, што вобразнае слова годна вытрымлівае канкурэнцыю з гістарычным дакументам, а мастацкая літаратура і ў новых акалічнасцях не страціла сваёй пераканаўчасці. На аповесць А. Адамовіча адгукнуўся В. Быкаў: «Толькі што прачытаў тваю “Хатынскую аповесць” і цалкам яшчэ ў яе палоне, пад яе ўладным, салодкім і цяжкім уражаннем. Аповесць выдатная, я проста не ведаю, з чым яе можна паставіць побач. У нас, прынамсі, пра партызанаў так не пісалі — ты першы. Хаця і папярэдняя твая кніга цалкам добрая, але гэта — нешта асаблівае. Гэты герой твой і яго адысея, карова ў ночы, статак пабітых кароў, спаленне людзей, палонныя карнікі, гэты твой бой па кругу — нешта апакаліпсічнае, не менш. Мноства цудоўных дэталей, дакладна перададзеных станаў. А якія вобразы!

Цудоўная ва ўсіх адносінах аповесць.

Як на мой густ, дык я б падрэзаў сцэны сённяшняга, але, я разумею, яны патрэбны для асэнсавання, для публіцыстыкі. І публіцыстыка гэтая высокага гатунку — разумна, чэсна, тонка.

І яшчэ назва. Назва ў цябе наогул не зіхціць ні навізной, ні густам — тут таксама. Само слова «Хатынь» занадта ўжо захапанае, няновае, нешта ў ім ад афіцыйнай тэрміналогіі. А ў цябе ж такая свежая, новая, шматфарбная рэч... Я б назваў інакш. Не ведаю як, але інакш.

І яшчэ — шкада, што яна ў «Дружбе народов», а, скажам, не ў «Новом мире», які б яна ўпрыгожыла, несумненна. Але што ў «Маладосці» — добра. Няхай! Пераклад добры, цалкам беларуская рэч. Ніхто не ўсумніцца. Спадзяюся, што па-руску яна гучыць яшчэ лепш. Хаця і па-беларуску прыгожа. Тыя, хто цябе папракалі ў адступніцтве ад нацыянальнага, цяпер будуць задаволеныя.

Я вельмі рады, што ты напісаў гэтую рэч, асабліва пасля дзвюх тваіх апошніх аповесцей, якія не ўсім падабаліся. Думаю, што гэтая спадабаецца ўсім. Ды і не можа яна не спадабацца — хіба што якому-небудзь ідыёту.

Словам, я вельмі рады за цябе, віншую, крыху па-добраму зайздрошчу. Цяпер, сябра, калі ты яшчэ пачнеш хоць крыху піць, то сапраўды табе не будзе цаны, як сказаў К. (Навум Кіслік. — *М. Т.*)».

На працягу 1970—1973 гг. А. Адамовіч разам з Я. Брылём і У. Калеснікам аб’ехалі, абкалясілі з магнітафонам і фотаапаратам усю Беларусь, пабывалі ў сотнях спаленых вёсак, апыталі і запісалі больш за трыста сведкаў ваеннай трагедыі, апавяданні якіх леглі ў аснову дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі...» (1975). Раздзелы з кнігі друкаваліся ў многіх газетах і часопісах («Маладосць», «Октябрь» і інш.). Перакладзеная на многія замежныя мовы, кніга стала літаратурным бестселерам. Паказальным быў пачатак рэцэнзіі рускага літаратуразнаўцы М. Кузняцова, які пісаў у газеце «Комсомольская правда»: «Страшней за гэту кнігу я не ведаю...» Сустракаліся ў іншых водгуках і такія словы: «Гэта кніга не магла не з’явіцца...» Аднак адзін з яе аўтараў А. Адамовіч на фактах даводзіў, што гэта далёка не так і што сам ён, як і яго сябры па пяры Я. Брыль і У. Калеснік, не адразу прыйшлі да пераканання ў неабходнасці менавіта такой калектыўнай кнігі-памяці.

«Я з вогненай вёскі...» падвяла рысу пад цэлым этапам літаратурнага развіцця і абудзіла ў грамадстве імкненне ведаць усю праўду пра вайну і пра чалавека

на вайне, якой бы жахлівай яна ні была. Выдатнымі пісьменнікамі рухала думка пра тое, што няўмольны час вельмі хутка «вымывае» з народнай памяці страшныя веды пра вайну, якой яна была для беларусаў і якой яе не ведаў цывілізаваны свет. Проста паміралі апошнія сведкі гэтай трагедыі, якія цудам выратаваліся ад немінучай пагібелі, нібыта дзеля таго, каб расказаць праўду нашчадкам і народам свету.

Навуковая праца А. Адамовіча «Здалёк і зблізку. Беларуская проза на літаратурнай планеце» (1976), асноўная частка якой выканана ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, так і пачыналася з галоўнай ідэі: «Гэта было бадай то заўсёды — тая ці іншая ступень узаемнай сувязі літаратурнага развіцця любой краіны, народа са знешнім светам».

У артыкуле «Талстоўскі крок» А. Адамовіч шырока разгортвае сваю задуму, пра тое сведчаць імёны беларускіх класікаў у наступных раздзелах: «Аднак свет людзей не заўсёды ўсведамляў сябе як чалавецтва, сваю гісторыю — як частку ўсеагульнай, сваю будучыню — звязанай з будучыняй другіх народаў і краін, — адным словам, наша планета вельмі адрозніваецца ад той, якой яе ўяўлялі старажытныя. Само паняцце «сусветная літаратура» ўзнікла параўнальна нядаўна (недзе ў XVIII стагоддзі), але ж і рэалізм літаратуры існаваў задоўга да таго, як ён быў яскрава ўсвядомлены і тэарэтычна асэнсаваны і названы. Паняцце «сусветная літаратура» ўзнікла ў выніку таго, што людзі пасля тысячагоддзяў існавання адасобленых цывілізацый і культур пачалі канкрэтней усведамляць, што яны — чалавецтва, пачалі збірацца ў чалавецтва».

Класікі беларускай літаратуры Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны, Мележ, Брыль, Быкаў, закладваючы асновы новай беларускай паэзіі, драматургіі, а потым і прозы, беларускага рамана, — пісаў А. Адамовіч, — «з самага пачатку адчувалі, улічвалі і «фон», і «кантэкст» літаратур суседніх і сусветнай літаратуры ў цэлым». Літаратурныя крытыкі і літаратуразнаўцы сваю беларускую, нацыянальную ўсё больш адчуваюць і бачаць у кантэксце такіх з'яў, як «усесаюзная літаратура», «славянскія літаратуры», «сусветная літаратура». А. Адамовіч рабіў выснову: «Падарожнічае Беларусь — яе партызанская слава, яе трактары, кібернетыка, яе мастацтва... А суправаджае яе «ўласны карэспандэнт» — беларуская літаратура. Адтуль, з-за мяжы, і Беларусь беларускаму пісьменніку бачыцца трохі іначай. Не толькі вачыма беларуса, але і трохі — балгарына, ці серба, ці француза, ці англічаніна... Узнікае, замацоўваецца новае «самапачуццё», светаадчуванне — у самой літаратуры беларускай, паяўляецца ў беларускіх творах, у поглядзе на самую Беларусь тое, што называюць «стэрэаскапічным» бачаннем». На нашых вачах межы «сусветнай літаратуры» бачыліся ў Еўропе. Але ўжо слова «сусветная» ахоплівае абавязкова і Азію, і Афрыку, і Лацінскую Амерыку, і Аўстралію... Ранейшыя межы паняцця «сусветная літаратура» пашыраюцца.

Алесь Адамовіч мае на ўвазе не толькі працэс сучаснага актыўнага збліжэння нацыянальных культур, але і тое, што паняцце «чалавецтва» матэрыялізуецца ў новых умовах, калі «сваё і чужое, нацыянальнае і сусветнае на літаратурнай планеце паўстае па-новаму не толькі ў параўнанні са старажытным светам, але і з нядаўнім, літаральна ўчарашнім днём», наогул «у наяўнасці небывалае ў ранейшыя часы збліжэнне: вось якой абжытай становіцца і літаратурная планета! Гэта з аднаго боку — збліжэнне. З другога боку — адштурхоўванне, палярызацыя, ідэалагічная, эстэтычная, гэта немінуча ва ўмовах сучаснага спаборніцтва сацыяльных сістэм, ва ўмовах несціханай ідэалагічнай барацьбы». Сусветная літаратура так і развіваецца: адразу ў двух напрамках. Адзін — «калі паяўляюцца і адразу набываюць сусветную значнасць новыя творы». Другі — «вяртаючыся ў мінулае, такія каштоўнасці адкрываюць у запасніках, ці нарэшце «рукі даходзяць», ці ўзнікае запозненая, але вострая і ўсеагульная цікавасць да таго, што створана даўно... У цэлым 50—60-я гады былі для беларускай прозы ў сэнсе яе выхаду за межы Беларусі вельмі плённыя».

З «Анкетай» А. Адамовіч звярнуўся да пісьменнікаў. Брыль, Быкаў, Лобан, Мележ далі свае адказы, якія шмат у чым супадалі. На пытанне «Якія два-тры пісьменнікі сусветнай літаратуры ідуць з Вамі праз усё творчае жыццё? Чаму?» — адказалі: Янка Брыль: «Талстой і Чэхаў. Глыбіня агульначалавечага зместу і мастацкая дасканаласць. А таксама — што вельмі важна — іх чалавечы воблік»; Іван Мележ: «У розныя перыяды жыцця мне спадарожнічалі розныя і многія пісьменнікі. Я паграшыў бы супраць праўды, калі б выбраў двух-трох... Люблю Бальзака і Купалу, Ражэ Мартэн дзю Гара і Кузьму Чорнага, Скота Фіцджэральда і Івана Буніна, і Міхайлу Кацюбінскага. Нязменна — Льва Талстога, Міхаіла Шолахава (асабліва «Ціхі Дон»), Аляксандра Фадзеева (асабліва «Разгром»). Схіляюся перад магутным талентам Дастаеўскага. Ганаруся, што карэньчыкі яго — у нашым Палессі»; Васіль Быкаў: «Два-тры — гэта мала. Нават самых лепшых двух-трох недастаткова. Кожны з вялікіх добры па-свойму. У Талстога мяне прыцягвае ўсеабдымнасць і глыбіня жыцця, а таксама чалавечнасць; у Дастаеўскага — яго цікавасць да праклятых бакоў жыцця і да чалавека як біялагічнай істоты; у Чэхава — яго ціхая, сціплая чалавечнасць; у Чорнага — глыбіня і дакладнасць у жывапісанні беларускага мужыка. Хемінгуэй для мяне дарагі перш за ўсё сваёй непрадузятасцю да вайны, якую ён называў вялікім бардаком, і нейкай даверліва-сяброўскай стрыманасцю. Акрамя таго, ёсць сучасныя...»; Мікола Лобан: «Назаву двух: Льва Талстога — найвышэйшае майстэрства ў спалучэнні з вялікай мудрасцю — і Кузьму Чорнага, вялікага майстра паказу душы беларускага селяніна».

Сярод многіх Леў Талстой, яго аўтарытэт, як бачым, прызнаецца і ставіцца асабліва высока беларускімі празаікамі. Робіць свае глыбока прадуманыя высновы і Алесь Адамовіч не толькі як беларускі празік, які пісаў беларускія апавяданні, аповесці, раманы ў большасці сваёй на рускай мове, перакладзеныя на беларускую мову і надрукаваныя амаль адначасова перакладчыкамі ў аўтарскім варыянце, але і як беларускі літаратуразнаўца і літаратурны крытык. «Вартыя высокага прызнання творы, — падводзіў канчатковы вывад А. Адамовіч, — час «суміруе» ў сусветную класіку. Але іншы раз адбываецца большае: «множанне», «узвядзенне ў ступень». Сусветная літаратура не проста павялічылася на Талстога. Яна была «памножана» на Талстога, «узведзена» да Талстога. Эстэтычная «столь» чалавецтва адразу стала іншай...»

Уплыў сусветнай класікі на беларускую прозу сведчыць пра нацыянальную і эстэтычную яе сталасць, яе творчыя магчымасці, моц яе літаратурных традыцый, яе мастацкія кантакты з блізкімі суседнімі і творча сталымі літаратурамі. Сучасная беларуская літаратура, у чым перакананы А. Адамовіч, надзвычай напружаная ў сваіх творчых пошуках: «гэта можна ўявіць як спружыну, адзін канец якой замацаваны недзе «на» фальклоры, «на» народна-паэтычнай традыцыі, а другі імкне за сучаснасцю, за праблемамі, надзеямі і трывогамі сучаснага свету, чалавека. Гэта расцяжэнне не магло б прадаўжацца бясконца, нейкі «канец» абавязкова сарваўся б (і зрываецца ў творчасці менш таленавітых і менш глыбокіх аўтараў), калі б сама глеба народнага жыцця заставался нерухомай, а не ўзнімалася насустрач сучаснасці».

Магчымасці беларускай кампаратывістыкі былі яшчэ раз пацверджаны А. Адамовічам у рамане-даследаванні «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» (1975), прысвечаным творчасці М. Гарэцкага. Жыццё і творчасць класіка была ўпершыню прадстаўлена тут у поўным сваім аб’ёме. Узаемасувязі і ўзаемадзеянні літаратур цікавілі вучонага пастолькі, паколькі садзейнічалі раскрыццю самага галоўнага — эстэтычнай і нацыянальнай сутнасці беларускай літаратуры, якая жыве і развіваецца не ў моры суб’ектыўных выпадковасцей, а ў напружанай атмасферы агульначалавечых дачыненняў, пошукаў, знаходак і страт. Менавіта ў непасрэднай суаднесенасці са з’явамі сусветнай літаратуры літаратура нацыянальная набывала асаблівы сэнс, станавілася сапраўды жыццёвай і неабходнай. На гэтым ярка асветленым экране сусветнага літаратурнага працэсу наглядна выступалі шмат-

лікія раней не заўважаныя мастацкія каштоўнасці беларускай літаратуры як літаратуры, якая расце, сталее, ідучы па шляху паскоранага творчага развіцця.

Даследаванні Адамовіча-літаратуразнаўцы 70-х гадоў — «Маштабнасць прозы» (1972), «Горизонты белорусской прозы» (Масква, 1974), «Здалёк і зблізку. Беларуская проза на літаратурнай планеце» (1976), «Кузьма Чорный. Уроки творчества» (Масква, 1977), «Лев Толстой и белорусская литература: Война и человек» (1978), «Літаратура, мы і час» (1979) — гэта кнігі-роздумы, кнігі-змаганне, аўтар якіх, выступаючы ў ролі і тэарэтыка, і практыка, знаходзіўся ў самым асяродку грамадскіх і літаратурных дыскусій, характэрных для 70-х гг. Ён — мастак, вучоны, крытык, шукальнік ісціны, і яму сапраўды трэба было ведаць, куды ісці ў сваім пошуку далей (так, «А што там, далей?», называўся адзін з артыкулаў-«прагнозаў» Адамовіча).

Яшчэ ў 60-я гады Алесь Адамовіч актыўна распрацоўваў ідэю пра драматызацыю жанру беларускага рамана і пра тое, што толькі такі раман здольны перадаць сапраўдны маштаб падзей XX ст. У 70-я гады ён усё больш настойліва, з уласцівай яму страсцю і паслядоўнасцю, даводзіў калегам-літаратарам неабходнасць мастацка-філасофскага асэнсавання эпохі, пранікнення ў глыбінную сутнасць гісторыі, якая здзяйсняецца на нашых вачах. Як звычайна, сам жа ініцыятар новых падыходаў да паказу жыцця першым і распачынаў ажыццяўляць уласныя праекты.

У нетрах «Хатынскай аповесці» і «Я з вогненнай вёскі...» ужо прысутнічала, нараджалася задума рамана «Карнікі. Радасць нажа, або Жыццеапісанні гіпербарэяў» (1980). «Пасля ўсяго намі пачутага, запісанага, сабранага ў кнізе «Я з вогненнай вёскі... — адзначаў Адамовіч, — нібыта лёгка напісаць яшчэ адну аповесць, раман напісаць. Пра гэта, пра вайну. Толькі навошта? Пасля такіх расказаў, такой праўды! Не хутка адважышся. Аднак тое ж самае, што закрывае шлях, таксама і адкрывае яго — толькі зусім у іншым напрамку... Патрэба зразумець такая ж моцная, як і патрэба даведацца».

Галоўным у новым творы празаіка было пытанне, якое ён неаднаразова чуў у тым ці іншым варыянце ад сваіх апавядальнікаў-відавочцаў хатынскіх трагедый, а менавіта: «Як маглі яны і хто яны, людзі, якія ўсё гэта рабілі?» Раман, як амаль усе мастацкія творы Адамовіча, нараджаўся доўга і цяжка, пра што сведчаць даты напісання: 1970—1980, 1987—1988 гг. У пачатку аўтарскае тлумачэнне: «Гіпербарэі, гіпербарэйцы — у старажытнагрэчаскай міфалогіі — жыхары Крайняй Поўначы (куды не далятае халодны вецер Барэй, на мяжы нашага свету са светам антыподаў), а паводле ўяўлення некаторых антычных аўтараў — гэта народ, які жыў у сярэдзіне першага тысячагоддзя да н. э. на Усходзе, у Азіі».

Раман «Карнікі» пабудаваны на дакументальным матэрыяле, а прозвішчы яго «герояў» (шараговага выканаўцы злачынных загадаў Тупігі, былых афіцэраў савецкай арміі Сурава і Мураўёва, штурмбанфюрэра Дзірлевангера) фігуравалі ў пратаколах суда над нацысцкімі злачынцамі. Сюжэт пабудаваны на аснове «кругоў»-раздзелаў, у кожным з якіх свой галоўны герой, і кожны з гэтых персанажаў раскрывае ў адкрытых і падрабязных «унутраных маналогах», падобных больш на «плынь свядомасці», сябе, сваю патаемную біяграфію, уласныя намеры і планы. Адны і тыя ж падзеі могуць пры гэтым асэнсоўвацца па-рознаму ў залежнасці ад пункту гледжання таго ці іншага антыгероя, якімі яны ўсе сябе ўрэшце дэманструюць, ад Тупігі і да Гітлера.

У тэкст часта ўводзяцца самі дакументы як доказ таго, што ўсё, пра што апавядаецца ў творы, не спараджэнне аўтарскай фантазіі, а самая праўдзівая рэальнасць нашага часу, калі паўсветам камандавалі людзі з крымінальным мінулым, паталагічнымі дэфармацыямі ў псіхіцы. Адсюль — шчодрае цытаванне вядомых выступленняў фашысцкіх верхаводаў, рассакрэчаных матэрыялаў, загадаў, выпісак, даведак і г. д. Пры гэтым двукоссі здымаюцца, бо ў цэнтры ўвагі аўтара ўнутраны маналог персанажаў як самы моцны спосаб выкрыцця, што дазваляе натуральна спалучыць дакументалізм з псіхалагізмам і філасафічнасцю.

Аднак гістарычны факт і дакумент цікавіць празаіка таму, што ў ім яму бачыцца глыбокі філасофскі сэнс падзей. Ён даследуе, як даследуе вучоны-псіхолаг, не толькі працэс унутранага жыцця персанажа, але і матывацыю яго ўчынкаў, якія не паддаюцца разуменню нармальнага чалавека. Мадэрнісцкі прыём паказу «плыні свядомасці» дакладна адпавядае аўтарскай задуме: разгортваючы перад чытачом хаатычную карціну пачуццяў і думак героя, супастаўляючы менталітэт герояў, якія знаходзяцца на розных прыступках сацыяльнай лесвіцы, празаік спрабуе праз псіхалогію людзей раскрыць філасофію эпохі.

Гісторыя таталітарных, некрафільскіх рэжымаў XX ст., на думку раманіста, — гэта гісторыя забойстваў, падступства, генацыду і этнацыду, якая, на жаль, мае тэндэнцыю да паўтарэння, калі пра яе не сказана праўда. Хто гэтыя людзі, ініцыятары масавых злачынстваў? Звышлюдзі, якімі яны сябе ахвотна ўяўляюць? Таямнічыя, з глыбінь пячорнага веку, гіпербарэі (так гучала першапачатковая назва твора)? А можа, проста карнікі, як называе іх народ? Людзі, якія прысвоілі сабе функцыю самога Бога караць і мілаваць, судзіць і даваць па заслугах. Гэтыя беспадстаўныя прэтэнзіі карнікаў — ад радавога Тупігі і афіцэра Мураўёва да фюрэра Гітлера — самавыкрываюцца ў маналогах антыгерояў.

Карнікамі, сцвярджае аўтар, не нараджаюцца, а становяцца. І тады самыя малыя дэфармацыі ў псіхіцы і дэфекты выхавання трансфармуюцца ў паталогію. Улада, тым больш улада, нічым не абмежаваная, ператварае такога чалавека ў выканаўцу задум самога д’ябла, у нелюдзя. Погляд на прыроду ўладара, якім ён паўстаў у сярэдзіне XX ст., у рамане «Карнікі» вельмі глыбокі і вобразна пераканальны.

Ужо былі апублікаваны чатыры часткі аповесці, калі ўзнікла неабходнасць у пятай, заключнай частцы, якая мае назву «Дублёр». Раздзел пра Сталіна ляжаў з 1979 года, схаваны да лепшых часоў, папрокі чытачоў гучалі для яго як галасы аднадумцаў. У завершаным творы з’явіліся даты: 1970—1980, 1987—1988. Прыблізна тое самае адбываецца і са спробай празаіка растлумачыць унутраныя матывы паводзін «другога дыктатара», унутраны маналог якога прадстаўлены ў апошнім раздзеле аповесці пад шматзначнай назвай «Дублёр»: калі гэта ўвасабленне ўзаемазалежнасці кіраўніка з яго папярэднікамі і паплечнікамі па ўладзе, то што тады такое трагедыя мільёнаў? Што такое наогул у наш час трагедыя як род літаратуры? Падзагаловак пятай часткі аповесці «Сны з адкрытымі вачамі». Менавіта згадкі пра сон (сны) з расплюшчанымі вачыма, ажно на працягу апошніх 15 гадоў, пра якія і ён сам, кіраўнік вялікай дзяржавы, «таварыш Сталін», не кажучы ўжо пра ягоных падначаленых, не адразу здагадаўся. «Памыляецеся, дарагія мае, моцна памыляецеся, калі думаеце, што, калі сплю, — гэта ваш час. Сон — вось мая тайная паліцыя, мой Фушэ. Не падмане і не прадасць. Трэба, дык і пра самога «пракурора» Лаўрэнція ўсё даведаюся. Сноў столькі, сны такія, і думак ад іх столькі, што мог бы працу напісаць, як па мовазнаўстве. І памагатыя, зануды-акадэмікі, мне тут непатрэбныя. У сне чалавек не схлусіць самому сабе. Другім — так, а сабе — толькі праўду: як падумаў, што адчувае — так яно і ёсць, можаш напісаць і ў справу падшыць», — у апошнім сваім сне мроіў пра сваё жыццё Сталін.

Алесь Адамовіч уважліва пераглядвае гісторыю краіны Саветаў за больш як 30 гадоў кіравання Сталіна, у вуснах якога згадваюцца многія вядомыя імёны і прозвішчы, падзеі і перамогі, памылкі і страты: «Чаго, чаго так выюць сабакі, на каго кідаюцца там, каля агароджы? Ды не, усё добра, усё як трэба, як я хачу, перамог таварыш Сталін. Таварыш Сталін заўсёды перамагае, падабаецца вам гэта або не. Тыя кунцаўскія дні, ночы не паўторацца ніколі. Забыць, і каб ніхто не смеў знаць-помніць! Нікога не павінна быць, хто б помніў. Не да таго будзе. Усіх праз чысцілішча, усіх! Я вас асаджу з белага каня! Вы не першыя, і да вас былі “пераможцы”».

Раман «Карнікі» А. Адамовіча не толькі ставіць важнае пытанне, што такое чалавек, які парушае Боскую запаведзь «Не забі!», і дае свае пасільныя адказы, але і выклікае шмат новых пытанняў, на якія чалавецтва пакуль што не можа

адказаць і перад якімі яно становіцца ў тупік. Магчыма, адсюль Адамовіч ішоў да свайго славутага закліку: «Дык рабіце звышлітаратуру!» Калі мець на ўвазе не проста публіцыстыку з уласцівымі ёй сродкамі ўздзеяння на чытача, але менавіта мастацкую літаратуру, якая выкарыстоўвае найноўшыя вобразныя тэхналогіі, створаныя ў кінамастацтве, у сучаснай музыцы, заснаванай на дысгармоніі і г. д.

Над пытаннямі жанру і стылю пісьменнік шмат разважаў у літаратуразнаўчых кнігах першай паловы 80-х гадоў, такіх, як «Пра сучасную ваенную прозу» (1981), «Вайна і вёска ў сучаснай літаратуры» (1982), «Нічога важней» (1985). Тэорыя літаратуры з дапамогай А. Адамовіча імкнулася не адставаць у сваім развіцці ад мастацкай практыкі, якая ў творчасці самога пісьменніка апошняга яго дзесяцігоддзя здзейсніла рашучы рывок наперад і выйшла на новы віток эстэтычнага руху. Вучоны нагадваў пра гэты перыяд класікі: «Талстоўскі крок», «Неабходнасць Талстога», «Думку вырашыць», «Дадумваць да канца», «Выбух на вяршыні літаратуры», «Як быць геніяльным», «Калі не мы, дык хто?» і інш.

Дакументальная «Блакадная кніга» (1982), матэрыялы для якой А. Адамовіч збіраў разам з рускім празаікам Д. Граніным на працягу некалькіх гадоў, была не толькі працягам калектыўнай кнігі «Я з вогненнай вёскі...», але і выяўленнем далейшага пошуку беларускім пісьменнікам новых шляхоў у літаратуры. У «Запісной кніжцы. 1975» А. Адамовіча некалькі радкоў: «Вось я на Піскароўскім. Усё пад снегам, маўчыць і крычыць. Забуртаваныя мільёны трупаў, забуртаваны горад. Бурты гэтыя яшчэ могуць загаварыць, сказаць патрэбнае людзям, свету — і пра тое, як вайна можа забуртаваць цэлыя краіны і ўсё чалавецтва. Не, нехта павінен гэта зрабіць. Не возьмуцца яны, буду рабіць адзін — два гады, пяць гадоў».

У інтэрв'ю беларускаму альманаху «Братэрства» Алесь Адамовіч адказваў на пытанне: «З чаго пайшла, пачыналася “Блакадная кніга”?»: «Атрымалася неяк само сабой... Былі нейкія нябачныя, але моцныя токі — ад Хатыней да блакадных ленінградскіх трагедый... І не нешта, а менавіта тое, што вайна была на ўсіх адна — Айчынная: што ў Беларусі, што ў Ленінградзе. Акрамя таго, унутраны гул ад доўгай працы над кнігай «Я з вогненнай вёскі...» ўсё яшчэ працягваўся і, магчыма, таксама падштурхоўваў, патрабаваў нейкага працягу...» У памяці пісьменніка было ўсяго некалькі блакадных гісторый, пачутых ад Галіны Максімаўны Гарэцкай, дачкі беларускага класіка Максіма Гарэцкага (у пачатку 70-х гадоў А. Адамовіч часта наведваў яе ў Ленінградзе, каб мець матэрыялы жыцця і творчасці пісьменніка, пра якога ён пісаў вялікую працу «Браму скарбаў сваіх адчыняю...»). Жыццёвыя выпадкі, якія пазней выглядалі як заканамернасці, наладжвалі сувязь з «Блакаднай кнігай».

Алесь Адамовіч асобна вылучыў гісторыі ленінградскай блакады, пачутыя з вуснаў Галіны Максімаўны Гарэцкай:

«Жанчына-маці, каб ўратаваць астатніх дзяцей ад блізкай смерці, не заяўляе да канца месяца пра памерлае дзіцятка (хлебныя карткі!), хавае замерзлы трупік у шафу».

«Пункт прыёму дзяцей-сірот, якіх збіралі ў жудасна ціхіх дамах «побытавыя атрады»: прынеслі хлопчыка, санітарка, добрая душа, цалуе галоднае заплаканае дзіця. Агледзілася: усе дзеці выстраіліся ў радочак, каб і іх пацалавала...»

У кнізе «Я з вогненнай вёскі..» у цэнтры ўвагі — лёс вёскі, у «Блакаднай кнізе» — гэта ўжо лёс горада ў тую ж татальную вайну. Дакументальная «Блакадная кніга» была не толькі працягам кнігі «Я з вогненнай вёскі...», але і выяўленнем узбагачэння жанру «магнітафоннай літаратуры». Трагічны лёс беларускай вёскі ў гады вайны, як у люстэрку, адбіваўся ў такім жа трагічным лёсе вялікага горада Ленінграда, асуджанага на галоднае выміранне. Ствараўся, па сутнасці, незнаёмы літаратуры жанр, які А. Адамовіч называў кнігай-араторыяй, сімфоніяй, хорам (як у антычных трагедыях). «У новага жанру, — пісаў ён, — тая перавага, што яму дадзена здабываць глыбінныя пласты, залежы псіхалогіі, праўды народнага жыцця адкрытым спосабам. Само жыццё сучаснае, якое геалагічна

зрушылася, выбухнула небывалымі катаклізмамі, калі верхнія пласты сарваныя і агаліліся нетры, падрыхтавала і нарадзіла гэты спосаб, гэты жанр літаратуры». У «Блакаднай кнізе» шмат спроб звычайных людзей спасцігнуць з дапамогай інтэлекту сэнс падзей вайны, адносіцца да ўласнага існавання разумна, востра крытычна ацэньваючы сябе і іншых, разважаючы над тым, што было, што ёсць і што можа быць.

Чым больш А. Адамовіч і Д. Гранін слухалі гараджан, вывучалі дакументы, чыталі дзённікі, тым больш адкрывалася адна з галоўных апораў таго самага «духу ленінградцаў». У «Блакаднай кнізе» апублікаваны зімні дзённічак маленькай Тані Савічавай: «Бабушка умерла 25 янв...», «Дядя Алёша 10 мая...», «Мама 13 мая в 7.30 утра...», «Умерли все. Осталась одна Таня». У другой частцы кнігі асаблівае месца займалі «падзённікі» блакадніка Г. Князева і дзённік падлетка Юры Рабінкіна. Адкуль браліся сілы, адкуль узнікала стойкасць, дзе знаходзілі месца вытокі душэўнай моцы? «Перад намі, — пісалі А. Адамовіч і Д. Гранін, — сталі адкрывацца не менш пакутлівыя праблемы і маральнага парадку. Іншыя меркі ўзнікалі для паняцця дабраты, подзвігу, жорсткасці, любові. Найвялікшаму выпрабаванню падвяргаліся адносіны мужа і жонкі, маці і дзяцей, блізкіх, родных, саслужыўцаў. У апавяданнях людзей паўставалі тыя складаныя маральныя задачы, якія даводзілася вырашаць кожнаму чалавеку. Мы ўбачылі незвычайныя прыклады моцы духу, прыклады высакародства, хараства, выканання абавязку, але і — нечуваных пакутаў, мучэнняў, пазбаўленняў, смерцяў... Не заўсёды было ясна — ці прыйшоў час для гэтых апавяданняў такой жорсткай бязлітаснасці? А з другога боку — ці не сышло, ці не запушчаны час і магчымасць расказаць пра гэта так, як гэта было ў жыцці і наяве, так, як гэта помняць толькі самі ленінградцы?..»

У апавяданнях, ва ўспамінах блакаднікаў, якія А. Адамовіч і Д. Гранін запісвалі і пераносілі ў будучую кнігу, захоўвалася шмат дакладных фактаў, становішчаў, дэталяў. У іх нагадвала пра сябе штодзённае жыццё: памяць (асабліва жаночая — удакладняюць аўтары кнігі) учэпіста фіксіравала неверагодную рэальнасць тых дзён і начэй «блакады». Вывучэнне А. Адамовічам і Д. Граніным калектыўнай памяці, запіс «вусных гісторый» адкрываюць шлях для літаратуры, якая намагаецца ўвабраць у сябе ўсё багацце народнага вопыту, набытага на працягу самай страшнай вайны за ўсю гісторыю, спрабуе вобразна асэнсаваць тое, што адбывалася. Так ствараўся новы, невядомы раней жанр літаратуры — мастацкі дакумент, кніга-араторыя, сімфонія, хор (гэтыя і іншыя падобныя па сэнсу назвы жанру згадваліся крытыкай).

У перавыданні «Блакаднай кнігі» А. Адамовіча і Д. Граніна, упершыню апублікаванай у Беларусі на рускай мове выдавецтвам «Мастацкая літаратура» (2015), у прадмове Наталлі Адамовіч прыводзяцца радкі з запісной кніжкі А. Адамовіча ад 12.2.1975 г., калі была завершана праца над кнігай «Я з вогненнай вёскі...» і ўзніклі «нябачныя, але моцныя токі — ад Хатыняў да блакадных ленінградскіх трагедый — і што токі гэтыя, імпульсы, якраз і накіроўвалі думкі і намеры аднаго з аўтараў кнігі пра Хатыні — накіроўвалі на Ленінград».

У гады «перабудовы» і «галоснасці» А. Адамовіч прыкметна актывізаваў сваю грамадскую дзейнасць, у яго мастацкай творчасці павялічылася доля публіцыстычнасці. У пісьме чытача, змешчаным у якасці эпіграфа да артыкула «Час жывы» (у рускім варыянце «Время живое») і апублікаваным у кнізе літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі А. Адамовіча «Выбери жизнь» (1986), прагучала пытанне: «Пасля таго, што напісалі, ці думаеце Вы (або не?), куды ісці далей?»

На першае пытанне: «Тое лепшае, што зроблена савецкай «ваеннай» літаратурай, не толькі наш час, але і будучыня наўрад ці паставіць пад сумненне. Наша вайна, Вялікая Айчынная, была справядлівейшым у гісторыі актам народнай праўды, гуманістычнай неабходнасці, патрыятычным і інтэрнацыянальным доўгам перад усім чалавецтвам, — гэта з выключнай паўнатой і сілай і выявіла савецкая літаратура».

На другое пытанне чытача «куды ісці далей?» А. Адамовіч адказаў так: «Ужо не трэба быць «чулым да свайго часу», каб усведамляць: рабіць трэба нешта большае, чым рабілася, прадпрымалася людзьмі, таму што пагроза ўсім і ўсяму ўсё згушчаецца. І ад літаратуры, і ад сябе ў літаратуры патрабаваць і можна, і варта большага, чым раней, учора».

У артыкуле «Час жывы» А. Адамовіч паспрабаваў глянуць на наш час вачыма жыхароў... чацвёртага тысячагоддзя: «І яны, зазірнуўшы ў старыя, нашага часу, кнігі, здзівяцца: чаму так невыразна пісалі пра галоўнае, пра космас, а другараднае (вайну) адлюстроўвалі ў сапраўдных і нават вялікіх творах? Можа, і не зразумеюць, што праблемы вайны і міру на зыходзе другога тысячагоддзя — гэта і было галоўнае, самае галоўнае. Каб гэта зразумець, ім давядзецца паднатужыцца і адчуць, якая пагроза, рэальная, фізічная пагроза іх будучаму суіснаванню, абазначылася якраз у 70—80-я гады, у канцы другога тысячагоддзя. (У 90-я гады і далей зазіраць, гадаючы, што і як будзе, больш складана, чым за тысячу гадоў наперад, і таму не будзем.)». А. Адамовіч, у адрозненні ад нас, «звычайных», «сучасных» жыхароў канца XIX і пачатку XX стагоддзяў, ахвотна зазіраў у далёкую будучыню, якую адчуюць і ацэняць нашы нашчадкі. «А чаму б і не, — з адамовічаўскай усмешкай міжволі ўспрымаем і мы: — у запасе ў чалавецтва, як сцвярджаюць вучоныя, 800 мільёнаў гадоў жыцця, наш біялагічны патэнцыял!»

Менавіта адгэтуль, ад дадзенага нашым пакаленням часу, узнікаюць сучасныя навукова-даследчыя і літаратурна-гуманітарныя клопаты і пытанні. А. Адамовіч уздымае перад вучонымі і пісьменнікамі праблему: «Ці здольная літаратура неяк дзейнасна ўплываць (станоўча, вядома) на крытычны стан свету... Калі гэта так, — а хочацца верыць, што гэта менавіта так, — тады як трэба пісаць, каб наша супрацьдзеянне спаўзанню міру да вайны было максімальна эфектыўным? І як мы не павінны пісаць — гэта таксама немалаважная праблема. На гэта вельмі своечасова ў тэлефільме «Формула гуманізму» заваструў увагу Васіль Быкаў. Калі пісаць не тое і не так, як патрабуе час наш, які ўсё менш пакідае людзям права на памылкі, на эгаізм, на трусасць, карыслівасць, калі ілгаць у галоўным (а што сёння больш галоўнае за праблемы вайны, міру?), тады не выключана, што мы і наша літаратура будзем не каменем пад спаўзаннем кола, а хутчэй тым алеем, які дурнаватая булгакаўская Анечка разліла пад ногі Берліёзу... Адным словам, зазірнуць бы нам у заўтрашні дзень нашай «ваеннай» (а дакладней, «антываеннай») літаратуры».

Алесь Адамовіч якраз і зазірае ў гэты заўтрашні дзень «антываеннай» літаратуры. Напрыклад, ён заўважае выхад кнігі ў Лондане «Трэцяя сусветная вайна. Гісторыя будучыні» (1978). У аўтарскім спісе — генералы, маршалы, віцэ-адміралы. Сюжэт — сцэнарый «абмежаванай» атамнай вайны. Першы ўдар па Бірмінгему прыпісваецца праціўніку. Ён, вядома, атрымлівае адпаведны ўдар. Дзве падлодкі — амерыканская і англійская — нясуць у сабе міжкантынентальныя балістычныя ракеты стратэгічнага прызначэння, кожная выпускае па дзве ракеты, нацэленыя... на горад Мінск (!). Эфект быў катастрафічным... Вынікі каласальныя... Алесь Адамовіч хутка рэагуе на гэтую вестку, якая, тым не менш, распаўсюдзілася па свеце: «З якім ледзь прыхаваным задавальненнем гэтыя атамныя ідыёты, якія вырашылі паказытаць сабе і іншым нервы, але і супакоіць запалоханых іх бяздумнымі планамі суайчыннікаў, жывапісуючы пачатак усеагульнага ракетна-ядзернага пабоішча, планетарнага самазабойства!»

Дзякаваць Богу! Літаратура, мастацтва, гуманітарныя дысцыпліны распрацавалі разам з народнай творчасцю, перадавой грамадскай свядомасцю — «той кісларод гуманізму, якім мы і сёння дыхаем». Але і літаратура, і мастацтва, нагадвае А. Адамовіч, «хіба не ўнеслі сваю лепту ў тое, каб пад зласлівай фізіяноміяй, пад ваяўнічай каскай Марса заззяў, засвяціўся арэол прыгожага, ваяўнічага, прывабнага. І гэты гістарычны грэх давядзецца выкупляць літаратуры нашага, атамнага часу!.. Дзеля гэтага літаратура павінна адступіцца ад даўняй сваёй звычкі

паэтызаваць, кажучы словамі І. Гердэра, «гераічную кроў Каіна»... У кожнага, вядома, свой адказ. У мяне — такі: пісаць вайну вайной, з усёй бязлітаснасцю. Так, не шкадуючы ні сябе, ні іншых, ні на ёту не адступаючы ад жорсткай памяці вайны самога народа пра вайну. У памяці народнай, у памяці тых, хто выпіў усю чашу выпрабаванняў, — сапраўдная мера праўды, маральная мера... Жыццё ёсць жыццё, але трэба ўмець прабіцца да душы, да памяці народнай, каб зачарпнуць саму праўду».

У артыкуле «Overkill. Ці адэкватная рэакцыя?» (англ. overkill — шматразовае забойства, звышзабойства) Алесь Адамовіч у самым пачатку спасылаецца на выказванне Дж. Шэла, аўтара кнігі «Лёс зямлі»: «Мы сядзім за сталом, спакойна п'ем каву і чытаем газету, а ў наступнае імгненне можам апынуцца ўнутры вогненнага шара з тэмпературай у дзясяткі тысяч градусаў. Мы ідзём на працу па звыклай нам вуліцы, а праз секунду можам апынуцца на спустошанай раўніне пад пацямнелым небам, шукаючы абгарэлыя парэшткі нашых дзяцей».

Алесь Адамовіч у падтрымку прачытанага згадвае свае адчуванні былога партызана пасля вайны: «Пасля вайны доўга, вельмі доўга жыла ў свядомасці пастаянная прыкідка: вось адсюль зручна — з кулямёта! Або вось так з аўтамата пацягнуць... У каго? Ды ні ў каго. На «другім канцы» нікога і не бачыш, пэўнага, але ўсё роўна спрацоўвае колішняя пастаянная «гатоўнасць» упасці раней, чым па табе пройдзе піла кулямётнай чаргі і тах-тах-тах!.. Увайшло, унедрылася калісьці, на працягу года было «рэфлексам на выжыванне», а потым — цэлыя дзесяцігоддзі — гульня памяці, фантазіі або яшчэ чаго, я не ведаю. І раптам знікла — выцясненне. Мінулае — будучыняй, тое, што сышло, — тым, што чакаецца».

Звяртаючы ўвагу на завяршэнне мінулага стагоддзя і тысячагоддзя і ацэньваючы пачатак цяперашняга стагоддзя і тысячагоддзя, лёгка зняверыцца ў надзеі на чалавечую мараль і ўсеагульную справядлівасць. А. Адамовіч заспеў толькі завяршэнне 1990-х і не дачакаўся двухтысячагоддзя, аднак ён адзін з першых пісьменнікаў і літаратаразнаўцаў звярнуў увагу на тое, што «менавіта сёння катэгорыі маральныя, духоўныя, як ніколі, набываюць палітычную вагу, моц, — калі шырокія масы людзей уключаюцца ў барацьбу супраць агіднай бесчалавечнасці, бяздум'я тых, хто хацеў бы і далей багацець, замацоўваць сваю ўладу праз памнажэнне сродкаў усеагульнай пагібелі. Колішнія летуценнікі аб «вечным міры», якія сучаснікам здаваліся наіўнымі фантазёрамі, утапістамі, сёння па-другому чытаюцца, паўстаюць перад намі... Але сёння менавіта іх уяўленне — духоўна-маральнае, агульначалавечае — важнае, як ніколі, у барацьбе за самае сутнаснае».

Пра асаблівую адказнасць літаратуры пра вайну за стан свету і чалавецтва, пра неабходнасць адносін літаратуры да праблемы вайны і міру, паглыбленне гуманістычнага пачатку і павышэння выхаваўчага ўздзеяння мастацкіх твораў даволі бурна разважалі ўдзельнікі рэспубліканскай навуковай канферэнцыі «Літаратура пра вайну і праблемы веку», праведзенай Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР сумесна з Саюзам пісьменнікаў БССР у красавіку 1983 г. Беларускія і рускія пісьменнікі, літаратуразнаўцы, крытыкі адказвалі на пытанні, якой павінна быць філасофія, этыка і эстэтыка ваеннай літаратуры, якія ўрокі «ваеннай» класікі прымальныя ў новым часе, якой бачыцца беларуская «ваенная» літаратура сярод іншых нацыянальных літаратур, як бы яны паставіліся да пачатку атамнай вайны, да якой заставалася некалькі гадзін...

Алесь Адамовіч, калі яшчэ гучала рэха спрэчак удзельнікаў канферэнцыі, пасля ўсяго сказанага ім у дакладзе «Заглядваючы ў дзень будучы» і заключнага выступлення, распачаў гутарку з мастаком-графікам Уладзімірам Бойкам, таленавітым афарміцелем, інтэрпрэтатарам «ваеннай» літаратуры, аўтарам будучай прадмовы да жыццяпісу пісьменніка. Размова, паводле слоў самога А. Адамовіча, ішла пра хвалюючае пытанне: «Што кожны з нас можа ў цяперашняй сітуацыі? Так, усё зрушылася да самага краю, спаўзае, слізгае, што мы, менавіта

мы, што можам зрабіць, тыя ж пісьменнікі, мастакі? Калі ўсур'ёз сувымяраць тое, што адбываецца, мы, удзельнікі, з магчымай «вагой» нашых прафесій? Ці не мае рацыю тут рускі пісьменнік Уладзімір Салаухін, які ў беларускім публіцыстычным тэлефільме «Формула гуманізму» заявіў палемічна, але цалкам прадумана: н а с  н і х т о  н е  п ы т а е  і  н е  с п ы т а е ! Пачыналі вайну Ірак з Іранам — хто пытаў у пісьменнікаў? Або на Блізкім Усходзе. Што тут значыць меркаванне пісьменнікаў, мастакоў? Словы іх на вагах міжнароднай палітыкі не шмат цягнуць. А таму давайце, маўляў, займацца справай, дзе мы нешта можам, значым — на вечнай ніве маральнага ўзнаўлення чалавека. Бо гэтулькі п'яніц, бездухоўнасці — як з гэтым ісці ў будучыню?! Па-свойму гэта пераканаўча... На тое ж п'янства, на тую ж бездухоўнасць і г. д., і г. д., як рэагаваць. А таму (як бы нам гэтага ні хацелася) літаратура не ў стане вылучыць, вычленіць «меншае зло» з агульнага (тэрмаядзернай пагрозы) і змагацца з гэтым больш ці менш паспяхова. Будзе, ёсць у такой спробе, такім падыходзе адпачатковая фальшывасць, трусасць, якая пазбавіць пісьменніцкае слова, пазіцыю мастака маральнай грунтоўнасці. Не, не поруч усё гэта існуе, а ўсё ўнутры самага вялікага зла — тэрмаядзернай пагрозы самому роду чалавечаму!»

У дакладзе «Зазіраючы ў дзень будучы», прачытаным на вышэйзгаданай канферэнцыі, А. Адамовічам выказана думка пра сапраўднае месца літаратуры ў новых умовах. У часы дагістарычныя і ў эпохі цывілізацый, якія змянялі адна другую, чалавеку дапамагаў яго дзівосны розум. «І вось ён, homo sapiens, чалавек разумны, а разам з ім і ўсё, што ён стварыў (або, наадварот, абяскровіў), апынуўся на краі бяздоння. Як гэта здарылася, у яго ж увесь час быў «ліхтар», які разгараўся, свяціў усё ярчэй, — розум, дык чаму, як жа ён, чалавек, выбег на самы край? Што можа даць яму рэальны шанец на выжыванне? Усё тая ж умелая рука і хуткі розум, сучасная наша тэхнічная дасціпнасць і вучонасць? Пры ўсёй тэхнічнай моцы, якая нас нібыта абараняе ад рэальных цяжкасцей існавання, мы, людзі, выяўляецца, як ніколі, безабаронныя перад сілай выпадковасцей. Яны заўсёды віселі і вісяць над чалавекам. Але каб над усім родам чалавечым?!. Чалавек умелы і чалавек разумны — яны свой адрэзак шляху прайшлі. Далей ісці — калі нам гэта дадзена, калі зможам, утрымаемся на ўскрайку — чалавеку не толькі разумнаму, але і гуманнаму. Толькі такі і магчымы ў будучыні».

Алесь Адамовіч успамінае, як з калегамі — Я. Брылём, У. Калеснікам, Д. Граніным — запісвалі галасы людзей, якія перажылі хатынскія трагедыі, ленінградскую блакаду, і бясконца здзіўляліся, уражваліся пачутым: ды гэта ж — Дастаеўскі! Пад самай бясхітраснай гісторыяй — раптам новыя веды пра чалавека. І праваднікамі ў тых глыбінях, часам пякельных, былі не Дантэ, не Дастаеўскі, а Тэкля Круглова, Марыя Іванаўна Дзмітрыева... А якія прорвы агаляе сітуацыя, у якой цяпер існуе ўсё чалавецтва — гэта яшчэ адкрываць і адкрываць. Каму, як не літаратуры (поруч з навукай), тут быць «правадыром»!

У сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя А. Адамовіч старанна шукаў кінарэжысёра, які згадзіўся б паставіць кінафільм паводле яго ваеннага сцэнарыя. У 1977 годзе А. Адамовіч пачаў працу над сцэнарыем фільма «Забіце Гітлера» (экранізацыя «Хатынскай аповесці»). Элем Клімаў — аўтар фільма «Агонія». Сцэнарыст А. Адамовіч разам з ім стаў праглядваць дакументальныя стужкі пра беларускія Хатыні. У 1985 г. быў нарэшце завершаны кінафільм «Ідзі і глядзі» — пачатковая яго назва была адменена. Кінафільм атрымаў Гран-пры на Сусветным кінафестывалі ў Маскве (1985) і трыумфальна абышоў экраны замежжа. А. Адамовіч у гэты час шмат ездзіў па свеце, прымаў удзел у рабоце Генеральнай асамблеі ААН у складзе беларускай дэлегацыі, выступаў на многіх міжнародных антываенных, антыядзерных канферэнцыях, даваў шматлікія інтэрв'ю савецкім і замежным журналістам. Публіцыстыка гэтага перыяду сабрана ў яго кнігах «О современной военной прозе» (1981), «Хатынская повесть. О войне и мире» (1982), «Выберы — жыццё!» (1986), «Літаратура пра вайну і праблемы веку» (1986), «Ничего важнее: Современные проблемы военной прозы» (1987), «Дадумваць да канца» (1988).

Акурат у ноч 26 красавіка 1986 года, калі выбухнуў рэактар на Чарнобыльскай АЭС, Адамовіч ляцеў на самалёце на поўдзень, дзе збіраўся правесці адпачынак і падлячыцца ў санаторыі. З першых дзён шукаў магчымасць разбурыць сцяну сакрэтнасці, апытваў ужо добра знаёмым яму метадам «магнітафоннай літаратуры» вучоных, фізікаў-атамшчыкаў, медыкаў, гаспадарнікаў Мінска і Масквы пра магчымыя вынікі катастрофы. Дамогся сустрэчы з Гарбачовым, у выніку якой з'явілася рэальная магчымасць уплываць на ход падзей. У артыкуле «Хатынь, Хірасіма, Чарнобыль...» пісьменнік напісаў: «Не ўсе і да гэтай пары ўсведамляюць, што новы стан у рода чалавечага, новы адлік часу пачаўся з 26 красавіка 1986 года. Да Чарнобыля і пасля Чарнобыля — гэта рознае светаадчуванне, гэта па-новаму небяспечныя шляхі чалавецтва ў будучыню».

Паставіўшы творчасць лепшых беларускіх празаікаў у шырокі кантэкст сусветнай літаратуры, А. Адамовіч пераканаўча прадэманстраваў вялікія мастацкія і філасофскія магчымасці нацыянальнай літаратуры і прыйшоў да лагічнага пытання пра перспектывы эстэтычнага руху.

У гады так званай «галоснасці» А. Адамовіч прыкметна актывізаваў сваю грамадска-палітычную дзейнасць. У яго мастацкіх творах «Апошняя пастараль», «Бывай, хунта», «Венера», «Нямко», «Vixi» ўзрасла доля публіцыстычнасці. У кнігах ён разважаў не толькі пра ўласную творчасць, але і пра ваенную і вясковую прозу, пра народны лёс. «Мне здаецца, — адзначае ён, — мы занадта мала патрабуем ад мастацтва, літаратуры... Пытанне, аднак, у тым, што стаіць за заклікамі нашай крытыкі. Ці таго мы ад літаратуры патрабуем, чакаем, што здольная даць толькі літаратура, толькі мастацтва, або мы жадаем, каб яны выконвалі працу, якую здатныя выконваць (нават лепш) іншыя формы ўздзеяння на грамадскую свядомасць (газетныя, публічныя жанры і да т. п.). Мастацтва — механізм найвышэйшай складанасці, і выкарыстоўваць яго трэба рацыянальна, па прызначэнні... Ці варта мікраскопам забіваць цвікі... Нішто іншае працу мастацтва над душой чалавечай не зробіць. Патрэбна мастацтва, і толькі яно». Менавіта мастацтва ўплывае на пачуцці, адчуванні, на свядомасць і падсвядомасць. Такога ўздзеяння на чалавечую істоту трэба чакаць і патрабаваць ад літаратуры, ад мастацтва...

У А. Адамовіча было шмат шырокіх задум. Сярод іх — аповесці «Чалавек у рэспіратары», «Краіна, якой не шкада», «Апавяданне пра мудрае і клапатлівае кіраўніцтва народа, якога не было», «Аповесць пра тое, як «выжылі» (у справаздачах) пасля Чарнобыля»... Нямала, як для аднаго чалавека, і шмат для пісьменніка-грамадзяніна. А што ж збылося? У небывалай у гісторыі зямлі сітуацыі, калі на карту пастаўлена жыццё чалавецтва, думка А. Адамовіча працавала, як ніколі раней, напружана і мэтанакіравана. Яго маральны імператыў гэтага часу выказаны ў словах: «Дадумваць да канца!», «Калі не мы, то хто ж?», «сыграць ролю бервяна, тарана — прабіць сцяну маўчання», «не аслабляць напору», «звяртацца да пачуццяў людзей». Публіцыстыка А. Адамовіча гэтага перыяду адлюстравана дастаткова поўна ў яго кнігах «Адваяваліся!» (1990), «Мы — шасцідзясятнікі» (1991), «Апакаліпсіс па графіку» (1992). За ўсім, што рабіў А. Адамовіч у 90-я гг. як мастак слова, публіцыст, грамадскі дзеяч, адчуваецца подых гераічнай і трагічнай беларускай гісторыі. Менавіта ў гэты час з'явілася рэальная магчымасць прадухіліць пагрозу трэцяй сусветнай вайны, ядзернага сутыкнення вялікіх дзяржаў. А. Адамовіч быў адным з прадвеснікаў новай эры ў гісторыі чалавецтва, пазначанай збліжэннем («канвергенцыяй») Захаду і Усходу, імкненнем да разбраення, разуменнем небяспекі экалагічнай катастрофы.

Нягледзячы на самыя змрочныя прадчуванні, Алесь Адамовіч заставаўся аптымістам: што было, тое было, не вернеш назад, жыццё ён пражыў не дарэмна, здолеў нямала добрага і патрэбнага здзейсніць і ў літаратуры, і ў навуцы, і ў грамадскай сферы, а таму была надзея на ўдзячнасць і светлую памяць нашчадкаў. Запамінаюцца іранічна-філасофскія адносіны яго да самога сябе, імкненне

падвесці філасофскія вынікі свайго роздуму над агульнымі для ўсіх жывых і сумленных людзей «вечнымі пытаннямі» дабра і зла, любові і нянавісці, жыцця і смерці. Аповесць «Vixi» завяршаецца на аптымістычнай ноце: «Так, жыццё пражыць — не поле перайсці. Як усё проста, але сказана назаўсёды, пра ўсіх. З Вечнасці перабегчы ў Вечнасць. А па шляху — столькі ўсяго».

Жыццё пісьменніка не завяршаецца з яго фізічным сыходам у лепшы свет, а яго мастацкія творы і яго зіхоткая публіцыстыка знаходзяць свой працяг і паглыбленне ў сучаснай рэчаіснасці. Імя і прозвішча Алеся Адамовіча згадваецца пры нагодзе і надзвычай часта. У беларусаў досыць шмат выдатных дзеячаў мінулага, адсутнасць якіх у жыцці іх нашчадкаў адчуваецца вельмі абвострана. І не толькі братоў-беларусаў.

Неўзабаве з Масквы, дзе пісьменнік жыў і тварыў у апошнія гады, дайшла вестка, што выйшаў у свет першы том Збору твораў выдатнага рускага паэта і ўсенародна вядомага барда Уладзіміра Высоцкага. Цікава і сімвалічна, што ў якасці ўступу да гэтага тома выдаўцы змясцілі слова Алеся Адамовіча пра паэта, які выканаў некалькі песень у яго кінафільмах «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой».

Алесь Адамовіч загарэўся прагай пабыць у родных мясцінах. Папрасіў стрыечнага брата Мікалая Тычыну падвезці на машыне ў яго родную Глушу, што непадалёку ад Бабруйска. На глушанскіх могілках пастаяў нейкі час каля магіл родных і блізкіх: бабулі Ефрасінні, бацькі і маці. Паказаў удаве свайго старэйшага брата Яўгена і Мікалаю, «дзе ён хацеў быць пахаваны». Заадно пагадзіўся пад'ехаць за 12 вёрст у пасёлак Завалочыцы, дзе адзінока дажывала свае дні цёця Каця (так ён называў звычайна маці Мікалая). Быў усцешаны, пакаштаваўшы пасля доўгай дарогі баршчу, згатаванага ў вясковай печы. Выйшаўшы на падворак з Мікалаем, азірнуў навокал сядзібу сваякоў, пахваліў гаспадарку «дзядзькі Аляксандра» і, глянуўшы на пабрацейніка, параіў: «Даглядайце і шануйце свой бацькоўскі агарод!»

Вярнуўшыся ў Мінск, незадоўга да ад'езду пабываў у рэдакцыі часопіса «Нёман», перамовіўся з галоўным рэдактарам Анатолем Кудраўцом, здаў у друк падрыхтаваную дакументальную аповесць «Падарожжа з Мінска ў Маскву і назад» (апублікаваную ў жніўні 1994 г.). У апошнюю паездку на цягніку ў сталіцу яго праводзілі сябры Васіль Быкаў, Валянцін Тарас, Уладзімір Бойка, Яўген Коктыш, родныя і блізкія.

26 студзеня А. Адамовіч выступаў у Вярхоўным судзе Расійскай Федэрацыі з прамовай у абарону маёмасных правоў Саюза пісьменнікаў, вярнуўся на сваё месца ў зале, спытаў у суседа, як ён выступіў, супакоіўся, а сусед у гэты момант раптам адчуў, як ён злёгку галавой нахіліўся да яго пляча, — здарыўся другі, пасля ранейшага, апошні інфаркт.

Здаецца нам, што нібыта добра ведаем, як жыў, пра што думаў Алесь Адамовіч, гэты вельмі прыкметны на нашых прасторах чалавек. Сумленна, годна, па праўдзе, пакрысе пазбаўляючыся «самаўпэўненых адносін да быцця». Ён тварыў уласнае жыццё, ведаючы, што такое смерць. Нездарма паўтараў словы акадэміка І. Паўлава, пад дыктоўку якога запісвалася ўсё, што ён адчуваў у час памірання: «Не перашкаджайце! Паўлаў працуе — Паўлаў памірае!» А. Адамовіч цудоўна разумеў, што чалавек як фізічная істота смяротны і што няма на тое нашае волі, нарадзіцца ці не нарадзіцца, памерці ці не памерці. Але дадзена нам воля выбіраць, як жыць, якім зместам напоўніць сваё жыццё, каб фармаваць, ствараць сябе кожным сваім учынкам і паводзінамі.



**Вячаслаў Рагойша**

# ВІРШЫ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

У беларускім і ўвогуле ўсходнеславянскім вершазнаўстве пад тэрмінам «вірш» разумеюць даўнія ўзоры сілабічнага вершавання. Па словах М. Гаспарава, «у рускай паэзіі першыя вопыты сілабікі адносяцца да часу каля 1654 г. <…> Усе яны пісаны, відавочна, украінска-беларускімі аўтарамі. Але вырашальным момантам у засваенні сілабікі рускай паэзіяй была творчасць Сімяона Полацкага (у Маскве з 1664)» [5, с. 29]. Што да беларускай паэзіі, то такія першыя вопыты сілабікі звязаны з творчасцю Францыска Скарыны і адносяцца да самага пачатку XVI ст., да 1517—1519 гг.

Вершы Францыска Скарыны, як слушна выказаўся выдатны рускі літаратуразнавец прафесар П. Беркаў у артыкуле «Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання» (1967), з’яўляюцца «першым фактам беларускага і — гаворачы шырэй — усходнеславянскага вершаскладання, і ў гэтым іх гістарычнае значэнне» [1, с. 246]. Даследчык меў на ўвазе тры сілабічныя «вершы або, дакладней, **вершы** Скарыны» [вылучана мной. — ***В. Р.***] — выклад Дзесяці запаведзяў (прадмова да кнігі «Выхад»), чатыры вершаваныя радкі з прысвячэння да кнігі «Іоў» («Богу в троици единому...») і два — з прадмовы да кнігі «Эсфір» («Не копай под другом ямы...»). Пры гэтым вучоны адзначыў, што гісторыкі беларускай літаратуры «толькі і гавораць аб гістарычным значэнні гэтых вершаў і не спрабуюць прааналізаваць іх і зразумець іх мастацкую прыроду» [1, с. 246]. Ён слушна наракаў: з мноства яшчэ не пастаўленых ці не да канца вырашаных пытанняў (а да сярэдзіны 1960-х гг. скарыназнаўчая бібліяграфія налічвала ўжо амаль паўтары тысячы пазіцый) «пытанне аб яго вершах і іх ролі ў гісторыі ўсходнеславянскага вершаскладання займае адно з самых сціплых месц. Больш таго, для шырокай аўдыторыі пастаноўка такога пытання, відаць, будзе нечаканай, для спецыялістаў па гісторыі беларускай культуры і літаратуры, магчыма, нават неправамернай» [1, с. 245]. Чым жа вучоны тлумачыў усё гэта?

Па-першае, «колькасць вершаў Ф. Скарыны невялікая — іх усяго тры; да таго ж яны вельмі кароткія, традыцый яны, наколькі можна меркаваць па сучасным стане матэрыялаў, не стварылі, і, значыць, вершы або, дакладней, вершы Скарыны прадстаўляюць адасоблены факт у гісторыі беларускай і тым больш усходнеславянскай літаратуры». Па-другое, «у мастацкіх адносінах вершы Скарыны не маюць каштоўнасці», нягледзячы на іх пэўнае «гістарычнае значэнне» («яны былі ўсё ж першым фактам беларускага і — шырэй — усходнеславянскага вершаскладання»). Далей вучоны, гаворачы пра вершаванне Скарыны, не столькі аналізаваў яго вершы, колькі імкнуўся высветліць, што паслужыла для іх узорам. Не знайшоўшы такіх узораў сярод тагачаснай чэшскай і польскай сілабічнай паэзіі, ён звярнуўся да біблейскіх *сціхоў* і прыйшоў да высновы: вершы Скарыны «пабудаваны па ўзору біблейскіх», перакладчык Бібліі «зрабіў арыгінальную спробу адрадзіць прынцыпы біблейскага вершаскладання, прымяняючы іх на беларускай моўнай глебе». «Філалагічнае чуццё, — зрабіў вывад П. Беркаў, — вяло Скарыну па правільнаму шляху — ад біблейскай паэтыкі паралелізму чле-

наў да сілабікі, якая толькі што ўзнікла і шырока распаўсюдзілася ў заходніх, а затым і ўсходніх славян» [1, с. 259, 260].

Пасля з’яўлення артыкула П. Беркава прайшло пяцьдзясят год. Аднак, па сутнасці, ажно да цяперашняга часу адчуваецца пэўная недаацэнка вершаў Скарыны. Як і яго вершатворчасці ў цэлым. Так, у даследаванні вядомага беларускага вершазнаўца Івана Ралько «Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі» (1969) сілабіцы адведзена некалькі дзясяткаў старонак. Але вершы Скарыны, якія, быццам бы, толькі «з пэўнай агаворкай можна аднесці да сілабічных», пакінуты па-за ўвагай, пра іх згадваецца толькі ў адной прыстаронкавай зносцы кнігі [8, с. 29]. У сваёй манаграфіі «Шляхі беларускага вершаскладання» (1973) Мікола Грынчык скарынаўскія вершы, хоць і спыніўся на іх, аднёс хутчэй не да ўласна вершаў, а толькі да «пераходнай формы ад прозы да верша — розніца паміж імі найчасцей зводзіцца да большай ці меншай стылістычнай выразнасці і адпаведнай расстаноўкі сінтаксічна-інтанацыйных элементаў» [6, с. 38]. Разам з тым, ні І. Ралько, ні М. Грынчык, ні іншыя даследчыкі ў сваіх спецыяльных вершазнаўчых працах біблейскія *сціхі* Скарыны, на якіх, як на непасрэдным узоры для вершаў, засяродзіў сваю асноўную ўвагу П. Беркаў, нават не ўспомнілі. Як выказаўся М. Грынчык, дадзенае меркаванне П. Беркава «недастаткова пераканаўчае хаця б таму, што Скарына перакладаў “Біблію” не з арыгінала» [7, с. 35].

І ўсё ж публікацыя П. Беркава ў пэўнай ступені абудзіла цікавасць да Скарыны-вершатворца. Больш за тое — да Скарыны як да арыгінальнага паэта, у якога паэзія знайшла ўвасабленне і ва ўласных сілабічных вершах, і ў перакладных малітваслоўных (біблейскіх) сціхах, і — нярэдка — у арыгінальнай паэтычнай прозе прадмоў і пасляслоўяў да асобных кніг Бібліі.

Беларускія літаратуразнаўцы С. Кавалёў і І. Саверчанка, аўтары раздзела «Паэзія» ў «Гісторыі беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў. Том 1. Даўняя літаратура XI — першая палова XVIII стагоддзя» (2007), даюць, у прыватнасці, вельмі высокую ацэнку (у адрозненні ад П. Беркава) вершам Скарыны: «Беларускі першадрукар выявіў сябе як бліскучы нацыянальны паэт, сапраўдны майстар паэтычнага слова. У прадмовах да кніг «Іоў», «Выхад» і «Эсфір» змешчаны некалькі цікавых сваім зместам і формай рыфмаваных радкоў, якія не страцілі свайго мастацкага і духоўна-маральнага зместу да нашага часу» [6, с. 426].

Вершы Скарыны ў свой час цытавалі П. Уладзіміраў у манаграфіі «Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык» (СПб., 1888), Яфім Карскі ў шматтомным даследаванні «Белорусы» (Пг., 1921, т. III, вып. 2), Вацлаў Ластоўскі ва ўнікальнай «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна, 1926), Аляксей Коршунаў у «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (Мінск, 1959) і інш. Так што П. Беркаў, відавочна, некалькі хітраваў, кажучы, што «пастаноўка пытання» аб вершах Скарыны будзе нечаканай для шырокай аўдыторыі і «неправамернай» для спецыялістаў. Праўда, кожны з названых даследчыкаў цытаваў вершы, зыходзячы са свайго (ці сваіх папярэднікаў) разумення правільнасці запісу тэксту, часам недакладна ўказваючы на месца публікацыі іх у кнігах Бібліі (звычайна пішуць — «у прадмовах» ці, як В. Свяжынскі, — «у канцы прадмоў да кніг “Выхад”, “Эсфір” і “Іоў”» [9, с. 494]). У той жа час, як мы ведаем, пры аналізе мастацкіх твораў, найперш вершаваных, неабходна ўлічваць не толькі дату іх напісання / друкавання, але і месца, форму публікацыі. Зыходзячы з гэтага, мы звернем увагу як на храналогію друкавання вершаў, так і на месца і характар іх размяшчэння на кніжных старонках Бібліі.

Першы верш мае чатыры радкі. Надрукаваны ён *у якасці эпіграфа* да кнігі «Іоў», выдадзенай у Празе 10 верасня 1517 года. Размешчаны на тытульнай старонцы кнігі, адразу пасля яе назвы. Здавалася б, нязначны факт. Разам з тым не толькі жанрам эпіграфа (а гэта, па сутнасці, прысвячэнне), але і месцам яго публікацыі (на тытульнай старонцы) Скарына распачаў у беларускім кнігадрукаванні традыцыю гэтак званай эмблематычнай паэзіі — вершаваных прысвячэнняў-

«эпіграм», што асабліва расквітнела ў апошняй чвэрці XVI ст. Пачын Скарыны падхапілі беларускія паэты-сілабісты Андрэй Рымша, Лявон Мамоніч, Стэфан Зізаній, Лаўрэнцій Зізаній і інш., якія склалі і надрукавалі на пачатку кніжных выданняў («Статут ВКЛ» 1588 г., «Апостал» 1591 г., «Граматыка» 1596 г. і інш.) шэраг панегірычных вершаў-прысвячэнняў.

«Іоў» была другой па чарговасці выдання кнігай Скарыны, што ўбачыла свет літаральна праз месяц пасля знакамітага «Псалтыра» (выйшаў у Празе 6 жніўня 1517 г.). Вось гэты першы з вядомых нам віршаў Францыска Скарыны:

Богу в троици единому ко чти и ко славе:
    Матери его Пречистой Марии к похвале:
Всем Небесным силам и святым его к веселию:
    Людем посполитым к лоброму научению [2, с. 705].

І Я. Карскі, і В. Ластоўскі, і А. Коршунаў, і большасць іншых літаратуразнаўцаў, якія цытавалі гэты верш, адносяць яго да сілабічнай сістэмы вершавання, тым самым вызначаючы канкрэтную дату ўзнікнення сілабікі ў беларускай пісьмовай паэзіі — 1517 год. На тое, што дадзены верш сілабічны, указвае перш за ўсё просты падлік складоў у кожным з яго радкоў. Вось як размяшчаюцца склады ў чатырохрадкоўі Скарыны: 15—14—15—14[1]. У эпіграфе няма, як гэта было ў кананічнай сілабіцы, аднолькавай колькасці складоў ва ўсіх чатырох радках. Але гэтая аднолькавасць захоўваецца адпаведна ў няцотных і цотных радках, што па вялікім рахунку не пярэчыць сілабічнаму характару верша. Таму не зусім зразумелае меркаванне П. Беркава, які прааналізаваў гэты твор з пункту погляду строгай сілабікі пазнейшага польскага ўзору і, не знайшоўшы ў ім некаторых яе прыкмет (роўнаскладовасці літаральна *ўсіх* радкоў, *сумежнай* рыфмоўкі, абавязковасці *жаночых* рыфмаў), прыйшоў да зусім нечаканай высновы: «Значыць, данае чатырохрадкоўе з поўным правам можна назваць сілаба-танічным вершам» [1, с. 250].

Сапраўды, сілаба-тоніка дапускае і чаргаванне ў вершаваных радках рознай колькасці складоў, і перакрыжаваную рыфмоўку, і дактылічную, а не толькі жаночую рыфму (*веселию — научению*). Але галоўнае для сілаба-тонікі, што з'явілася ва ўсходніх славян нашмат пазней за сілабіку, — раўнамернае чаргаванне ў радках моцных і слабых месцаў, названае ў шырокім абыходку чаргаваннем націскных і ненаціскных складоў. Чаго, зразумела, няма ў чатырохрадкоўі Скарыны. О, калі б гэта было так, як сцвярджае П. Беркаў, мы гісторыю не толькі беларускага, але і ўсяго ўсходнеславянскага сілаба-танічнага вершавання перанеслі б на два стагоддзі раней, на самы пачатак XVI стагоддзя! На жаль (а можа, на шчасце?), сілаба-тоніка ўвайшла ў рускае вершаванне толькі ў першай палове XVIII ст. (у выніку рэформы Традзіякоўскага-Ламаносава 1735—1752 гг.). А ў беларускае і ўкраінскае — на цэлае стагоддзе пазней…

Звернемся цяпер да вершаванага пераказу шырока вядомых Дзесяці запаведзяў з кнігі «Выхад» (люты 1519 г.). Па сутнасці, гэта не проста пераказ, нават не «вольны пераклад» (У. Конан), а арыгінальны паэтычны твор, напісаны па матывах старажытнаяўрэйскага арыгінала. Прычым Скарына не толькі змяніў форму малітваслоўнага сціха першакрыніцы, надаўшы яму воблік вірша, але ў пэўнай ступені і сам яго змест. Паводле назірання У. Конана, ён «дзясятую запаведзь раздзяліў на дзве», іудаісцкі дагмат «наблюдай день субботний, чтобы свято хранить его», замяніў на «помни дни святые святити». Але, несумненна, самае галоўнае — паэт «поўнасцю адкінуў другую запаведзь», накіраваную калісьці супраць ідэалогіі язычнікаў: «Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на

[1] Чамусьці С. Кавалёў і І. Саверчанка налічылі іншую колькасць складоў: 16:15, 15:14 [Гл. 6, с. 426].

небе вверху и что на земле внизу, и что в водах ниже земли, не поклоняйся и не служи им» [Гл.: 6, с. 293—294]. Апошняе было абумоўлена тым, што хрысціяне, а не толькі язычнікі, у рэлігійных мэтах заўсёды шырока выкарыстоўвалі розныя віды выяўленчага мастацтва, у тым ліку «изображения».

Размешчаны верш «Веруй в бога единого…», у адрозненні ад папярэдняга твора, *унутры тэксту прадмовы* пасля слоў: «Яко господь бог десятеро приказание им дал написано на досках каменных». Прычым усе дзесяць запаведзяў — што надзвычай паказальна і важна — надрукаваны не паасобку, не дзесяццю радкамі, а папарна, пяццю радкамі. Да таго ж над кожнай запаведдзю ўказаны яе парадкавы нумар.

ПЕРВОЕ:
Веруй в бога единого.
ВТОРОЕ:
А не бери надармо имени его.
ТРЕТЕЕ:
Помни дни светые святити.
ЧЕТВЕРТОЕ:
Отца и матку чтити.
ПЯТОЕ:
Не забивай ни едина.
ШЕСТОЕ;
И не делай Греху блудна.
СЕДМОЕ:
Не вкради что дружнего.
ОСМОЕ:
А не давай сведецтва лжива.
ДЕВЯТОЕ:
Не пожедай жены ближнего.
ДЕСЯТОЕ:
Ни имения или речи его.

[3, с. 109—110].

А вось у такім запісе падае гэты верш П. Беркаў:

Веруй в бога единого,
А не бери надармо имени его,
Помни дни святые святити,
Отца и матку чтити,
Не забивай ни едина,
И не делай греху блудна,
Не вкради что дружнего,
А не давай свядецтва джива,
Не пожедай жены ближнего,
Ни имения или речи его.
[1, с. 247].

Заўважым, мы ўпершыню ў навуковай публікацыі ўзнавілі гэты верш так, як ён надрукаваны ў Скарыны. І сам П. Беркаў, які запазычыў вершаваную цытату у П. Владзімірава, і ўсе літаратуразнаўцы да яго і пасля яго, хто аналізаваў ці проста цытаваў дадзены верш (Я. Карскі, В. Ластоўскі, А. Коршунаў, М. Грынчык, С. Кавалёў і І. Саверчанка і інш.) запісвалі твор не ў выглядзе квінцілы (пяцірадкоўя), а — дэцымы (дзесяцірадкоўя). Адсюль, мы лічым, — галоўныя літаратуразнаўчыя недакладнасці, пралікі ў вызначэнні характару гэтага верша.

Згодна П. Беркаву, «пераказ дзесяці запаведзяў ужо не падпарадкоўваецца правілам ранняга сілабічнага вершаскладання. Паслядоўнасць складоў у ім наступная: 8:12; 9:7; 8:8; 7:9; 9:11. Адначасова можна заўважыць, што ў першым і пятым двухрадкоўях па 20 складоў у кожным, а ў другім, трэцім і чацвёртым — па 16 складоў. Такім чынам, аб роўнаскладовасці асобных радкоў размовы тут быць не можа» [1, с. 250]. С. Кавалёў і І. Саверчанка даюць некалькі іншую трактоўку паэтыкі скарынаўскага верша: «Верш напісаны ў адпаведнасці з логікай біблейскіх Дзесяці запаведзяў Майсея, але даступнай для беларускага чытача мовай. Ён мае пераважна паралельную [г. зн. сумежную. — ***В. Р***.] рыфму і адметную рытмічную структуру (9:12, 9:7, 9:9, 7:11, 10:11) — даволі мілагучную і лёгкую для чытацкага ўспрымання» [6, с. 426—427]. У падліку складоў П. Беркаў аказаўся больш дакладным, чым С. Кавалёў і І. Саверчанка, але і яго падвёў зменены

(у параўнанні са скарынаўскім) запіс верша — не пяццю, а дзесяццю радкамі. Калі ж зрабіць падлік складоў у пяцірадкоўі (так, як у Скарыны), атрымаецца наступны іх лік: 20—16—16—16—20. Дзіўная сіметрыя і гармонія! Вельмі рэдкія для свайго часу, надзвычай цікавыя два 20-складовікі... Своеасаблівая «рамка», што абрамляе тры 16-складовікі... Не звычайная канцавая, а ўнутраная рыфмоўка… Рыфмы адна-, двух- і трохскладовыя, у тым ліку састаўныя (*ближнего — речи его*)...

Няўжо гэта той жа сілабічны верш? Несумненна! Толькі «разняволены». Без тых строгіх фармальных «ланцугоў», якія вызначалі заходнеславянскую, а пазней і ўсходнеславянскую сілабіку: абавязковасці аднолькавай колькасці складоў літаральна ва ўсіх радках верша, канцавых сумежных, прычым толькі жаночых, рыфмаў, пастаяннага месца цэзуры. Ці не гэта скоўвала рускую сілабіку ў XVII — першай трэці XVIII стст., а беларускую яшчэ даўжэй — ажно да канца XIX ст.?..

Сіметрыя і гармонія ў вершы пра Дзесяць запаведзяў відаць нават у размеркаванні цэзуры ў асобных яго радках. Так, у другім, трэцім і чацвёртым яна знаходзіцца адпаведна пасля 9, 8 і 7 складоў. Другая палова тых самых радкоў па колькасці складоў уяўляе іх люстэркавае адбіццё — там іх адпаведна 7, 8 і 9 (не забудзем, што ў гэтых радках агульная колькасць складоў адна і тая ж: па 16). Першы і пяты радкі, як мы ўжо заўважылі, маюць па 20 складоў. Нягледзячы на гэта, падтрымліваецца пэўнае месца цэзуры і тут: у першым радку яна знаходзіцца пасля 8 склада, у пятым — пасля 9. Зноў сіметрыя і гармонія!

Калі ўлічыць усё вышэйсказанае, то сапраўды нельга не згадзіцца з думкай М. Грынчыка, што «па свайму структурнаму ўзроўню вершавання творы Скарыны намнога апярэджваюць пазнейшыя ўзоры беларускіх вершаў, яны сведчылі аб даволі высокай рытматворчай культуры беларускага асветніка» [4, с. 35]. Больш за тое, дададзім ад сябе: творы Скарыны неабвержна сведчаць пра яго высокую *паэтычную культуру* ўвогуле А яна, паэтычная культура, увабрала ў сябе як прыроджаны паэтычны талент, так і глыбокае веданне вусна-паэтычнай творчасці роднага народа, а таксама — вершавання многіх славянскіх і рамана-германскіх народаў (дзякуючы валоданню Скарынам лацінскай і іншымі мовамі, вучобе ў еўрапейскіх універсітэтах). Еўрапейскае ж вершаванне (грэчаскае, італьянскае, нямецкае і інш.), а не толькі польскае і чэшскае, узоры якога ў Скарыны шукаў і не знаходзіў П. Беркаў, было ўжо да пачатку XVI ст. добра развітае як у галіне метрыкі, рытмікі, гэтак і рыфмікі, строфікі. Што, дарэчы, доказна паказана ў даследаванні М. Гаспарава «Очерк истории европейского стиха» (1989) [4].

Цяжка паверыць, што, складаючы свае вершы, Скарына, як звычайны графаман, падлічваў колькасць складоў у радках, глыбакадумна падшукваў рыфмы, прыдумваў рыфмоўку. У кожнага сапраўднага паэта, а такім паэтам і быў беларускі асветнік, надзвычай развіта рытмічнае (ды і рыфмічнае) чуццё, той, кажучы словамі У. Маякоўскага, «рытмічны гул», які «пакрываўся словамі». І калі Скарына ўзгадняў структуру сваіх вершаў са структурай інтанацыйна-сказавага народнага вершавання, як сцвярджаў М. Грынчык, або арыентаваў іх на структуру біблейскага сціха, як гэта даказваў П. Беркаў, то гэтыя «ўзгадненні» і «арыентацыі» адбываліся спантанна, падсвядома. Мяркуючы па ўсім, вершы «прыходзілі» да яго, як прыходзяць звычайна да паэта «божай міласцю», а не проста да вершапісца: ён іх не выдумваў, не вымучваў. Ды і часу на тое не ставала: трэба было хутчэй пісаць прадмовы да 23 перакладных кніг Бібліі, якія тэрмінова ішлі ў друк. Калі б усё было па-іншаму, ён пакінуў бы пасля сябе не «ўсяго тры», а намнога больш вершаў. Магчыма, мы знайшлі б іх у кожнай з прадмоў. У той жа час свой паэтычны талент і паэтычнае натхненне ён раствараў не толькі ў *вершах*, але і ў *паэтычнай прозе* — напісаных прозай, паэтычных па сваім характары публіцыстычных тэкстах, а таксама ў перакладных і арыгінальных *малітваслоўных сціхах*, якія, спадзяваўся іх аўтар, праваслаўныя вернікі, «чтучи, поразумеють». Несумненна, былі ў яго (не маглі не быць!) арыгінальныя вершы і сціхі, што пры-

ходзілі неспадзеўкі, безадносна да асноўнага занятку — перакладу Бібліі. Але, відавочна, цэльная і мэтаскіраваная натура, ён ім не надаваў вялікага значэння. Ва ўсякім разе, не друкаваў. Хоць здаўна і гаварылі «Scripna manet!» («Напісанае застаецца!»), аднак — на жаль! — далёка не заўсёды. Часцей застаецца надрукаванае…

Апошні з вядомых нам вершаваных твораў Скарыны — гэта двухрадковік, які прыйшоў да яго, відаць, ужо тады, калі ён закончыў пісаць прадмову да перакладу кнігі «Эсфір» (чэрвень 1519). Двухрадковік і надрукаваны, у адрозненні ад першых двух віршаў, у самым канцы «Предословия доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги Есъфера-царици»:

Не копай под другом своим ямы, сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице, сам повиснеш на ней [3, с. 656][1].

Ацэньваючы рытміку дадзенага двухрадковіка, можна згадзіцца з П. Беркавым: гэта не сілабіка, бо ў ім няма «прыкмет рыфмы і роўнаскладовасці». Нават калі разбіць верш на чатыры радкі (што, дарэчы, зрабіў той жа П. Беркаў), то і ў такім разе мы ўбачым наступныя суадносіны складоў: 10—5—13—6. Несумненна, перад намі «чыстая» тоніка, што ўзыходзіць да народнага (фальклорнага) верша гутарковага тыпу. У кожным радку 7 іктаў, па сэнсе і інтанацыі раздзеленых цэзурай на дзве часткі: 4 + 3. Таму нельга згадзіцца з выказваннямі накшталт таго, што «на працягу 1517—1519 гг. Скарына ад несілабічных вершаў стаў пераходзіць да сілабічных» [1, с. 251]. Якраз наадварот! Пачаўшы з выразна сілабічных віршаў, ён звярнуўся і да народнай тонікі…

Рытміка, а таксама змест скарынаўскага двухрадковіка сведчаць не толькі пра біблейскую, а і пра народна-фальклорную яго аснову. Так, прыказка «Не капай ямы пад другім, сам уваліўся ў яе», праіснаваўшы звыш 500 год, дажыла ў беларускай вусна-народнай творчасці да сённяшняга дня. Менавіта яна справакавала (у добрым сэнсе) і само напісанне, і характар верша Скарыны. Першы яго радок — гэта крыху змененая, удакладненая народная прыказка (замест *пад другім — под другом своим*). Другі радок — падобнае структурна і па сэнсе выказванне з біблейскага аповеду. Уласна, у такім выглядзе яго там не было. Гэта — заключэнне, выснова, зробленая самім Скарынам з апісанай у Бібліі сітуацыі. А яна наступная. Аман, галоўны князь пры царскім двары, які злосна ненавідзеў яўрэяў, нагаварыў цару небыліц на царскага слугу Мардахея, каб атрымаць загад фізічна знішчыць яго. Ужо і вісельня ім была прыгатавана для гэтага. Але за Мардахея заступілася яго родзічка Эсфір, жонка цара, расказала яму пра нагавор Амана. Цара вельмі разгневаў падман князя. І на вісельні замест Мардахея апынуўся Аман…

* * *

Такім чынам, упершыню ў гісторыі не толькі беларускай, але і ўсёй усходнеславянскай паэзіі Францыск Скарына звярнуўся да *сілабічнага вершавання.* Яму належаць два арыгінальныя *вершы* («Богу в троици единому…» і «Веруй в бога единого…»), дзе ўвасоблены некаторыя наваўвядзенні ў галіне рытмікі і рыфмікі, аналогію якім можна знайсці хіба што ў больш позняй, сілаба-танічнай, сістэме вершавання, што атрымала распаўсюджанне ў рускай паэзіі з сярэдзіны XVIII ст., у беларускай і ўкраінскай — з XIX ст. Наследуючы традыцыі народнага (фальклорнага) *танічнага вершавання*, Скарына пакінуў і яго ўзор ва ўласнай паэтычнай творчасці — у вершы-двухрадковіку «Не копай яму под другом своим…».

[1] У «Гісторыі беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў…» гэты верш чамусьці друкуецца і разглядаецца як «чатырохрадкоўе» [Гл.: 6, с. 427].

Усё сказанае ставіць Францыска Скарыну, апрача ўсяго, у шэраг выдатных беларускіх пісьменнікаў ранняга Адраджэння, якія пакінулі глыбокі след у літаратуры — у мастацкім перакладзе, публіцыстыцы, паэзіі.

## Літаратура

1. Беркаў, П. Н. Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання / П. Н. Беркаў // 450 год беларускага кнігадрукавання. — Мінск: Навука і тэхніка, 1968. — С. 245—261.

2. Біблія: факс. узнаўленне Бібліі, выд. Ф. Скарыною ў 1517—1519 гг.: у 3 т. — Мінск: БелСЭ, 1991. — Т. 2. — 808 с.

3. Біблія: факс. узнаўленне Бібліі, выд. Ф. Скарыною ў 1517—1519 гг.: у 3 т. — Мінск: БелСЭ, 1991. — Т. 3. — 784 с.

4. Гаспаров, М. Л. Очерк истории европейского стиха / М. Л. Гаспаров. — М.: Наука, 1989. — 304 с.

5. Гаспаров, М. Л. Очерк истории русского стиха. Метрика, ритмика, рифма, строфика / М. Л. Гаспаров. — М.: Наука, 1984. — 320 с.

6. Гісторыя беларускай літаратуры XI—XIX стагоддзяў: у 2 т. Т. 1. Даўняя літаратура: XI — першая палова XVIII стагоддзя / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Янкі Купалы; навук. рэд. тома В. А. Чамярыцкі. — 2-е выд. — Мінск: Бел. навука, 2006. — 910 с.

7. Грынчык, М. М. Шляхі беларускага вершаскладання / М. М. Грынчык. — Мінск: Выд-ва БДУ, 1973. — 264 с.

8. Ралько, І. Д. Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі / І. Д. Ралько. — Мінск: Вышэйш. школа, 1969. — 232 с.

9. Францыск Скарына і яго час: энцыкл. давед. / Беларус. Савец. Энцыклапедыя; рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БелСЭ, 1988. — 608 с.



Валерыя Навуменка

# ДЗІЦЯЧЫМІ ВАЧЫМА...

## I

Няпростыя штукі часам падкідае нам жыццё. А пачалося ўсё з таго, што 13 студзеня 2017 года пад Стары Новы год па пошце я атрымала электронны ганарар з рэдакцыі «Звязды» вартасцю 9,08 рубля. Ну што ж, як той казаў! Мусіць, надрукавалі нешта з бацькавых апавяданняў, малайцы, не забыліся, у снежні споўнілася 10 год, як яго няма. І газету «Новы час» мне далі з успамінамі пра Івана Навуменку. У «Звяздзе» ж бацька некалі працаваў.

Праз 10—12 дзён раптам тэлефануюць, што ганарар гэты чужы, ёсць супрацоўніца бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Валерыя Георгіеўна Навуменка, бухгалтэрыя памылілася.

Я не імкнуся скарыстацца чужым ганарарам. Я яго адпрацую. А таму прапаную чытачам зрэбную торбачку ўспамінаў і прашу прабачэння за недасканалы стыль, бо, апроч медыцынскіх артыкулаў і медыцынскай дысертацыі, я нічога ніколі не напісала. А незнаёмай Валерыі Георгіеўне Навуменка жадаю творчага плёну.

У свой час і ў школе, і ў медыцынскім інстытуце на 250 студэнтаў лячэбнага факультэта я была адзінай Валерыяй.

Паколькі вучылася добра і зносінаў з дэканатам ніколі не мела, то і дэкан не ведаў мяне асабіста. У дзень атрымання дыплома ён выклікаў Навуменку Валерыя Іванавіча. Я падышла — дэкан глядзіць, нічога не разумеючы, а зала-амфітэатр рагоча. Добра, што ў дыпломе было пазначана правільна.

Першы месяц жыцця ў мяне не было імя, і ўсё праз бацьку, які лічыў, што ў яго павінны нараджацца сыны...

Я ўбачыла гэты свет праз год пасля смерці першынца ў нашай сям'і — ужо ладнага прыгожага хлопчыка. Пачуўшы навіну пра дачку, трохі агаломшаны бацька пайшоў пехатою па Чэрвеньскім тракце да цешчы. Як вядома, мабільнікаў тады не было.

Стаяў гарачы май, буяла радыска. Бабуля хадзіла па гародзе. Як яна пазней успамінала: «Якаўлевіч стаў каля плота і паведаміў:

— І ў нас ужо дзевачка ёсць».

Вось тут мая баба ўсхадзілася:

— Божа! Добра Вам, Якаўлевіч, і дзевачка!

Тут жа прапанавалася гарачая яешня са скваркамі (былі і куры, і свая свежаніна), гатовая да ўжывання радыска і «Партвейн», альбо «Мадэра». Гэта дакладна, як і тое, што баба пастаянна падкрэслівала: «Я са шляхты, нашы землі цягнуліся ад Заслаўя да Аляхновіч!» У яе ў хаце заўсёды прыхоўвалася пляшка добрага віна.

Была нядзеля. З бабуляй разам жыла сям'я яе старэйшай дачкі — маёй цёткі Рэні: яна, яе муж Васіль і дзве дзеўкі. На той момант усе былі дома. З'яўленне на свет новага чалавека адзначылі шыкоўна.

Мець многа свята ніколі не шкодзіць, потым гэту падзею ўрачыста адзначылі ў рэдакцыі часопіса «Маладосць» (бацька загадваў сектарам прозы, але прымаў

удзел і ўвесь сектар паэзіі на чале з Міколам Аўрамчыкам, які ў свой час назіраў развіццё рамана бацькоў), на філфаку БДУ (там тата выкладаў) і ў нашым асобным пакоі па вул. Кірава, 11 — з суседзямі па агульнай кухні.



*Іван і Ядвіга Навуменкі з дочкамі Таняй і Валяй. Мінск, кватэра па Ленінскім праспекце, 13. 1962 г.*

Бабуля Настасся Феліксаўна была каталіцкага веравызнання. Усім унукам яна прапаноўвала імёны згодна са сваім светапоглядам. Для мяне ў яе існавала некалькі варыянтаў: Эфця, Аўрэлія, Вэрця і Вікця...

Бацька ж пайшоў яшчэ далей. Пасля смерці першага дзіцяці ў мамы цэлы год не высыхалі слёзы. Таму было сімвалічна даць такое імя, каб яно азначала здароўе. І бацька, улюбёны ў латынь і замежныя мовы, ведаў, як старажытныя рымляне віталі адзін аднаго:

— Валя! Валеквэ! — маўляў, — Здароў!

Але Валянціна ніяк не падыходзіла, бо меўся верш:

*Валя, Валентина! Что с тобой теперь?*
*Белая палата, крашеная дверь...*

Мяне назвалі Валерыяй. У Буніна ёсць апавяданне «Валерыя і Зойка», дзе тая Валерыя, натуральна, Валя.

Я дзіўлюся са знаёмых, асабліва з тых, што належаць да філалагічнага асяроддзя: Святлану называюць Светаю і Ланаю, Людмілу — Людаю, Люсяй і Мілаю. Марыя — Маня, Марыся, Маруся, Марылька, Маша і г.д. Толькі ў маім выпадку намагаюцца звярнуць на Валянціну. Не! Бацька мой меў густ! Маё поўнае імя куды прыгажэй, і я маю права мілагучна звацца Валяю. Часам бацька зваў мяне Валюшэнцыя, вельмі часта Валюшка. Такога выдатнага таты, як мой, ні ў кога не было. Зяць Настассі Феліксаўны патрафіў адразу дзвюм канфесіям: аднойчы я прымала ўдзел у хрэсьбінах, дзе бацюшка, хрысцячы дзяўчынку Вікторыю (у праваслаўных няма Вікторыі), тлумачыў, што яе імя пры хрышчэнні Валерыя.

У гады майго дзяцінства існавала іншая мода. У класе, дзе я вучылася, сярод 21 вучня было 5 Ірак і 5 Сяргеяў. У паралельным класе — процьма Наташ і Вольгаў. Цяпер з'явілася мода на Настассю і Валерыю.

## II

Бацькі мае пазнаёміліся ў Купалаўскім тэатры ў студзені 1953 года. Насупраць дабудоўваўся на сродкі Літфонду дом, які на той час увесь быў у рыштаваннях.

Праз адзінаццаць год, у лютым 1964 года, наша сям'я пераехала на новае месца жыхарства. Мы атрымалі былую кватэру Івана Паўлавіча Мележа ў гэтым самым доме. Ад таго часу я жыву тут, адсюль давялося назаўсёды праводзіць бацькоў і не толькі іх...

Я памятаю сябе крыху раней, як і памятаю папярэднюю кватэру на Ленінскім праспекце, 13, дзе часта сядзела на падваконні чацвёртага паверха.

Нашымі добрымі суседзямі па пляцоўцы была сям'я Уладзіміра Міхайлавіча Юрэвіча, уладальніка шыкоўнага голасу. Уладзімір Міхайлавіч працаваў дыктарам радыё.



*Суседзі па доме на Карла Маркса, 36. Злева направа:*
*Алесь Адамовіч, Іван Мележ, Іван Навуменка, Янка Брыль.*

Жонку Лідзію Сямёнаўну ён прывёз з Масквы. Што гэта была за масквічка! Ніколі потым у жыцці я не сустрэла такой арыгінальнай жанчыны.

У свой час Лідзія Сямёнаўна вучылася ў школе разам з Васілём Сталіным. Яе родны брат пабраўся шлюбам з дзяўчынай-іспанкай, з тых дзяцей, якім СССР даваў прытулак.

Калі загінуў Патрыс Лумумба, мне помніцца суседчына жалоба па ім, як яна прыгаворвала ў нашай кватэры:

— Ах, Лумумба, Лумумба!

Маці маёй тады было трохі за трыццаць, яна ўжо мела мяне з маёю сястрою, з чырвоным дыпломам скончыла БДУ і аспірантуру, працавала над дысертацыяй і кожны дзень бегала на працу. Лідзія Сямёнаўна не працавала, даглядала Лёню і Галю, заўсёды мела чыстую газавую пліту. Чысціня ў іх кватэры была ідэальная. Маёй маці яна магла заявіць:

— Ты, Ядя, одеваешься не за свои деньги.

Мама ніколі не крыўдзілася, яна тады была здаровая і вясёлая. З нападак Лідзіі Сямёнаўны толькі рагатала. Іх Лёня ўжо быў старшакласнікам. Галя, крыху старэйшая за мяне, любіла гуляць з намі і разам вячэраць.

Ёсць у мяне адна смешная асацыяцыя: бацька ходзіць па кватэры ў паласатых піжамных нагавіцах і спявае:

— Ах ты, Семёновна! Да юбка в клеточку, да выполняем с тобой семилеточку!

Лідзія Сямёнаўна сапраўды насіла спадніцу «в клеточку», і я ніяк не магла даўмецца, што такое «семилеточка».

Яна заўсёды мела рацыю, бо была справядлівая. Жыццё ўспрымала з гумарам.

Памятаю апошнюю сустрэчу з Юрэвічамі, калі пасля маіх выпускных дзяржэкзаменаў мы з бацькам адпачывалі ў Дубултах, у пісьменніцкім Доме творчасці. Было многа сем'яў з Масквы, і да іх было троху лепшае стаўленне з боку адміністрацыі.

У сталоўцы мы сядзелі побач з Юрэвічамі. Лідзія Сямёнаўна двойчы сцярпела, калі замест курыцы былі нейкія косткі са шкуматамі мяса. Потым яна выклікала дзяжурнага па сталоўцы і запыталася:

— Уважаемый! Сколько кур вы приготовили на обед?

Той нешта прамармытаў.

— У каждой курицы две ножки. Так где же ножки? Кто их съедает?

З той пары наш столік абслугоўвалі па першым класе.

Уладзімір Міхайлавіч быў поўная супрацьлегласць. Заўсёды спакойны, памяркоўны, ветлівы. Вельмі любіў дзяцей. Заўсёды намагаўся адпачыць з Галяй. Хадзіў Юрэвіч павольна, не памятаю, каб ён хоць калі прыбавіў кроку. Як у той арабскай прымаўцы: «Хто спасціг таямніцу жыцця, той не спяшаецца».

Пражыў ён дзевяноста з гакам, перажыўшы жонку. Калі бацькі не стала, Галя патэлефанавала на радыё, «нарвалася» на раўнадушную асобу, якая адказала:

— Я такого не знаю.

З маёй маці працаваў на гістфаку прафесар Гілер Маркавіч Ліўшыц. Калі студэнт заяўляў:

— Я не знаю, — то чуў ад Гілера Маркавіча:

— А што, Вы, да знаете?

Але ж не ўсе такія, як тая на радыё. Дзякуй богу, у цыкле «Святло далёкай зоркі» зрабілі фільм пра гэтага непаўторнага чалавека і выдатнага дыктара.

Мае, тады маладыя, бацькі часта ладзілі госці, бывалі мы і ў Юрэвічаў. Трэба адзначыць, што Лідзія Сямёнаўна вельмі любіла слухаць беларускую мову, вывучыла яе. Пра Лёню і Галю і казаць няма чаго — яны ведалі на самым высокім узроўні. Вось вам і маці — масквічка.

Да бацькоў у той час наведваліся Міхаіл Яўгенавіч Цікоцкі (сын кампазітара), шмат хто яшчэ з журфака, маладыя філфакаўцы — Алег Лойка, Сцяпан Александровіч, Ніл Гілевіч, Леў Шакун.

Былі ў нас кружэлкі, якія ўсе рухаліся з хуткасцю 78 абаротаў за хвіліну. Ужо пазней з'явіліся больш сучасныя, хуткасцю на 33. Бацька заўсёды кружэлкі набываў, і па выходных днях мы іх абавязкова слухалі.

Сёння мне здаецца, што дзіцячае выхаванне ў Навуменкі адбывалася належным чынам. Бацька заўсёды купляў нам, апроч цацак, кнігі і сам прыдумваў казкі, напрыклад, пра машыну для смецця. Спачатку былі кнігі для малодшага ўзросту (мама казала, што балгарскія), дзе, напрыклад, у казы меліся ўстаўныя шкляныя вочы з чорнай зрэнкаю. Тады ў кватэры цэлую гадзіну панавала цішыня: седзячы на падлозе ў свае 1—2 гады, я рыхтавалася да будучай прафесіі афтальмолага — выкалупвала тое вока. Лічыце, рабіла энуклеацыю (enucleatio (лац.) — выдаленне вока).

Бацька гаварыў усюды і заўсёды выключна па-беларуску. Таму і казкі прыносіў беларускія. Гадоў у пяць, водзячы па старонцы пальчыкам, я слібізавала тыя тэксты. Тое самае рабілі сястра і брат. З бацькавых паліц у любы час можна было зняць любую кнігу. Сястра ў першым класе дабралася да «Анны Карениной», але зазначыла, што нічога цікавага няма — пасварыліся муж і жонка. Пазней пяцікласнік-брат у бібліятэцы Дома творчасці ў Кактэбелі патрабаваў Мапасана. Бібліятэкарка расшукала бацьку і пачала яго выхоўваць. Той паціснуў плячыма.

Перад маім першым класам тата прынёс кнігу «Тимур и его команда» Гайдара, якую на тагачасны розум я называла «Цімурая каманда». Праз год, захапіўшыся гэтым пісьменнікам, я праглынула ўсё, што мелася ў бібліятэцы.

Былі яшчэ адны мілыя сэрцу шафы з непаўторным пахам старых кніг, што стаялі ў холе вялікага дома ў Каралішчавічах. Там дазвалялася самому браць, але потым вярнуць.

У Каралішчавіцкі Дом творчасці наша сям'я заязджала ад майго нараджэння на працягу наступных дзесяці год. Потым бацька атрымаў соткі на славутай Лысай гары, і недзе напачатку 70-х пабудаваўся.

У Каралішчавічах бацькі імкнуліся жыць у асобным фінскім дамку. Такіх дамкоў было тры. Сярэдні заўсёды займалі Гурскія. Яшчэ адзін па чарзе арандавалі Панчанкі, Сабаленкі і Калачынскія. Іншых жыхароў я не памятаю. Калі наша сям'я сялілася пасля Панчанкаў альбо Калачынскіх, то мы, дзеці, ведалі, што ў шуфлядзе пісьмовага стала нас чакаюць шакаладныя цукеркі. У нас было свята.

Домік меў тры пакоі. Самы маленькі, дзе месціўся толькі ложак і столік з графінам вады, аддавалі мне. Малыя спалі разам з маці. Пісьменніку належаў

кабінет. Над маім ложкам віселі «Грачи прилетели». Цяпер, калі я сустракаю гэтае палатно Саўрасава, у вачах паўстае той пакойчык, адчуваю яго пах і заўсёды паляпшаецца настрой. Проста за вакном быў чорны яловы лес, якога я ўночы пабойвалася А паўсюль — пад вокнамі, уздоўж сцежкі да прыбіральні, раслі баравікі. Колькі ж мы, дзеці, іх там збіралі! Бацька заўсёды тлумачыў, што рабіць гэта трэба акуратна.

У адно лета другі крайні дамок занялі Сабаленкі. Я тады сябравала і часта гуляла з Ронай (Веранікай), іх унучкай. Вось яшчэ адзін прыклад нетрадыцыйнага абыходжання з прыгожым жаночым імем! Жонка Рамана Карпавіча (не памятаю яе імя) сядзела перад хатай на лаўцы. Пад гэтую лаўку залезла наша трохгадовая Таня і з-пад Сабаленчыхі выцягнула прыгожага баравіка. Па дарожцы якраз ішоў бацька, то малая з баравіком ляцела насустрач што было моцы. Сабаленкава жонка толькі дзівілася, чаму сама не заўважыла грыб.

Грыбы мы ведалі з дзяцінства. Бліжэй да елак ля хаты, а таксама па лініі тэлеграфных слупоў раслі вялізныя абсалютна чыстыя чырванагаловікі.

І гэта на 19-ым кіламетры ад Мінска па Магілёўскай шашы!

Колькі разоў незабыўныя Каралішчавічы апеты рознымі пакаленнямі пісьменнікаў і паэтаў! Дом творчасці збяёдаў адзін з сакратароў Саюза пісьменнікаў, прадаўшы за бясцэнак нейкаму заводу. Ён сваё лета бавіў не тут, яны не былі яму мілымі. На добры гаспадарскі розум іх можна было ўтрымліваць і сёння. Усім бы хапіла месца. Адбудавалі шыкоўную «Іслач», захацелі камфорту, а ці карыстаюцца ёй пісьменнікі — невядома.

У Каралішчавічы апошні раз мы з'ездзілі разам з сястрою летам 2000-га года пасля смерці мамы. Нешта пацягнула туды. Доўга шукалі шлях, так усё змянілася. Яны ўжо мелі назву «На ростанях», якую, вядома ж, запазычылі ў класіка, забыўшыся на тое, што і класік там бываў, нават мелася Коласава лаўка на паўдарозе ад галоўнага корпуса да сталоўкі.

Падчас нашага кароткага візіту там былі заезджыя палякі, якія, паставіўшы на прыступкі транзістар (на тыя прыступкі, дзе звычайна фатаграфаваліся ўдзельнікі семінараў маладых пісьменнікаў), выломваліся ў «ламбадзе». Насупраць іх імправізаванай танцпляцоўкі — тая самая паляна, дзе Міхась Ціханавіч Лынькоў распальваў вогнішча, а ўдзень дзеці бегалі за матылямі. Увесь прыгожы яловы лес быў высечаны і вывезены. Дарога да фінскіх домікаў стала лысай. За «домам Сабаленкаў» узводзілі нейкі корпус. Толькі сталоўка ды більярдная выглядалі гэтаксама, як і ў нашым дзяцінстве. Праўду кажуць, не трэба вяртацца ў мясціны, дзе быў шчаслівы...

На момант пераезду на вуліцу К. Маркса, 36 мне было без трох-чатырох месяцаў пяць гадоў, малой Тані праз два месяцы павінна было споўніцца тры.

Бацька, атрымаўшы ордэр на кватэру, пайшоў паглядзець, што і як. Першым, каго ён сустрэў у двары, быў Янка Маўр, які ў свой час адказваў за будаўніцтва дома з боку Літфонду.

— Ты чалавек добры ці кепскі? — запытаўся ён у бацькі.

Той трохі разгубіўся:

— Гэта людзям меркаваць, Іван Фёдаравіч.

— А як ты лічыш, К.....а што за чалавек?

Бацька разважыў і адказаў, што хутчэй кепскі.

— То тады ты добры чалавек, можаш пераязджаць, — пачуў у адказ ад Маўра.

Пераезд адбыўся першага лютага, а дзясятага маці некуды знікла. Я бачыла, што перад гэтым яна цягала кнігі, нешта ўладкоўвала, мыла падлогу ў калідоры. Па абедзе нас паклалі спаць, да вечара з намі была бабуля Настасся Феліксаўна. Потым вярнуўся з працы бацька. У атмасферы новага жытла з'явілася штосьці таямнічае...

Было ўжо цёмна. Таня спала. Я перабралася на канапу ў вялікі пакой, абняла вышываную падушку і ціхенька плакала. Потым зноў заснула. Прачнулася ад



*Таццяна, Павел, Валерыя Навуменкі. 1970 г.*

таго, што ў кватэры ішла гамонка. У кухні ўбачыла бацьку і трох нашых новых суседзяў: Івана Антонавіча Брыля, Івана Аляксеевіча Скрыгана, Івана Пятровіча Шамякіна. На стале стаялі салёныя сыраежкі. Чатыры Іваны сядзелі да раніцы — а 10-й гадзіне вечара 10 лютага нарадзіўся мой малодшы брат Павел...

Каб мець тады цяперашні розум, ды падслухаць тую гаворку, ды занатаваць!.. Маё меркаванне: дзеці пісьменнікаў старэйшага пакалення проста абавязаны напісаць успаміны з свайго пункту гледжання. Тым больш, што амаль усе маюць філалагічную адукацыю.

Старэйшыя дзяўчаты з нашага дома помняць візіты Уладзіміра Дубоўкі. Ён прыязджаў з Масквы і нейкі час арандаваў кватэру № 12. Ордэр на тую кватэру здабыў вайсковец А. І. Чурносаў, прызначаны рэдактарам газеты «Во славу Родины», які мусіў даслужваць свой тэрмін у Германіі. Верагодна, Максім Лужанін альбо Пятро Глебка дамаўляліся з гаспадаром, і Дубоўка сяліўся ў кватэры, вокны якой выходзілі на будынак ЦК кампартыі.

Праз нейкі час пасля нараджэння брата ў адведкі завітала Святлана Міхайлаўна Клімковіч з дачкою Алесяй і пляменнікамі Нікай (Веранікай) і Максімам. Прынеслі вялікага мядзведзя. Мне ўжо споўнілася пяць, Тані тры гадкі. Той мядзведзь не дачакаў часоў сталення нашага брата, расцерушылі мы яго хутка на шкамуты. Трохі раней прыходзілі, прычым самастойна, дзве дзяўчынкі-падлеткі — Галя Скрыган і Люда Карпава, якія, ашчадзіўшы тых грошай, што давалі ім бацькі, купілі немаўляці пінеткі.

Праз некалькі год прыгажуня і спявачка Галіна Іванаўна Скрыган выходзіла замуж таксама за музыканта. Танчылі госці над пакоем, дзе былі мы, дзеці. Да нашага агульнага задавальнення са столі абрынулася вялікая люстра. Назаўтра прыбегла прабачацца Ганна Міхайлаўна — маці маладой. Наша мама адмовілася ад усякай кампенсацыі, маўляў, вяселле ёсць вяселле, ды і лямпу тую перавезлі з папярэдняй кватэры.

Сям’я Мележа, ад’язджаючы, на нейкі час пакінула старое піяніна. Мама задумала вучыць мяне музыцы. Мае здольнасці правярала Галіна Іванаўна. Памятаю, што я пагадзілася спяваць з-пад стала, затуліўшыся абрусам.

Як паставілася да гэтай справы — такі і вынік. Не хацелася мне музыкі катэгарычна. Малая ж сястра пішчом лезла да чужога інструмента. Бацькі мусілі набыць уласны.

Танака скончыла адзінаццацігодку пры кансерваторыі, потым інстытут Гнесіных у Маскве. Сёння Таццяна Іванаўна Навуменка — доктар мастацтвазнаўства, прафесар, загадчык кафедры той жа ўстановы. Чаму Танака? Бацька перарабіў Таню на Танаку ў гонар прэм’ер-міністра Японіі. Малую яе ведалі як Танаку. Нават Лынькоў на Нарачы сведчыў:

— Вось і Танака прыйшла.

Сястра ў два гады была мікраскапічная, нізавошта не ішла ў ваду возера, толькі мачыла кончыкі пальцаў на нагах.

Наша сям’я і Шамякіны былі суседзямі па пляцоўцы. На паверх вышэй жылі сем’і Янкі Брыля і Яна Скрыгана. Ніжэй — Глебкі і Віткі, на другім



*Філфакаўцы.*
*Сцяпан Александровіч, Іван Навуменка, Алег Лойка.1981 г.*

паверсе міліцэйскі генерал і сям'я Клімковіча. Першы паверх і сёння займае кніжны магазін. У гады майго дзяцінства ён быў большы: пасля будаўніцтва метро яго частку, што глядзіць на вуліцу Энгельса, аддалі турыстычнай фірме. Менавіта ў гэтай частцы мама купіла мне некалі кніжку казак Ханса Хрысціяна Андэрсена, якую мы зачыталі дазвання.

У кватэры над намі спачатку жыў Усевалад Краўчанка. Ён меў трох сыноў, а ў кастрычніку 1960 года нарадзілася Волька. Вольцы было тры месяцы, калі яе бацька трагічна загінуў у Францыі. Вольчына маці з дзецьмі перабралася ў суседні пад'езд, у кватэру на другім паверсе, з якой выехала сям'я Міхася Калачынскага. Кватэру Краўчанкі занялі Скрыганы.

У выхаванні дзяўчынкі і дапамозе яе маці ўдзельнічалі пісьменніцкія жонкі. На Вольчын дзень нараджэння прыходзілі Ніна Міхайлаўна Брыль, Марыя Філатаўна Шамякіна, мая мама Ядвіга Паўлаўна, жонка Віткі Вольга Рыгораўна, Ганна Дзмітрыеўна Зарыцкая. Мо на каго я цяпер і забылася. Заўсёды збіралі пэўную суму грошай, дапамагалі апранаць. Еўдакія Емяльянаўна, удава Краўчанкі, была роднай сястрой Пімена Панчанкі. Безумоўна, адтуль таксама ішла дапамога. Як жывая, стаіць у вачах іх маці, Дар'я Факееўна, якая жыла са знакамітым сынам, але кожнага дня прыходзіла ў наш двор, калі дачка была на працы.

Я ўжо вучылася ў першым класе. Мама прывяла мяне са школы і пакінула гуляць. Адольвала смага. Я прысела ля лужыны пад балконам Краўчанкаў і прыгаршнямі чэрпала ваду. Напілася тады добра. На балконе разлямантавалася Дар'я Факееўна, уся ўсхадзілася, потым распавяла пра мой подзвіг маці. І, ведаеце, нічога са мной не здарылася, відаць, імунітэт быў на ўзроўні. Маці ж мяне адлупцавала. Было за што.

Часам здаралася і адваротнае... Расла я чалавекам сур'ёзным, бо заўсёды мела адказнасць за сястру і брата. У маіх 6—7 год бацькі спакойна пакідалі іх на мяне і на дзве-тры гадзіны ішлі ў кіно. Ведалі, што дзверы я нізавошта не адчыню і пліту распальваць не буду.

Брату Паўліку, калі я стала школьніцай, было тры гады. Ён увесь час круціўся побач, калі рыхтаваліся хатнія заданні. Першай вывучыў літару «о» і дзе толькі не ішоў, заўсёды паказваў на яе. У свой час я вывучала арыфметыку, а калі ў школу пайшла Танака — у нашай кватэры з'явілася матэматыка з іксамі. Паўлік вельмі спрытна вылічаў тыя іксы. У чатыры гады ён добра чытаў.

Зімою 1969 года ў Маскве, здаецца, у крамлёўскай бальніцы, памёр Пятро Глебка. Развітацца з братам з Уздзеншчыны прыехала яго сястра. Неяк так атрымалася, што ў Глебкаў нікога не было. Мама прапанавала ёй пасядзець у нас, пагрэцца, падсілкавацца. Пяцігадовы Паўлік пачаў распытваць:

— Чаго ты плачаш?

— Брат у мяне памёр, яшчэ не стары быў...

— Адзін?

— ?? Адзін...

Малы пабег у бацькаў кабінет і прывалок два тамы «Нюрнбергскага працэсу».

— Паглядзі, колькі людзей фашысты закатавалі, — даводзіў ён суразмоўцы і паказваў фотаздымкі. Потым гэтая жанчына казала, што гора горам, але ж і сынок у вас цікавы.

Усе без выключэння пісьменнікі да дзяцей ставіліся па-бацькоўску. Іван Антонавіч Брыль, захапіўшы дзіцячую хеўру, мог павесці ўсіх туды, дзе прадавалася марожанае. Наш сусед па пляцоўцы, Іван Пятровіч Шамякін, быў скоры на слязу, калі бачыў, як танцавала яго трохгадовая Алеся. Усіх дзяцей, што прыходзілі, гладзіў па галоўцы. Мой бацька не гладзіў, а неяк паляпваў, кажучы: «Мамачка!»

У яго заўсёды меліся схованкі з цукеркамі і пернікамі.

Аднойчы на лесвіцы сустрэў Іван Аляксеевіч Скрыган майго брата. Той, выставіўшы наперад нагу, кажа:

— Во!

— Што во? — запытаўся сусед.

— Ты што, не бачыш, што мне новыя чаравікі справілі?

Іван Аляксеевіч усміхнуўся:

— Павел Іванавіч! Я адразу заўважыў. Я і сам бы такія насіў.

Рабілі мы і шкоду, якое ж гэта дзяцінства без шкоды. Была ў двары дзяўчынка Наташа, што вучылася на клас вышэй. Яна была майстрам усякага паскудства: то вырве альяс з вазона на падваконні першага паверха, то пачне дражніць меншых дзяўчат, быццам у іх крывыя ногі. Аднойчы падбухторыла астатніх, каб усадзіць малую ўнучку Цімафея Васільевіча Крысько (Васіля Віткі) на паштовыя скрынкі ў пад'ездзе. Юлька падпарадкавалася, але потым усчыніла вэрхал. Тыя старыя скрынкі былі драўляныя, добра зробленыя, вялікія, не цяперашнія пляскатыя, у якія яшчэ трэба пастарацца ўсунуць часопіс. Прымацаваны былі высока. На Юльчын лямант прыбегла яе маці: больш за ўсіх атрымала тады я.

Калі сёння гэта давядзецца прачытаць вядомаму чалавеку ў літаратурных колах, Юліі Вісарыёнаўне Чарняўскай, то я прашу прабачэння за ўдзел у тым мерапрыемстве. Але хачу, каб яна ведала, што «не з мяне гарэла». Сяброўскія адносіны паміж пісьменніцкімі сем'ямі былі настолькі моцнымі, што з сярэдзіны 50-х да той пары, пакуль не падраслі іх дзеці, Брылі, Віткі і Зарыцкія разам праводзілі лета ў Купе на Нарачы, выязджалі ў Радашковічы.

Іншая кампанія — Шамякіны, Карпавы, Хадкевічы (пра гэта напісаў Іван Пятровіч у «Начных успамінах») мелі свае мясціны.

Вясёлыя былі і застоллі... Праўда, мы, дзеці, маглі назіраць іх толькі часам, з адлегласці: што-што, а дысцыпліна ў выхаванні заўсёды прысутнічала. Але я памятаю, як хораша аднаго разу спяваў «Златые горы» Янка Брыль. Потым яго зяць Рыгор Семашкевіч, неяк праслухаўшы прафесійнага спевака-тэнара з Львова, які гасцяваў у Беларусі ў свайго зяця, адзначыў маме:

— О! Брыль лепш спявае.

Усе без выключэння пісьменнікі нашых пад'ездаў былі харызматычныя асобы, нефарматныя, адметныя. Тая любоў, якой яны нас адорвалі, годнасць і шляхетнасць у дачыненні адзін да аднаго, тая іх працаздольнасць і адказнасць не маглі не адбіцца на нашым выхаванні. Ніколі і нідзе потым, адпрацаваўшы трыццаць тры гады ў медыцыне, я не сустрэла такіх высакародных адносін.

У 1969 годзе першым выбраўся з дома Іван Шамякін. Ён як Старшыня Вярхоўнага Савета атрымаў былую кватэру Сяргея Прытыцкага. У 1973-м пераехаў Ян Скрыган. У 1975-м цяжка стала падымацца на апошні паверх Янку Брылю. З'явіліся новыя пісьменнікі сярод нашых жыхароў — Ніл Гілевіч, Уладзімір Караткевіч, Вячаслаў Адамчык. Падрастала і я, як кажуць, «бралася на дзеўку». Далейшае жыццё ўжо бачыцца вачыма падлетка, а не дзіцяці. Цяпер у нашых пад'ездах пісьменнікаў не засталося.

Кланяюся ўсім суседзям дзяцінства і здымаю перад імі капялюш.

***Фотаздымкі з асабістага архіва аўтара.***

**Казімір Камейша**

# ВОДГУК ВЁСЕН ДАЛЁКІХ

Слова «вясна» даволі часта гучыць у яго вершах. Нават у тых, якія з'яўляліся ўжо ў даволі сталым узросце. Прыходзяць на памяць і гэтыя радкі:

Толькі той,
Хто першым вёсны будзіць,
Доўга будзе помніцца ў жыцці.

Не пра сябе гэта пісаў Іван Калеснік. Але нібыта і пра сябе. Яго першая танюткая кніга паэзіі «Белыя каштаны» трапіла да мяне ў рукі ў тым жа 1959 годзе, калі і выйшла. Цётка Ванда, якая загадвала Астраўской сельскай бібліятэкай на Стаўбцоўшчыне, паставіла на ёй бібліятэчны нумар, а я, пагартаўшы старонкі, разам з яшчэ нейкім чытвом запісаў навінку ў свой фармуляр. Я дапамагаў цётцы павялічваць вясковую чытацкую сям'ю, заводзячы фармуляры нават на тых, хто ні разу ў жыцці не трымаў у руках кнігі. Дома я прачытаў сціплую кніжыцу за адзін прысест. Усхвалявалі мяне радкі пра тыя самыя белыя каштаны:

На росных каштанах
Успыхнулі свечы
І светла, бяздымна
Гараць ля акна.
Я слухаю сэрцам,
Як моваю вечнай,
Як мовай зялёнай
Гамоніць вясна.

Нешта падобнае спрабаваў пісаць і я. Але маё было не гэткім складным. Маленькі зборнічак потым доўга вандраваў са мной у вучнёўскай сумцы разам са сшыткамі і падручнікамі. Я ведаў неўзабаве на памяць усе радкі з яго, хоць зусім нічога не ведаў яшчэ пра самога аўтара. Але завочна мы з ім былі нібыта і знаёмыя. Трэба прызнацца, што паэзіі я ў мае школьныя гады аддаваў увагі больш, чым вучобе. А тут яшчэ такая падтрымка: вершы мае вялікай нізкай надрукавала стаўбцоўская раёнка «Голас селяніна». Да слова, родная «Ивенецкая правда», дзе я лічыўся актыўным селькорам, паэзію ігнаравала. А знаёмства з рэдактарам пачалося з таго, што ён мяне моцна аблаяў, ледзь не адлупцаваў за нейкую там недакладнасць. Дзе тут сунешся з вершамі! Раёны нашы потым аб'яднаюць, а «стаўбцоўскім» я стануся задоўга да гэтага.

Крыху пазней я асмелюся даслаць сваю паэтычную пісаніну ў «Чырвоную змену». І адтуль неўзабаве атрымаю ліст за подпісам «Літкансультант Іван Калеснік». Адказ не злосны, можна сказаць, лагодны. А як цяпер разумею, дык звычайная адпіска. Такіх лістоў і я потым пісаў незлічонае мноства. Як кажуць, каб толькі адчапіцца. Але пісьмапісцам я быў актыўным, нават настырным. Закідваў пісьмамі рэдакцыю, адрываў людзей ад іх галоўнай справы (праз нейкі час тых рэдакцыйных лістоў набралася на добрую паўкніжку). Мне і самому хутка стала зразумела, што не ўхваляе кансультант маю паэзію. Але я актыўна

наступаў, а ён па сваіх правілах адбіваўся. Неяк сам па сабе прыдумаўся і фельетонны псеўданім майму крыўдзіцелю. Называў я яго завочна не Іван Калеснік, а Іван Кансультант. Пазней ён шчыра пасмяецца, калі даведаецца ад мяне пра такое ахрышчэнне. Хто б тады мог падумаць, што мы некалі станемся сябрамі і нават калегамі. Але спачатку адбылося знаёмства. У 1961 годзе, ужо студэнтам-першакурснікам, я ўпершыню нясмела адчыню рэдакцыйныя дзверы «Чырвонай змены». Знікла, адразу прайшла тая нясмеласць, калі мяне павітаў прысадзісты круглатвары чалавек у цяжкаватых акулярах. Ён паправіў пяцярнёй непаслухмянае двухраддзе светлых валасоў і, прыветліва ўсміхнуўшыся, прыставіў крэсла побач са сваім, добра загрувашчаным паперамі сталом. Прыняў ён мяне, можна сказаць, па-свойску, як свайго аднагодка, хоць разбег ва ўзросце быў даволі відавочны. Адразу выявілася, што мы ледзь не землякі, людзі з аднаго боку. Ён — з-пад Койданава, а я — івянецка-стаўпецкі. А праз тыдзень я ўжо дэбютаваў на старонках любімай «Чырвонкі» восеньскім вершам. Здаецца, і назва ў яго была восеньская — «Кастрычнік».

Прозвішча Калеснік даволі часта гучала з вуснаў творчай моладзі. Сярод новых маіх універсітэцкіх знаёмых шмат каго блаславіў у добры творчы шлях ён, Іван Калеснік, Іван Кансультант. Шаноўная «Чырвонка» тады запальвала зялёнае святло тым, хто вырашыў ахвяраваць сябе нялёгкаму служэнню роднай літаратуры. Але не ўсім: малады паэт павінен хоць нейкім радком звярнуць на сябе ўвагу. Не атрымаўшы «хрышчэння» ў «Чырвонай змене» дарэмна было сунуцца ў «Маладосць», «Беларусь» ці «Полымя». Хоць самога кансультанта паважаныя выданні як быццам і не заўважалі. А мне падабаліся простыя і шчырыя, як ён сам, вершы, дзе свечкамі адсвечвалі «росныя каштаны», прабіваліся да сонца «сінія разведчыкі вясны» — пралескі, ясна зацвітала вішня, што «прарасла, прабілася за плотам» — дзе прырода нібыта сама прасіла твайго чалавечага здзіўлення. Мяне ў паэзіі тых гадоў захаплялі прыродаапісальныя вершы. Усё астатняе з грамадскім гучаннем выглядала надта ж крыкліва-агітацыйна. Такі гэта быў час. Час клічнікаў і лозунгаў.

Мне падавалася, што з Івана Іванавіча атрымаўся б нядрэнны педагог, уяўляў нават яго з настаўніцкай указкай ля мапы дзе-небудзь у класе вясковай школы. Ён і рыхтаваў сябе да гэтай нялёгкай працы. Скончыў нават Мінскае педвучылішча. Паступіць туды хлопца ўгаварыла старэйшая сястра Вера, якая перад самай вайной скончыла гэту навучальную ўстанову. Аднак жыццё распарадзілася па-іншаму. І настаўнікам Івану працаваць не давялося. У «Чырвонай змене» загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва працаваў тады яго зямляк Артур Вольскі. Ён і прапанаваў хлопцу настаўніцтва зусім іншага, нечаканага плана: кансультаваць і скіроўваць на шлях літаратуры маладых аўтараў. Сярод тых аўтараў былі часта і старэйшыя за яго самога. Але Іван Калеснік у той час (а гэта былі пяцідзясятыя гады мінулага веку) ужо сам друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях. А цяпер на яго плечы лягла большасць рэдакцыйнай пошты. Не скажаш, што праца гэта была лёгкай. Адзін я дасылаў на адрас газеты канверт за канвертам. А такіх пісакаў хапала. І добра, што хапала. Бо колькі было страчана ў гады папярэднія!

На першую квадру яго жыцця — так Іван Калеснік называў сваё маленства — прыпалі гады Вялікай Айчыннай вайны. Таго, што вынес хлапчук з тых нялёгкіх гадоў, хапіла б, напэўна, на добрую аповесць, а можа, нават і раман. Вось што нам засведчыў паэт сваёй памяццю: «Восенню сорак другога ў нашу вёску наведваліся невядомыя людзі. Яны прыязджалі амаль кожную ноч. Маладыя мужчыны і хлопцы пачалі знікаць з імі. Гэта былі партызаны. Хутка і мая старэйшая сястра пакінула дом. Мы сталі партызанскай сям’ёй. А гэта азначала — кожны дзень небяспека, бо наша вёска Грычына Дзяржынскага раёна была між варожых гарнізонаў. За тры гады акупацыі маё маленства зведала невыказныя жахі і цяжкасці. Яно мерзла і галадала, не раз глядзела ў твар смерці. І не пісаліся б гэтыя радкі, каб не давялося прычакаць чэрвеньскага дня, толькі ўжо сорак чацвёртага года».

Гэта ўсё агульныя, надта скупыя словы прыпаміну. А ўсе жорсткія падрабязнасці вядомыя толькі яму, хто пісаў гэтыя радкі.

У мясцовай школе будучы паэт правучыўся толькі адну зіму. Чэрвеньскім днём падчас першых сваіх канікулаў на гасцінцы бліз Грычыны, гуляючы з аднагодкамі, ён убачыць варожыя крыжастыя танкі. Равучы маторамі і абдаючы ўсё дымам, яны будуць рухацца старым кацярынінскім шляхам на Мінск. Малюнак гэты назаўсёды адкладзецца ў хлапчукоўскай памяці. У сталасці Іван Калеснік часта прызнаваўся, што яму заўсёды прыемна вяртацца ў сваё маленства, але страшна вяртацца пры гэтым у вайну, якой былі захмараны яго дзіцячыя гады.

Трэба ведаць, што кожны хлапчук яго ўзросту ў ваеннае ліхалецце не пачуваўся нейкай малечай. Заўсёды было жаданне стаць упоплечкі з дарослымі, узяць у рукі зброю і змагацца з ворагам. Тым больш, калі ты жывеш у сям'і, якая адразу ж сталася партызанскай. Сярод лясных змагароў бясстрашнай партызанкай слыла старэйшая сястра Івана Вера.

Было радасці хлапчуку, калі пасля вызвалення разведчык-партызан Саша Райкоў падараваў яму сапраўдны карабін. Ён і спаў на ім, хаваючы пад сеннікам ад бацькі і маці. І калі дома нікога не было, хлапчук выцягваў з-пад сенніка сваю дарагую «цацку», чапляў на рабіну нямецкую каску і рабіў з яе «рэшата». Гэта і гульнёй дзіцячай цяжка назваць.Тут усё падобнае на нейкую помсту. А гульні былі хіба ў нас, пасляваенных?.. Страшных «цацак» вайна пакінула па лясах безліч. Яны не толькі нас забаўлялі, але часта і калечылі.

Былі, вядома, свае радасці і ў тыя гады. Іван Калеснік потым прыгадваў: «З пачатку вайны мы нічога не ведалі пра лёс старэйшага брата Васіля. Ён быў танкістам на Карэльскім перашыйку ў саракавым, браў Выбарг. Потым займаўся ў Ленінградзе ў вайсковым вучылішчы. І вось сустрэча! На парозе ў капітанскіх пагонах чалавек. Ён просіць вады, і маці не адразу пазнае ў ім сына. Дзіва што? У гады вайны ён тапіўся ў Волхаўскіх балотах, змагаўся пад Ленінградам, зведаў блакаду».

Пасля трохгадовых «ваенных канікулаў» восенню 1944 года Іван пайшоў працягваць вучобу ў другі клас Грычынскай сямігодкі. А за хлапчукоўскімі плячыма засталася яшчэ адна школа, якую ён праходзіў цэлыя тры гады, страшная школа вайны. Не было той сілы, якая б магла выбіць з памяці яе суровыя ўрокі. За школьныя парты яго аднагодкі селі ўжо падросткамі і адразу прагавіта ўзяліся за кнігі, не толькі падручнікі. Да чытання ў той час была незвычайная прага, асабліва ў малалетніх. Іван шмат чытае, нават спрабуе пісаць вершы. Аднойчы асмельваецца паказаць іх школьнаму настаўніку. Той аднёсся да занятку свайго вучня крытычна, але і падахвоціў хлопца да пісання. І ў педвучылішча ён прыйшоў маладым паэтам, які «падае добрыя надзеі». Ці мала каму з нашага брата даводзілася чуць гэтыя знаёмыя суцяшальныя словы: падае добрыя надзеі! Шчыра падтрымалі творчыя намаганні маладога аўтара яго новыя знаёмыя, ужо вядомыя паэты Анатоль Вялюгін, Сяргей Дзяргай, Уладзімір Корбан. Ну а знаёмства з Артурам Вольскім перарасло ў шчырае зямляцкае сяброўства.

У «Чырвонай змене», куды ён прыйшоў працаваць, панавала сапраўды творчая атмасфера. Ён шмат піша, друкуецца. Вершы тады пісаліся шчырыя, узнёслыя, адпаведныя маладому аўтарскаму настрою. «Вясна цёплых пачуццяў» няўрымслівай птушкай заляцела ў ягоную творчасць менавіта ў тыя шчасныя пасляваенныя гады. Ніякага суму, змрочнасці — толькі сонечнае, радаснае, абавязкова з крыламі, чаго і патрабавала сама рэчаіснасць.

Журналісцкая праца з часам брала верх над паэзіяй. Краіна загойвала раны, адбудоўвалася. І тым, каму выпала стаць летапісцам, нельга было адседжвацца ў рэдакцыйным пакоі, быць маўклівым сузіральнікам. З блакнотам карэспандэнта аб'ездзіў Іван Калеснік усю рэспубліку, наведаў усе новабудоўлі. Пісаў замалёўкі, артыкулы, нарысы, нават фельетоны, а таксама і паэтычныя падтэкстоўкі. На свае вершы часу заставалася мала. Затое як шчыра падтрымліваў ён іншых, калі ўзна-

чаліў аддзел літаратуры і мастацтва ў сваёй газеце. Цяпло яго сяброўскай падтрымкі, як я ўжо казаў, адчувалі не толькі маладзейшыя за яго, але і людзі з узростам. А калі называць тых, каго ён змог заўважыць і блаславіць у літаратуру, дык тут будуць імёны Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, Юрася Свіркі і Васіля Зуёнка, Уладзіміра Паўлава і Сымона Блатуна, Анатоля Сербантовіча і Васіля Макарэвіча, Міколы Маляўкі і Хведара Чэрні. Не Іван, а Іван Іванавіч — так пашанотна называлі яго не толькі маладзейшыя, а нават аднагодкі і людзі старэйшага ўзросту. Паэзія 50—60 гадоў мінулага стагоддзя найцесным чынам звязана з яго імем. Тут варта згадаць, што і першыя свае апавяданні дасылаў калісьці ў «Чырвонку» Івану Калесніку Васіль Быкаў. І потым, калі ў пісьменніка было ўжо сусветнае імя, Васіль Уладзіміравіч з удзячнасцю згадваў паэта і лічыў яго першую літаратурную падтрымку ў сваёй творчасці вельмі істотнай і своечасовай.

Ну а сваё пісалася няспешна. У ранніх вершах Івана Калесніка вельмі шмат вясковага, прыземленага, але не пазбаўленага добрага маладога здзіўлення, летуценнасці, нейкіх важных прадчуванняў.

Ён пісаў пра ўсё, пра што пісалі і тыя творцы, хто яшчэ нядаўна прайшоў шляхамі суровых ваенных выпрабаванняў і потым, у мірны час, нёс галоўную службу ў літаратуры. Паэты-франтавікі не цярпелі фальшу, цанілі сапраўднае сяброўства, шчырасць і адкрытасць. Маладыя імкнуліся раўняцца на іх.

Краіна спакваля адыходзіла ад нядаўняй вайны, памалу, але ўпэўнена адбудоўвала нядаўна разбуранае. У «звоне трамвая», у поскрыпах грузавых кранаў, гуле машын, усюды, дзе ішла вялікая аднаўленчая праца, маладыя творцы ўслед за старэйшымі шукалі паэзію. Рабочая тэма не была такой казённай і навязлівай, якой яна станецца пасля. Узнёсла пісалася тады і пра каханне, замілавана — пра родную прыроду. Рэдакцыйныя камандзіроўкі таксама дарылі паэтычныя радкі і страфы. У вершы «Камандзіроўка» Іван Калеснік нават прызнаецца чытачу: «Вандраваць мне шмат здараецца // То машынай, то пяшком». А ўжо пазней у іншым вершы пра свой дарожны неспакой паэт скажа зусім інакш:

Я палюбіў
Стракаты шум вакзальны
І ў золкі дождж,
І ў сонечныя дні.
Я не блукаю,
Не шукаю ўдач,
Не еду я
Да прыгарадных дач.
Мой кабінет —
Вагон звычайны мулкі,
Дзе водар хлеба і крамянай булкі…

«Я жыву тым самым жыццём, якім жыве ўвесь народ», — нібыта жадае падкрэсліць нам паэт. А як жа можна жыць інакш, калі ты жывеш у сваёй краіне. А пра сваю працу ў газеце Іван Калеснік пазней скажа так: «Тут, у “Чырвонай змене”, засталіся маё юнацтва і гады маладосці. Яна ў мяне забрала іх. Але і многа дала. Дзякуючы працы ў газеце я ўбачыў усю Беларусь: старажытныя Полацк і Тураў, гарады нашых дзён — Салігорск і Нафтабуд, чароўныя краявіды Нарачы і Браслаўшчыны. А колькі незабыўных сустрэч з людзьмі, колькі новых сяброў набыў я ў журналісцкіх камандзіроўках».

Вандроўкі вандроўкамі, а часу на напісанне сваіх вершаў заставалася мала. Сябры, нават маладзейшыя за яго, выдавалі кнігу за кнігай, а ў Калесніка ледзьве набіралася на новы зборнічак. І ён пачаў думаць пра новае месца працы. Кожны з нас, вядома ж, марыў пра часопісную працу, дзе менш за ўсё штурмоўнай рэдакцыйнай беганіны, стыхійнасці. Шанцавала нямногім. Жадаючых шмат, а выданняў, каб падлічыць, і пальцаў адной рукі хопіць. Яму, як ён лічыў, пашанцавала. У 1962 годзе яго ўзялі на працу ў часопіс «Бярозка». Але надоўга ён там не затры-

маўся. Цяжкаваты характар быў у рэдактара часопіса, таксама ж паэта, даволі вядомага сваім «галоўным індустрыяльным» вершам. З «Бярозкі» Іван Калеснік неўзабаве пераходзіць у рэдакцыю літаратурна-драматычнага вяшчання Рэспубліканскага радыё. Сёння тых, хто прайшоў праз гэту самую рэдакцыю, набралася б на добры літаратурны ўзвод. Адтуль, з радыё, у 1965 годзе Іван Калеснік выправіцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскву. У той год я, нядаўні студэнт Белдзяржуніверсітэта, якраз служыў там у войску. Вайсковая наша часць месцілася ў Ізмайлаве. І калі мне выпадала вырвацца ў кароткае звальненне, я садзіўся ў аўтобус, каб хутчэй дабрацца да цэнтра вялікай сталіцы. Не скажу, што цягнула мяне на тую самую Чырвоную плошчу, куды спяшаюцца ўсе госці Масквы. Там я паспеў пабываць і нават сфатаграфавацца. А цягнуласядуша мая на Цвярбуль, Цвярскі бульвар, дзе пад нумарам 25 стаяў славуты асабняк Герцэна, які даўно ўжо называўся Літаратурным інстытутам імя Горкага. Зайздросціў я тым, каму пашанцавала вучыцца ў яго сценах, і даўно намерваўся памяняць свае ўніверсітэцкія сцены на такія прыцягальныя літінстытуцкія. Я згодзен з вядомай фразай, якая пастаянна гучыць у гэтай установе: «Нельзя выучиться на писателя». Вывучыцца, вядома ж, нельга. А прыдбаць творчага ўздыму, упэўненасці цалкам магчыма. Бо тут чалавека творчага прыўздымае на крылы сама атмасфера.

Неяк я атрымаў ліст ад Хведара Чэрні. Ён, мой аднакурснік, працаваў тады на Рэспубліканскім радыё. Хведар паведамляў мне, што ў Маскве з’явіўся яшчэ адзін беларус, яго калега Іван Калеснік паехаў вучыцца на ВЛК, і раіў, калі нададарыцца магчымасць, праведаць земляка. Магчымасць такая неўзабаве з’явілася. Без асаблівых цяжкасцей адшукаў я інтэрнат Літінстытута, знайшоў патрэбны пакой. У слухачоў ВЛК былі свае прывілеі. У адрозненні ад студэнтаў, кожны з іх жыў у асобным пакоі. «Творчая асоба павінна жыць асобна, але асобна ад каго?» — жартавалі самі творцы. Калі я адчыніў дзверы, мой зямляк нават крыху разгубіўся ад нечаканасці. Быў ён у пакоі не адзін. Я перыпыніў іх зацікаўленую гутарку з армянскім калегам. Мы па-зямляцку абняліся, і Іван Іванавіч мяне тут жа пазнаёміў з армянскім сябрам паэтам Арамамісам Саакянам. Потым я пазнаёміўся з яго вершамі ў перакладзе Івана Калесніка. Гаспадар тут жа гукнуў землякоў, і ў невялікім пакоі адразу ж стала цеснавата. Да гурту імгненна прыспулкаваліся Яўген Крупенька і Мікола Федзюковіч. Яўгена я ведаў даўно, а з Міколам бачыліся ўпершыню. Хлопцы замітусіліся, забегалі. Пачалі накрываць стол. Мікола Федзюковіч, які сам толькі нядаўна зняў салдацкія пагоны і добра ведаў, што такое вайсковая служба, засыпаў мяне пытаннямі, стараўся асабліва дагадзіць госцю-земляку. З’явілася на стале і чарка, і родная скварка. І закіпела, як кажуць, гамонка. Мае суразмоўцы наперабой распавядалі пра свае творчыя справы, шчодра дзяліліся навінамі літаратурнага жыцця, казалі часам і пра тое, чаго я зусім не ведаў, а схопліваў толькі здагадкамі. А я слухаў ды зайздросціў ім, бо паміж намі, як мне здавалася, такая адлегласць раз’яднанасці. Маё ўсё было недзе наперадзе, іхняе ж тут, на яве. Эх, як мне далёка да іхняга!..

Дзень быў нядзельны, творчы інтэрнацкі люд падымаў настрой тым жа самым, чым і мы за нашым сталом. Дабаўлялася прысутных і ў нашым пакоі. З кожным мяне тут жа знаёмілі. За сталом чыталіся вершы, вяліся нейкія спрэчкі, і ў мяне неўзабаве знікла адчуванне, што я тут усяго толькі госць. Настолькі ўсё было шчыра, проста і, як любіў казаць ён, Іван Іванавіч, «без фокусаў». Толькі здалося мне чамусьці, што нейкім дужа ўсхваляваным і імпульсіўным пачуваўся ў нашым гурце Мікола Федзюковіч. Ён то з’яўляўся за сталом, то знікаў на нейкі час, нічога не сказаўшы. Мне патлумачылі: закахаўся па вушы хлопец. Але не было ў каханні тым, на жаль, узаемнасці. Пазней я даведаюся, што Міколаву красуню перахапіў слынны маскоўскі паэт.

Мне і сёння здаецца, што тая маскоўская сустрэча нейкім асаблівым чынам змацавала наша далейшае сяброўства з Іванам Калеснікам. Радкі ягонага верша «Інтэрнат», якія з’явіліся ў паэта неўзабаве, для мяне таксама мелі свой асаблівы сэнс:

Але, Масква, я не забуду дні,
Калі ты радасць і тугу дарыла,
Калі знямогай з ног мяне валіла.
Тут мы пароўну ўсё, што ёсць, дзялілі —
І свежы бохан, і сухар.
Тут мы упершыню сябе адкрылі —
Не кожны мае да сяброўства дар.

«Сяброўства дар», пра які тут згадвае Іван Калеснік, — гэта таксама не абыякая здольнасць. Ён якраз меў гэты дар, а маскоўскі інтэрнат толькі пашырыў межы яго сяброўства. Дружба народаў, пра якую сёння гавораць надта мала, мацавалася якраз добрай повяззю чалавечага сяброўства. Пагартайце пасмяротны паэтычны томік Івана Калесніка «Падарожнае» (1982), і раздзел перакладаў вас пераканае, які шырокі абсяг мела сяброўства беларускага паэта.

Ніхто наперад не ведае, якія нечаканасці рыхтуе нам само жыццё. Міне некалькі гадоў пасля той маскоўскае сустрэчы, і мы з Іванам Калеснікам будзем сядзець у адным пакоі на Чырвонай, 4 у рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Рэспубліканскага радыё. Дададзім сюды Юрася Свірку і Валянціна Мысліўца. Працуем, як кажуць, на два вазы. Мы з Юрасём цягнем воз паэзіі, а Іван з Валянцінам — воз прозы і публіцыстыкі. Наша праца не самотная. Дый аўтары не даюць сумаваць, прыходзяць не толькі з новымі творамі, але і перакінуцца словам. Часта гэта «перакідка словам» адбываецца ў кавярні, якую мы называем «Чорныя скалы». У тыя гады дужа вядомая, як тады казалі, «кропка» ў творчым асяроддзі Мінска. Саступала яна па сваёй значнасці хіба «Мутнаму воку» на галоўным праспекце горада. Кропкі ў нашай любімай «кропцы» ніхто ніколі не ставіў. Усё заканчвалася вясёлым шматкроп’ем, гэта значыць — працягам.

Сваю новую кнігу «Калі разам мы» Іван Калеснік падпісваў мне ў рэдакцыі: «Казіку Камейшу з добрымі пажаданнямі. Па-сяброўску шчыра. 29.XI.67 г. Іван Калеснік». Прызнаюся, што і назва кнігі «Калі разам мы» мне часам гаворыць нават больш, чым сам яе змест. Трэба толькі ўдумацца ў тры гэтыя беларускія словы — і адразу яны вырастаюць у шырокі і вялікі сэнс і змест, дзе знойдзецца месца не толькі таму, што пражыта, але і добрай падказцы, як павінна яно быць у жыцці, калі людзі разам, плячо да пляча, думка да думкі, не раз’яднаныя нейкімі звадамі, сумненнямі, зайздрасцю і варожасцю.

Назва апраўдвала сябе, з якога боку ні глянь. Мы тады шмат дзе былі разам. Нават жылі ў Завадскім раёне сталіцы, які ганарова перасякаў патроннай стужкай Партызанскі праспект. Я — па вуліцы Райніса, ён побач — па Васняцова. Па суседстве жылі Хведар Жычка і Уладзімір Паўлаў. На працу дабіраліся трамваем. Ён быў марудны. Пакуль даедзеш да Чырвонай, можна было перачытаць усе навіны ў свежых газетах — і нашых, і маскоўскіх. Іванавы радкі «Не паеду сёння на трамваі, // Лепш вячэрнім горадам прайду» сталіся крылатымі. Іх ведалі многія мінчукі.

Варта адзначыць, пісаў Іван Калеснік мала і пасля сваёй улюбёнай «Чырвонкі». І, як я разумею, пісаў цяжка. Больш даваліся яму пераклады. Але задум у яго было шмат. Седзячы ў адным пакоі, мы пачуваліся адзінай сям’ёй і часта дзяліліся не толькі нейкімі сваімі навінамі і сакрэтамі, але і задумамі. Як цяпер чую адно з яго прызнанняў: «Хлопцы, прызнаюся, задумаўся такі верш. Вось зараз мы перахоўваем нашых воінаў у брацкія магілы. Ужо аднойчы аплаканых аплакваем нанова. Тут можна так закруціць». Адгукаўся звычайна маўклівы Свірка: «Дык і закруці!» Верш неўзабаве напісаўся. Пачынаўся ён радком «Мы двойчы смерць перажывалі...» А заканчваўся гэтак:

Здалося, зноў салдат хаваем
Каля дарог, ля самых хат.
Здалося, сэрцы боль жахае,
Што пёк іх многа год назад.

Пра гэта сапраўды мала хто пісаў тады. А верш як быццам застаўся незаўважаным. У літаратуры яно часта так бывае: у задуме ўсё выглядае заўсёды велічней, чым на самай справе.

З удзячнасцю згадваў Іван Калеснік свае два гады вучобы ў Маскве на ВЛК. Не ведаю, як дапамаглі яны ў творчай працы паэта, а вось тэарэтычную падкаванасць адтуль ён вынес належную. Часта і з намі дзяліўся тым, чаго мы яшчэ не ведалі. А наконт уласнай творчасці прывяду яго прызнанне: «Я прымаю формулу рускага паэта Мікалая Забалоцкага “МОМ” (мысль, образ, музыка). Пакуль я здолеў не многа».

Пасля Масквы Іван Калеснік не надоўга затрымаўся на радыё. Неўзабаве ён перайшоў на працу ў часопіс «Маладосць». Але аддзел публіцыстыкі, які ён узначаліў, нават для журналіста не самы лёгкі, а для паэта яшчэ ў большай меры турботны. І гэта ён неўзабаве зразумее. Патрабаванні ў часопісе былі самыя сур’ёзныя, намеры ў новага супрацоўніка былі адпаведныя. А вось аўтараў, якія б маглі адолець неадольнае, не хапала. І па настроі старэйшага сябра можна было зразумець, што на новым месцы ён надоўга не затрымаецца.

На сваім месцы, мне здаецца, быў паэт у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Ён зноў, як і калісьці ў «Чырвонай змене», шмат увагі аддаваў літаратурнай моладзі, вельмі ўдумліва працаваў са сталымі аўтарамі. Ягоны рэдактарскі подпіс стаіць пад многімі кнігамі, якія робяць гонар нашай літаратуры. І калі ўжо жыццё паэта дзяліць на квадры, як гэта робіць Іван Калеснік у аўтабіяграфіі, дык тут, у самай апошняй квадры, на якую прыпадае праца ў «Мастацкай літаратуры» зроблена не так і мала. Але ж колькі і не дароблена, што засталося толькі ў намерах і задумах!

У прадмове да пасмяротнай кнігі паэта «Падарожнае» Рыгор Барадулін згадвае: «Было ў яго самае ўлюбёнае слова, якое ён не казаў, а неяк па-асабліваму выгукваў, укладваючы ў выгук гэты ўсё сваё захапленне, усё ўсцешнае замілаванне ці ўдалым радком, альбо нечаканым вобразам таварыша па пяру, ці надзвычайнасцю роднага краявіду, слова, поўнае прасторы і цішыні, кругла-бухматае, як марознае паветра, што няпрошана і жадана ўрываецца ў хату, калі вяртаецца дадому сын: — Цудоўна!» Гэта так. Але былі ў Івана Іванавіча і яшчэ два словы, якія ён паўтараў, калі згадваў штосьці значнае або быў з нечым нязгодны. Тады казалася працяжнае: «Мі-і-і-лы мой!» Як цяпер чую:

— Мілы мой! Я гэта на ўласныя вочы бачыў…

І яго словы адразу пераконвалі. Яскрава бачу, як, падымаючыся з-за стала, ён здымае свае цяжкаватыя акуляры і доўга праціраe іх насоўкай і як адразу пасля гэтага ён нібы мяняецца ў твары. І далей ужо не будзе маўчання… Ён будзе штосьці сваё прамаўляць. А ты будзеш уважліва яго слухаць…

Паэты не любяць арыфметыку. Душа, здольная разнасцежвацца да ўсяго навакольнага, не церпіць строгасці лічбаў. Аднак лёс чалавека, хочам таго мы ці не хочам, замыкаецца ўрэшце ў прамежку двух лічбаў — адной шчаслівай і другой сумнай. Прамежак гэты адчыняецца дужкай роднага парога, а замыкаецца другім сумным парогам. Такая яна, арыфметыка жыцця. Дужка лёсу Івана Калесніка замкнулася ў няпоўныя 47 гадоў. Так мала для чалавека, працаўніка і жыццялюба. Застаецца ў памяці тых, хто быў з ім побач, вобраз чалавека светлага, сумленнага і бескарыслівага. А ўсім іншым, у тым ліку і нашчадкам, застаецца і зробленае ім. У далёкія вёсны можна дагукацца толькі памяццю.



Мікола БЕРЛЕЖ

# АСОБА МІЖЗОРКАВАГА МАШТАБУ

**ПЁТР КЛІМУК:**
**Жыццё і подзвіг касманаўта**

*Уклад: У. Ліпскі, М. Панасюк.*

Серыя «Асобы»

*Мн.: Адукацыя і выхаванне, 2017.*

Аснову кнігі пра двойчы Героя Савецкага Саюза легендарнага беларускага касманаўта Пятра Ільіча Клімука складае дакументальная аповесць журналіста і пісьменніка Міколы Панасюка «Да сузор'яў». Твор напісаны досыць даўно, некалькі дзесяцігоддзяў назад. І выдаваўся раней асобнай кнігай. Але час пераканаўча паказаў, што партрэт касманаўта, проста сімпатычнага чалавека выпісаны М. Панасюком рэльефна, уважліва, тым яго аповесць цікавая і сёння. А ў кнізе, дзе ўкладальнікі змясцілі самыя розныя сведчанні, тэксты пра касманаўта, аповесць «Да сузор'яў» глядзіцца не іначай, як адкрытае сэрца, сапраўдная душа выдання ў цэлым.

«Першапраходца на беларускім шляху да зорак» — так назваў сваё ўступнае слова дырэктар выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» журналіст, публіцыст Мікалай Супрановіч. І вось што ён, у прыватнасці, піша: «Герой нашага выдання — першы беларускі лётчык-касманаўт, двойчы Герой Савецкага Саюза Пётр Ільіч Клімук. Гэтая кніга — яго своеасаблівы партрэт, вербальны і дапоўнены фотаматэрыялам, у стварэнні якога прынялі ўдзел вядомыя дзяржаўныя дзеячы Беларусі, вучоныя, калегі-касманаўты, пісьменнікі і журналісты, родная сястра касманаўта, сябры дзяцінства, землякі.

Кніга напісана жывой і даступнай мовай, чытаецца з цікавасцю. Гэтакім жа цікавым, жывым і плённым было і наша стасаванне з Пятром Ільічом у працэсе падрыхтоўкі выдання да друку: узаемаразуменне знаходзілі з першага слова — ці то падбор аўтараў выдання, абмеркаванне канцэпцыі вокладкі альбо ілюстрацыйнага матэрыялу. Уражвала імгненная рэакцыя Пятра Ільіча на запыты выдавецтва. Усё вырашалася хутка, аператыўна, дакладна. Ва ўсім адчувалася зямная мудрасць яркага прадстаўніка нашага народа і касмічная хватка арганізатара».

Хто ж у кнізе выступае са сваімі расповедамі пра сустрэчы з легендарным касманаўтам? Наўмысна не буду называць пасады аўтараў, бо літараль-

на ўсе яны людзі вядомыя і знакамітыя, людзі, кожны з якіх і сам здзейсніўся як яркая, шматаблічная асоба… Мяркуйце самі — Міхаіл Мясніковіч, Пётр Віцязь, Сяргей Абламейка, Леанід Мальцаў, Уладзімір Гетманчук, Сямён Шапіра, Віталь Севасцьянаў, Аляксей Лявонаў, Алег Навіцкі, Міраслаў Гермашэўскі, Уладзімір Губараў, Уладзімір Ліпскі, Мікола Мятліцкі (ён выступае з вершам «Сад Пятра Клімука ў Астрамечаве»), Антаніна Лушчай (сястра Пятра Ільіча), Аляксей Скакун, Васіль Пракаповіч, Анатоль Дзенісейка, Марыя Крашэннікава, Уладзімір Сітуха, Надзея Парчук… Абое апошнія аўтары-пісьменнікі таксама сваё стаўленне да асобы Пятра Клімука выказалі праз вершы. Пётр Віцязь называе нашага легендарнага сучасніка асобай міжзоркавага маштабу.

А я чытаю ўсе расповеды, дакументальныя сведчанні землякоў, паважаных людзей пра касманаўта, генерала-палкоўніка, кіраўніка Цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў імя Ю. А. Гагарына на працягу 12 (!) гадоў (а перад гэтым яшчэ 13 з паловай гадоў быў намеснікам начальніка Цэнтра падрыхтоўкі) і думаю пра тое, што ці не ўсе аўтары адзінагалосна вялі размову пра чалавечыя якасці нашага суайчынніка. Пра тое, якім ён быў і застаецца ў стасунках з роднай старонкай, Берасцейшчынай, Беларуссю ўвогуле, з тымі, хто жыве на яго малой і вялікай Радзіме. Міхаіл Мясніковіч: «Пётр Клімук рэальна дапамог нашым вучоным і вытворцам наладзіць шматлікія дзелавыя стасункі з расійскімі калегамі, што дазволіла не толькі вырашаць задачы беларуска-расійскага касмічнага праекта, але і сфарміраваць устойлівыя каналы экспарту беларускай прадукцыі ў межах іншых праграм. ААТ «Пеленг», Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, шэраг айчынных прадпрыемстваў дзякуючы гэтаму маюць устойлівыя знешнеэканамічныя і навуковыя сувязі…»

Пагадзіцеся, сёння, калі толькі і гаворым пра разладжаныя сувязі, гэткая дапамога дарагога каштуе. А вось што сведчыць Васіль Пракаповіч: «…ён заўсёды знаходзіць магчымасць аказаць падтрымку ў развіцці свайго роднага беларускага куточка — дзе словам, а дзе і матэрыяльна, выкарыстоўваючы свае магчымасці. Дасягнуўшы надзвычайных вышынь у кар'еры, Пётр Клімук застаўся простым чалавекам, які выдатна кантактуе са сваімі землякамі ад малога да старога. Яскравы прыклад чалавека, які помніць карэнні свае». Паслухаем ацэнку, якую выказвае Пётр Віцязь: «…заўсёды, арганізоўваючы рашэнне надзённых пытанняў, беларускія спецыялісты ведаюць, што Пётр Ільіч абавязкова дапаможа, сур'ёзна разбярэцца ў абставінах, якія склаліся, дасць патрэбную талковую параду, дапаможа асабістым удзелам, велізарным аўтарытэтам у касмічнай галіне, пры неабходнасці падключыць патрэбных спецыялістаў і службовых асоб. Прысутнасці Пятра Клімука рады паўсюль…»

Напрыканцы выдання, якое, дарэчы, багата ілюстраванае здымкамі першага беларускага касманаўта, пададзены дадатак — «Шлях Пятра Клімука як лётчыка-касманаўта». Асобна вылучана даведка пра ўзнагароды. Дарэчы, згадаем, што двойчы Герой Савецкага Саюза ўзнагароджаны трыма ордэнамі Леніна (1973, 1975, 1978), яшчэ 5 ордэнамі СССР, Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь. І таксама наш зямляк адзначаны ордэнамі і медалямі Польшчы, Казахстана, Францыі, Чэхаславакіі, Балгарыі. Пётр Клімук — двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1981), ганаровы грамадзянін Брэста, Брэсцкай вобласці, Чарнігава, Кременчуга, іншых гарадоў. Тут напрошваюцца аналогіі па пабудове выдання з маскоўскай серыяй «Жыццё знакамітых людзей». Але аналогіі толькі частковыя, знешнія. Беларускія выдаўцы імкнуліся не ўпусціць нешта самае істотнае, важнае і дадалі менавіта такога кшталту хроніку. Але серыя «Асобы» досыць арыгінальная і спраектаваная па ўласным бачанні выдавецтва «Адукацыя і выхаванне». Укладальнікі, арганізатары, аўтары праекта выбралі свой шлях — яны расказваюць

пра тых, хто сярод нас. Пра сучаснікаў, пра жывых персанажаў гісторыі. Пра тых, з каго сапраўды можна жыццё рабіць…

Да кнігі пра касманаўта Пятра Клімука ў серыі «Асобы» пабачылі свет чатыры выданні — пра акадэміка Віктара Парфёнава, пісьменніка і галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Уладзіміра Ліпскага, арганізатараў сельскагаспадарчай вытворчасці на Берасцейшчыне і Гомельшчыне Аляксея Скакуна і Рыгора Бабчанка. Усе разам яны ўжо сёння вылучаюць сапраўдную бібліятэку выданняў, якія хацелася б параіць мець у кожнай школе. Ці пачуюць такое меркаванне арганізатары выхаваўчага працэсу ў галіне адукацыі? Ці па традыцыі спашлюцца на недахоп сродкаў?..

Чаго не хапае серыі «Асобы», заснаванай у 2014 годзе? Кнігі, якія выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» выпускае за ўласныя зваротныя сродкі, патрабуюць шырокай рэкламы, шырокага інфармавання. Пра іх трэба пісаць у друку, расказваць на тэлебачанні, паведамленні пра іх выхад у свет павінныя знаходзіць сваё месца ў сацыяльных сетках. Заснавальнікамі серыі з'яўляюцца дырэктар выдавецтва «Адукацыя і выхаванне» вопытны арганізатар кнігавыдавецкай справы ў нашай краіне М. Супрановіч і вядомы дзіцячы пісьменнік, аўтар-дакументаліст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь У. Ліпскі. На мой погляд, варта было б стварыць рэдакцыйны савет серыі.

Каго, якіх асоб з ліку нашых сучаснікаў хацелася б найперш бачыць у якасці герояў кніг серыі?.. Чаму б не славутага культуролага доктара філалагічных навук Адама Мальдзіса, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі нейрахірурга Арнольда Смеяновіча, Героя Беларусі Мітрапаліта Філарэта, член-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктара гістарычных навук Аляксандра Каваленю, славутага літаратуразнаўцу доктара філалагічных навук Міхася Мушынскага? Пералік можа аказацца немалым. Дык яно і добра. Значыць, ёсць у нас Асобы з вялікай літары.



